

# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**4** (990)

*КРАСАВІК*

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2012

## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



**Мар'ян ДУКСА**

# З КНІГІ «ПТУШКА ВЕЧНАСЦІ — ДУША»

## АЙЧЫНЕ

Як нас ты туліла
абутых і босых!
Ты — збаўчая сіла,
дарога і посах.

Ты — толькі ад Бога,
святло з-пад аблокаў.
Ты — дрэва, з якога
мы сыцімся сокам.

Плывём у сусвеце
з тваім апярэннем.
Мы — лісце і вецце,
ты ж — наша карэнне.

Ты спраўна заручыш
і з духам, і з хлебам.
Настойліва лучыш
з зямлёю і небам.

Згалеем на ветры
у стане нямоглым —
без ласкі і веры
тваёй мы засохнем.

---

***Дукса Мар'ян Мікалаевіч*** *нарадзіўся 5 красавіка 1943 года на хутары каля вёскі Каракулічы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Свірскае вучылішча механізацыі (1960), філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1969). Працаваў у калгасе, настаўнічаў у Сольскай сярэдняй школе на Смаргоншчыне.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Спатканне» (1967), «Станцыя» (1974), «Забытыя словы» (1979), «Твая пара сяўбы» (1985), «Заснежаныя ягады» (1989), «Горн прымірэння» (1993), «Прыйсці да алтара» (2003) і інш., кніг для дзяцей «Зялёны акварыум» (1980), «Світаюць сосны» (1987), «Нябесны карнавал» (1998), «Паэтычны каляндар» (2003).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1990).*

* * *

Бязмерны цуд — нам вырасці з нічога,
убачыць свет не па сваёй ахвоце.
Які дзівосны быў ён — смутак Бога,
вялікі смутак па жывой істоце!
Бог радаваўся, пэўна, кожнай зорцы,
пявучым птушкам, і лясам, і рэкам.
Прапала раптам адзінота Створцы,
калі прыйшла любоў ад чалавека.
Адкрылася для ўсіх Святая Значнасць,
быць перастала Веліч ананімнай.
Тварэння Акт апраўдвала удзячнасць,
якая паплыла ў нябёсы гімнам.
Нябеснае над намі ззяе люстра.
Цудоўны свет. Але даймае змога,
і смутак спазнае адразу людства,
калі ў душы не адчувае Бога.
Вяртаецца і нарастае прага
той вечнасці, дзе званы і чаканы,
той вечнасці, дзе не бывае блага,
дзе ты пачуты і пашкадаваны.
І кліч нябёс нам чуецца з дзяцінства,
і хмельна трызнім вечнасцю спрадвеку.
У непарушным існуюць адзінстве
любоў і смутак Бога й чалавека.

* * *

Свет, як вожык, калючы-калючы,
дзе ні ступіш — ужо баліць.
Дзень пявучы, духмяны, бліскучы
уварвецца ў душу — засмыліць…
Хоць і соладка, хоць і прыемна,
але нешта ўнутры заскрабе.
Штурхане цябе памяць нядрэмна,
беглай думкай схалодзіць цябе.
Свет любімы, ты звабная дзічка,
дзе вясною суквецці гарaць…
Ах, адкуль яна — дрэнная звычка:
чыстай радасці не давяраць.

* * *

Знік перад Богам іхні страх —
Былі з гардыняй вавілонцы.
Вышэй і воблакаў, і сонца
свой захацелі ўзвесці гмах.
Рабілі ўсё, каб ён заззяў,
каб ён спазнаў нябесны фініш…
«Ну, зараз іх ужо не спыніш», —

Бог з горыччу пра іх сказаў.
І Ён спаслаў на іх хаос.
І людзі ўраз, у тыя хвілі,
на сотнях моў загаварылі…
Стаў вэрхал. Болей гмах не рос…
Жыве спрадвечны Вавілон.
Не сохне дуб людской гардыні.
І форс зямны ніяк не гіне —
разлапушыўся буйна ён.
Які яшчэ нам цуд стварыць?
Уласны сук ты, людства, пілііш…
Наконт таго, што «іх не спыніш»,
ці будзе Бог зноў гаварыць?
І Ім спасланы землятрус
гул кіне ў сіняе бязмежжа.
І вавілонскія ўсе вежы
рассыплюцца на дробны друз.

* * *

Гайдаюся
на нітачцы імгнення,
баюся абарвацца кожны раз.
За мною —
знак размытага знікнення.
Наперадзе — неспасцігальны час.
Там, за спіной,
і радасці, і церні,
патопленыя ў гушчы слотных дзён.
Наперадзе — пустое поле цемры,
што без маіх слядоў і баразён.
Мой твар лагодзіць
веснавое вецце,
і зверху сонца гладзіць пакрысе.
Нашто мне ведаць,
што раптоўны вецер
на дробны мак
імгненне растрасе?

* * *

Трывога ходзіць з намі неразлучна,
заглядваючы ў вочы нам штораз.
«Быць ці не быць?» — пытаўся Гамлет гучна.
Ён меў на ўвазе і сябе, і нас…
Быць ці не быць нам радасным і дужым,
калі ў дым едкі хутаецца свет?
Быць ці не быць мацерыкам і душам,
што страцілі ўсіх продкаў запавет?
Накідваем каменне на дарогу,
хоць здольныя ўсё гэта не рабіць.

«Быць ці не быць?»
А ці спрыяем Богу,
каб Ён станоўча вырашыў, што «быць»?

* * *

Сталіца еўрапейская — Парыж.
Як шмат вачэй яго вітае сцены.
Цуд выпадковы лёсу: ты стаіш
не ў цьмяным сне, а наяву — ля Сены.
Вось слынныя і вежа, і сабор,
бульвар вядомы — светлы міг глядзення…
Перапаўняюць гонар і задор.
Святкуе сэрца, зведаўшы трымценне.
Уразіць здольны ён, як нешта звыш…
Ды позірк дагарае — ён стамлёны.
Бег буйны часу супыніў Парыж,
паклікаўшы ўсе слынныя імёны.
І застаецца ён самім сабой.
Жыве як жыў. На іншых не зважае.
І гімн яму пяе людскі прыбой,
бо тут душа ніколі не чужая.

## ПРОСЬБА

Ну аблажы непагодай, як карай,
лівень страшэнны з гары апусці —
неба, нацешся трагічнаю хмарай,
потым і сонца да нас прапусці.

Вецер, не скідвай людскога гняздоўя,
наша цяпло ацані хоць на грош.
Доля, ты нас прыгнятай нелюбоўю,
але хоць зрэдку ўсміхайся ўсё ж.

Радасць, застанься для ўсіх неўміручай,
скрухай і сумам душу не губі.
Свет ненаглядны, штодзённа не мучай.
Мучай, але перапынкі рабі.

* * *

Нас болей не турбуй, час-ліхадзей.
І, дзякуй Богу, зарастаеш мохам,
Эпоха палявання на людзей,
цкавання, страху, лютасці эпоха.
Як страшны сон, за небасхіл сыдзі.
Свае прыкметы, норавы і рысы

нясі на суд Нябеснага Суддзі
і ў вечнасці нікчэмна растварыся.
А гвалту вал, як шал — лесапавал,
здзічэлых зон маўчанне, дроту скрутак
хай забярэ нябыт на свой прычал,
а нам пакіне неўміручы смутак.

* * *

Сябе і ўсіх ці варта мне маніць?
Пара ўжо ведаць, хто такія вы.
Жыве жаданне — вас перамяніць…
Ды шэпча досвед: шанец нулявы.
У вершах хай спяваюць салаўі,
прыносячы ці радасць, ці тугу.
А расстаўляю кропкі ўсе над і
я для сябе ж у першую чаргу.
Цікавасць вашу хочацца вітаць.
Увага ваша — мёд салодкі мне.
Чытайце, як пацягне пачытаць.
А не ляжыць душа — хай будзе не.
Прыхільнасць вашу — чым яе купіць?
Верш — нібы невад: блізкіх душаў лоў…
Напэўна, іх і здольны зачапіць
кіпцюрыкі праўдзівых слоў.

* * *

Неспасцігальны Ён стратэг і тактык
суіснавання грубых форм і духу.
Гармонія ўгары сярод галактык,
і іхняму нішто не шкодзіць руху.
А на зямлі не можа ўсё прыжыцца
сапраўдны лад — замала тут змяненняў.
Ёсць высілкі. Але хаос вяршыцца
усіх людскіх стасункаў-дачыненняў.
Віруе люд адвольна. Ён нібыта
адно шануе — гэта адхіленні,
мяняючы штораз свае арбіты,
грувасцячы заўсёды сутыкненні.
Вось Бог стварыў сусвет, такі трывалы,
за колькі дзён… І рысу мог падвесці.
А на зямлі парадак дасканалы
Ён людзям даручыў самім навесці.
На глебе спраў квітнее пустаслоўе,
хоць знае кожны Божыя парады:
сапраўдны свет ствараецца любоўю,
не вырастае на падмурку звады.

* * *

Нам прарасці у гэты свет
хоць раз адзін жывою плоццю
і ўсё ж пакінуць гожы след
на глебе
ці на пазалоце.

У свет,
прыхоплены іржой,
з’явіцца ў акрыленні веры.
І ціха яснаю душой
пастукацца ў зямныя дзверы.

І не прапасці ў небыцці,
адбітак мець не толькі ў люстры.
А прарасці — нібы прыйсці
з прыемнай весткаю да людства.

* * *

Шчаслівы крык вяртання на радзіму,
трыумф гусей над нашай галавой.
Край запаветны, раўназначны дзіву.
Куток найлепшы, абсалютна свой.
Як цесна песням у птушынай глотцы —
яны ў абшар ірвуцца веснавы!
Ну вось яно, жаданае балотца…
Ну вось яны, азёры і ставы…
Раптоўны рай — ізноў сюды вярнуцца,
на бераг той, дзе першыя сляды.
Каб акунуцца, мройна дакрануцца
стамлёным пер’ем да жывой вады.
Які вялікі момант спасціжэння,
хоць вабяць нас палёты і язда:
нішто не зменіць вечнага кружэння
над цёплым месцам роднага гнязда.





**Зінаіда ДУДЗЮК**

# СЛОДЫЧ І АТРУТА[1]

*Раман*

КНІГА ДРУГАЯ

***Раздзел трэці***

## Сустрэчы і развітанні

### 1

Ноччу нехта ціха пастукаў у шыбу. Зося спалохана кінулася да акна, прыжмурыла блізарукія вочы, узіраючыся ў цемру, але нічога не здолела разгледзець, спытала дрыготкім голасам:

— Хто там?

— Адчыні, — пачулася з надворку.

— Гэта ж Гардзей! — радасна ўскрыкнула Паўліна, якая пазнала братаў голас. — Гардзей вярнуўся!

Яна выбегла ў сенцы, а праз хвіліну ўпусціла ў хату худога, зарослага шчэццю мужчыну, з запалымі і стомленымі вачамі. Зосі спатрэбілася добра прыгледзецца, каб пазнаць мужа. Яна кінулася да яго, апантаная радасцю. А ён адхінуўся і сказаў:

— Я брудны, трэба памыцца, пасля разам парадуемся…

— Зараз, зараз… Вада цёплая ў печы. А можа, спярша паясі? — замітусілася Паўліна.

— Паем. Толькі трохі. Шмат мяне не карміце. У мяне цэлы тыдзень крошкі ў роце не было.

Гардзей скінуў ватоўку, павесіў яе на крук каля дзвярэй, спаласнуў рукі над цэбрыкам.

— Дзе ж ты быў, Гардзей? Столькі часу мінула! Хоць бы напісаў, ці што? — з прыхаваным дакорам у голасе спытала Зося.

— Не мог я… Пасля ўсё раскажу.

— Мы не ведалі, што і думаць. Паўліна колькі разоў і аплаквала цябе як мёртвага, а я верыла, што ты жывы. Па-мойму і выйшла. Але ўсялякае прыходзіла ў галаву. Думалі, можа, цябе партызаны забілі ці яшчэ што…

— Малайчына, што не пахавала мяне раней часу ды замуж не выйшла. Як наш сын?

[1] Часопісны варыянт. Заканчэнне. Кніга першая ў № 3—4, 2010 г., кніга другая ў № 3, 2012 г.

— Спіць вось як пшаніцу прадаўшы, у школу ходзіць, жывём неяк, — з ціхай радасцю адказала Зося.

Гардзей сеў за стол, выпіў кубак малака з хлебам і сказаў:

— Досыць. Цяпер пайду ў сенцы памыюся. Паўліна, налі мне вады ў балею і падрыхтуй бялізну.

— Я памыю табе спіну, — прапанавала Зося.

— Не трэба, — катэгарычна адказаў Гардзей, вочы ягоныя здаліся Зосі чужымі. — Кладзіцеся спаць. Мне пасцяліце на лаве. Я і так вам усю ноч перакалаціў.

— Мулка на лаве. Кладзіся на запечку, хоць адпачнеш з дарогі, — прапанавала Паўліна.

— А ведаеце што, дзеўкі, пасцяліце мне на печы, хоць адагрэюся, бо спаць мне даводзілася ў асноўным у стагах сена.

— Вой, Божухна… — цяжка ўздыхнула Паўліна, рыхтуючы пасцель брату на печы. — Не было табе шчасця і спакою ў маленстве ды ў маладосці, няма — і ў сталасці.

— Нічога, галоўнае, што я дайшоў, вярнуўся. Адасплюся, ад'емся і будзем неяк жыць. Спіце…

Гардзей узяў газнічку, пайшоў у сенцы. У хаце ўсталявалася цемра. Зося легла на запечку, заплюшчыла вочы. Ёй згадаліся даўнія, у маладыя гады, сустрэчы з мужам, калі яны абое палалі жарсцю, згаралі ў сумесным агні жаданняў, наталяліся пяшчотаю. Чаму ж цяпер ён такі чужы і абыякавы? Няўжо Бог пакараў іх за тыя маладыя грахі, за ненароджаных дзяцей, за пакуты і праклёны, за няўменне саўладаць са сваімі пачуццямі і жарсцю? Няўжо нічога не засталося ад іхняга кахання? Толькі яскравыя згадкі, як знічкі, падаюць у душу і выпальваюць яе датла. Тады здавалася: няхай толькі ён будзе побач — і шчасце запануе ў лёсе і ў хаце. А ён побач — чужы і непадступны. Што рабіць? Як жыць? Што сказаць яму, каб ён зразумеў, што ёй немагчыма жыць без ягонага кахання, пяшчоты, ласкі? Хоць бы слова якое добрае сказаў! Яна ж гіне, як той вазон, які забыліся паліваць! А сам ён чым замяняе патрэбу ў каханні і пяшчоце? Няўжо атручэнне і хвароба вынішчылі ў ім гэтыя чалавечыя пачуцці? Так, ён хворы. Невядома, што ён перажыў за гады разлукі. Можа, каб выжыць, яму патрэбна былі толькі якая-небудзь ежа ды адпачынак?.. Вельмі ж схуднелы і страшны ён вярнуўся…

— Паўліна, ты спіш? — спытала Зося.

— Не сплю.

— Як ты думаеш, дзе ён быў увесь гэты час?

— Думаю, што ў турме. Такі ягоны лёс — пры ўсялякай уладзе мусіць у турме адседзець.

— А што далей?

— Адкуль я ведаю? Спі, заўтра рана ўставаць…

Зося аціхла, заплюшчыла вочы, а сама падумала: «Паглядзела б я, як ты заснула б, каб твой муж вярнуўся. Спі! Паспрабуй засні. Божа мой, хоць бы абняў, пацалаваў, ласкавае слова сказаў. А то быццам я не чалавек… Няхай жыве як хоча! Няхай робіць, што хоча! У мяне ёсць ягоны сын. У нас сям'я. Адагрэю яго, адкармлю, можа, вернецца з часам да розуму, адчуе ў сабе мужчыну…»

Рыпнулі дзверы, Гардзей увайшоў з газніцаю, асцярожна павесіў яе пад столлю, прыўзняў шкло, дзьмухнуў — і кнот патух. Чутно было, як ён у цемры палез на печ, а праз некалькі хвілін пачулася ягонае размеранае дыханне.

«Заснуў, — з любасцю падумала Зося. — Няхай адпачывае. Ён вярнуўся, мы, нарэшце, усе разам — гэта вялікае шчасце. У Ораста будзе бацька, разум-

ны, разважлівы, які стане далучаць сына да справы. Калі-небудзь дапаможа разабрацца з арыфметыкаю. Гардзей жа быў вельмі здольны вучань у школе. Ды і так ён разумны чалавек. Вось толькі хвароба адолела».

На другі дзень, калі Ораст даведаўся, што бацька вярнуўся, радасці ягонай не было мяжы. Няхай цяпер хто пасмее сказаць, што ён сын ворага народа, кожнаму носа расквасіць! Ад хвалявання ён не захацеў нават снедаць, а ўлюбёна глядзеў на бацьку і ўсміхаўся.

— Сынок, у школу пара, — нагадала Зося.

— Іду, — адказаў Ораст, схапіў торбу з кніжкамі і, махнуўшы на развітанне рукою, выскачыў за дзверы.

— Ён вельмі вырас, — сказаў Гардзей.

— Расце, дзякаваць богу, — адказала Паўліна. — Адзення не назапасішся: то падзярэ, то вырасце з яго. Абутак таксама штогод трэба мяняць. А дзе тых грошай набрацца?

— Нічога, выкруцімся, — адказаў Гардзей. — Дайце мне толькі агледзецца. Усё ў нас будзе…

— Дзе ж ты быў, Гардзей? — спытала Зося.

— У палоне. Адступаў разам з немцамі. Ну, мяне і схапілі. Стуль — у лагер. Калі адчуў, што не выжыву, памру ад голаду, вырашыў уцякаць. І вось я дома.

— Божа, Божа, бедны мой брат, — прастагнала Паўліна.

— Гардзей, можа, табе трэба схавацца? — насцярожана спытала Зося.

— Стаміўся я хавацца. Няхай будзе што будзе. Жыў, як мог. Калі за гэта трэба адказваць, што ж, няхай судзяць. Не сядзець жа мне рэшту жыцця ў каморы, не бачачы свету Божага… Я да ўсяго гатовы, — спакойна адказаў Гардзей.

Так мог трымацца толькі той чалавек, які ўжо не раз стаяў на мяжы паміж жыццём і смерцю, але пакуль шанцавала выжываць. Цяпер ён зноў спадзяваўся на шанец: можа, не заўважаць яго адсутнасці, забудуцца, даруюць…

## 2

Агледзецца Гардзею не далі. Праз два тыдні па яго прыйшлі два чалавекі ў цывільным, участковы міліцыянер і старшыня сельсавета Леванюк. Вочы Гардзея бездапаможна забегалі, быццам шукаючы паратунку, але схавацца не было куды.

— Вось вам Рахуба Гардзей — сказаў участковы.

— Ну, раскажы нам пра сябе, герой, — сказаў адзін з цывільных, сухарлявы з упалымі шчокамі мужчына.

— А што расказваць? Вы ўсё ведаеце самі.

— Ведаем, але не ўсё. Хто ты ёсць насамрэч? Чым займаўся ў час вайны?

— Служыў сельскім аграномам.

— Пасля што было? Хутчэй…

— Перад адступленнем немцаў уступіў у добраахвотнае нямецкае войска. У баях удзел не браў, быў пры абозе. Каля горада Пілау здаўся ў палон, не захацеў ехаць з немцамі. Быў асуджаны на прымусовае пасяленне на шэсць гадоў. Кармілі дрэнна. Адчуў, што хутка памру, таму ўцёк дадому, каб трохі ачомацца. Акрыяў, а цяпер гатовы працягваць…

— Цяпер цябе чакае новы суд. І атрымаеш ты ўжо не як палонны, а як здраднік і нямецкі паслугач на поўную катушку! — сказаў маладзейшы ў цывільным, ружовашчокі і свежы.

Гардзей ускінуў на плечы тую зашмальцаваную ватоўку, у якой вярнуўся з уцёкаў, сказаў сямейнікам:

— Чакайце мяне.

Але тыя, што прыйшлі яго арыштоўваць, не спяшаліся. Яны пачалі вобыск. За іконаю знайшлі Кацiны лісты з Амерыкі, якія яна прысылала яшчэ да 1939 года. Старэйшы ўсклікнуў:

— Ды гэта асінае гняздо! Яны маюць сувязь з Амерыкай.

Другі цывільны знайшоў на паліцы кніжку па гісторыі Украіны і нейкія паперы, надрукаваныя ўкраінскім згуртаваннем «Прасвіта».

— Ды тут акапаліся ўкраінскія нацыяналісты! — сказаў ён і спытаў у Гардзея: — Адкуль гэта ў цябе?

— Не ведаю. Гэта не мая хата. Я тут жыў у прымах. Магчыма, гісторыяй Украіны цікавілася жончына сястра, якая выехала ў Амерыку ў 1936 годзе, — адказаў Гардзей, з цяжкасцю стрымліваючы раздражненне.

— І лісты ад сястры? — удакладніў першы ў цывільным.

— Там жа ўсё напісана, адрас, прозвішча, — сказала ўсхвалявана Зося.

— Добра, будзем разбірацца…

Пакуль нкусаўцы рабілі вобыск, маўклівая Паўліна па даўняй звычцы сабрала ў дарогу Гардзею торбу з ежаю і бялізнаю. Леванюк, які з цікавасцю назіраў за тым, што адбываецца ў хаце, сказаў ёй:

— Што ты, Паўліна, турбуешся? Цяпер дзяржава пра твайго брата будзе клапаціцца. Абуе, апране і накорміць…

— І табе таго жадаю, — спакойна адказала Паўліна і адвярнулася.

— Бач ты, якая аса, — абурыўся Леванюк. — Нездарма цябе ніхто замуж не ўзяў!

— Чым ісці за такога, як ты, дык лепш век дзеўкаю звекаваць, — адрэзала Паўліна.

— Маўчаць! — сказаў сухарлявы, сеў за стол і пачаў нешта пісаць.

У хаце ўсталявалася напружаная цішыня. Калі ж нарэшце ўсе фармальнасці былі выкананы, нкусаўцы павялі Гардзея на вуліцу, пасадзілі ў газік, машына кранулася з месца. Зося ішла ўслед за ёю, пакуль тая не знікла з поля зроку яе блізарукіх вачэй. Яна думала, што скажа сыну, калі той вернецца са школы. Шкода ёй было і сябе, і Гардзея. Чаму такі незразумелы і жорсткі лёс? Яна столькі марыла, каб жыць побач з Гардзеем, клапаціцца пра яго, ствараць разам сям'ю. А калі яны аказаліся побач, дык шчасце абыходзіць іх дзясятымі дарогамі. Нейкія людзі і падзеі ўвесь час разлучаюць іх. Зося выцерла слёзы. Агледзелася. Лёгкі туман слаўся над поплавам. Раніца выдалася змрочная і па-змоўніцку ціхая. Быццам зямля замерла ў цяжкім прадчуванні нечага страшнага.

Зося пайшла па дарозе пад старыя ліпы. Ёй згадаўся той даўні вечар, калі яны з Кацяй збіралі грошы для рэвалюцыянераў. Як задаволены быў яе дзейнасцю Гардзей. Той вечар іх вельмі зблізіў. Яна адчула сябе не проста дзяўчынаю, якая кахае, але ягонаю паплечніцаю і сяброўкаю.

Ліпы стаялі, маўкліва ўзняўшы голае голле ўгору. Яшчэ быў толькі красавік. Да першай зялёнай лістоты заставаўся цэлы месяц, але пад карою ўжо рухаўся сок, абуджаў пупышкі, наталяў смагу заспанага дрэва. «Калі ж абуджуся і ажыву я? — спытала ў сябе Зося. — Ці так і засохну сухадрэвінаю, не зведаўшы ні цяпла, ні ласкі. Усе няшчасці аднойчы канчаюцца. Скончацца і мае беды, калі толькі Гардзей выжыве, выстаіць у тых выпрабаваннях, якія выпалі на ягоную долю…»

Пад павевамі лёгкага ветру хмары на небе трохі рассунуліся, з-за іх насцярожана выглянула сонца. Зося, цяжка ўздыхнуўшы, рушыла ў зваротны шлях. Яна ішла задуменная і не заўважыла скуль раптам узяўся перад ёю Леванюк. Ён сядзеў вярхом на кані, звысоку паглядзеў на Зосю і сказаў:

— Я загадаю перакапаць гэтую дарогу, каб па ёй не хадзіла жонка ворага народа.

— Па гэтай дарозе ходзіць мой сын у школу! — абурылася Зося. — Ты і яму будзеш дарогі перакопваць? Ты падумай пра сябе! Пра сваіх дзяцей! На каго ты падобны зараз? Падумай!

— Ты чаго на мяне ўз'елася, гніда. Адно маё слова — і цябе тут няма!

— Кажы, пішы свае словы, але ведай, што за ўсё давядзецца адказваць! — Зося ўзнесла руку ўгору. — Ты думаеш, за што тваіх дзяцей зажыва спалілі? Ды за тое, што ты людзей пасылаў на катаргу і на смерць!

— Забабоны ўсё гэта! Чаму ж мне нічога…

— А цябе пакінулі, каб ты жыў і пакутаваў, дакараючы сябе да смерці за грахі свае страшныя.

— Маўчы, дурная баба, бо зараз сперажу пугаю. Не доўга табе тут хадзіць засталося.

— Едзь міма, разумнік. Пажывём-пабачым, хто каго пераяжыве.

Зося абмінула Леванюка і паспяшала да сваёй хаты. Здавалася, спакойна размаўляла са сваім ворагам, а яе ўсю ажно калаціла ад гневу. З апошняй фразы, сказанай Леванюком, яна зразумела, што хутка прыйдуць па яе. Трэба падрыхтавацца, насушыць паболей сухароў, сабраць усё неабходнае для сябе і сына, што спатрэбіцца ў доўгай дарозе, бо знянацку, як заявяцца прыхадні, дык і не ўспомніш, што патрэбна ўзяць.

Паўліна сустрэла яе воклічам:

— Дзе ты швэндаешся? Уся работа стаіць.

— Якая работа, Паўліна? Леванюк сказаў, што хутка прыйдуць і па мяне. Каб не трапіць са мною ў адну кампанію, раю табе перасяліцца да якой з сясцёр.

— Навошта ты слухаеш гэтага балабона? Яму абы языком мянташыць!

— Я жонка ворага народа. І гэтым усё сказана…

— Няўжо гэта праўда, Зося? — не даючы веры пачутаму, спытала Паўліна.

— Нам трэба быць гатовымі да ўсяго. Ты ж бачыш, мы — хутаранцы. Сельсаветчыкам нават гэта муляе. У іх адна мэта — выселіць нас, забраць нашы бедныя пажыткі, а поле прыараць да дзяржаўнага. Зямлі ім мала! На могілках усім зямлі хопіць! Колькі таго жыцця і тое атруцяць!

— Я ўжо прывыкла да цябе. Куды ж мне падацца? Да Мані ці да Дашы?

— Не ведаю. Схадзі, пагутары з сёстрамі, а я буду сухары сушыць.

— Вой, галубка мая, няшчасныя мы з табою, — загаласіла Паўліна і абняла Зосю. — Не даў Бог нам долі! Не даў шчасця! Мала таго, што асірацелі рана, жылі як трава пад плотам, дык і цяпер разлучаюць нас, раскідваюць па свеце на пакуту і згубу… Браточак мой родны, браточак мой адзіны! Калі ж яшчэ цябе пабачу?...

Яны сядзелі на лаве і плакалі, адчуваючы, як са слязьмі сплываюць няўпэўненасць і разгубленасць, стома і страх. Зося паднялася з лавы першай, ціха сказала:

— Годзе плакаць. Трэба жыць! Трэба працаваць! Мы з табою, Паўліна, дасць Бог, пераяжывём усіх нашых ворагаў. Мы ж ім зла не рабілі. А яны за ўсё адкажуць!

## 3

Зосю з Орастам нкусаўцы забралі праз год, у канцы красавіка, пасадзілі на палутарку, загадалі ўзяць з сабою сеннікі, коўдры, дзве міскі, два кубкі, дзве лыжкі. Зося прыхапіла яшчэ з сабою адзенне і сувойчык палатна. Іх павезлі ў Жабінку на чыгуначную станцыю. Там было шмат гэтакіх жа зняздоленых сем'яў. Людзі сядзелі ў памяшканні вакзала на клунках, збалелымі і трывожнымі вачамі ўзіраліся ў абыякавыя твары ахоўнікаў. Кожная сям'я пакінула абжытую хату, гаспадарку, маёмасць, якая набывалася вялікаю працаю — людзей бязлітасна вырвалі з роднага гнязда, абрынулі ў страшную невядомасць. Па сорак чалавек арыштаваных пасадзілі ў таварныя вагоны пад аховаю вайскоўцаў. Зося знайшла вольнае месца каля высокага акенца, кінула рэчы на падлогу, суцешыла сына:

— Нічога не бойся. Людзі скрозь жывуць.

— Ды я нічога… Мне нават цікава, — адказваў Ораст і пры гэтым ціха радаваўся, што больш не будзе бачыць ненавісную піянерважатую і знерваваную настаўніцу, не будзе хадзіць у школу, а проста ехаць у цягніку і глядзець у акно, назіраць за тым, што адбываецца навокал. — А куды нас павязуць?

— Не ведаю, сынок. Як прыедзем, дык і дазнаемся.

Хоць акно было высока пад столлю, Ораст пракалупаў сцізорыкам дзірачку ў драўлянай абшыўцы вагона і ўвесь час назіраў за тым, як праехалі Беларусь, як пачалася Расія. Мільгалі нячутыя ім ніколі назвы станцый і гарадоў, мяняліся краявіды. Гэта было значна цікавей за чорна-белае кіно, якое аднойчы паказвалі ў школе. Каб ведалі хлопцы, колькі ён усяго пабачыў! Некалі сустрэнуцца, пра ўсё раскажа ён ім! Яны ж далей Крачак не былі…

Ехалі доўга, цэлы месяц, цягнік часта стаяў, прапускаючы іншыя больш важныя пасажырскія ці хуткія цягнікі. Раз у суткі прыносілі паесці чаго-небудзь гарачага. Людзі запасаліся вадою. У каго былі сухары, той так-сяк паражываў голад. Нарэшце іх высадзілі на забытай Богам станцыі сярод стэпу, дзе белая зямля іскрылася, быццам пакрытая снегам. Гэта былі саланчакі. На машынах іх прывезлі ў калгас, дзе людзі жылі ў гліняных хатках. Было тут некалькі зямлянак. Адну з іх аддалі Зосі і Орасту. Непадалёку цягнуўся канал з зялёнай, непрыдатнай для піцця вадою, удоўж яго раслі стромкія дрэвы, мусіць, таполі. Да далягляду распасціраліся палі, засаджаныя бавоўнай і кукурузай. Марыва калыхалася над стэпам, ажно ў вачах міргалі мурашкі. Сляпучае паўднёвае сонца яшчэ з вясны выпаліла тут усё да апошняй травінкі. Здавалася дзівам, як яшчэ выжыла гэтая бавоўна. Суцяшала тое, што ў гэтае, забытае Богам селішча, яшчэ раней былі выселены некалькі сем'яў грэкаў, грузінаў, немцаў. Гэтыя людзі сустрэлі папаўненне, расказалі трохі пра сваё жыццё-быццё, пра тое, з якой цяжкасцю здолелі прыстасавацца. Спачатку гінула шмат дзяцей ад дызентэрыі з-за непрыдатнай для піцця вады; паміралі жанчыны, якім не падыходзіў клімат, аднак большасць высланых выжывала.

— Вось тут мы і будзем туліцца, — сказала Зося, азіраючы зямлянку, якую ёй выдзелілі пад жытло.

— Колькі? — спытаў Ораст.

— Нейкі начальнік казаў, што нас выслалі на дваццаць гадоў.

— Вой-ё-ёй! Дваццаць гадоў? — здзіўлена перапытаў Ораст.

— Нічога, сынок, можа, над намі злітуюцца і мы здолеем вярнуцца раней…

На першым часе калгас даў перасяленцам у доўг трохі кукурузы і арэхавага алею, з умоваю, што яны адпрацуюць. І Зося пачала працаваць, ні ад якой справы не адмаўлялася.

Хоць дужая была Зося і звыклая да цяжкай працы, але дрэннае аднастайнае харчаванне і туга па радзіме кепска адбіліся на яе здароўі. Аднойчы запякло на карку, памацала і адчула пад пальцамі невялікую пухліну, якая праз тры дні непамерна вырасла. Паднялася тэмпература. Зося спалохалася, раптам з ёю нешта здарыцца нядобрае, як жа сын застанецца адзін? Хто яго дагледзіць? Няўжо так і рассеецца іхняя сям'я па свеце? Загадала Орасту паклікаць доктара Селіванава. Трэба было ратавацца.

Прыйшоў доктар, не стары яшчэ чалавек, з прыемным тварам, таксама з выселеных, агледзеў больку, сказаў, што гэта карбункул, які ўзнік хутчэй за ўсё з-за перамены клімату і недахопу вітамінаў. Прыклаў нейкую мазь. Ці то ад яе, ці ад простай чалавечай увагі Зосі зрабілася лягчэй. Яна ледзь не расплакалася расчуленая.

— Вось што, Сафія Кірылаўна, вы не хвалюйцеся, — сказаў доктар. — Гэтую балячку я вам вылечу. І не з такімі хваробамі даводзілася змагацца. А яшчэ зраблю ўсё, каб вы больш у калгас на працу не хадзілі.

— А як жа мы будзем жыць? Нават за тую кукурузу, якую нам тут даюць, трэба адпрацоўваць.

— Абыдуцца. Будзеце прыбіраць мой кабінет і атрымліваць хоць і невялікую, але ўсё ж зарплату.

— Дзякуй вам вялікі, Іван Паўлавіч.

— Ачуньвайце. Заўтра зайду праведаць.

Доктар Селіванаў цэлы тыдзень наведваў Зосю, пакуль, нарэшце, не выцягнуў з нарыва карбункул. Затым прамыў рану, перавязаў, сказаў весела:

— Даю вам яшчэ тры дні на папраўку, а з панядзелка выходзьце на новую працу. У нас з вамі яе будзе шмат.

— Дзякую, Іван Паўлавіч, вы мяне з таго свету вярнулі.

— Няма за што. Гэта мой абавязак. Я з вашым сынам пазнаёміўся. Прыемны хлопец, выхаваны, думаю, мы з ім пасябруем.

— Ён розны бывае. Бачыце, расце без бацькі. Часам прапускае школу.

— А дзе ж бацька?

— Сядзіць недзе. Ніякіх вестак ад яго не атрымліваем. Спадзяюся, што жывы…

— За што яго? — спытаў доктар, потым спахапіўся. — Зрэшты, я і сам не ведаю, за што мяне выслалі…

Зося ціха ўздыхнула і сказала:

— Бедныя людзі, пакутуюць невядома за што. Ці можна ўжо легчы на бок? А то ж столькі дзён толькі на жываце ляжала з-за балячкі.

— Можна. Цяпер усё можна. Чакаю вас з нецярплівасцю на працу.

Іван Паўлавіч выйшаў, а Зося з радасцю падумала, што свет не без добрых людзей. Неяк выжывуць яны з Орастам у гэтай глухамані, а прыйдзе час — вернуцца дамоў, нават калі ім давядзецца пражыць тут дваццаць гадоў. Хто ведае, колькі ім адмерана лёсам? Яна згадала свой садок, асірацелую хату і ціха заплакала ад тугі і смутку.

## 4

Зося хадзіла на працу па абедзе, мыла падлогу, прыбірала кабінет доктара Селіванава, а потым ужо ўвечары мыла медыцынскі посуд, стэрылізавала яго. Усё зіхцела ад аконнага шкла да стала, за якім прымаў хворых доктар. Сачыла, каб і ягоныя халаты былі заўсёды чыстыя.

Аднойчы, а здарылася гэта трыццаць першага снежня, доктар затрымаўся на працы. Сядзеў, нешта пісаў за сталом і замінаў рабіць звычайную справу Зосі, якая спяшалася дамоў, бо хацела сустрэць Новы год разам з сынам і штонебудзь смачнае згатаваць на вячэру.

— Чаго гэта вы, Іван Паўлавіч, так запрацаваліся? Усе людзі рыхтуюцца святкаваць. А вы ніяк ад службовых абавязкаў не можаце вызваліць душу.

— Добра мне з вамі, Сафія Кірылаўна, вось і не хочацца ісці дахаты. Давайце мы з вамі сустрэнем Новы год. Тут у мяне трохі спірту ёсць. Нейкае сала яшчэ вядзецца. Дыню купіў на рынку ў райцэнтры.

Селіванаў дастаў з шафы колбу са спіртам і закуску, запрасіў Зосю:

— Адкладзіце свае анучы. Сядайце да стала.

Зося вынесла памыйнае вядро, вымыла рукі, прыгладзіла пышныя валасы, урачыста села да стала. Селіванаў напоўніў спіртам дзве мензуркі, перад Зосяй паставіў шклянку вады, пачаў свой тост:

— Давайце, Сафія Кірылаўна, вып’ем за Новы 1953 год. Няхай ён прынясе нам шчасце, добрае здароўе і ўсё найлепшае ў нашым жыцці.

— Няхай так і будзе. Будзьце здаровы, Іван Паўлавіч, — адказала Зося, падняла мензурку, чокнулася з доктарам і выпіла спірт, які, здаецца, апёк рот агнём, тут жа не ўдыхаючы паветра, запіла вадой.

— Малайчына. Вы проста геройская жанчына, — пахваліў Зосю доктар.

— Божа мой, я і не помню, колькі гадоў гарэлку не каштавала, — усміхнулася яна.

— У такім разе закусвайце, — Селіванаў паклаў перад ёю лусту хлеба, з нарэзанымі кавалачкамі сала.

— Дзякую… Смачнае сала, як дамашняе. Ведаеце, я трымала дома па некалькі свіней. Адну рэзалі да каляд, другую на масленіцу.

— Добрая вы гаспадыня, адразу відно. Усё гарыць у вашых руках. Вы мне з першай сустрэчы вельмі спадабаліся, калі той карбункул да вас прычапіўся.

— Я нават не ведаю, як вам аддзячыць за ўсё-ўсё, — з захапленнем сказала Зося.

— Нічога не трэба. Людзі павінны дапамагаць адно аднаму. Я, дарэчы, даўно хацеў пагутарыць з вамі на адну важную тэму. Ды не ведаю, як пачаць.

Зося зацікаўлена зірнула на Селіванава і сказала са шчыраю ўсмешкаю:

— Ды гаварыце, не саромейцеся. Я жанчына простая, усё зразумею.

Селіванаў памаўчаў, пасля дастаў з кішэні пачак «Казбеку», закурыў, хаваючы вочы за аблачынкаю дыму і ціха сказаў:

— Нам, Сонечка, давядзецца тут яшчэ доўга кантавацца. Мая жонка напісала мне, што падала на развод. Твой муж таксама невядома дзе. Я быў бы шчаслівы аб’яднаць нашы лёсы і ісці поруч па жыцці.

Зося зніякавела, твар заліло чырванню. Яна прыгладзіла валасы і сказала дрыготкім голасам:

— Іван Паўлавіч, дарагі, што заўгодна, толькі не гэта! Я паклялася сабе, што ніколі не здраджу мужу, пакуль ён жывы! А ён жывы! Я перакананая! Я буду чакаць яго заўсёды! Прабачце, што я вас расчаравала, але гэта мая горкая праўда. Кахаю я яго вельмі! Ён доўга прыглядаўся да мяне, выбіраў, перабіраў. А я больш за дзесяць гадоў аднаго яго чакала, хоць іншыя хлопцы сваталіся да мяне!

— Добра, годзе… Я ўсё зразумеў, — пахмурна сказаў Селіванаў, наліваючы мензуркі.

Зося падхапілася з-за стала, ускінула на плечы паліто.

— Я пайду, Іван Паўлавіч. Мяне сын чакае. Бывайце здаровы…

— Ідзіце, што з вамі зробіш… Пачакайце. Вазьміце дыню, перадайце ад мяне ў падарунак вашаму сыну.

Селіванаў паднёс Зосі дыню, аддаючы яе, патрымаў у сваіх далонях Зосіны, нацягнута ўсміхнуўся:

— Прабачце, калі што не так… З Новым годам, Сонечка.

Ён нахіліўся і пацалаваў Зосю ў шчаку. Яна спалоханай птушкай выпырхнула за дзверы, бо раптам адчула, што ёй вельмі сімпатычны гэты чалавек, і душа міжволі цягнецца да яго.

Сышла з ганка, убачыла над сабой чорнае неба і бухматыя зоркі, якія праменіліся ў марозным паветры і, здавалася, калолі ў зрэнкі. Зося схавала пад палу дыню, каб не падмерзла, і заспяшалася дамоў.

Сын сустрэў яе нездаволеным пытаннем:

— Чаму ты сёння так доўга?

— Канец года, трэба было ўсё як след прыбраць, каб леташні бруд не заставаўся на свята.

— Я так есці хачу!

— Зараз што-небудзь зварым. А табе доктар Селіванаў дыню перадаў.

— Якая смаката! — Ораст з асалодаю панюхаў дыню і сказаў: — Не трэба нічога варыць. Дыняю павячэраем.

Ён разрэзаў нажом духмяную мякаць, дастаў з сярэдзіны насенне, паклаў асобна ў міску. А дыню парэзаў на тонкія лустачкі.

— Сёння да нас у школу Дзед Мароз прыходзіў, кінуў некалькі цукерак. Мы за іх біліся, але мне нічога не дасталося, — сказаў Ораст.

— Весела было?

— Якая там весялосць? Дзеўкі скакалі пад балалайку, а мы, хлопцы, глядзелі. Вось і ўсё. Затое цяпер пачнуцца канікулы! Любата!

— Адпачнеш, — сказала Зося, думаючы пра Селіванава, як цяпер будзе з ім працаваць і як наогул паводзіць сябе? Рабіць выгляд, што нічога не здарылася? Ці як?

Праз дзень яна прыйшла на працу. Заўважыла, што Селіванаў пазбягае сустракацца з ёю позіркам, адчувае сябе няёмка. «Давядзецца мяняць працу, — падумала Зося. — А я ўжо так прывыкла на гэтым месцы. Трэба нешта прыдумаць. Добра было б наогул з’ехаць адсюль, але куды і як дабіцца дазволу?»

Праз месяц яна атрымала ліст ад Гардзея з Варкуты. Адшукаў ён яе праз сястру Паўліну. Пісаў, што працуе на шахце, але захварэў, цяпер знаходзіцца на лячэнні. Пісьмо было кароткае і цёплае, асабліва сагрэлі Зосю чатыры вершаваныя радкі:

Я на поўначы далёкай,
Ты на поўдні, промнік мой.
Хоць нас доля разлучыла,
Мы сустрэнемся з табой.

Гэта быў яе Гардзей. Яго не змяніла турма! Такога яна памятала і кахала. У той жа дзень Зося, вяртаючыся з бацькоўскага сходу са школы з грэкам, які працаваў брыгадзірам у калгасе, сказала, што хацела б выехаць з паселішча ў райцэнтр, там лягчэй знайсці працу, а ёй трэба карміць сына. За сувойчык палатна ён згадзіўся дапамагчы Зосі памяняць месца жыхарства. У райцэнтры знайшлася для яе праца — упакоўваць у мяшкі бавоўну. Кватэру яна зняла ў знаёмага брыгадзіру бяздзетнага грэка. У Ораста пачалося новае жыццё ў новай школе. Яму тут больш падабалася, бо ў вёсцы школа была казахская,

а тут руская. Там, не ведаючы мовы, ён толькі адседжваў заняткі. Яму ставілі тройкі і пераводзілі з класа ў клас, бо і так ён быў перарастак, страціў чатыры гады, пакуль ішла вайна. Тут жа ў яго завялося шмат сяброў: грэкаў, татар, грузінаў, чэчэнцаў, кабардзінцаў. Цяпер Зося рэдка яго заставала дома. З новымі сябрамі Ораст рабіў хатнія заданні, нешта ў некага спісваў, нечаму ў некага вучыўся, але ў новай школе ў сына з'явіліся першыя чацвёркі, гэта радавала маці.

## 5

Праца ў шахце, цяжкая і небяспечная, пры слабым харчаванні забірала шмат сілы. Гардзей стараўся не думаць пра тое, што яму давядзецца гэтак пражыць цэлых дваццаць гадоў, на якія яго асудзілі. Ніхто ў лагеры столькі не здолеў бы выжыць па той простай прычыне, што ў шахтах час ад часу здараліся аварыі: завалы, падтапленні, узрывы метану. Гінулі людзі. Катаржнікаў ніхто не імкнуўся ратаваць. Пашанцавала Гардзею ў тым, што побач працавалі вольнанаёмныя, якія з разуменнем і па-чалавечы ставіліся да гаротнікаў-катаржан, не шкадавалі ім лусты хлеба з салам ці шклянкі гарачай гарбаты з тэрмаса. На Гардзеевым адзенні, як і ў многіх асуджаных, таксама, «красавалася» літара «к», што азначала «катарга». Ён мусіў дзяліць долю катаржан, стараўся меней думаць пра невядомую будучыню, пра невыносна цяжкае сёння, а прымаў усё, што пасылаў яму лёс, і з дзіцячай непасрэднасцю ўзіраўся ў свет навокал, рабіў маленькія адкрыцці і радаваўся гэтаму. Часам нават думаў, што зусім невыпадкова прывялі яго неміласэрныя шляхі ў халодны край, можа, для таго, каб менавіта ён, селянін, які шмат працаваў на зямлі, убачыў яе нетры, спасціг таямніцы яе стварэння, што застаюцца пакуль недаступнымі мудрым навукоўцам, бо тыя вырашаюць навуковыя задачы, пераважна седзячы ў кабінетах. Мабыць, з-за таго, што не губляў цікавасць да жыцця, хваробы доўга яго не бралі. Аднак штодзённае ўдыханне на працягу некалькіх гадоў вугальнага пылу ўсё ж кепска адбілася на здароўі. У Гардзея выявілася цёмная пляма на лёгкіх. Хвароба пачалася з моцнага кашлю і высокай тэмпературы, таму яго і паклалі ў шпіталь. Пакуль абследавалі ды лячылі, Гардзей у вольны час нарэшце заняўся сваімі запісамі, якія даўно выношваў у галаве. Зрэшты, гэта былі не проста нейкія думкі ці дзённікавыя нататкі. Гардзей выказваў пэўную навуковую гіпотэзу, а свой ліст збіраўся паслаць у Акадэмію навук СССР. На вокладцы вучнёўскага сшытка ў лінейку ён напісаў назву трактата «Навука аб паходжанні выкапневых матэрыялаў. Прычыны землятрусаў і вулканічных вывяржэнняў. Гіпотэза аб паходжанні планет Сонечнай сістэмы».

Яшчэ ў юнацтве, пабачыўшы ў кузні шлак ад спаленага вугалю, ён паставіў пад сумненне тое, што вугаль утварыўся з акамянелых лясоў, як было напісана ў падручніку фізічнай геаграфіі. Працуючы ў шахце за Палярным кругам, Гардзей назіраў за тым, як размяшчаюцца вугальныя пласты з рознымі праслойкамі. Тое ж ён заўважаў і ў кавалках каменнай солі. У выніку назіранняў у яго ўзнікла пытанне: калі сапраўды каменны вугаль утварыўся з акамянелых раслін, тады з чаго ўтварыліся каменная соль і іншыя мінералы? Разважаючы пра гэтыя з'явы, ён прыйшоў да высновы, што каменны вугаль і іншыя мінералы ўтварыліся павольна, быццам выраслі, пры гэтым складаліся з разнастайных хімічных рэчываў.

Аднойчы калону катаржан праводзілі міма прадпрыемства, на якім абпальвалі вапну. І зноў у Гардзея ўзнікла пытанне, на якое ён упарта шукаў адказ: каб атрымаць вапну трэба абпальваць сыравіну, дык чаму яна не абпа-

лілася, калі вылівалася на паверхню з гарачай лавай з кратэра вулкана, як напісана ў геаграфіі?

На адлегласці аднаго кіламетра ад той скалы, дзе здабывалі вапняк, знаходзілася іншая каменная скала, з якой з дапамогаю ўзрываў здабывалі сыравіну для вытворчасці цэменту. Гардзею даводзілася колькі месяцаў працаваць на здабычы даламіту. Ён звярнуў увагу на ягоную структуру. У кавалках здабытага каменю таксама былі праслойкі. Гэта сведчыла пра тое, што гара расла ці была выціснута з нетраў зямлі паступова. Ён параўноўваў вапняк з даламітам і дзівіўся, наколькі два гэтыя камені адрозніваюцца паміж сабою: вапняк белы і лёгкі, даламіт цёмна-шэры і вельмі цяжкі. Увогуле зямля нагадвае слоены пірог, які спёк і падараваў нам Усявышні. Паглядзіш у разрэзе — чаго толькі там няма: пясок, гліна, гравій, граніт! І ўсё гэта залягае праслойкамі. Нават каменны вугаль ляжыць слаямі. Гардзею даводзілася ў адной і той жа шахце здабываць вугаль на глыбіні двухсот метраў, а пасля там жа — на глыбіні трохсот. Гэтая з’ява яго яшчэ больш пераканала, што зусім не з акамянелых дрэў утварыўся вугаль. І зноў узнікла пытанне, ці была зямля ў далёкім мінулым у расплаўленым стане? Свае высновы аб нашай гарачай планеце навукоўцы грунтуюць на падставе перыядычных вывяржэнняў вулканаў. У гэтым, як лічыў Гардзей, і крыецца іхняя галоўная памылка. Працуючы ноччу на паверхні шахты № 5, на адвале пароды ён заўважыў успышкі разагрэтай масы вугалю, падышоў бліжэй і пабачыў, што гэта была парода, якая выкідвалася з глыбіні адвалу. Успышкі паўтараліся і ў іншых месцах адвалаў. Парода быццам сама сабою загаралася. Гардзей знайшоў тлумачэнне гэтай з’яве. Пад уздзеяннем дажджу і снегу адбываецца хімічная рэакцыя, у выніку якой выдзяляецца газ і цеплавая энергія, якая і прымушае вугаль гарэць. Разгадка самаўзгарання адвалаў і навяла яго на думку, што падобныя з’явы адбываюцца ў нетрах зямлі, у выніку чаго і здараюцца землятрусы і вывяржэнні вулканаў.

Усе гэтыя разважанні Гардзей адзначаў у сваім трактаце, які лічыў навуковым, і сам здзіўляўся, як складна і лёгка яму пісалася: «Землятрусы ў большасці выпадкаў здараюцца на астравах і паўастравах, а таксама ў горных раёнах і нават на марскім дне. Там узнікаюць умовы для бурных хімічных рэакцый пры сутыкненні горных парод з вадой (накшталт узаемадзеяння вады з карбідам або з неабпаленай вапнай). У выніку выдзяляюцца газы і шмат цеплавой энергіі, якая дасягае вельмі высокай тэмпературы, расплаўляе пароды, расшыраецца і пад націскам вырываецца на паверхню, скаланаючы зямную кару, у выглядзе гарачай лавы. Калі лава ўтварылася на невялікай глыбіні, яна лёгка вырываецца наверх, так адбываецца вывяржэнне вулканаў. У тым выпадку, калі рэакцыя адбываецца вельмі глыбока, тады здараюцца землятрусы. Каб папярэдзіць такія стыхійныя з’явы, трэба загадзя адшукваць месцы ўтварэння газу ў самым эпіцэнтры будучага землятрусу. Трэба таксама помніць і пра тое, што ў час вывяржэння вулканаў знішчаюцца вялізныя багацці карысных выкапняў, якія расплаўляюцца і згараюць у выглядзе попелу і лавы. З усяго вышэй сказанага вынікае, што наша зямля на працягу мільёнаў гадоў паступова вырасла і выйшла з вады, накшталт каралавых астравоў. Перакананы, што і цяпер зямля працягвае расці, інакш як можна растлумачыць паходжанне вельмі глыбокіх мораў і азёраў не толькі на раўніне, але і высока ў гарах. Усе мацерыкі зямнога шару, астравы і горныя вяршыні — гэта дно суцэльнага акіяна ў далёкім мінулым. Могуць сустракацца і невялікія ўзгоркі вулканічнага паходжання. Але яны павінны мець форму конуса, як звычайны фурункул. Зразумела, што без сонечнага цяпла, нічога не магло адбыцца ў свеце. А таму можна сцвярджаць, што галоўным фактарам ва ўтварэнні зямлі і іншых пла-

нет ёсць Сонца і вадарод, створаныя па волі Усявышняга Творцы, які пазней даў жыццё і разумным істотам, здатным думаць і дзейнічаць, як, напрыклад, чалавек.

Гэтак жа, як зямля, выраслі ў Сусвеце іншыя планеты, у тым ліку і Месяц. За Палярным кругам, асабліва зімой у яснае надвор’е Месяц можна назіраць на працягу некалькіх дзён запар, калі ён не хаваецца за далягляд. Няўзброеным вокам бачна, што Месяц заўсёды, рухаючыся па арбіце, павернуты да Зямлі адным і тым жа бокам. Ён пазбаўлены сваёй атмасферы і не круціцца вакол уласнай восі. На Месяцы можна разгледзець узвышшы, якія яскрава адбіваюць святло, а таксама даліны (былыя моры), якія не адлюстроўваюць святла і таму здаюцца больш цёмнымі. У былых морах на Месяцы няма вады, таму няма і атмасферы.

Можна ўявіць, што ў далёкім мінулым Месяц, як і Зямля, меў атмасферу. Круціўся вакол уласнай восі. Там назіраліся дзень і ноч, якія складалі суткі, а таму, магчыма, там быў раслінны і жывёльны свет…»

Нехта тузануў Гардзея за плячо, ён ажно здрыгануўся ад нечаканасці, павярнуў галаву, убачыў бляклыя вадзяністыя вочы аднаго з хворых на сухоты з суседняй палаты, які шапялява прамовіў бяззубым ротам:

— Хадзем, пісар, у карты пагуляем.

— Не магу… Дрэнна сябе адчуваю… Іншым разам, — адмахнуўся Гардзей, нездаволены тым, што перабілі ягоныя разважанні.

— А што ты пішаш?

— Запавет…

— Ну-ну, пішы… Нядоўга нам тут засталося, — адказаў хворы, плюнуў кроўю на падлогу.

— Што ты тут раскідаеш свае мікробы, — абурыўся Гардзей, яшчэ хацеў нешта сказаць, але на галас прыбегла медсястра, вочы ў яе былі заплаканыя

— Як вы можаце? — з дакорам спытала яна і выцерла слёзы. — У краіне такое гора! Наш дарагі Іосіф Вісарыёнавіч Сталін памёр.

— Сталін? Сталін памёр? — здзіўлена перапытаў хворы і з нейкім дзіўным падскокам выбег з палаты.

Гардзей падумаў: «Мусіць, трэба чакаць перамен…»

## 6

1953 год сапраўды аказаўся незвычайным. Летам Зося атрымала першы ліст ад Каці з Амерыкі. Сястра напісала, што выйшла замуж. Яе пазнаёмілі з добрым чалавекам, з якім яны спярша заключылі фіктыўны шлюб, што выратавала яе ад выканання місіі ў Індыі. Два гады яны жылі як чужыя людзі, а пасля ў складчыну купілі двухпавярховы дом і вырашылі аб’яднаць свае лёсы. Каця працавала швачкаю на фабрыцы. Выконвала тонкую работу, за што атрымлівала неблагую плату. Па ўсім было відаць, што Каця задаволеная жыццём. Як бы для доказу свайго дабрабыту, яна пачала высылаць пасылкі з харчамі і адзеннем, каб падтрымаць сястру ў Казахстане і яе мужа ў Варкуце. Гэтыя пасылкі не толькі дапамаглі Гардзею захаваць здароўе, але, дзякуючы ім, ён «купіў» сабе цёплае месца ў канторы, дзе пачаў працаваць рахункаводам. Час ад часу насіў падарункі дактарам, а тыя клалі яго ў стацыянар і лячылі, наколькі дазвалялі лекі, якія былі ў іх пад рукою.

Пасля смерці Сталіна па лагеры разнеслася чутка, што недзе ўжо распачалі рэабілітацыю зняволеных. Гардзей, хоць і разумеў, што яго віна вялікая — працаваў на немцаў, але таксама спадзяваўся, што і яму скароцяць

тэрмін зняволення. Гэтае трывожнае чаканне так даймала, што не радавалі нават лісты ад Зосі. Каб хоць як пазбавіцца маркоты, ён дапрацоўваў і шліфаваў свой навуковы трактат, знаходзячы вольную хвілінку ў канторы, а часцей на шпітальным ложку.

Яму хацелася разгадаць таямніцу нараджэння планет. Здагадкі ў яго з'явіліся даўно, але ўявіць усё больш-менш дакладна, ды яшчэ ў цэлым Сусвеце, доўга не мог. І ўсё ж аднойчы, як ён лічыў, да яго прыйшло гэтае дзіўнае адчуванне, што ён разгадаў таямніцу. У палаце храплі і пасопвалі хворыя. Гардзей узіраўся ў зорнае неба праз потнае шкло, па якім спаўзалі кроплі вільгаці. І раптам перад ягонымі вачамі ўзнікла неверагоднае відовішча: неабдымная туманнасць закруцілася спіраллю, быццам ракавінка смаўжа, уцягваючы з космасу ўсё, што сустракала на сваім шляху. Яна рухалася да вялікай і яскравай зоркі, жадаючы і яе паглынуць. Аднак зорка аказалася такая вялізная і магутная, што сама прымусіла туманнасць ператварыцца ў шар і рухацца па пэўнай арбіце... Што гэта было? Сон ці мроя, Гардзей сказаць не мог, але здарылася галоўнае: ён лічыў, што знайшоў разгадку ўзнікнення планет у Сусвеце. Заставалася толькі запісаць яе на паперы. Гардзей дастаў з-пад падушкі сшытак і аловак, пачаў пісаць усляпую: «У касмічнай прасторы знаходзяцца атамы вадарода і іншых касмічных рэчываў, з якіх пад уздзеяннем магнітнага поля ўтвараюцца туманнасці, здатныя ўшчыльняцца і ўтвараць кангламераты ў выглядзе шара пэўных памераў. Калі гэты шар набліжаецца да Сонца, пад уздзеяннем магутнага свяціла пачынае рухацца па арбіце вакол яго, прыцягваючы да сябе касмічныя рэчывы. Пры гэтым паверхня шара награваецца і верхні слой вільгаці выпараецца і ўтварае атмасферу. Энергія Сонца прыцягвае да сябе атмасферу, пранізвае яе наскрозь. Гэта прымушае планету рухацца вакол уласнай восі. Пры наяўнасці ўласнай атмасферы на такой планеце могуць размнажацца мікраарганізмы, якія спрыяюць нараджэнню сушы ў суцэльным акіяне. Такім чынам можа нараджацца жыццё на планетах».

Гардзей адчуваў натхненне, уздым і радасць ад нечаканай здагадкі, якая так раптоўна прыйшла да яго. Ён не чуў галасоў тых гаротнікаў, якія спалі на суседніх ложках. Яны храплі, задыхаючыся ў сне, ад астмы ці сухотаў, сутаргава хапалі вуснамі паветра, заціхалі на імгненне, быццам паміралі, але зноў пачыналі цяжка дыхаць... Яму хацелася дадумаць, дапісаць усё тое, што так доўга не давалася і раптам прыйшло само сабою. І ён зноў узяўся запісваць, лічачы, што: «З самага пачатку ўтварэння Зямлі і да цяперашняга часу ў акіянах кішыць мноства мікраарганізмаў. Кожны від мікробаў адпавядае ўтварэнню пэўнага мінерала, напрыклад, ад аднаго віду паходзіць каменны вугаль, ад іншага — каменная соль і г. д. У выніку ўзаемадзеяння розных мінералаў утвараецца мноства новых рэчываў. Зямля з самага пачатку ўяўляла сабой вадзяны шар невялікіх памераў у дыяметры. Калі б сабраць усю ваду з паверхні Зямлі і яе атмасферы і залучыць у шар, гэта і быў бы першапачатковы яе выгляд. У выніку росту зямлі ў вадзе гэты шар паступова павялічваўся. Зямля і цяпер працягвае расці. Аднак утвараецца яна не каля цэнтра шара, а бліжэй да паверхні, на такой глыбіні, дзе маглі вольна размяшчацца разнастайныя мікраарганізмы, адклады якіх і ператвараліся ў далейшым у мінералы. Варта мець на ўвазе, што зямля нараджалася нераўнамерна па ўсёй воднай прасторы. Недзе яна апускалася ўглыб зямнога шара, недзе выступала, выходзіла наверх. Таму ў зямной кары назіраюцца гранітныя платформы, якія могуць раптам абрывацца, напаўзаць адна на дну, крышыцца, правальвацца і г. д. Пад зямлёй адбываюцца непрадказальныя рэакцыі, якія выклікаюць землятрусы і вывяржэнне вулканаў…»

Гардзей стомлена адкінуўся на падушку, адчуў, што стала цяжка дыхаць, забалела сэрца. Ён паляжаў некалькі хвілін, чакаючы палёгкі. Боль у сэрцы нарастаў. Падумаў з дакукаю, што трэба папрасіць у медсястры валяр'янкі, хаця ён па-ранейшаму баяўся, каб не паднеслі якой атруты. Аднак падняўся і ціха, каб не пабудзіць нікога з хворых, выйшаў у калідор, дзе было больш чыстага паветра.

**7**

З лагера Гардзей вызваліўся толькі вясной 1956 года і адразу вырашыў ехаць да жонкі і сына, з якімі не бачыўся амаль дзесяць гадоў. Доўгая дарога расцягнулася ў часе амаль на тыдзень, і тым жаданей здавалася сустрэча. Ён вырашыў забыць назаўсёды тое, што давялося перажыць у лагеры, ніколі не згадваць і нікому не расказваць пра свае пакуты. Хацелася верыць, што адышлі ў нябыт страх, лагер, смерць, якія пры Сталіне сталі сродкам падпарадкавання народаў і своеасаблівым спосабам выхавання безгалосых рабоў. Людзі паміралі ад голаду і холаду, ды былі прымушаны трываць пакуты і не толькі маўчаць, але хваліць новы лад жыцця і мудрых партыйных лідараў, якія мелі ўсе прывілеі ў грамадстве. Радыё і газеты пісалі пра свабоду ў Краіне Саветаў, але свабодаю карысталіся толькі тыя, што займалі высокія пасады і прапаведавалі замест любові і міласэрнасці класавую барацьбу. Татальнае віжаванне аднаго чалавека за другім ухвалялася скрозь: на прадпрыемствах, у калгасах, у войску, у храме, у сям'і, у турмах і лагерах. З-за намовы ўсялякі нявінны грамадзянін мог пазбавіцца не толькі маёмасці і блізкіх людзей, а і свайго жыцця. Прыніжэнне, здзек, боль, якія ён зведаў, неабходна было выкінуць з памяці і душы. Інакш, як ён разумеў, немагчыма будзе далей жыць з непамернаю крыўдаю за сябе, сваіх родных, блізкіх, ды і проста многіх знаёмых людзей, з якіх нямала хто застаўся навечна ляжаць у вечнай мерзлаце... «За-быць, за-быць, забыць…» — стукалі колы цягніка.

Калі раскінуліся за вагонным акном бяскрайнія рыжыя казахскія стэпы, яшчэ не абуджаныя цяплом, Гардзей радасна падумаў, што ўжо хутка ён убачыць сваіх родных. І гэта будзе яму ўзнагародай за доўгія пакуты і цярпенне.

Раённы цэнтр, дзе жылі Зося з Орастам, стаяў пры чыгунцы. Даехаў да яго Гардзей без цяжкасці. Знайшоў па адрасе патрэбную вуліцу і дом, пастукаў у дзверы. Яму адчыніў высокі сімпатычны юнак.

— Ці туды я трапіў, малады чалавек? Шукаю Сафію Рахубу. Ці тут яна жыве?

— Тут, гэта мая мама Зося, — разгублена і быццам пакрыўджана адказаў юнак.

— Ты Ораст? Ты мой сын Ораст? — здзіўлена ўсклікнуў Гардзей, углядваючыся ў твар юнака.

— Я Ораст.

— Божа мой, як ты вырас! Я ніколі не пазнаў бы цябе, каб выпадкова сустрэў на вуліцы.

— А я цябе адразу пазнаў…

Гардзей усхвалявана абняў сына, прытуліў да грудзей, адчуў прыліў пяшчоты, якая шмат гадоў не наведвала яго душу. У лагеры перад ім стаяла адна мэта — выжыць у невыносна цяжкіх умовах, выстаяць, умець загадзя прадбачыць небяспеку і пазбегнуць няшчасця. А пагроза зыходзіла з усіх бакоў: ад лагернага начальства, ад сваіх жа лагернікаў, ад бяспечнай і цяжкай

працы ў шахце, ад дактароў, якія лячылі ці залечвалі да смерці, ад аховы, бо яна была ўзброеная і мела права страляць без папярэджвання, калі што…

— Заходзь у хату, — запрасіў сын.

Гардзей ступіў у беднае, але ахайнае жытло, у якім стаялі самаробныя стол і ўслон. Невялікая пабеленая грубка тулілася да правай сцяны, а за ёю мясціўся насціл накшталт беларускага запечка. Зрэшты, усё, неабходнае для жыцця, было.

— Дзе ж мама? — спытаў Гардзей.

— Пайшла на рынак, хутка вернецца. Сядай бліжэй да стала. Можа, есці хочаш?

Гардзей з любасцю і ўдзячнасцю за чуласць паглядзеў на сына і адказаў:

— Есці не хачу, а вады папіў бы.

— Дык на лепш узвару. А хлеб ляжыць на стале, накрыты ручнічком.

— Як некалі ў нас дома, — усміхнуўся Гардзей, заглядваючы пад ручнік, дзе ляжала паўбохана хлеба, спечанага Зосяю.

Ораст наліў кубак узвару з сухіх абрыкосаў, паставіў перад Гардзеем, сказаў:

— Калі ласка, пі.

Гардзей зрабіў колькі глыткоў, наталяючы смагу. Сам не чакаў, што гэтак расхвалюецца ад сустрэчы з сынам, які з падлетка ператварыўся ў юнака.

— Раскажы, як вам жылося.

— Ды ўсё добра. Я заканчваю дзясяты клас. Мама працуе.

— Якія ў цябе планы на будучыню? — зацікаўлена спытаў бацька. — Ці не збіраешся вучыцца далей?

— Пакуль не ведаю. Прынамсі, тут, у Казахстане, заставацца не хачу. Мару вярнуцца ў Беларусь.

— Я таксама пра гэта заўсёды марыў. Аднолькавыя, сынок, у нас з табою мары, — усцешана сказаў Гардзей. — Панасіла нас па свеце, а цяпер пара вярнуцца ў родны край. А дзяўчына ў цябе ўжо ёсць? — з добраю ўсмешкаю спытаў Гардзей.

Ораст апусціў вочы, хаваючы пагляд.

— Бачу, што ёсць, але не хочаш пра яе расказваць. Што ж, правільна робіш. Шчасце, мусіць, толькі тады існуе, калі пра яго ніхто не ведае, а як толькі ўсе пра яго даведваюцца, яно знікае, як палахлівая птушка.

Гардзей адчуў боль пад сэрцам, сцішыўся, прыслухоўваючыся да сябе, глытнуў кампоту і міжвольна падумаў: «Божа мой, што з намі робіць лёс? Раскідаў па ўсім свеце. Каця — у Амерыцы. Я — толькі што з Варкуты, а цяпер — у Казахстане. Па якой задуме Усявышняга мы прайшлі такія дарогі? Зрэшты, ці выжыў бы я, каб не Каціны пасылкі? А каб Зося не пісала лісты? Навошта мне было б імкнуцца выжыць?»

На ганку пачуліся крокі. У пакой увайшла жанчына са стомленым тварам. Яна павіталася, уважліва ўзіраючыся ў твар госця, ён у яе — таксама. І раптам Гардзею праз тонкія маршчынкі і цені вымалеваўся паўзабыты Зосін твар. Гардзей падняўся з-за стала. Ступіў крок наперад. Нарэшце яна пазнала яго і здзіўлена ўскрыкнула:

— Гардзей! Гардзей! Вярнуўся!..

Яна прыпала да ягоных грудзей, ён абняў яе адной рукою, другою пагладзіў па галаве, хустка спаўзла. І ён убачыў такія знаёмыя яе пышныя русыя валасы, закручаныя на патыліцы ў куксу. Зося ўсхліпнула.

— Годзе, чаго ты плачаш? Усё ж добра… — сказаў Гардзей.

— Ты так цяжка дыхаеш. Што ў цябе з лёгкімі? — занепакоена спытала яна.

— Гэта падарунак ад шахты. Але на сухоты я не хварэў. Не бойся, не заразны…

— Як ты даехаў? Чаму не напісаў? Мы б сустрэлі цябе.

— Я ж не на курорце быў, Зося. Там са мною не цацкаліся. А як толькі выпусцілі, я бягом — і да вас, пакуль зноў не загрэблі…

— Крый божа, што ты кажаш…

— Мне здавалася, што гэты жах ніколі не скончыцца. Пажыццёвае пекла… І паміраць там не хацелася, і жыць невыносна…

Зося паглядзела ў твар мужу блізарукімі вачамі і сказала:

— Нічога, дзякаваць богу, мы разам. Адкармлю цябе, і будзеш ты ў мяне гладкі, як пан.

— Адчуваю, што і вы тут нацярпеліся ліха. Але ты ў мяне малайчына! Такога сына выгадавала! Дальбог, яго не пазнаў! Падумаў, што памыліўся, не туды трапіў.

Гардзей абняў Зосю і Ораста. Яны селі на ўслоне і доўга сядзелі, нешта згадваючы з таго даўняга мінулага, калі сын быў яшчэ зусім малы і шмат чаго не помніў. Ім было добра і светла сядзець так разам і адчуваць, што ёсць у гэтым жыцці нешта вельмі важнае, што яднае іх, нягледзячы ні на якія выпрабаванні.

## 8

Зося штодня хадзіла на працу, сын — у школу, а ў Гардзея, які адзін заставаўся дома, з'явілася дастаткова вольнага часу, каб нарэшце сабраць свае запісы, якія датычыліся ягонай трактоўкі паходжання Зямлі і іншых планет, а таксама карысных выкапняў. Ён перапісаў усё ў асобны сшытак і паслаў у Акадэмію навук СССР у Маскву. З хваляваннем чакаў адказу, бо лічыў, што зрабіў адкрыццё, якое пераверне светапогляд навукоўцаў. Думаў, што ім давядзецца тэрмінова перапісваць падручнікі і не толькі ў Савецкім Саюзе, але і ва ўсім свеце. Цешыў сябе, што зрабіў гэта не нейкі славуты вучоны, а нікому невядомы селянін з вёскі Крачкі Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці Гардзей Рахуба.

Праз месяц прыйшоў з Акадэміі навук ветлівы адказ з падзякаю за актыўную жыццёвую пазіцыю. Унізе стаяў неразборлівы подпіс, замацаваны пячаткаю. Гардзей зразумеў, што ніхто не ўспрыняў усур'ёз ягоную гіпотэзу. Марныя былі ягоныя пошукі і азарэнні. Мусіць, зарана ён нарадзіўся на Божы свет. Несвоечасова здзейсніў навуковае адкрыццё. Нікому яно пакуль непатрэбнае. Вялікае расчараванне апанавала ягоную душу. Гардзей зрабіўся маўклівы і раздражнёны, а тут яшчэ пачалася звычайная для Казахстана летняя гарачыня, якую ён пераносіў з цяжкасцю. Гардзей клаўся спаць на вуліцы пад адкрытым небам, але і адносна прахалодныя ночы не прыносілі палёгкі. Яму было цяжка дыхаць, сэрца калацілася, ледзь не вылятала з грудзей. Дактары казалі, што не падыходзіць клімат. Зрэшты, Гардзей і сам не збіраўся тут затрымлівацца надоўга. Як толькі сын скончыў школу, сям'я Рахубаў вырашыла вяртацца ў Беларусь. Праўда, Зося згадзілася не адразу.

— Як уяўлю таго Леванюка ды Марфу, дык не хочацца мне пра Крачкі і думаць, — колькі разоў казала яна. — Давайце застанёмся ў Алма-Аце. Такі зялёны і прыгожы горад!

— Не, Зося, здароўе маё слабое. Хачу памерці дома. Нажыўся я сярод чужых. Хачу легчы на спачын у родную зямлю, — пярэчыў Гардзей.

— Ты будзеш жыць, Гардзей. Не думай пра смерць, — прасіла Зося.

— Я таксама хачу ў Крачкі — падтрымаў бацьку сын.

— Калі і паспелі дамовіцца? — здзівілася Зося.

— У першы ж дзень, як сустрэліся, — задаволена адказаў Гардзей.

Зноў Зося збіралася ў дарогу, нешта купляла, нешта прадавала. Гардзей пакаваў рэчы і рыхтаваў да адпраўкі багаж. Ораст прападаў цалюткімі днямі недзе на вуліцы, развітваўся з сябрамі. Моладзь пачала разлятацца пасля выпускнога балю хто куды.

Дзяўчына, з якою сябраваў Ораст, хацела вучыцца на актрысу, збіралася ехаць у Маскву і клікала яго з сабою. Быць акцёрам хлопец не прагнуў, да таго ж і вучыўся ў школе так-сяк, звычайна ўсё спісваў у сваёй сяброўкі.

— Правалюся я на экзаменах, — казаў ён ёй.

— Спішаш у мяне. Я падкажу, — абяцала Эма і ззяла зялёнымі вачамі.

— А там жа яшчэ трэба спяваць і вершы чытаць.

— Ну, ужо нічога прасцей не прыдумаеш. Што табе цяжка праспяваць?

— Ды не хачу я выглядаць блазнам. Які з мяне спявак? — упарціўся Ораст.

— Ты проста лайдак! Дзеля нашага шчасця пальцам не варухнеш! — абурылася Эма.

Ораст хацеў пакрыўдзіцца на гэты папрок, але потым прапанаваў:

— Давай зробім так. Калі ты паступіш вучыцца, я прыеду да цябе ў Маскву, знайду працу і буду табе дапамагаць, чым змагу. Калі не паступіш, прыедзеш да мяне ў Беларусь. А там разам вырашым, як жыць далей.

— Дамовіліся, — лёгка згадзілася дзяўчына і абвіла хлопца за шыю гарачымі рукамі.

Упершыню ён адважыўся яе пацалаваць. І гэта быў самы адметны дзень у ягоным жыцці. Праз тыдзень Эма прыйшла правесці Ораста на вакзал. Пад назіркам бацькоў хлопец адчуваў сябе скавана. Ён толькі глядзеў на дзяўчыну, імкнучыся запомніць кожную рыску яе твару. Калі маці паклікала, ён адступіў на колькі крокаў, спыніўся, памахаў рукою і скокнуў у вагон. А потым, колькі ехалі, што б ні рабіў Ораст — глядзеў у акно ці ляжаў з заплюшчанымі вачамі, бачыў перад сабою толькі яе, Эму, дзяўчыну з цёмнымі кучаравымі валасамі вакол прыгожага чыстага лба, яе яскравыя зялёныя вочы і адчуваў дотык цёплых вуснаў. З-за расстання з каханаю дзяўчынаю сустрэча з радзімаю не была такою радаснаю, як марылася і ўяўлялася.

Стары будынак вакзала ў Жабінцы выглядаў абшарпаным, быў ён той самы, нязменны. Тыя ж высокія дрэвы прыветна калыхалі зялёныя галіны пад спякотным ветрам. Вераб'і, як і некалі, чародкамі зляталі і садзіліся на перон. Рахубам здалося, што яны вярнуліся ў ранейшы час, а калі агледзеліся, дык заўважылі, што не бачаць ніводнага знаёмага твару, быццам мясцовасць засялілі новыя людзі.

Гардзей выйшаў на прывакзальную плошчу, згледзеў хлопца на возе, спытаў, скуль ён. Той адказаў, што едзе ў Сцяблова і згодны падвезці сям'ю да Крачкаў.

Рахубы ехалі моўчкі, прагна ўзіраліся ў наваколле і не пазнавалі ранейшых мясцін. Выраслі новыя дрэвы, зніклі шнуркі сялянскіх палёў, поле было агульнае, суцэльна калгаснае. Вазак спрабаваў распытаць, хто яны ды скуль. Гардзей коратка патлумачыў, што выязджалі на заробкі, але, як кажуць, добра толькі там, дзе нас няма, таму і вяртаюцца на радзіму.

— Цяпер шмат хто шукае лёгкага хлеба, едуць, хто на цаліну, хто на Украіну, — адказаў хлопец. — А ў Крачках вы дзе жылі?

— На хутарах.

На тым гаворка скончылася. Воз пратарахцеў па брукаванцы, звярнуў на палявую дарогу, якая хутка прывяла ў невялікі лес, і раптам адкрыліся Крачкі. Гардзей з хваляваннем адразу заўважыў тры новыя будыніны побач з поплавам, астатнія хаты лёгка пазнаваў, згадваў гаспадароў, зазіраў у двары, дзе бавіліся нечыя дзеці і ўнукі. Жыццё ішло і не звяртала ўвагі на страты. Можа, толькі цяпер Гардзей з усёй трагічнасцю зразумеў самотнасць і неабароненасць чалавека, які мусіць трымацца за блізкіх людзей, бо нікому, акрамя іх, ён не патрэбны.

У канцы вёскі Рахубы папрасілі вазака спыніцца, падзякавалі і пайшлі да свайго хутара па дарозе, добра ўбітай калёсамі. Яны прыглядаліся да дрэваў, удыхалі родныя пахі і прыспешылі крок — хацелася хутчэй пабачыць свой хутар, хоць і ведалі з лістоў Паўліны, што хаты даўно няма, застаўся садок.

Сям'я спынілася на спустошаным двары, ад якога не засталося нічога, акрамя каменнага грудочка, дзе стаяла печ, якая некалі грэла і цешыла, якая карміла і радавала, а цяпер нагадвала магільны курганок. Ораст сарваў зялёны яблык, надкусіў, пажаваў, зморшчыўся і выплюнуў.

— Усё расцягнулі, — злосна сказала Зося.

— А ты думала, што цябе тут палац чакае? — пахмурна пасміхнуўся Гардзей.

— Хоць бы печ пакінулі!

— Печ кожнаму трэба.

— Гардзей, як ты можаш быць такім спакойным?

— Я шчаслівы, што мне галаву не адкруцілі, а хату паставім новую.

Раптам знаёмы голас аклікнуў іх:

— Каго я бачу! Рахубы вярнуліся! Каб вы здаровенькія былі!

Да іх, накульгваючы, ішоў Леванюк, ведучы ў руках веласіпед.

— Здароў быў, землячок, — стрымана адказаў Гардзей.

— Ну што, разнёс хату, а цяпер прыехаў нашаму няшчасцю парадавацца? — пайшла ў наступ Зося.

— Дарэмна ты на мяне… Праўленне калгаса забрала вашу маёмасць, я тут ні пры чым, — пачаў апраўдвацца Леванюк. — Няма пра што шкадаваць, старая ваша хата была, нічога не вартая. На дровы пусцілі. Купляйце новае дрэва, я вам такую хатку выштукую! Ого-го!

Зося грэбліва акінула постаць Леванюка і спытала:

— А чаго гэта ты з начальства ў простыя лезеш?

— Ды я даўно ўжо ў простых хаджу. Прыйшлі нам на змену маладыя, граматныя… А мы сваё адпрацавалі, адслужылі Айчыне…

— Як твая Надзя, як сям'я? — спытаў Гардзей.

— Няма Надзі, пахаваў. Паляжала з месяц у бальніцы ў Жабінцы. Потым дактары кажуць, маўляў, забірайце, няхай дома далечваецца. Нейкіх там парашкоў надавалі. Яна іх піла, піла… Аднойчы не прачнулася. Лёгкая смерць… Дай божа кожнаму… У труне ляжала такая прыгожая, заспакоеная, нават не верылася, што нежывая… Застаўся адзін, з дачкою Аленаю… — Леванюк шморгнуў носам.

Зося згадала Серафіма і сваю віну перад ім, што не пайшла на пахаванне, нічога не зрабіла, каб пахавалі яго па-чалавечы і спытала:

— Дзе пахаваў яе? Побач з Серафімам?

— Яшчэ чаго не хапала! Я яе сапраўдны муж, са мною побач яна і павінна ляжаць.

— Адыходзяць людзі, — ціха прамовіў Гардзей.

— Адыходзяць… Адна вайна колькі забрала....

— Годзе стаяць, як на могілках, — сказаў Гардзей.

Рахубы рушылі да хутара Карпа, дзе жыла аўдавелая цётка Агатэля.

— Дык майце на ўвазе: я вам хату пастаўлю! — крыкнуў наўздагон ім Леванюк, сядаючы на веласіпед.

— Едзь, сабака аблезлы, — злосна сама сабе з нянавісцю прамармытала Зося.

— Не можаш яму дараваць? — спытаў Гардзей.

— Не магу!

— Даруй яму, няшчаснаму, бачыш, сам віну адчувае.

— А дзе мы будзем ставіць новую хату? — спытаў Ораст.

— Тут і паставім, — адказаў Гардзей.

— Можа, не варта? Нейкая нешчаслівае гэтае месца ад самага пачатку, — засумнявалася Зося.

— Мы яго ашчаслівім.

Рахубы спыніліся, азірнуліся на зруйнаваны двор і кожны з іх па-свойму ўявіў будучую хату, але чамусьці кожны ўбачыў тую, якая стаяла тут раней, старая, з шэраю страхою, такая знаёмая і родная.

Ораст зазірнуў у калодзеж, завалены голлем, на дне яго ўсё ж паблісквала чорная, як нафта, вада.

— Калодзеж наш завалілі, — з крыўдаю сказаў ён.

— Пачысцім, — спакойна адказаў Гардзей. — Ён ўсё-ткі жывы, дачакаўся нас…

— Пойдзем, у мяне сэрца разбалелася ад гэтага відовішча, — папрасіла Зося.

Рахубы рушылі да суседняга хутара. Старая Агатэля сядзела на лаўцы каля весніц, зацікаўлена назірала за людзьмі, якія набліжаліся да яе і не адразу пазнала іх. Толькі калі Зося павіталася, старая цяжка паднялася, стала абдымаць ды цалаваць родных, саромеючыся сваіх парэпаных рук і зморшчанага твару.

— Ты паглядзі, Зоська, якая я стала. Брыдка на сябе ў люстэрка глянуць.

— Не звяртайце ўвагі, цётачка, абы душа была маладая, — супакоіла яе Зося.

— Вас назусім адпусцілі ці як?

— Назусім.

— А сядзібы вашай няма. Жывіце пакуль у мяне. Адна я зусім здзічэла. І Гэлькі маёй няма, колькі гадкоў ужо косці парыць у сырой зямельцы.

— На што яна хварэла? — спытала Зося спачувальна.

— Угрэлася, папіла халоднай вады. За адну ноч горла задушыла, — старая выцерла вільготныя вочы. — Ужо іншы раз Бога малю, каб узяў мяне да Гэлькі і Карпа. Не бярэ, пэўна, яшчэ не заслужыла ягоную літасць. Пойдзем у хату, дзеткі, пачастую, чым Бог паслаў. Гаравала я тут, бедавала, вас згадваючы. Гэта ж колькі нявінных людзей са свету зжылі. Гарманіст наш, Сымон Чмель, праспяваў прыпеўку: «У калгас ішоў абуты, а з калгаса басанож». На другі дзень забралі і да гэтае пары ніхто не ведае, куды падзеўся чалавек… Дзякаваць богу, што хоць вы вярнуліся…

Некалі прасторная Карпава хата здалася Зосі нізкай і малой, але пахі яблыкаў, хлеба і малака па-ранейшаму ўладарылі тут. Усё тыя ж лавы ўдоўж сцен і запечак, той жа стол, засланы настольнікам, хіба толькі дадалося фотаздымкаў у рамках.

Толькі госці селі за стол, як прыбегла ўсхваляваная Паўліна, якую папярэдзіў Леванюк. Кінулася абдымаць брата, плакала і смяялася, выцірала слёзы і прыгаворвала:

— Вярнуўся мой пакутнічак! Братка мой дарагі! Колькі я начэй не спала, колькі думала пра цябе! Чаму ж ты да мяне не прыйшоў адразу? Каб ты ведаў, як я цябе чакала…

— Годзе, годзе ўжо… Супакойся, — спыніў яе Гардзей.

Паўліна адступілася ад яго і павярнулася да пляменніка.

— Божачкі, а гэта што за кавалер! Ораст, няўжо гэта ты?

— Я, а хто ж яшчэ, — баском адказаў хлопец.

— Людцы добрыя, то ж быў кату па пяту! А цяпер кавалер!

Паўлінінай радасці не было мяжы. Яна тут жа распачала распавядаць пра вясковыя навіны. Агатэля тым часам паставіла на стол крупнік ды бабку са шкваркамі.

— Бабка! — усклікнуў Гардзей. — Даўно я не каштаваў такой смакаты.

Паўліна змоўкла, з любасцю ўзіралася ў братаў твар, трохі пастарэлы, з сівізною на скронях і шкадавала яго, як у маленстве. Зрэшты, што змянілася? Проста прайшло шмат гадоў. А яны як былі родныя, так і засталіся.

## 9

Эма паступіла ў тэатральны інстытут, аднак Ораст не здолеў выехаць да яе ў Маскву. Хлопца забралі ў войска. Паколькі ён меў адукацыю — дзесяць класаў, дык яго паслалі спачатку асвойваць шафёрскую прафесію. І гэта яму нават спадабалася, бо ён марыў, як кожны хлопец, на чым-небудзь ездзіць: на машыне ці хоць на матацыкле. Вучыўся ён добра і лёгка асвоіўся ў новым асяроддзі. У першыя ж месяцы зрабіў на пальцах сабе татуіроўку — год свайго нараджэння, 1936, а на плячы напісаў імя Эма, чым увекавечыў сваю каханую, якая заўсёды цяпер была пры ім.

Пасля курсаў яму даверылі грузавую машыну і ён выдатна спраўляўся са сваімі абавязкамі, пакуль не здарылася непрадбачанае: Эма прыслала ліст, у якім дзякавала яму за разуменне і школьнае сяброўства і паведамляла, што яна сустрэла вялікае і сапраўднае каханне. Пісала, што выйшла замуж за вядомага кінарэжысёра і што шчаслівая, а таксама, што яе з мужам яднае не толькі каханне, а і сумесная справа. Хвалілася, што яе ўжо запрасілі на здымкі фільма, далі, хоць не галоўную, але даволі значную ролю. І яшчэ паведамляла, што зусім не мела часу для таго, каб напісаць яму раней, бо ёй трэба шмат што паспець: і вучыцца, і прысутнічаць на здымках, і даглядаць мужа, бо ён, як малое дзіця, без яе не можа ні сабраць рэчы, ні зрабіць сабе вячэру…

Ораст прачытаў гэты ліст і зразумеў, што страціў Эму назаўсёды. Жыццё пазбавілася сэнсу. Для чаго яму служыць у войску, ездзіць на машыне, нешта рабіць, калі наперадзе замест будучыні беспрасветная цемра, дзе няма і ніколі не будзе Эмы.

Напярэдадні Ораст вярнуўся з далёкага рэйса. Суткі яму далі для адпачынку. І ён іх патраціў на тое, што цэлы дзень ляжаў на ложку тварам да сцяны, часам плакаў, часам сціскаў зубы, каб не закрычаць ад нянавісці і бяссілля, нават абедаць і вячэраць не пайшоў. Ноччу спрабаваў заснуць, але нейкія галасы, што ўзнікалі ў падсвядомасці, будзілі яго, не давалі спакою.

Раніцай сяржант загадаў уставаць і збірацца ў дарогу. Ораст нават не варухнуўся.

— Устаць! Табе тут што, курорт! — загадаў сяржант.

— Не магу, — адказаў Ораст.

— Што, можа, захварэў, дык валяй у санчасць!

— Захварэў! Душа баліць! — ціха адказаў хлопец, ад гора ён страціў сілу, не мог варухнуцца, наогул, здавалася, што лепш памерці, чым трываць такую пакуту.

— Душэўнахворых у дурдоме трымаюць! Уставай, каму сказаў! — сяржант рэзкім рухам сарваў з Ораста коўдру і кінуў яе на падлогу.

Ораст з нянавісцю паглядзеў у вочы сяржанту, раптоўна ўскочыў з ложка, адкрыў тумбачку, выхапіў нож і паласнуў сябе па жываце. Кроў вузкай палоскай пазначыла рану і пачала капаць на падлогу. Сяржант збялеў і нема закрычаў. Ораст знясілена апусціўся на ложак і заплюшчыў вочы. Ён не адчуваў ні болю, ні страху, а праз імгненне страціў прытомнасць і ўжо не чуў, як яго на насілках вынеслі ў машыну, як рабілі аперацыю, як размясцілі ў рэанімацыю. Ён прачнуўся пад вечар, пабачыў над сабою доктара, спытаў:

— Чаму я тут?

— Табе зрабілі аперацыю, — адказаў доктар.

— Аперацыю? — перапытаў Ораст і толькі цяпер усё ўспомніў.

— Як сябе адчуваеш? Што баліць?

— Нічога. А што са мной?

— Разрэзаў скуру, трохі пашкодзіў кішэчнік, але, дзякуй богу, быў галодны з ранку, дык абышлося без ускладненняў. А магло быць і вельмі дрэнна. Падумай, што табе даражэй, уласнае жыццё ці нейкая непрыемнасць, якая вывела цябе з раўнавагі?

— Падумаю… А калі мяне выпішуць?

— Выпішуць, як адужаеш, а пакуль ляжы спакойна. Наклалі дванаццаць швоў, глядзі, каб не паразыходзіліся. Бо зноў будзем зашываць.

Доктар выйшаў. Ораст паспрабаваў павярнуцца на бок і адчуў рэзкі боль у жываце. Паспрабаваў памацаць жывот, ён аказаўся увесь перабінтаваны.

Зноў аднекуль здалёку выплыла крыўда на Эму, але ён адагнаў яе. Захацелася раптам дадому, да маці. Яна ўмела даглядаць яго, калі ён хварэў. Яна хутка паставіла б яго на ногі. І зноў у памяці ўзнік твар Эмы, гарэзлівы, вясёлы.

— Ідзі, ідзі да свайго рэжысёра, — прабурчаў Ораст. — Мая жонка — бальнічны ложак.

Ён падняў руку, каб прыгладзіць чупрыну — гэты рух азваўся болем. Цяпер ён шкадаваў, што быў такі нястрыманы і ледзь сам сябе не знішчыў з-за нейкай лярвы, якая здрадзіла яму з першым сустрэчным рэжысёрам. Нездарма кажуць, што ўсе акцёры распусныя. Яны не жывуць, а толькі выконваюць ролі.

Праз чатыры дні Ораста перавялі ў палату, а яшчэ праз пару тыдняў камісавалі. І ён нечакана вярнуўся ў Крачкі. Першае, што заўважыла маці, была татуіроўка на пальцах рукі — год нараджэння Ораста. Яна вельмі захвалявалася, бо ў вёсцы ведалі сапраўдны год нараджэння Ораста, маглі яму сказаць праўду пра колішні матчын грэх, чаго ёй вельмі не хацелася.

— Што ж ты нарабіў? Навошта, каб усе ведалі? — спытала яна з горыччу.

— А што тут такога? Так усе хлопцы нашы сабе напісалі. Ці мала што? І пашпарт не трэба.

— Паглядзі на свайго сына, Гардзей. Што будзем рабіць?

— Нічога. Каму якая справа да нас? — спакойна адказаў муж. — Ты лепш спытала б, чаго твайго сына раней часу адпусцілі з войска.

— Чаму, сынок?

Ораст неяк дзіўна ўсміхнуўся і весела адказаў:

— Абрыд я там усім. Кармі мяне, апранай, узбройвай, выпраўляй на службу — вось і выгналі. Кажуць, ідзі, няхай пра цябе бацькі клапоцяцца.

Зося недаверліва насцярожылася і настойліва спытала:

— Выдумляеш ты, сынок. Нешта здарылася? Так? Вунь у суседнюю вёску прывезлі хлопца ў труне забітай, нават паглядзець не далі.

— Ды нічога не здарылася. Аперацыю зрабілі.

— Якую аперацыю? — устрывожана спытаў Гардзей.

— Не ведаю, нешта выразалі там.

— Пакажы, — загадала Зося.

Ораст загаліў гімнасцёрку і паказаў чырвоны шрам на жываце. Бацькі ўтаропіліся ў Ораста, нават старая Агатэля спаўзла з запечка, паглядзела і перахрысцілася на ікону.

— Ой-ё-ёй, мой сыночак, і балела ж табе? — заплакала маці.

— Наркоз далі — і нічога мне не балела. Слухайце, колькі можна? Есці хачу. Ці вы збіраецеся мяне голадам марыць?

— Зараз, зараз, — адказала Зося і замітусілася ля печы.

Запахла знаёмымі стравамі. Ораст раптам адчуў, што ён шчаслівы, спакойны і вольны. Можна пачынаць новае жыццё.

Як толькі звечарэла, за акном пачуліся дзявочыя галасы. Нехта спяваў, смяяўся, міжвольна Зося адхінула фіранку, паглядзела на вуліцу, але нічога не ўбачыла блізарукімі вачамі.

— Ужо дзеўкі пранюхалі, што кавалер у вёсцы з’явіўся, — прабурчала старая Агатэля.

— Зараз пайду і нюхаўкі ім перцам натру, — злосна сказала Зося.

— Ага, схавай яго пад спадніцу, — заўважыў Гардзей.

Ораст тым часам, ні слова не кажучы сямейнікам, выслізнуў за дзверы. Вярнуўся ён пад ранне. Зося абурана пачала папракаць сына, што швэндаецца немаведама дзе, а бацькі з-за яго ноч не спалі. Гардзей спыніў яе:

— Дай хлопцу адпачыць з дарогі. Ты не ведаеш, што такое служба ў войску.

Ораст папіў малака, залез на печ, а праз імгненне адтуль пачулася яго роўнае дыханне.

## 10

Зося падграбала смецце ў двары і думала пра сына. Добра было б яму прадоўжыць вучобу, але не ахвочы ён да кніжак. Не ў Гардзея ўдаўся. Зося і сама не надта хінулася да навукі. Калі вучылася ў прытулку, ёй больш падабаліся спевы ды танцы. Каб засталіся тады з бацькам жыць у Расіі, можа, стала б яна спявачкаю, балерынаю ці проста артысткаю ў тэатры. А вярнуліся дамоў, тут іншае жыццё: зямля, гаспадарка, бясконцая праца з вясны і да вясны. Не, яна не хацела, каб і сын яе ўпрогся ў калгаснае жыццё. Які сэнс працаваць задарма? Гардзей уладкаваўся ў Брэсце вартаўніком. Зося таксама падумвала пра тое, каб пайсці на працу, бо трэба будаваць сваю хату. Праўда, Каця абяцала прыслаць грошай на падлогу і дах, калі паставяць сцены. Але ж і сцены трэба за нешта ставіць. Сын таксама мусіць шукаць працу ў горадзе, тым больш што да Брэста ўсяго якіх кіламетраў пятнаццаць, не болей. Туды ходзяць аўтобусы і цягнікі. Каб трапіў на добрае прадпрыемства, дык і кватэру атрымаў бы, сям’ю завёў бы, а там Зося магла б унукаў дачакацца. Яна не прыспешвала сына брацца за справы, хацела, каб адпачыў, набраўся сілы. Колькі таго жыцця? Перакалоцішся, прапакутуеш, што пасля і згадаць няма чаго.

Занятая думкамі, яна і не заўважыла, як у двор увайшла Паўліна, павіталася, села на прызбу, паклала рукі, пакручаныя артрытам, на прыпол, сказала:

— Грабешся як курыца ў пяску, і не ведаеш, што твой сын вырабляе.

— А што? — здзіўлена ўскінула вочы Зося.

— З Веркаю Марфінаю сустракаецца. Вось што!

— Адкуль ты ведаеш?

— Уся вёска гудзе. Верка хваліцца, што Ораст абяцаў з ёю ажаніцца.

— Гэтага няшчасця нам толькі не хапала! — пляснула рукамі Зося і з трывогаю паглядзела ў бок клуні, дзе Гардзей з Орастам пілавалі дровы. — Я пакажу яму Верку!

— Цішэй ты, не навальвайся на хлопца знянацку, — спыніла Зосю Паўліна, ведаючы, якая тая гарачая. — Пагутары з ім ціха, ласкава, па-мацярынску, растлумач што да чаго. Раскажы, як Марфа ў мяне палатно пакрала… Паскудніца! Гардзею праходу не давала, цяпер за Ораста ўзялася! Бацьку ж твайго са свету звяла, на цябе пры немцах данос напісала…

— Я той Марфе вокны павыбіваю, калі яна ад хлопца не адступіцца! — раз’ятрана крыкнула Зося, якая не магла стрымаць свой гнеў, а мо і знарок, каб пачулі яе Гардзей з сынам.

— Ну і ўпартая ж ты, што табе ні кажы, ты ўсё роўна робіш па-свойму.

Гардзей заўважыў сястру ў двары, пакінуў працу, прыйшоў, павітаўся, спытаў:

— Як маешся?

— Гарую… Сам ведаеш, як жыць, не маючы сваёй хаты. Добра, што Каця дзе якую пасылку прышле з Амерыкі, дык за гэта мяне і трываюць.

Зося паглядзела на зморшчаны Паўлінін твар і падумала: «Нашто ёй тыя пасылкі? Жыве адна, старая ўжо стала. Ні плоту, ні азяроду. Ходзіць у нейкіх атопках ды рыззі, шкадуе сабе што лепшае апрануць».

— Не бядуй, сястра, пабудую хату, вазьму цябе да сябе.

— Пакуль ты хату пабудуеш, дык і рак на гары свісне, — адказала Паўліна.

— Ужо дамовіўся з лясгасам, выпішу драўніну.

— Драўніну яны выпішуць! Лес жа трэба зімою нарыхтоўваць, а не цяпер.

— Нарыхтуем зімою, — згадзіўся Гардзей.

— Да зімы яшчэ трэба дажыць, — горка ўздыхнула Паўліна.

— Чаго ты ўжо так раскісла?

— Няма сілы, Гардзейка. Рукі і ногі баляць па начах, што не ведаю, куды і як іх пакласці. Ды што ўжо мне старой скардзіцца? Тут маладыя мруць як мухі. Вы і не чулі, можа?

— А што? — спытала Зося.

— Маркаў старэйшы сын, п’яніца той горкі, пад цягнік трапіў. На смерць зарэзала. Ага! Кажуць і сэрца вырвала з грудзей, так і ляжала асобна…

— А божачкі, бяда якая, — перахрысцілася Зося.

— Вось як бывае на свеце. Некалі Марк сваю сястру хацеў пад цягнік кінуць за зямлю, ды я нарвалася. А цяпер такое няшчасце з ягоным сынам здарылася…

Ораст калоў ля клуні напілаваныя дровы. Зося паглядзела ў ягоны бок і сказала Гардзею:

— Чуеш, што наш сынок вырабляе? Да Веркі Марфінай заляцаецца! Ажаніцца абяцаў…

— Абы-што вярзеш…

— Вось Паўліна кажа, што ўжо ўся вёска пра гэта ведае…

— Калі ён паспеў? — спакойна заўважыў Гардзей. — Плёткі гэта…

— А ты сам у яго спытай.

— Добра, спытаю, — згадзіўся Гардзей.

Паўліна паправіла хустку на галаве, падцягнула ражкі пад барадою, цяжка вохкаючы, паднялася з прызбы.

— Ну, пайду я, разбірайцеся тут самі, — сказала яна.

— Паабедай з намі, — запрасіла Зося.

— Дзякую, пайду. Хаджу я цяпер марудна, пакуль дамоў дабрыду, дык і вячэра будзе…

— Застанься, — папрасіў Гардзей, але Паўліна паціху патупала да весніц.

«Якая хітрая, — падумала Зося пра Паўліну, — не хоча сапсаваць адносіны з пляменнікам. Усім жадае быць добраю. Ну і гадзюка — гэтая Марфа! Гардзея не ўтрымала, дык хоча ягонага сына завабіць у сваё кодла. Не выйдзе!»

Весніцы грукнулі за Паўлінаю, і яе квяцістая хустка хутка знікла за кустоўем.

— Чаго надзьмулася як мыш на крупы? — спытаў Гардзей.

— Думаю, што рабіць?

— Нічога не рабіць. Ці ён дурны, каб так рана жаніцца?

— Не ў цябе ён удаўся, Гардзей. Можа, таму, што сама я гадавала яго, ён толькі знешне на цябе падобны. Не было побач бацькі, не меў з каго браць прыклад. Хоць цяпер пагутары з ім сам, бо сарвуся я, не атрымаецца гутарка… Ненавіджу я гэтую Марфу… Сам ведаеш…

Па абедзе Гардзей знарок дачакаўся, калі Зося пойдзе даваць мяшанку свінням, распачаў гутарку з сынам:

— Што збіраешся рабіць далей? Вучыцца ці жаніцца?

— Вучыцца не хачу, буду шукаць працу. Думаю, мо тут, у калгасе застацца.

— У калгасе? — здзівіўся Гардзей. — Задарма хадзіць на працу і нічога ад гэтага не мець?

— Неяк жа людзі жывуць.

— Адны лайдакі так жывуць. Можа, і жаніцца ўжо надумаў?

Ораст пасміхнуўся і адказаў:

— Думаю. Усё адно некалі ж трэба…

— Няўжо сапраўды з Веркаю Марфінаю?

— А што? Сімпатычная дзяўчына, — сказаў узрадавана Ораст, бо пачуў тое, пра што сам пакуль сказаць бацькам не адважваўся.

— Ды ты ведаеш, колькі гэтакіх сімпатычных ёсць на свеце? Мільёны! А трэба выбраць адну, якую будзеш кахаць усё жыццё! — нездаволена сказаў бацька.

— Ажанюся — і будзе яна ў мяне адна.

— Навошта так рана вешаць сабе хамут на шыю? У цябе яшчэ ўсё жыццё наперадзе! Верку ён знайшоў, недавучку гэтую калгасную…

У гэты час у хату ўвайшла Зося, не стрымалася і абурана сказала:

— Няўжо ты не помніш, Ораст, як мяне ледзь немцы не расстралялі з-за Марфы! І дзеда твайго з-за яе на пакуты і смерць вывезлі! Гэтая зладзейка ў Паўліны палатно ўкрала! Увесь іхні род паскудны!

— Дзеці за бацькоў не адказваюць, — запярэчыў Ораст. — Ці мала што ў вас было!

— Марфа нам згубы жадала! Яна твайго дзеда на той свет паслала! А ты гатовы яе дачку як змяю на грудзях прыгрэць! -— закрычала Зося ў запале. — Тады лепш забі мяне, каб я не бачыла і не ведала гэтае ганьбы.

Ораст разгублена паўзіраўся ў твар маці, але раптам рынуўся да дзвярэй, схапіўшы на хаду з цвіка куртку і выскачыў з хаты.

— Рыхтык такі ж шаленец, як ты, — сказаў Гардзей, сочачы ў акно за сынам.

— Куды ён пабег? — з трывогаю спытала Зося.

— Не бойся, ён не пабяжыць тапіцца, як ты некалі ў маладосці. Пашыбаваў у бок чыгункі…

— Божачкі, што ж я нарабіла? — загаласіла Зося. — Калі ж ён вернецца? Я звар’яцею, калі яго доўга не будзе…

— Супакойся. Няхай хлопец абдумае тое, што мы яму сказалі. Можа, якраз на карысць пойдзе, — суцешыў Зосю Гардзей.

— Што у вас там здарылася? — спытала старая Агатэля з печы.

Яна зусім аслабла, з ранку яшчэ трохі тупала па хаце, а потым адлежвалася. З-за таго, што недачувала, дык амаль не размаўляла са сваімі кватарантамі, бо бачыла, што толькі раздражняе іх.

— Нічога, цётка, трохі Зося на сына накрычала, каб позна з дзяўчатамі не гуляў, а ён пакрыўдзіўся, — адказаў Гардзей.

Старая нешта прамармытала сабе пад нос і аціхла на печы.

**11**

Ораст вярнуўся да бацькоў праз два дні, сказаў, што ўладкаваўся на працу ў будаўнічую арганізацыю ў Брэсце і пасяліўся ў інтэрнаце. Вестка ўзрадавала Зосю, яна спытала:

— А што ж ты, сынку, там будзеш рабіць?

— Буду старшым, куды пашлюць.

— Трэба ж нейкую прафесію асвоіць, — параіў бацька.

Ораст уздыхнуў, пачухаў патыліцу і адказаў:

— Разумееце, каб нечаму навучыцца, трэба мець настаўніка. Ім мог бы стаць брыгадзір. Але ён адмаўляецца мяне вучыць, кажа, я лепш свайго сына навучу.

— Гэта несправядліва. На працы ў брыгадзіра ўсе сыны, — запярэчыла Зося.

— Толькі ты, мама, можаш так думаць. Нічога, агледжуся, можа, з часам пашукаю лепшую працу. Галоўнае, што інтэрнат далі. Там весела… Па серадах, нядзелях і суботах наладжваюцца танцы.

Ораст задаволена ўсміхнуўся, быццам згадаў нешта прыемнае, зірнуў на гадзіннік і папярэдзіў:

— Я прыехаў, каб забраць свае рэчы.

Зося заспакоена падумала, што, напэўна, ён адмовіцца ад Марфінай Веркі, калі раптам так крута памяняў свае планы. Крый божа ўступаць у сваяцтва з гэтым гадзючым кодлам. Часам Зося думала, што Марфа наслала на Гардзея псоту, што ён стаў абыякавым да яе, сваёй жонкі, ды і наогул да ўсіх жанчын, але нікому пра гэта не казала. Ды і каму скажаш? Распусцяць плёткі па сяле, зганьбяць, што сорамна будзе на людзі паказацца.

— Ты ж хоць наведвай нас, — папрасіла Зося. -— І адрас пакінь, каб ведаць, дзе цябе шукаць.

— Няма чаго мяне шукаць. Усё ў мяне будзе добра. Брэст мне падабаецца. Там не засумуеш, — весела адказаў сын. — Мы з хлопцамі ўчора хадзілі ў парк, піва папілі, патаўкліся на танцпляцоўцы, карацей, добра бавілі час…

— Толькі будзь асцярожны, сынок, не пі гарэлкі, не ўвязвайся ў бойкі. Ты ж не хлапчук зялёны. Нашто табе даказваць сваю вартасць кулакамі? — зноў папрасіла Зося.

— Ай, вечна ты, мама, нешта выдумляеш… Есці хачу… Хутчэй, бо на бліжэйшы цягнік спазнюся, — адказваў Ораст, скідваючы ў стары абдзёрты чамадан касцюм, сарочкі, бялізну.

Зося дастала з печы дранікі са шкваркамі, спытала:

— Крышаны есці будзеш?

— Не, дранікаў дастаткова.

Сын еў з апетытам проста з патэльні рукамі, аблізваў тлушч, што цёк па пальцах, а бацькі з замілаваннем назіралі за ім. Вось і вырас хлопец, стаў на крылы, і бацькі яму патрэбны толькі для таго, каб час ад часу праведаць іх і паказацца, які ён стаў. А ці даўно ляжаў у калысцы, кугікаў і быў бездапаможны і кволы.

— Усё, я пабег… — сказаў Ораст.

— Ідзі з Богам. І помні, што я табе сказала пра Марфіну Верку.

— Ды я ўжо забыўся даўно пра тую Верку, вельмі трэба… У Брэсце поўна прыгожых дзяўчат, ажно вочы разбягаюцца…

Гардзей толькі ўсміхнуўся, слухаючы сына, і згадваючы сябе гэткім жа маладым, калі і ў самога разбягаліся вочы на вячорках і ён ніяк не мог выбраць адну адзіную.

Калі Ораст пайшоў з хаты, Зося з сумам сказала:

— Вось і вылецела наша птушаня з гнязда. Цяпер, Гардзей, засталіся мы з табою ўдваіх, як старыя пянькі.

— Чаму адны? Вунь цётка Агатэля дрэмле на печы. Хутка ўнукі пойдуць касяком. Цяпер дзеўкі ўчэпістыя, не такія сарамлівыя, як у наш час. Павісне на шыі, не адвяжашся, — адказаў Гардзей. — Ораста, мусіць, зацягне гарадское жыццё. Рэдка будзем бачыць хлопца.

— Ты ж бываеш на службе, будзеш яго наведваць. Слухай, пайду і я на працу, чаго мне гэтую хату вартаваць? І грошы трэба…

— Як хочаш, — адказаў Гардзей.

На другі ж дзень Зося паехала ў Брэст і ўладкавалася на чыгунку. Давялося працаваць у тры змены, прымаць будаўнічыя матэрыялы. Цяпер яна рэдка бачылася не толькі з сынам, але і з мужам. Нават па святах часам у іх не супадалі дзяжурствы. Вяскоўцы, хто выпадкова сустракаў Ораста ў горадзе, казалі, што часта бачаць яго на падпітку. Маўляў, ходзіць ён па горадзе, заглядвае то ў адну «забягалаўку», то ў другую, набіраецца як свіння гразі, дамоў і носа не паказвае. Гардзей ездзіў да сына на працу, паўшчуваў яго, Ораст абяцаў выправіцца. Зося колькі разоў наведвалася да яго ў інтэрнат, але там не заставала.

Толькі на Новы год пашанцавала: Зося і Гардзей аказаліся дома разам. Чакалі сына, каб разам адсвяткаваць. Ён сапраўды прыехаў, але не адзін. Разам з ім увайшла прыгожая чарнявая дзяўчына, усмешлівая, прыязная.

— Знаёмцеся, гэта мая жонка, — заявіў Ораст з парога.

Зося зніякавела і разгублена спытала:

— Як жонка, адкуль?

— З Брэста. Хаця не, родам яна з Мінскай вобласці. Працуе буфетчыцай у кафэ. Карацей, варыць смачна і якасна. З голаду не прападу.

— Як жа цябе завуць, маладуха? — спытаў Гардзей.
— Міла, — адказала дзяўчына.
— Міла і сэрцу міла, — адказаў Гардзей і запрасіў, — заходзьце, калі ласка, стол накрыты, толькі вас і чакалі.
Старая Агатэля глядзела на маладых і дзівілася:
— Вось табе і гацаца! Не жаніўся, не вянчаўся, а жонку маеш!
— Мы распісаліся, бабуля! Рас-пі-саліся! — сказаў на вуха старой Арaст.
— Ну, дзякаваць богу, дзякаваць богу, — заківала галавою Агатэля.
Гардзей дапамог нечаканай нявестцы зняць паліто, правёў яе да стала, паказаў месца, дзе сесці, напоўніў келіхі віном, сказаў:
— За шчасце маладых! Жывіце ў згодзе і каханні. Няхай збываюцца вашы задумы і мары, а мы, старыя, будзем толькі цешыцца вашай удачы.
Усе выпілі віно, толькі Міла ледзь прыгубіла свой келіх. «Не п’е, гэта добра. Не разбэшчаная», — падумала Зося і спытала:
— А калі вяселле, сынок?
— Ды было ўжо ў нас вяселле. Два мае хлопцы ды дзве Міліны сяброўкі пасядзелі ў рэстаране, выпілі па чарцы і справе канец.
Зося згадала, што і ў яе не было сапраўднага вяселля, бо здарылася яно пасля радзін. Што ж, у кожнага свой лёс. Гэта, напэўна, за мой грэх мяне Бог карае. Хоць бы ў сына былі дзеці. Каб прычакала я ўнукаў. Даруй, Божа, грахі мае цяжкія…
— А дзе ж вы жывяце? — устурбавана спытала Агатэля.
— Дзе давядзецца, у мяне ў інтэрнаце, або ў Мілы на кватэры.
— Трэба, бацька, пачынаць будаваць дом, — сказала Зося.
— Будзем будавацца, сям’я павялічылася, — задаволена ўсміхнуўся Гардзей, наліваючы ў чаркі віно. — Давайце вып’ем за Новы год, няхай ён здзейсніць усе нашы надзеі і планы. Горка!
Міла сарамліва паглядзела на Ораста, але хлопец абняў яе за шыю і пацалаваў. Маладая заружовілася і апусціла вочы. Гардзей задаволена ўсміхнуўся і падумаў: «Усё-ткі мой сын не зломак. Дзяўчыну прыгожую выбраў і паводзіць сябе па-мужчынску. Праўда, яна нейкая занадта сарамлівая. Ці толькі прыкідваецца? Ведаю я гэтых цнатлівак… Бачыш, як хутка Ораста захамутала. Хаця і ён хуткі на справу, не вельмі задумваецца, што робіць. Вунь гатовы быў і Верку Марфіну ўзяць, нават не разгледзеўшы як след, што яму ў рукі валіцца. Малады яшчэ, зялёны…»

## *Раздзел чацвёрты*

## Амерыканская спадчына

### 1

Вясной Рахубы распачалі будаўніцтва. Леванюк паставіў сцены, праўда, без сянец. Каця своечасова прыслала грошай, таму за лета накрылі хату гонтаю, склалі печ, заслалі падлогу, нават такі-сякі хлеўчык скідалі, у якім можна было размясціць карову і пару падсвінкаў. Позняй восенню сціпла справілі ўлазіны. Тады ж нарадзілася ўнучка Ганулька. Нявестка перабралася з малою даОраставых бацькоў. Зося не магла нацешыцца малою, аддавала ёй усю любоў і пяшчоту. Гардзей здзіўляўся, назіраючы за жонкаю, як палагаднела яна, як засвяцілася шчасцем, быццам вярнулася ёй адчуванне маладосці і

мацярынства. Ды і сам дзед любіў бавіцца з малою, слухаць яе тонкі галасок, здагадвацца пра яе жаданні. Праз год нявестка нарадзіла яшчэ і ўнучыка Радзіка. У хаце стала цесна і тлумна. Гардзей аблюбаваў сабе месца для адпачынку на печы, каб нікому не замінаць. За турботамі пра малых, не было часу асэнсаваць тую радасць, якая пасялілася ў новай хатцы на хутары. Аднак Зося адчувала сваё шчасце і пра ўсё напісала ліст Каці. У адказ атрымала строгі і асуджальны адказ. Нехта са сваякоў паведаміў сястры ў Амерыку, што Ораст дрэнны сын, не запрасіў бацькоў на сваё вяселле, што любіць ён прыкладвацца да чаркі, ніякім рамяством не авалодвае, а толькі часта мяняе месцы працы, шукае лёгкага хлеба.

Гардзей ведаў: шмат хто з родзічаў і сваякоў гатовы перапісвацца з Кацяй толькі для таго, каб атрымаць ад яе пасылку. Ад зайздрасці гатовыя зганьбіць чалавека, каб за кошт гэтага атрымаць хоць нейкую карысць. Канечне, Ораст не ідэальны сын, але і не горшы за іншых. Трымаецца сям'і, кахае жонку, любіць дзяцей. А наконт чаркі… Дык хто цяпер не п'е? Іншае здзіўляла і непакоіла Гардзея. Жывучы за тысячы кіламетраў у Амерыцы, Каця імкнулася ведаць усё пра ягоную сям'ю, кіраваць адносінамі, уплываць на Зосю і Ораста. Яго ж, Гардзея, настойліва клікала ў госці, заваблівала багаццем, хвалілася сваім двухпавярховым домам, дзе шчасліва жыла з мужам у багатай і вольнай краіне, у якой ёй пашанцавала апынуцца. У адным лісце яна напісала: «Не хоча Зося ехаць і не трэба, прыязджай адзін. Я пакажу табе ўсю Амерыку. Пабачыш Ніягарскі вадаспад. Відовішча неверагоднае! Я аднойчы чатыры дні там жыла, не магла нагледзецца на гэтае вечнае хараство».

Яна ўпарта нагадвала і пра тое, што засталася бяздзетнай, а гэта азначала, што амерыканскую спадчыну маглі атрымаць Гардзееў сын і ўнукі, бо іншых спадчыннікаў у яе не было. Зразумела, Каця сумавала па радзіме, жыла згадкамі пра мінулае, тым больш, што некалі яна была неабыякавая да Гардзея. Ён гэта адчуваў, калі і сам вагаўся, выбіраючы сабе жонку. Яму падабалася ўдумлівая, разумная, начытаная Каця, але Зося, імпульсіўная, самаахвярная і адданая, здолела прывязаць яго да сябе. Аднак жыццё мінула. Насоўвалася старасць. Гардзей адчуваў яе дыханне за спінаю. Ён баяўся прызнацца сабе ці каму б там ні было, што паступова губляе зрок, вочы зацягвала смугою, якую нават сонца не магло прадраць. Сілы пакідаюць цела, цяжка дыхаюць лёгкія, задышка пачынае душыць, як толькі ён бярэцца за якую-небудзь цяжкую працу. Што там далей, адзін Бог ведае. Аднак трэба было абараніць сына і сваю сям'ю ад плётак. Ён сабраўся і напісаў доўгі ліст Каці і яе мужу:

«Добры дзень, паважаныя Каця і Дзяніс! Мы атрымалі ваш ліст, за які сардэчна дзякуем. Мы радыя, што ў вас усё добра, што вы яшчэ працуеце, што здаровыя, наведваеце крамы, атрымліваеце асалоду ад жыцця, ад сустрэч з сябрамі і ад працы ў кветніку. Зося таксама любіць наведваць крамы і купляць што-небудзь сабе або ўнукам. Сардэчна дзякую за запрашэнне ў госці, аднак, перакананы, што мяне да вас не пусцяць. Вы ж ведаеце маё мінулае. Мяне выпусцілі па амністыі, пашанцавала. Рэабілітацыі я не дачакаўся. Да таго ж, наколькі я ведаю, за мяжу пускаюць толькі блізкіх родзічаў: бацьку, маці, братоў або сясцёр. Наконт Ораста скажу, што раней ён любіў пасядзець у кампаніі, калі быў халасты, а цяпер, як завяліся дзеці, такое амаль не здараецца. Ён добра ставіцца да нас з Зосяю, да сваёй жонкі і дзяцей. Вяселле сваё ён справіў вельмі сціпла, толькі з самымі блізкімі сябрамі, бо не хацеў абцяжарваць нас. Мы тады знаходзіліся ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Прыязджайце да нас, пазнаёмцеся з ягонай сям'ёй і здолееце самі ўпэўніцца,

што ён добры сямейнік. Мы цешымся на старасці ўнукамі і шчаслівыя тым, што ўсё ў сына атрымалася выдатна. Нявестка наша прыгожая і акуратная, умее смачна гатаваць. Яна з вясковых, таму ніякае працы не цураецца. У нас усё добра, бяда толькі, што старасць ужо нагадвае пра сваю прысутнасць. Жадаем вам поспехаў, моцнага здароўя і доўгага жыцця. Прывітанне ад нашай вялікай сям'і. Да пабачэння. Рахубы».

Ліст Гардзей вырашыў сам занесці на пошту ў вёску. Хоць дзень выдаўся марозны, але ветрык ужо веяў па-вясноваму цёплы. Па дарозе ён зайшоў у краму, дзе звычайна збіраліся вяскоўцы перакінуцца словам і дачакацца, калі з Жабінкі прывязуць свежы хлеб. І на гэты раз тут сабралася некалькі старых жанчын у ватоўках ды Марк, апрануты ва ўсё салдацкае — даношваў сынаву ўніформу, у якой той вярнуўся з войска. Ён гучна сварыўся з прадаўшчыцаю Веркаю, Марфінаю дачкою.

— Бачыш ты, якая сучка, аблічыла на дзесяць капеек! Ты думаеш, калі я стары, дык і лічыць не ўмею!

Верка кінула на прылавак манету і крыкнула:

— На табе дваццаць капеек, толькі сыдзі з вачэй, падла старое! Ніяк не здохнеш! Ходзіш тут і толькі нервы псуеш!

— Зараз знявечу кульбакаю! Паскуда каўтунатая! — Марк замахнуўся кульбакаю на маладзіцу.

— Толькі паспрабуй! Выклічу міліцыю, дык хутка цябе супакояць, — пачала пагражаць Верка, трасучы стручкамі завіўкі, якія спадалі на лоб.

— Сёння ж скаргу напішу ў райспажыўсаюз, не будзеш ты тут махляваць, — раз'ятрана паабяцаў Марк.

Гардзей пацягнуў Марка за рукаў і сказаў, пасмейваючыся:

— Ты яшчэ да маладзіц чапляешся?

— Каб яна спрахла, халера гэтая! Штораз выведзе з раўнавагі.

— Пойдзем на свежае паветра, успомнім маладосць.

Марк злосна згроб з прылаўка манету заскарузлаю рукою і сказаў:

— Пайшлі, Гардзей. Ты адзіны разумны чалавек на ўсё сяло. Я цябе заўсёды паважаў.

Яны выйшлі з крамы. Па-старэчы пачалі гаманіць пра гаспадарчыя справы. Толькі тут Гардзей заўважыў, што паштовая скрынка вісіць на слупе каля крамы і ўзрадавана апусціў у яе свой ліст, бо ногі ўжо балелі і не хацелася цягнуцца да пошты ў другі канец вёскі.

— Пойдзем, Марк, я цябе дахаты правяду.

— Пайшлі, Гардзей, колькі таго жыцця засталося?

Два старыя чалавекі тупалі ўдоўж вёскі, якая выгадавала іх, паставіла на ногі, пусціла ў шырокі свет, але яны вярнуліся сюды, не жадаючы жыць у разлуцы з ёю. Яны глядзелі на хаты, дзе некалі жылі іншыя людзі, якія даўно перасяліліся на клады. Цяпер па сяле хадзілі дзеці і ўнукі памерлых і рысамі твараў нагадвалі сваіх папярэднікаў. «Кругазварот жыцця ў прыродзе, — сам сабе ўсміхнуўся Гардзей. — А я яшчэ жыву. Перажыў многіх сваіх ворагаў. У гэтым мая перамога і шчасце».

— Як ты Марк пачуваешся? — спытаў Гардзей.

— Як прачнуся раніцай, здаецца, што толькі пазногці не баляць. Увесь, як пабіты…

— Вось, што я табе скажу. Калі аднойчы прачнешся і адчуеш, што нічога табе не баліць і не смыліць, ведай, што памёр, — засмяяўся Гардзей.

— Цьфу на цябе! Такое паскудства кажаш, — раззлаваўся Марк.

— Як ні круціся, а прыйдзе час адпачыць.

— Калі прыйдзе, тады і пагаворым, а цяпер давай пра што весялейшае. У цябе колькі ўнукаў?

— Двое.

— А ў мяне пяцёра, нават адзін праўнук ёсць! Абскакаў я цябе, Гардзей! — задаволена прыцмокнуў языком Марк. -— Але ж ты не ведаеш галоўнае маёй радасці. Я рэабілітаваны! Прызнаны ні ў чым не вінаватым. А табе, напэўна, рэабілітацыю не дадуць. Лічыцца, што ты на немцаў працаваў.

— Я працаваў на людзей. Стараўся, каб пастаўкі немцам былі як мага меншыя, каб жывёлу здавалі горшую. Ты гэтага не заўважыў?

— Я заўважыў, але хто табе паверыць? Ты ж для саветаў — вораг народа.

— Ат, не павераць, дык і так памру. Для мяне галоўнае не чалавечы суд, а Боскі. Будзь здаровы, Марк, і не кашляй.

Гардзей рушыў па вуліцы, а думка пра рэабілітацыю не адпускала яго. Ён не адчуваў сваёй віны ні ў чым, шкадаваў толькі, што ўзяў грэх на душу, напісаў данос на Пуха. Думаў, што Пуху ўчыняць допыт, выкрыюць яго нялюдскую дзейнасць, а немцам не было часу разбірацца. Яны расстралялі Пуха як камуніста і супрацоўніка савецкіх карных органаў. Гардзей вельмі спадзяваўся, што здолее дазнацца, чым быў атручаны. Тады, магчыма, было б лягчэй знайсці лекі ад невылечнай хваробы, якая хоць і прыціхла ў апошнія гады, але час ад часу нагадвала пра сябе страшэнным болем у галаве і грудзях. Цяпер ужо нічога не дазнаешся, позна. Сваю таямніцу забраў Пух на той свет. Калі Гардзей уяўляў, як Пух стаяў перад дуламі аўтаматаў, яму рабілася страшна і моташна. І раптам ён згадаў той выпадак, калі расстрэльвалі людзей каля Жабінкі. Сэрца балюча сціснулася і, здалося, спынілася. Гардзей схапіўся за плот і доўга стаяў нерухома, баючыся варухнуцца, быццам баяўся, што тая далёкая смерць, што згрэбла людзей у яму, можа прыхапіць з сабой і яго.

## 2

На другі дзень Гардзей паехаў у Брэст і напісаў заяву ў абласную пракуратуру з просьбаю разгледзець ягоную справу з мэтаю рэабілітацыі. Праз некалькі месяцаў яго выклікалі ў суд для разгляду справы. У якасці сведкаў былі запрошаны жонка і сястра Паўліна. Утрох яны і выправіліся ў Брэст. У будынку суда са здзіўленнем убачылі Марфу, Марка і яшчэ двух аднавяскоўцаў: Іллю Раманюка і Хвядоса Янчука, з якімі Гардзей ніколі хаўрусу не вадзіў, бо яны былі на дзясятак гадоў маладзейшыя за яго.

Калі сакратар стукнуў малаточкам і абвясціў: «Суд ідзе!», усе ўсталі. Гардзей адчуў незвычайную ўзрушанасць, але пастараўся супакоіць сябе, мяўляў, сам заварыў кашу, цяпер трывай. Суд пачаўся з таго, што прапанавалі Гардзею расказаць пра сваё жыццё. Ён пачаў гаварыць, спачатку хваляваўся, але хутка супакоіўся і аповед ягоны паліўся імкліваю рэчкаю, нават сам дзівіўся, як лёгка яму згадваецца тое, што ляжала недзе на дне памяці, а цяпер быццам хто вяслом ускалыхнуў і падняў на паверхню той забыты час:

— Нарадзіўся я ў 1901 годзе ў вёсцы Крачкі. Мой бацька меў дзесяць гектараў зямлі, два кані, тры каровы, карацей, гаспадарка даволі вялікая, але ў 1914 годзе ён памёр, а мама пайшла ў лепшы свет яшчэ раней. Я застаўся за гаспадара з трыма малодшымі сёстрамі. З 1909 да 1912 года вучыўся ў школе, да 1922 года працаваў на сваёй гаспадарцы, пасля мяне ўзялі ў войска, дзе служыў да 1924 года. Вярнуўся зноў у сваю гаспадарку, выбіраўся войтам, але кандыдатура не была зацверджана.

Паступова ён увайшоў у смак і пачаў расказваць, згадваючы асобныя дэталі, выпадкі. Усё перажытае быццам праплывала перад ягонымі вачыма, а ён пераказваў прысутным тое, што бачыў. Апавядаў пра тое, як сядзеў у польскай турме, як адышоў ад камуністаў, як працаваў пры саветах, але быў звольнены з працы і ў той жа дзень атручаны колішнім былым сябрам. Пра службу ў немцаў сказаў коратка, што працаваў аграномам, у ягоную функцыю ўваходзіла збіранне паставак збожжа і свойскай жывёлы для нямецкага войска, і пры гэтым прызнаўся, што склаў спіс людзей, якія прычынілі яму гора, і перадаў немцам, у выніку чаго Пух быў расстраляны, а некалькі чалавек высланы ў Германію. Гардзей адзначыў, што быў пакрыўджаны на савецкую ўладу, за тое, што яго атруцілі, у выніку чаго ён хварэе на працягу ўсяго жыцця.

Суддзя спытаў, ці ёсць у яго даведка аб перанесенай хваробе. Гардзей дастаў з кішэні і паклаў перад суддзёй нейкія паперкі і працягваў свой аповед:

— У чэрвені 1944 года я ўступіў у нямецкае добраахвотнае войска. Заставацца дома мне было небяспечна, вельмі лютавалі партызаны ў апошнія дні перад прыходам Чырвонай Арміі. На зборным пункце ў Брэсце нямецкі афіцэр запісаў неабходныя звесткі, якія датычыліся мяне, і я застаўся там. Праз некалькі дзён мне выдалі мундзір нямецкага салдата і вінтоўку. Нас вучылі страявой падрыхтоўцы. Пра тое, што я пайшоў да немцаў, мая радня не ведала. У батальёне, дзе я служыў, набралася сорак добраахвотнікаў, астатнія былі немцы. Гэты батальён абараняў Брэст, але я ў баях не браў удзел, бо ехаў наперадзе з абозам. Я быў узяты ў палон пад горадам Пілау, а потым асуджаны на спецпасяленне ў горад Тулу на шэсць гадоў, працаваў на вугальнай шахце. З-за недаядання і цяжкай працы вельмі аслабеў, таму ўцёк дамоў, за што быў зноў асуджаны ўжо на дваццаць гадоў і адпушчаны па амністыі.

Суд дапытаў Зосю. Яна назвала сваіх блізкіх родзічаў, у тым ліку і Кацю, якая жыла ў Амерыцы, і нічога не магла дадаць да таго, што расказаў Гардзей. Паўліна наогул адмоўчвалася, а калі што і казала, дык немагчыма было разабраць, што яна шамкала бяззубым ротам. Найбольш гаваркой аказалася Марфа, якая скардзілася на тое, што праз Гардзея была выслана на працу ў Германію. Марк сказаў, што ў сяле ніхто не хацеў быць аграномам. Гардзей узяўся за гэтую справу, таму што быў не зусім здаровы на галаву. Ілля Раманюк абвінаваціў Гардзея ў тым, што той у час свайго аграномства забраў у яго сям'і карову і аддаў немцам. Яшчэ адзін вясковец Хвядос Янчук сказаў, што паколькі Гардзей быў у нямецкай арміі, дык ваяваў супраць яго, Янчука, былога чырвонаармейца, які дайшоў да Берліна і быў цяжка паранены.

Гардзей слухаў сваіх аднавяскоўцаў і думаў: «Кожны дбае пра сябе. Напэўна, некаму і я атруціў жыццё. Марфе, якая дамагалася майго кахання, Раманюку, які хацеў утаіць карову, Янчуку, якому давялося паваяваць. А хіба я распачаў гэтую вайну? Мы ж толькі пешкі. І шукаем вінаватых побач з сабою».

Суддзі выйшлі параіцца, а калі вярнуліся, была абвешчана пастанова аб прызначэнні судова-псіхіятрычнай экспертызы па справе грамадзяніна Рахубы Гардзея Максімавіча. Гардзею растлумачылі, што яго выклічуць на экспертызу, а пасля суд прыме канчатковую пастанову. Яго суцешыла тое, што твары суддзяў не былі такія пагардлівыя і абыякавыя, якія яму даводзілася бачыць раней. Гэтыя глядзелі спакойна і нават прыязна.

Калі вярталіся дамоў, ужо ў цягніку, Зося, пазіраючы ў задуменны твар мужа, спытала:

— І навошта табе трэба былі гэтыя мітрэнгі? Што табе з тае рэабілітацыі?

— З некім я варагаваў, нехта не любіў мяне, але я ніколі не быў і не буду ворагам свайму народу! Таму рэабілітацыя мне патрэбна як паветра!

— Які ж ты неспакойны, Гардзейка, — заківала галавою Паўліна.

— Затое ты ў нас спакойная! Сапраўдны пралетарый, нічога не маеш, толькі другіх вучыш жыццю!

Паўліна імгненне глядзела на брата і раптам залілася слязамі, праз усхліпы яна прамовіла па складах:

— Гэта ж усё праз цябе! Праз цябе я засталася адна! Ты не даў мне выйсці замуж! Ты з'еў маю маладосць!

— Ціха, ціха, Паўлінка, — папрасіла Зося. — Людзі ж кругом.

Паўліна аціхла, унурылася, адвярнулася да акна. Гардзей нервова прыгладзіў валасы, працёр вочы. На зрэнкі наплываў туман. Ужо ён і Зосін твар не мог добра разгледзець. Іншы раз са страхам думаў пра тое, што некалі настане дзень, калі белы свет акрыецца непраглядным туманам. А потым не за гарамі і смерць. Але ці ж яму наракаць на лёс. І так пажыў, дзякаваць богу. Колькі палегла людзей тых, што працавалі разам з ім на шахце ў Туле і Варкуце! Колькі хлопцаў не вярнулася ў сяло, мабілізаваных на вайну! Што ж, у кожнага свой лёс, свая непратаптаная сцежка. Сам выбраў, сам іду, як магу, на колькі хопіць моцы.

## 3

Тры псіхіятры сядзелі за сталом. Спярша прапанавалі Гардзею распрануцца да пояса. Адзін з іх абстукаў малаточкам суставы, канстатуючы:

— Правільны склад цела; харчаванне здавальняючае; на левым локцевым суставе пачырваненне — скура адлушчваецца ў выглядзе бляшак; у лёгкіх везікулярнае дыханне з адзінкавымі сухімі хрыпамі; тоны сэрца чыстыя, жывот мяккі, пры пальпацыі без болю; селязёнка і печань не пальпіруюцца.

Пасля гэтага Гардзею прапанавалі апрануцца, сесці і расказаць пра сваю хваробу, яе праявы. Ён пачаў апавядаць, выліваць боль з душы. Пад гэтымі зычлівымі і ўважлівымі позіркамі яму было спакойна прызнацца, што ўсё жыццё баіцца ён новага атручэння, пажаліцца, як балела яму галава, як пякло ў грудзях, што іншы раз хацелася забіць сябе самога ці тых, хто яго атруціў, бо здавалася: толькі так можна дасягнуць палёгкі. Адзін з дактароў нешта запісваў, час ад часу ўскідваючы вочы на пацыента. Дактары нават часам усміхаліся яму, як бы падбадзёрваючы. І Гардзей стараўся расказаць усё ў дэталях, каб яны зразумелі, што ніколі ён не быў ворагам народа. Ён звычайны чалавек, якому даводзілася сустракацца са здрадай, несправядлівасцю і выжываць у невыносных умовах. Часам яго спынялі, прасілі расказаць пра нешта іншае. Гэта раздражняла яго, бо выбівала з плыні думак, а ён не хацеў прапусціць нешта важнае.

Між тым адзін з дактароў пісаў чарнавы варыянт судова-медыцынскай экспертызы, у якім гаварылася пра псіхічны стан Рахубы. Пісаў, што ён правільна арыентуецца на месцы, у часе і ў адчуванні ўласнай асобы. Пісаў, што ў кантактах выхаваны, далікатны, трымаецца вольна, падрабязна апавядае пра сваё жыццё, пра хваравітыя перажыванні, выяўляе паталагічную падрабязнасць мыслення. Было і пра тое, што ўвагу фіксуе на сабе і сваіх перажываннях, на адносінах да яго навакольных, што абыякавы да свайго лёсу і лёсу блізкіх, а ў час гутаркі выяўляе назойлівасць пры паказе важных падзей у ягоным жыцці, што патрабуе, каб яго выслухалі цалкам. А таксама, што Рахуба засяроджаны на сваіх пачуццях, што стараецца згадаць усе падра-

бязнасці, нават форму і колер рэчаў, якія датычацца нейкіх падзей. Пісаў, што кола ягоных інтарэсаў звужана, што імкненне да працы ў калектыве не выказвае, што ахвотна даў згоду на прапанову аформіць яму інваліднасць. І ўжо такое: «Выяўляе неадэкватнае тлумачэнне падзей свайго жыцця: нехта пачаставаў вішнямі — падалося, што хацеў атруціць, на шахце прараб хацеў забіць яго дошкаю, крытыка да свайго хваравітага стану адсутнічае…»

«Дыягназ: захворванне пачалося да звальнення з працы. Вострая сімптаматыка захворвання выявілася ў час знаходжання ў бальніцы, калі адзначаліся трызненні і галюцынацыі, эмацыянальная напружанасць. Тэрмін лячэння быў недастатковы, выхад з хваробы быў няпоўны, застаўся дэфект пагрозы атручэння і выяўляўся пры неспрыяльных умовах жыцця. Такім чынам, характар захворвання Рахубы Г. М. даводзіцца дыферэнцыраваць паміж рэактыўным псіхозам, паранайяльным развіццём асобы і шызафрэніяй. Рэактыўны псіхоз выключаецца ў сувязі з адсутнасцю вострага рэактыўнага моманту на пачатку хваробы, адсутнасцю псіхагенных рысаў у структуры псіхозу пры далейшым ягоным працяканні. Паранайяльнае развіццё асобы выключаецца тым, што вышыня псіхічнай праявы адносіцца да 1939—1941 гг., але трызненні працягваліся, што не характэрна для паранайяльнага развіцця асобы.

Хвароба развівалася паступова, што адпавядае форме развіцця шызафрэніі і наяўнасці дэфекта ў выглядзе трызнення, якое перыядычна ўзмацняецца, што неабходна расцэньваць як абвастрэнне хваробы. Прыходзім да высновы: у перыяд 1939—1947 гг. Рахуба Г. М. пакутаваў на псіхічнае захворванне, а таму не мог адказваць за свае дзеянні і кіраваць сабою ў гэтыя гады. Цяпер ён пакутуе на душэўную хваробу ў форме шызафрэніі.

Мы, псіхіятры, Дубцоў М. А., Сянец В. К., Куракін М. Н., будучы прызначаныя ў якасці экспертаў па артыкуле 177, 178 КК БССР папярэджаны аб адказнасці за дачу хлуслівых звестак па экспертным заключэнні і раскрыццё звестак дадзенага папярэдняга следства».

Дактарам заставалася толькі абмеркаваць яшчэ раз гэты акт, напісаць чыставы варыянт і паставіць свае подпісы ў канцы. Тэма была вычарпана, Гардзея адпусцілі. Ён выйшаў стомлены і спустошаны, не ведаючы радавацца ці сумаваць з тае нагоды, што яго прызналі душэўнахворым чалавекам. Што ж, у гэтым дыягназе горкая праўда ягонага жыцця, з якога наогул было цяжка выйсці жывым, а ён выйшаў, няхай і з пакалечанаю душою, затое пераможцам! Дактары не паверылі, што ён быў атручаны. Але ж яны ведаюць, якая страшная хлусня разносілася дзяржаваю і сеялася ў душах. Людзі спрэс былі атручаны страхам, падазронасцю, нянавісцю. Усе гэтыя праявы і цяпер нязводна жывуць у душах людзей не толькі ў свядомасці, але і ў падсвядомасці, што вольныя грамадзяне часам самі не ведаюць, чаго баяцца.

Гардзей выйшаў з прыгожага будынка з калонамі, у якім мясціўся Брэсцкі псіханеўралагічны дыспансер, агледзеў яго з задавальненнем і падумаў: «Некалі тут жылі багатыя людзі, а цяпер такія бедакі, як я, прыходзяць сюды, каб засведчыць сваю душэўную хваробу. Сказана ў Бібліі: «І мудрыя звар'яцеюць». Нічога, хоць душа мая хворая, але галава ясная. Я разумею, што да чаго і нават сваімі падслепаватымі вачамі бачу ўсіх наскрозь».

Пад нагамі шаргацела апалае лісце. На горад насоўвалася восень, але была яна яшчэ прывабная і шумлівая, як бойкая маладзіца на пачатку старасці, калі яшчэ сама не верыць, што аднойчы стане бяззубаю, зморшчанаю, як кара старога дрэва. Гардзей пайшоў па бульвары да вакзала і ў наступным квартале ўбачыў яшчэ адзін будынак са стромкімі калонамі, амаль копію таго, з якога ён толькі што выйшаў. Прачытаў шыльду. Тут месцілася міліцыя і

выцвярэзнік. Гардзей хмыкнуў сабе пад нос: «Бач ты, два прыгожыя будынкі аддалі пад установы, у якія па сваёй ахвоце ніхто не ходзіць. Цяжка зразумець такую логіку. Хаця ў Брэсце дастаткова было і іншых прыгожых будынкаў, проста так супала, што на адным бульвары стаяць выцвярэзнік і псіхдыспансер. У жыцця свая логіка і свой падтэкст. Разумей, як хочаш…»

Праз паўгода Гардзей атрымаў паведамленне, што судовая камісія па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР разгледзела на закрытым пасяджэнні ягоную справу: абвінавачванні вынесены асуджанаму на аснове ягонага прызнання і непераканаўчых паказаннях сведкаў. Згодна з заключэннем судова-медыцынскай экспертызы ад 21.10 1966 г. засведчана, што асуджаны не мог адказваць за свае дзеянні і кіраваць імі, і цяпер працягвае хварэць на шызафрэнію. На аснове вышэйсказанага было прынята рашэнне: прысуд Ваеннага трыбунала войскаў МУС Брэсцкай вобласці ад 8. 08. 1947 г. у адносінах да Рахубы Г. М. спыніць за адсутнасцю падстаў для злачынства.

Гардзей некалькі разоў перачытаў даведку аб рэабілітацыі. Хваравіта паморшчыўся. Яго прызналі шызафрэнікам і таму апраўдалі. А калі б ён аказаўся здаровым чалавекам? Што тады? На гэтае пытанне ніхто яму не мог адказаць.

## 4

Каця часта прысылала лісты і пасылкі. Было відно, што яна вельмі сумавала па радзіме, але баялася прыехаць, бо адносіны ў Амерыкі з Савецкім Саюзам у чарговы раз прыкметна сапсаваліся. Аднак яна настойліва абяцала сваю спадчыну Зосіным унукам. Перспектыва ўзбагаціць сям'ю, забяспечыць ёй бязбеднае і годнае існаванне прываблівала малодшую сястру. Зося згадзілася на паездку ў Амерыку. Страшнавата было выпраўляцца ў такую далёкую дарогу, безумоўна, што ёй хацелася б узяць з сабою каго-небудзь з сямейнікаў. Але каго? Гардзея прызналі шызафрэнікам, у Ораста на руцэ напісана новая дата нараджэння, можа выклікаць цікаўнасць Каці, а тая яшчэ, крый божа, раскажа пра гісторыю замужжа Зосі. Нявестка даглядае дзяцей. Каця вельмі хоча паглядзець на сваю ўнучку, але ж дзяўчынку непажадана адрываць ад школы. Браць з сабою Паўліну ці каго з іншых сясцёр Гардзея не было сэнсу, толькі плёткі пасля па вёсцы будуць разносіць. Узважыўшы ўсе акалічнасці, вырашыла Зося ехаць адна. Калі былі падрыхтаваны ўсе паперы, апранула Зося чорную сукенку, узяла толькі самае неабходнае. Так што валізка была амаль пустая, і рушыла ў дарогу. Хоць і хвалявалася, але спадзявалася на Бога. Усё ў ягоных руках. Стомленая дарогаю ў цягніку да Масквы, яна, па сутнасці, праспала ўвесь пералёт да Амерыкі. У аэрапорце яе сустрэла Каця з мужам. Сёстры, якія не бачыліся болей за трыццаць гадоў, не адразу пазналі адна адну. Каця доўга прыглядалася да людзей, што ішлі насустрач, пакуль не здагадалася, што высокая хударлявая старая і ёсць яе родная сястра Зося. Але, яшчэ не верачы сваёй здагадцы, яна спытала:

— Ты Зося, ці што?

— Я, — адказала малодшая сястра, разглядаючы маленькую пульхную ружовашчокую Кацю.

— Якая ж ты старая! Ажно брыдка глядзець! — усклікнула амерыканка, пільна прыглядаючыся да сястры і шукаючы ў ёй тое аблічча, успамін пра якое вынесла яна з апошняй сустрэчы.

— Стамляюся надта, працую па начах на чыгунцы, прымаю будаўнічыя матэрыялы. А дамоў прыеду, таксама няма адпачынку -— гаспадарка, унукі…

Каця заплакала, абняла сястру, пацалавала, прамовіла:

— Пакутніца ты мая. Знаёмся, гэта мой муж Дзяніс.

Зося працягнула руку каржакаватаму старому ў цёмных акулярах:

— Добры дзень, Дзяніс. Прыемна пазнаёміцца. Дзякую за лісты і пасылкі.

— Добры дзень, Зося, — адказаў Кацін муж і працягнуў Зосі вялікі букет жоўтых ружаў. — Пойдзем да машыны. Стаміліся ў дарозе?

— Ды не, хутчэй адпачыла, спала ўвесь час у самалёце. Дзякую за кветкі. Такое хараство!

Яны селі ў бліскучую белую машыну і паімчалі па горадзе з высознымі гмахамі, яркаю рэкламаю, мноствам людзей на вуліцах.

— Глядзі, Зося, гэта Нью-Ёрк — самы багаты горад на свеце. Амерыка — вольная і шчаслівая краіна, дзе нават рабочы чалавек можа купіць сабе вялікі дом і жыць там, гадуючы дзяцей і ўнукаў. Ты таксама маеш магчымасць пераехаць да нас са сваёй сям'ёй. Твае ўнукі будуць мець усё неабходнае, — натхнёна сказала Каця. — Я паклапачуся пра гэта, бо яны ж і мая кроў. Праўда, у Дзяніса таксама ёсць радня. Дом давядзецца падзяліць. Але ж, думаю, што твае нашчадкі не зломкі. Ім абы зачапіцца тут, дык з розумам можна няблага ўладкавацца.

— Твае б словы ды Богу ў вушы, — адказала Зося.

Каця прыкметна патаўсцела, на круглым твары вытыркаўся кірпаты носік. Валасы сястра фарбавала ў залацісты колер, хаваючы сівізну, таму выглядала нашмат маладзей сваіх гадоў. Да прыемнага ружова-бэзавага колеру сукенкі вельмі пасавала падабраная ў тон з ёю губная памада. Побач з ёю малодшая сястра, апранутая ў чорную сукенку, з сівою галавою, адчувала сябе старою і непрыгожаю.

— Ты добра выглядаеш. Я радая, што хоць табе адной з усёй нашай радні пашанцавала перажыць вайну. А мы ўжо нагараваліся за ўсё жыццё, што і згадваць страшна.

— Нічога, ты адпачнеш трохі, мы і цябе прыхарошым, пафарбуем, купім новае адзенне і будзеш ты ў нас, як толькі што адчаканены цэнт.

— Каця ў нас хоча да ста гадоў дажыць маладою, — насмешліва заўважыў Дзяніс.

— А ты хацеў бы, каб я апусцілася як квактуха, і вакол цябе бегала? Не дачакаешся! — раздражнёна адказала Каця.

— Я, дзякаваць богу, сам спраўляюся, вакол мяне не трэба бегаць. А хавацца ад старасці дарэмна. Усё роўна знойдзе, калі не сівізною, дык хваробаю.

— Як мне абрыдла твая пустая філасофія. Мудрэц знайшоўся! Раскажы, Зося, што там у нас у сяле?

— Неяк людзі прыстасаваліся і жывуць. Трымаюць гаспадарку, стараюцца знайсці працу ў горадзе, бо ў калгасе нічога не заробіш. За вайну шмат мужчын загінула. Цяпер падрасла моладзь. Мы, як з Казахстана вярнуліся, дык і не пазналі вёску. Яна ж у вайну згарэла. Цяпер шмат хто адбудаваўся.

— А ваша хата як?

— Стаіць. Праўда пакуль без сяней.

— Чаму ж вы не дабудоўваецеся?

— Гардзей стаіць на чарзе на кватэру ў Брэсце, там і вада, і газ…

— І колькі тая кватэра будзе каштаваць? — спытаў Дзяніс.

— За так дадуць.

— Во дзіва. Там яшчэ нешта даюць? — здзівілася Каця.

— Вымушаны даваць, бо хіба ж за нашу зарплату кватэру купіш?

— Няхай вам пашанцуе, але хату не прадавайце. Гэта ж наш родны куточак. Туды нашы ўнукі і праўнукі будуць прыязджаць, — параіла Каця.

Яны выехалі за горад, даволі доўга імчалі па шырокай трасе. Каця ўвесь час распытвала пра радню і аднавяскоўцаў. Некаму спачувала, некага асуджала.

— Ведаеш, Каця, не толькі час змяніўся, змяніліся людзі і нават зямля. Няма нашага балота, асушылі яго, сажалку завалілі нейкім ламаччам, праклалі каналы, лес высеклі, далекавата ён адступіў ад нашага хутара. Наш поплаў, дзе мы карову пасвілі, перааралі, засеялі цімафееўкай. Раней там расло мноства лугавых кветак, а цяпер адна зялёная трава. Нічога ты там не пазнала б цяпер.

— Дык ад маёй радзімы нічога не засталося?

— Толькі калодзеж стары. Нават садок давялося знішчыць — здзічэў без гаспадароў. Мы пасадзілі новы.

— Шкада, усяго шкада. І нас, старых, і незваротнага мінулага, і невядомай будучыні…

Нарэшце ўехалі ў невялікі гарадок, будынкі тут былі невысокія, з чырвонымі чарапічнымі дахамі, атынкаванымі і пафарбаванымі ў светлыя колеры. У адрозненне ад Нью-Ёрка тут было шмат зеляніны і кветак. Машына спынілася каля прывабнага двухпавярховіка.

— Гэта наш дом, выходзім, — сказала Каця.

Пакуль Дзяніс ставіў машыну ў гараж, убудаваны ў дом, Зося і Каця прайшлі па дарожцы, абсаджанай з двух бакоў рознакаляровымі ружамі, толькі жоўтых, такіх як у Зосі, тут не было.

— Вы знарок купілі мне кветкі? — здзівілася Зося.

— Так, гэта Дзянісава выдумка. Ведаеш, я жоўтых кветак наогул не люблю, — грэбліва адказала Каця, адмыкаючы дзверы дома. — Заходзь, паглядзі, як жывуць простыя амерыканцы.

Дом у Каці сапраўды быў абстаўлены і аздоблены з густам. Яна сама падбірала шторы ў тон абіўкі. Пакоі свяціліся цеплынёй і ўтульнасцю. Жаўтаватая мэбля, здавалася, вылучала святло.

— Хораша ў цябе, — з захапленнем сказала Зося.

— Ты паглядзі, што ў ванным пакоі робіцца.

Зося ўвайшла і ўбачыла люстра на ўсю сцяну, бліскучую блакітную ванну і сказала:

— Такога хараства я нават у польскага графа не бачыла. Шчыра радуюся за цябе, сястрычка.

— Усё гэта і тваё, — самазадаволена адказала Каця, — а цяпер пойдзем у сталовую. Дзяніс, хадзі есці. Дзе гэты стары пень сноўдаецца?

— Чаго ты на яго?

— Абрыд як горкая рэдзька…

Дзяніс увайшоў у пакой, сказаў вінавата:

— Прабачце, я там трохі затрымаўся, зараз памыю рукі…

Жанчыны ўвайшлі ў прасторную сталовую, таксама прыгожа і з густам абстаўленую. Тут была адпаведная мэбля з посудам, вялікі авальны стол, вакол якога стаялі крэслы. На стале ляжаў белы льняны абрус, на вокнах віселі белыя з ружовымі кветачкамі шторы. Усё ззяла чысцінёй. Каця паставіла на стол загадзя падрыхтаваныя закускі. Дзяніс сеў насупраць Зосі і прыязна пасміхаўся. Калі зняў чорныя акуляры, Зося заўважыла, што адно вока ў яго было прыкметна касаватае, а таму цяжка было разабраць, куды ён паглядае — на Кацю ці на яе.

— За сустрэчу, будзьма здаровы! — сказаў першы тост Дзяніс.

Зося падняла сваю чарку і чокнулася спачатку з ім, пасля з Кацяю, выпіла. Пітво аказалася саладжавае і непрыемнае.

## 5

Каця прывяла Зосю ў невялікі пакой, дзе ўсё было ў ружовых колерах і сказала:

— Гэты пакой мы трымаем для гасцей. Гарадок у нас ціхі, аднак часам моладзь ноччу ганяецца на машынах ды матацыклах. Каб нішто не перашкаджала чалавеку адпачываць, мы выбралі для адпачынку тыя пакоі, што выходзяць вокнамі ў двор. Вось тут, у шафе, піжама, сарочкі, халат, ручнікі, карацей, розная дробязь, неабходная жанчыне.

— У цябе, як у палацы, можна заблудзіцца.

— Ну, што ты? Гэта ў багатых сапраўды палацы. А мы простыя рабочыя людзі. Ты помніш: прыбіральня і ванны пакой насупраць, калі што трэба — карыстайся…

Зося ўсё стаяла ў парозе, разглядвала занавескі на вокнах і посцілку з фальбонкаю на ложку.

— Усё такое прыгожае, што страшна датыкацца, — сказала яна.

— Не выдумляй, кладзіся і адпачывай, а я пасяджу побач з табою. Цяпер дрэнна сплю. Шмат разоў прачынаюся па начах, а потым не магу заснуць. Здараюцца ночы, што праляжу ўсю ноч, гледзячы ў столь. Усё жыццё згадаю. Ну, чаго стаіш? Сядай на ложак, — Каця пацягнула Зосю за рукаў, пасадзіла на ложак, сама села насупраць у мяккі фатэль.

— Ведаеш, а я так часам стамляюся, што варта толькі прысесці, дык адразу клюю носам, — сказала Зося.

— Хіба Гардзей табе не дапамагае?

— Дапамагае, вядома, але ж бабскай работы век не пераробіш.

— Паўліна як?

— Паўліна таксама старая, як сонная муха. Поўзае з кульбакаю па хаце — ногі ў яе баляць, артрыт… Правае калена зусім не гнецца. Усё ў яе з рук валіцца. Ты ж разумееш, як жыць у чужой хаце: ні госць, ні гаспадар. Мне ўжо, мусіць, трэба працу кідаць, а ўсё хочацца дзецям памагчы. Капейка дома не лішняя. Прыеду з Берасця, а ўнучак просіцца на рукі і пытае: «Што ты мне, баба, прывезла?» Не заробіш, дык і гасцінца дзіцяці не купіш.

Раптам Зося спахапілася, што ўсё расказвае пра сябе, замест таго, каб распытаць пра яе і спытала:

— Раскажы пра сябе. Як ты тут? Мы столькі не бачыліся!

— Нічога, спачатку было цяжка. Потым пазнаёмілася з людзьмі, вывучыла мову, уладкавалася на працу, так і жыла. Тут людзей шмат з Брэстчыны. Нават з-пад Жабінкі ёсць, але мала з кім я падтрымліваю стасункі. Некаторыя з іх любяць гарэлку і мітынгі, ходзяць, гарлапаняць, нешта патрабуюць.

— Ці ладзіш з Дзянісам?

— Калі па шчырасці, шкадую, што некалі звязала свой лёс з ім. Калі мяне хацелі накіраваць на працу ў Індыю, а ехаць туды мне зусім не хацелася, тады мяне і пазнаёмілі з Дэнам.

— Якім Дэнам? — удакладніла Зося.

— Гэтак Дзяніса завуць на амерыканскі лад. Дык вось, калі нас пазнаёмілі, ён вырашыў дапамагчы мне, узяў са мною фіктыўны шлюб. Чалавек ён неблагі, але знешне мне не падабаўся. Праўда, з часам у нас скаладіся добрыя

сяброўскія адносіны, у складчыну купілі дом. Дзяніс займаў першы паверх, я — другі. Ён падтрымліваў мяне матэрыяльна, прывыкла я да яго. Праз два гады мы пажаніліся. Я зацяжарала, але з-за кісты не здолела вынасіць дзіця. Мне зрабілі аперацыю і папярэдзілі, што дзяцей у мяне больш не будзе. Што зробіш, калі так Бог судзіў, — уздыхнула Каця. -— Затое ты ў нас шчаслівая. І сын у цябе ёсць, і ўнукі, а неўзабаве, глядзіш, і праўнукі пасыплюцца. Зрэшты, я думаю, што твае ўнукі — гэта і мае таксама. Тым сябе і суцяшаю. Ды і Дэн мае хросную дачку, мы яе з маленства гадуем і любім. Яна нам як родная. Ужо вырасла. Прыгожая дзяўчына. Я цябе з ёю пазнаёмлю заўтра. Раскажы мне яшчэ пра Серафіма. Што там атрымалася з ягонай жонкаю?

Зося пачала расказваць пра Серафімаву Надзю, як тая закахалася ў немца і нарадзіла ад яго дзіця, як праз гэта пакутаваў Серафім і ўвесь зжаўцеў, напэўна, ад злосці. А Надзя ў дзень пахавання прыняла да сябе партызана. Зося пераказала тое, што чула ад людзей (сама на пахаванні не была), як пахавалі Серафіма ў драўлянай скрыні, замест труны.

Каця слухала ўражана, ківала галавою і раптам з дакорам сказала:

— Як жа ты магла, Зося? Ён твой брат! Няхай дваюрадны, але ж сірата! Нікога ў яго, акрамя цябе, не было. І ты адвярнулася ад мёртвага!

— Я сама сябе вінавачу, — згадзілася Зося. — Але ж ты зразумей і мяне. Наш бацька з-за Серафіма і камітэтчыкаў загінуў. Гардзей невядома дзе падзеўся. Я думала, што яго партызаны забілі. А гэтая Серафімава лярва жыла каля лесу. З партызанамі зналася. Я з-за Гардзея тады ўвесь свет ненавідзела…

— Разумею, беднасць робіць людзей жорсткімі і бессардэчнымі. У нас тут нават для жывёлы ёсць могілкі. Людзі хаваюць свайго чатырохногага сябра ў труне, ставяць знак на магіле, каб час ад часу наведваць. Што ўжо там ва ўсім сяле не знайшлося трохі дошак на труну?

— Каця, табе гэтага не зразумець. У нас жыццё чалавека нічога не каштуе. Як магла дараваць Серафіму смерць бацькі? Гэта ты ў нас мудрая і разважлівая, а я, сама ведаеш, спачатку раблю, а пасля думаю.

— Бог вам суддзя. Не будзем пра гэта. Раскажы лепш, як ты жывеш з Гардзеем. Напэўна, ты хоць у гэтым плане шчаслівая. Я цябе пакінула з самым лепшым хлопцам на свеце…

Зося разгублена ўсміхнулася, не ведаючы, што і сказаць сястры. Па яе твары прабег цень збянтэжанасці, яна нешта хацела сказаць, але саромелася ці не адважвалася.

— Ну, падзяліся шчасцем. Не бойся, я не сурочу.

— Разумееш, Каця, ты з Дзянісам два гады жыла як з сябрам, а я трыццаць гадоў з Гардзеем сябрую.

Каця здзіўлена ўскінула на Зосю вочы і спытала:

— Ты пра што? Я не разумею?

— Гардзей мала таго што слепне, ён цяжкахворы чалавек. Помніш, я ж табе пісала, што яго атруцілі, і ён лячыўся ў псіхлячэбніцы. З таго часу ўсё і пачалося. Я не трэба была яму як жанчына…

— Не можа быць! Ён імпатэнт? Можа, у яго ёсць іншая? — Каця нервова і злосна засмяялася.

— Нікога ў яго няма. Ніхто яму не трэба. Ён жыве ў нейкім сваім свеце. Нешта піша ў сшытках, пасля паліць і зноў піша. Нават у Акадэмію навук у Маскву пасылаў свае запісы. Яму за гэта падзяку выказалі.

— А пра што ён піша? — здзіўлена спытала Каця.

— Прачытаць не магу, бо дрэнна бачу. Неяк Ораст пачытаў мне яго запісы, дык там было нешта пра стварэнне Зямлі ды землятрусы…

— Божа мой, такога разумнага чалавека загубілі! — з жалем і болем у голасе сказала Каця. — Каб у яго была магчымасць вучыцца, выйшаў бы геній. Змарнавалі яго жыццё па турмах. Які жорсткі і несправядлівы свет! Хоць бы ты на старасці прывезла яго сюды пажыць, свету паглядзець, адпачыць ад той жорсткасці, якая існавала там у вас!

Зося толькі горка ўсміхнулася, паморшчыла лоб і адказала:

— Ах, Каця, Каця, ты, калі ласка, не палохайся ад таго, што я табе скажу. Яму паставілі дыягназ — шызафрэнія. Таму і рэабілітавалі, што ён даўно-даўно хворы і не мог адказваць за свае дзеянні.

— Няўжо гэта так сур’ёзна?

— Я ніколі не ведаю, што з ім адбываецца, пра што ён думае, што хоча, пра што марыць. Увесь час лаўлю сябе на думцы, што ён са мною, але не пры мне. Ніколі не магу прадбачыць, што ён зробіць у наступны момант. Такое ўражанне, што ён сам чакае ад сябе нейкага вялікага ўчынку, але нешта замінае яму, звязвае…

Каця зноў горка паківала галавою, нібы закалыхваючы боль у душы і сказала:

— Не тое жыццё ён выбраў сабе, не тое. А ўсё таму, што не паслухаў мяне. Каб паехаў са мною ў Амерыку, быў бы жывы, здаровы, і, напэўна, шмат чаго дасягнуў бы. Тут цэняць разумных людзей…

Зосю гэты Кацін намёк пакрыўдзіў, але яна пастаралася не звяртаць увагі. У яе з сястрой заўсёды знаходзілася шмат падстаў для спрэчак. Яны мала змяніліся за гэты час. І цяпер маглі дзёрзка нагаварыць адна адной непрыемных слоў. Але Зося была госцяй і мусіла паводзіць сябе чула і далікатна. Яна адказала:

— Ён сам выбраў сваё жыццё. Дарэчы, ніколі не хацеў жыць за мяжой. Нават калі адступаў з немцамі, застаўся, не захацеў шукаць замежны рай. Такі ўжо ён у нас…

— Жыццё мінула… Нічога назад не павернеш, — уздыхнула Каця. — Адпачывай, у нас яшчэ будзе час нагаварыцца…

Яна сумна ўсміхнулася, махнула рукою з парога і выйшла з пакоя, ціха прачыніўшы за сабою дзверы.

## 6

Зося па звычцы прачнулася рана, памылася, апранулася, спусцілася на першы паверх, убачыла за шклянымі дзвярыма святло, пастукала, увайшла ў пакой. Гэта была кухня. Учора Зося не запомніла планіроўку дома. Цяпер вывучала ўсё зноўку. За сталом сядзеў Дзяніс і піў каву. Прыемны водар напою поўніў кухню, спакушаў, бадзёрыў.

— Добрай раніцы, гаспадар, — павіталася Зося. — Як тут смачна пахне!

— Добрай раніцы, Зо! — весела адказаў Дзяніс. — Каву будзеш піць?

— А Каця?

— Не звяртай увагі. Мая жонка любіць усмак паваляцца ў пасцелі. Можа, ты звыкла больш грунтоўна снедаць, дык скажы, я звару што-небудзь, калі страва нескладаная. А лепш пашукай сабе ў халадзільніку, што на цябе паглядзіць, тое і вазьмі сабе.

— Ай, Дзяніс, нам не да прысмакаў. Зварыў якую бульбіну, з’еў з гурком, салам ці цыбулінаю, ды і ўвесь сняданак.

Гаспадар, бачачы, што Зося не заглядвае ў халадзільнік і не садзіцца да стала, падняўся. Пасадзіў госцю, наліў ёй кавы, адчыніў халадзільнік, дастаў вэнджанае мяса, два яйкі, пачаў смажыць яечню.

— Ты заўсёды сам сабе гатуеш?

— А то як жа! Я тваёй сястры не надта давяраю. Яна аднойчы хацела мяне атруціць.

— Бог з табою, Дзяніс, што ты такое кажаш? — здзіўлена ўсклікнула Зося.

— Я праўду кажу. Разумееш, жыла яна са мною жыла і раптам прыгледзела сабе каханка з баптыстаў. Ходзіць і ходзіць у царкву, амаль кожны вечар. А я стамляюся на працы і не цямлю, што з жонкаю адбываецца. Ажно яна мне і кажа, што не хоча са мной жыць, давай будзем дом прадаваць. Я ёй у адказ: жыві з кім хочаш, а дом я прадаваць не буду. Калі твой каханак цябе кахае, дык няхай бярэ без дома. Я паступова вам сплачу кошт тваёй палавіны. Куды я пайду басяком бяздомным? Яна тут у крык, у слёзы. Такое было! Не выкажаш… А я на сваім стаю… Вось тады гэта і здарылася… Спякотным днём вярнуўся я з працы, дастаў бутэльку піва з халадзільніка і хлебануў… Аказалася, там быў воцат. Каця для нечага наліла… Трапіў у бальніцу, зрабілі мне аперацыю на страўнік.

— Мо яна незнарок?

— Знарок ці не, а можна было заводзіць крымінальную справу. Але кахаў я яе, усё дараваў…

Дзяніс расклаў яечню на дзве талеркі, адну паставіў перад Зосяй, запрасіў:

— Паспытай амерыканскай яечні.

Зося пакаштавала і адказала:

— Яечня скрозь аднолькавая. Але ведаеш, Дзяніс, я не веру, што Каця знарок магла такое зрабіць. Яна ж у Бога заўсёды верыла…

Дзяніс хмыкнуў сабе пад нос і сказаў:

— Да гэтай яечні трэба піва.

Ён дастаў з халадзільніка бутэльку піва, адкаркаваў, наліў сабе і Зосі, весела падміргнуў:

— Вось цяпер гэта будзе сапраўдная яечня! А наконт Каці што табе скажу… Яна кухню не любіць, таму я згадзіўся, каб мне не гатавала. Яна нічога і не робіць. Такі характар. Я і сам з рукамі, што хочаш звару, сасмажу.

— Дазволь, Дзяніс, мне гаспадарыць на кухні. Пакуль я тут, — папрасіла Зося.

— З задавальненнем!

Яны пілі піва, усміхаліся адно аднаму, закусвалі яечняй. Паміж імі адразу ўсталяваліся добрыя адносіны.

— Сумна вам тут сярод чужых людзей? — са спачуваннем спытала Зося.

— У мяне шмат сяброў. Мы збіраемся часта, п'ём піва, гуляем у карты, абмяркоўваем палітыку і спорт. Тут можна няблага жыць. Канечне, сумуем па радзіме. Але ж там нас нішто добрае не чакае…

— Ведаеш, Дзяніс, я прыйшла да высновы, што нас наогул нідзе не чакаюць. Нікому мы не трэба, хоць зараз памірай, хоць пачакай. Хіба толькі родныя трохі пасумуюць…

— Эх, невясёлая ў нас гаворка атрымліваецца. Давай лепш заспяваем… «Туман ярам, туман даліною», — бадзёра зацягнуў гаспадар.

У кухню ўвайшла Каця, незадаволена паморшчылася і раздражнёна сказала:

— Расспяваўся як дурная курыца на сваю галаву.

— Прашу прабачэння, жонка не любіць калі я спяваю, гавару, смяюся… Яна наогул мяне не кахае…

— А за што цябе любіць? Ты ж не пірог з макам, — нервова засмяялася Каця, узяла турку, паставіла на пліту, каб зварыць сабе каву.

— Я ўкраінскае пароды, а таму ўвесь з мяса ды сала, — засмяяўся Дзяніс, і Зося заўважыла, якія ў яго прыгожыя і здаровыя зубы, вядома, ад добрага жыцця, ды і выглядае чалавек добра на свае гады, а яму ж, бадай, ужо пад восемдзесят.

— Ну-ну, цябе хлебам не кармі, а дай пагаманіць, — з дакорам сказала Каця, наліваючы ў малюсенькі, як на два глыткі, кубачак каву і падсаджваючыся да стала неяк бокам, быццам не было ў яе ніякага жадання быць побач з гэтымі людзьмі.

За сталом усталявалася гнятлівая цішыня. Гаспадыня маленькімі глыточкамі выпіла каву і сказала, ні да каго не звяртаючыся:

— Хутка госці прыедуць. Трэба рыхтавацца.

— Чым табе дапамагчы? — спытаў Дзяніс, які ўжо быццам забыўся на нядаўнія жончыны абразы.

— Як звычайна. Ідзі ў гастраном, купі малака і свежага хлеба. А мы тут з Зосяю пастаім на кухні і што-небудзь прыгатуем.

— Зразумеў, — адказаў Дзяніс і, напяваючы сабе пад нос, выйшаў.

— Весялун! Да яго смерць прыйдзе, ён і ёй будзе песні спяваць, — раздражнёна сказала Каця ўслед мужу.

— Чаго ты яго ўсё грызеш. Добры ж чалавек, гаваркі, вясёлы.

— Лайдак ён, а не добры чалавек! На ганку тынкоўка абвалілася, а ён ходзіць і не бачыць! Дах пацячэ, ён будзе вядро падстаўляць, замест таго каб дзірку палапіць! Ненавіджу! Каб магла, зарэзала б тупым нажом!

— Каця, не заводзься з ранку, так ты сэрца сабе надарвеш.

— Яно ўжо даўно надарванае. Як ты думаеш, ці проста мне было класціся ў пасцель з чалавекам, да якога, акрамя жаласці, нічога не адчуваю? А вінаваціць няма каго, такі мой лёс…

Каця цяжка ўздыхнула, паднялася з-за стала, адчыніла халадзільнік, дастала вялізны кавалак мяса, сказала:

— Трэба нешта з яго зрабіць, а я не люблю стаяць каля пліты.

— Давай я! — прапанавала Зося. — Можам частку мяса запячы, а з рэшты зрабіць катлеты і галубцы, насмажыць бульбы, для разнастайнасці некалькі адбіўных падсмажыць. Як думаеш?

— Рабі што хочаш. Я пайду трохі кватэру агледжу, прыбяру, што не так ляжыць, а ты ўжо тут сама складай меню…

Зося засталася на кухні. Занялася звыклаю справаю, рабіла ўсё яна хутка і ўвішна. Калі Дзяніс вярнуўся з гастранома, на кухні ўсё кіпела, булькала і апетытна пахла.

## 7

Госці прыехалі апоўдні. Гэта была сям’я Пескуровых, выхадцаў з Расіі. Іхнюю дачку Эні хрысціў некалі Дзяніс. Усе сядзелі за сталом, елі, нахвальвалі Зосіна майстэрства. Было відно, што яны сапраўды засумавалі па такой знаёмай ежы: галубцах, смажанай бульбе са шкваркамі, драніках. Зося не паленавалася і зрабіла нават трохі пельменяў. Гэта быў проста ласунак для рускіх, хоць іх дачка, здаецца, не падзяляла думку бацькоў, бо вырасла на амерыканскай ежы. Эні была свавольная, раскаваная, смяшлівая, з выгляду ёй можна было даць гадоў дваццаць, з твару не надта прыгожая, вытыркаўся ўперад падбародак на хударлявым твары, і вочы сядзелі глыбока, а таму, здавалася, што яна за ўсімі сочыць па-сабачы пільна. Зося нават падумала сама сабе: «Бацькі сімпатычныя людзі, а дачка невядома ў каго ўдалася».

Дзяніс налівае віскі ў маленькія, як напарсткі, чарачкі. Зося сачыла за ягонымі рухамі і ўсміхалася.

— Што, дзіўна вам, цёця Зо, глядзець на наш посуд. У вас, кажуць, шклянкамі п’юць? — спытала Эні.

— У нашых мужчын вельмі спрацаваныя рукі, яны такую чарачку і ў пальцы не зловяць, — адказала Зося.

— А праўда, што і ваш сын моцна выпівае? — дапытвалася дзяўчына.

— Не больш, як усе. Па святах іншы раз бярэ чарку. Такая ў нас завядзёнка, як, дарэчы, і ў вас.

— А ці праўда тое, што вам вельмі дрэнна жывецца?

— Эні, не псуй людзям апетыт, — абарвала маці дачку.

— Чаго ты, мама? Я хачу ведаць праўду, як кажуць, з першых вуснаў.

Зося паглядзела на дзяўчыну, усміхнулася і адказала:

— Вядома, краіна наша яшчэ беднаватая. Чатыры гады страшэннай вайны, стратаў, смярцей… Але і ў нас людзі жывуць, працуюць, дзяцей гадуюць. Некаторыя ўжо нават машыны маюць.

— А цёця Кэт казала, што ў вас там зусім дрэнна: часам і хлеба няма.

— Бываюць перабоі з хлебам. Апратку і абутак часам цяжка купіць. Але мы людзі звыклыя, ніколі не раскашавалі.

— Дом жа вы сабе за нешта пабудавалі. У нас сям’я за дом часам па дваццаць гадоў разлічваецца…

— Дык гэта ж за дом! — усміхнулася Зося. — А мы пабудавалі хатку плошчаю, як гэты пакой.

— Як гэты пакой? — уражана перапытала Эні. — І дзе ж у вас там што…

— Там у адным пакоі кухня, спальня, і ўсё астатняе, што трэба, толькі прыбіральня на вуліцы, — насмешліва адказала Зося наіўнай дзяўчыне, якая ніколі не бачыла ў жыцці ніякіх цяжкасцей.

Дзяніс засмяяўся і сказаў:

— Табе, Эні, гэтага не зразумець.

— Хто п’е каву, хто гарбату? — спытала Каця, устаючы з-за стала, каб перавесці гаворку на іншае і падаць дэсерт.

Усе згадзіліся на каву. Мужчыны завялі гаворку пра футбол, у якім Зося нічога не цяміла. Яна перабірала кутасы на настольніку, саромелася сваіх недагледжаных рук з парэпанымі пальцамі і падумала міжвольна, што госці, мусіць, гідавалі есці з-за яе рук. Аднак жа елі і хвалілі, можа, не заўважылі? Аднак Зося памылілася. Уедлівая Эні раптам спытала:

— А ў вашай краіне жанчыны манікюр робяць?

— Вядома, робяць тыя, што жывуць у горадзе. А я вясковая, у мяне шмат работы. Свінні, карова, куры, качкі, гусі…

— Дык у вас ферма?

— У нас калгас. А гэта мая асабістая гаспадарка, якая корміць мяне. Інакш у нас не выжывеш.

— Дык можна ж усё рабіць у пальчатках.

Зося засмяялася, схапілася за галаву і сказала:

— Галубка мая, там жа столькі працы, што ніякія пальчаткі не вытрымаюць! Бачыш скура на руках і тая ўся падраная, — Зося з усмешкаю паказала свае парэпаныя рукі. — Але пажыву тыдзень-другі ў Амерыцы і ў мяне пальчыкі стануць як у пані, белыя ды пяшчотныя. У лянівага рукі не баляць.

Эні хмыкнула і адказала:

— Цікава будзе паглядзець. Вы ведаеце, а цёця Кэт казала, што яна мяне любіць больш, чым вашых унукаў.

— Гэта і не дзіўна. Цяжка любіць таго, каго ніколі не бачыў.

— Эні, замоўкні нарэшце, — сказаў бацька.

— Тата, я ж сказала чыстую праўду.

— Паводзь сябе прыстойна…

У пакой увайшла Каця, якая несла на падносе невялікі торт і кубачкі з гарачаю духмянаю каваю. Яна пачула толькі абрыўкі фразы і спытала:

— Хто тут крыўдзіць маю любімую Эні?

— Вось бачыце, я ж казала, што цёця Кэт мяне вельмі любіць.

— А хто ў гэтым сумняваўся? — здзівілася Каця.

— Усе! Усе! Я цябе таксама вельмі люблю, цёця Кэт!

Маці Эні пастаралася змяніць гаворку, выказаўшы захапленне водарам, які зыходзіў ад кавы і выглядам торта, упрыгожанага мноствам ружаў. Зося паглядзела на кампанію і заўважыла, што ў гасцей халодныя і непрыязныя вочы. Толькі Дзяніс пазіраў весела, але немагчыма было зразумець, каму ён так радуецца, на каго глядзіць сваімі касымі вачамі.

Калі госці нарэшце сабраліся дахаты, Каця пайшла іх праводзіць, а Зося з Дзянісам засталіся за сталом.

— Нешта, сваячка, сумна ў нас. Развучыліся людзі радавацца і весяліцца. Давай заспяваем што-небудзь наша, вясковае, — прапанаваў гаспадар.

— Давай, — згадзілася Зося і зацягнула песню:

Вой, ляцела зязюлечка цераз круту гору.
Не выжала пшанічанькі, выжала палову.
Вой, нашто мне тая палова, як зерня не маю?
Вой, нашто мне жыць на свеце, як мамы не маю?
Сем раз ваду прыносіла з сіняга Дунаю.
Сем раз ваду прыносіла, восьмы — напілася.
Каб я мела родну маму, я й не журылася б.

Зося вяла першым голасам, Дзяніс басаваў, галасы гучалі зладжана і прыгожа. Прыйшла Каця, села да стала, слухала песню, потым і сама далучылася, заспявала — і няпрошаная слязінка выкацілася з вачэй.

Прыйдзі, прыйдзі, родна мама, касу расчасаці.
Ідзі дамоў, родна доня, сядай вячэраці,
А прыйду па вечары косу расчасаці.
Прыйшла доня дадоманьку, села вечараці,
Ждала родну маму дый стала плакаці.

Песня вяртала ўсіх дарослых у той далёкі і незваротны час, калі яны былі яшчэ маладыя і ніхто не ведаў, калі і дзе звядзе іх лёс. Каця выцерла слёзы і сказала:

— Годзе вам. Ажно сэрца разбалелася. Божа мой, я ж цэлую вечнасць не чула, як кукуе зязюля і квакаюць жабы. Здаецца, шмат аддала б, каб яшчэ хоць раз іх пачуць.

— Дык прыязджай, — прапанавала Зося.

— Трэба падумаць, — задуменна адказала Каця. — Мяне госці вельмі стамляюць. Ды і складана ў вас.

— Пакуль цяжка, — сказала Зося. Я помню бежанства. — У Казахстане, напрыклад, з паўгода мы харчаваліся адною кукурузай… Авітаміноз, хваробы, не было абутку і цёплага адзення. А сын рос… Лепш, не згадваць… Ворагу не пажадаеш таго, што мне і маёй сям’і давялося перажыць.

Зося ўзмахнула рукой, быццам адганяючы прывіды мінулага. Ёй яшчэ хацелася сказаць, што ўсяго ў жыцці яна дасягала цяжкаю чорнаю працаю, але зірнула на стомленых Кацю і Дзяніса і толькі цяпер убачыла, што і яны ўжо таксама старыя людзі і іх, напэўна, не вельмі песціла жыццё ў чужой краіне, сярод чужых людзей, без сваякоў і радні, без добрых суседзяў, якіх ведаеш змалку, без таго звыклага асяроддзя, дзе заўсёды сам пракладваў сцежкі. Нешта яны набылі, але назаўсёды страцілі радзіму. Дык ці варта сюды цягнуць сваіх унукаў? Мабыць, і не варта. Але спадчыну можна атрымаць у выглядзе грошай. Хоць ужо і тут хапае нахлебнікаў. Хоць бы гэтая Эні. Чаго ўвесь час прыдзіралася, хацела паказаць, што яна тут не абы-хто, а любімая хросная дачка?..

## 8

Раніцай Каця прыйшла да Зосі ў спальню, села на пасцель, паскардзілася на бяссонне. Выгляд у яе сапраўды быў стомлены, пад вачамі абвіслі мяшкі. На твары рэзка абазначыліся маршчыны.

— А табе як спалася, Зо? — спытала яна, называючы малодшую сястру коратка, на амерыканскі манер.

— Дзякаваць богу, сплю добра. Дома штодня недасыпаю. Кладуся позна, устаю рана. Адпачну ў цябе, як на курорце.

— Паслухай, я ўсё думаю, як цябе Гардзей адпусціў адну? Раптам ты тут застанешся?

Зося памаўчала, раздумваючы, як растлумачыць сястры тое, пра што яны думалі з мужам перад яе паездкаю за акіян, потым сказала:

— Ведаеш, мы пра сябе ўжо не дбаем, абы дзецям ды ўнукам было добра.

— І ты можаш застацца тут, са мною?

— Калі трэба, дык застануся.

— Нават калі больш да самай смерці не сустрэнешся з Гардзеем? — здзіўлена спытала Каця.

— А колькі нам жыць засталося?

— Ты не кахаеш яго! Ты ніколі яго не кахала! — абурана выкрыкнула Каця.

— Каб не кахала, дык не жыла б. А я ўсё стрывала, ніколі не здрадзіла яму, ніколі не папракнула, ніколі нічога не патрабавала. Жыла, каб толькі яму было добра, бо разумела, што чалавек хворы. Якая б на маім месцы згадзілася на такое жыццё — ні жонка, ні ўдава? Мне знаходзіліся людзі, магла б сваё жыццё ўладкаваць. А я ж Гардзея чакала з усіх турмаў, з усіх дарог…

Каця дапытліва паглядзела на яе, нібы нешта вырашаючы для сябе, потым сказала насмешліва:

— Умееш ты мужчынам галаву задурыць. Мой Дэн, стары дзед, ні на што не здатны, і той дапытваецца, што б для цябе прыемнае зрабіць?

— Дзяніс — добры чалавек, вось і стараецца дагадзіць мне як сваячцы.

— Хітрая ты, але ж я не дурнейшая, — сказала Каця. — У сябе дома я цябе не пакіну, а завязу ў рускі манастыр, там ты будзеш сядзець і чакаць маёй смерці і спадчыны для сваіх унукаў. Як мяне пахаваюць, тады ўжо распараджайся як хочаш тым, што я табе пакіну.

— У манастыр? — здзівілася Зося. — А хіба так можна?

— А чаму ж не? Уставай, збірайся, паснедаем і паедзем. Я цябе сама завязу.

— Ты ж не спала ноч. Як жа ты павядзеш машыну?

— Нічога, кавы вып’ю і буду свежанькая як агурочак.

Сястра нешта мудравала, а Зосі, не ведаючы ні амерыканскіх законаў, ні тутэйшага жыцця, нічога не заставалася, як падпарадкавацца. Палохала трохі толькі тое, што раптам давядзецца шмат гадоў жыць у манастыры. Да таго ж невядома, хто першы памрэ. А Зосі хацелася і на могілках быць побач з Гардзеем. А зрэшты, што мёртвы ведае ці адчувае? Дзе закапаюць, там яму і дамоўка.

Пасля сняданку, як толькі Дзяніс па завядзёнцы пайшоў па малако і свежыя газеты, Каця з Зосяй, нічога яму не сказаўшы, селі ў машыну і паехалі па шырокай і роўнай дарозе. Толькі цяпер Зося разгледзела, што гарадок Асторыя, у якім жыла Каця, быў партовы. Яны ехалі ўдоўж марскога берага, абапал якога стаяла мноства прыгожых яхт і вялізных караблёў, такія Зося бачыла раней толькі на малюнках.

— Паглядзі, якая тут чысціня, якое хараство! — сказала Каця. — Жыць у Амерыцы — вялікае шчасце. Не кожнаму так шанцуе!

— Так, прыгожа. Але я люблю нашых буслоў. Мне, як не бачу над полем бусла, дык быццам нечага не хапае.

— Годзе пра буслоў! Будзеш тут жыць! А я паеду да Гардзея. І не можа быць, каб я не ўгаварыла яго хоць разок са мною саграшыць! — Каця залілася нервовым смехам. — Эх, дзе мае сямнаццаць? Цяпер бы я была б разумнейшая. Ты ведаеш, ён аднойчы хацеў быць са мной, калі нікога дома не было. А я, дурная, не далася. Цнатлівасць захоўвала! Каму яна трэба была? Тут, у Амерыцы, ніхто на такія дробязі не звяртае ўвагі. Абы добра было! Вось ты ў нас разумніца! Адразу змікіціла, што трэба рабіць з прыгожым хлопцам, — Каця зноў зарагатала, адкінула галаву назад, машыну ажно павяло ў бок.

— Сачы за дарогаю, — крыкнула Зося. — Паб’еш машыну.

— А халера яе бяры! Машын на мой век хопіць. Бяда, што жыццё аказалася разбітае… Вунь твой манастыр. Бачыш?

— Дзе? — спытала Зося. — Не бачу.

— Я ж і забылася, што ты заўсёды была падслепаватая. Зараз пад’едзем бліжэй.

Манастыр узнік перад Зосінымі вачамі нечакана. За высокаю каванаю агароджаю стаяла невялікая атынкаваная белая царква і некалькі будынкаў.

— Ідзі ў царкву, памаліся. А я пакуль з тутэйшым начальствам пагутару, — сказала Каця, замыкаючы машыну.

Зося ўвайшла ў царкву, перажагналася перад іконаю Божае Маці, пачала маліцца аб спрыянні ва ўсіх справах. З-за калоны выйшла манашка ў чорным адзенні, пакланілася ў знак прывітання. Зося спытала ў яе:

— Як вам тут жывецца?

Манашка прыязна ўсміхнулася і адказала:

— Добра. А вы руская?

— Не, я з Беларусі, з-пад Брэста.

— А ведаю, ведаю… Хочаце памаліцца?

— Памаліцца і застацца тут назусім. Гэта магчыма?

— Безумоўна, чаму б і не? У Амерыцы жыве шмат эмігрантаў, якія наведваюць царкву і разумеюць нашы патрэбы і па магчымасці дапамагаюць. Заставайцеся, разам будзе весялей…

— Я прыехала да сястры. Як яна вырашыць, так і будзе.

— Ну, поспеху вам. Беражы вас Гасподзь, — адказала манашка і пачала парадкаваць дагарэлыя свечкі.

Да Зосі нячутна падышла Каця, прашаптала на вуха:

— Пойдзем адсюль.

— Ты дамовілася?

— Нічога я не дамовілася. Не возьмуць цябе сюды. Дакументы твае не адпавядаюць… У нас законы вельмі строгія.

Яны выйшлі з царквы пад яскравае сонца, якое асляпіла Зосю. Яна падхапіла Кацю пад руку і занепакоена спытала:

— А што ж цяпер будзе са мной?

— Трэба думаць, — з напускною важнасцю адказала сястра. — Мяркую, што мне варта развесціся з Дэнам, а ты выйдзеш за яго, і тады ў нас усё атрымаецца. Ніякі закон не падкапаецца. Зрэшты, я магу паехаць да Гардзея і жыць з ім. Выдатна я прыдумала, праўда? — Каця засмяялася, няшчыра і злосна.

— Вярзеш абы-што, ажно слухаць брыдка, — азвалася Зося.

— Я шукаю выйсце, а ты яшчэ прыдзіраешся! Мне нічога для цябе не шкода. Ты ж адзіная родная душа ў мяне на свеце! — з пафасам прамовіла Каця.

— Ведаеш што, нешта ў нас нейкая няшчырая гаворка атрымліваецца. Я разумею, ты яшчэ жывая і здаровая. А я прыехала спадчыну шукаць. Прабач, Каця, я жадаю табе жыць доўга-доўга. А мае ўнукі дагледжаныя, накормленыя. Яны абыдуцца і без тваёй спадчыны.

— Вой-вой, пакрыўдзілася ўжо! Сядай у машыну, паедзем дамоў, — загадала Каця.

— Ды за што мне крыўдзіцца? Ты запрасіла, я прыехала. Пабачыліся, пагаманілі і дзякаваць богу. Пара і дамоў збірацца.

— Не выдурняйся! Мяне людзі засмяюць, калі ты так хутка паедзеш. Заўтра пойдзем па крамах, накупляем падарункаў. Яшчэ ж я табе нашу Амерыку як след не паказала.

— Рабі, што хочаш, — абыякава прамовіла Зося. — Я цяпер пад тваёй уладай.

Каця нічога не адказала. Засяроджана вяла машыну. Зося зірнула на спідометр. Ён паказваў хуткасць 80 міль у гадзіну.

— Божа, як ты ездзіш?

— А што? Дарога выдатная! А паміраць, дык з музыкаю!

## 9

На другі дзень Зося з Кацяй пайшлі ў супермаркет. Парыліся там гадзіны чатыры, выбіраючы падарункі Гардзею, Арасту і дзецям, знерваваліся ўшчэнт, бо тое, што выбірала Каця, зусім не падабалася Зосі. Каця абвінавачвала Зосю ў безгустоўнасці, адсталасці, абмежаванасці.

— Ну, куды табе старой бабе гэтая квяцістая цыганская сукенка? — абуралася Каця. — Да тваіх сівых валасоў падбірай што-небудзь шэранькае або блакітнае.

— Ненавіджу шэры колер, — адказвала Зося. — Адзенне павінна быць яркім, радаваць, звяртаць на сябе ўвагу.

— Ты яшчэ хочаш, каб на цябе звярталі ўвагу? У люстэрка хоць калі глядзішся?

— Гляджуся, абавязкова.

— Разумею, ты ж блізарукая, маршчын не бачыш, табе ўсё здаецца, што ты маладзіца хоць куды. Ты хоць на старасці купі акуляры ды разгледзь свет, які ён ёсць на самай справе.

— Не трэба мяне папракаць маімі недахопамі, дадзенымі ад прыроды. Не хачу я нічога купляць. Паедзем дахаты! — раздражнёна сказала Зося.

— Як хочаш, дахаты дык дахаты. У Бога дзён многа, зрабілі агледзіны. Яшчэ прыедзем днямі сюды і што-небудзь купім, — згадзілася Каця. — Зрэшты, я ўжо прагаладалася, пара і паабедаць.

Яны селі ў машыну і праз колькі хвілін былі дома, дзе іх з усмешкай сустрэў Дзяніс. Ён сядзеў каля дома ў крэсле-качалцы, чытаў газеты. Каля яго на траве стаялі бутэлькі з півам.

— Дзяўчаткі! Прыехалі! Натаміліся? Зося, можа, піўца са мною вып'еш? Халодненькае. Складзі кампанію! Буду ўдзячны! Сядайце, я вам тут і крэселцы вынес.

— З задавальненнем, — адказала Зося, беручы шклянку з халодным півам і наталяючы смагу.

Каця не села побач з імі і не стала піць піва, пацiснула плячыма і спытала:

— Як вы можаце піць гэтае пойла? Трэба на абед нешта згатаваць.

— Я зараз займуся, — прапанавала Зося.

— Пасядзі, адпачні, паспееш з абедам, — сказаў Дзяніс Зосі. — Ты хударлявая, а мы з Каццяй сталі тлустыя, як старыя і лянівыя каты. Нам шкодна шмат есці.

Каця незадаволена хмыкнула і пайшла ў дом. Гаспадар спытаў у госці:

— Чаму нічога не купілі?

— Не змаглі нічога выбраць. Што падабаецца мне, Каці не падабаецца. Так і не прыйшлі да агульнай думкі.

— Нічога, другі раз я цябе сам завязу, ты купіш усё, што табе спадабаецца. Я заплачу, і ўсё ў нас будзе выдатна, — усміхнуўся Дзяніс, а яго касыя вочы глядзелі ў розныя бакі, хоць ён стараўся пазіраць на Зосю.

— Добры ты чалавек, Дзяніс. Радая, што пазнаёмілася з табою. Дай табе Бог здароўя. Мне нічога і не трэба. Якая розніца, у што старая баба апранаецца…

— Кінь, Зося, казаць такое! Якая ж ты старая! Ты такая стройная, дужая! Глянеш на тваю паставу, дык і не падумаеш, што пенсіянерка.

— Дзякую, Дзяніс, за добрыя словы. Пайду абед гатаваць, бо Каця зноў раззлуецца.

Зося хуценька згатавала боршч, падсмажыла рыбу, зварыла бульбу. Задаволеныя гаспадары моўчкі паелі і разышліся па сваіх спальнях. Госця таксама з задавальненнем распранулася, легла ў пасцель і адразу ж задрамала. Яна не магла ўспомніць такіх дзён у сваім жыцці, калі гэтак жа бесклапотна жыла: ела і адпачывала. Канечне, раўнавагу трохі парушала Каціна нервовасць, але ж яны і ў маладосці не надта ладзілі. А ў старасці, вядома, чалавек яшчэ больш псуецца і ўсе ягоныя заганы шматкроць павялічваюцца. У Зосі таксама з узростам не палепшыўся характар. Яна стала яшчэ больш упартая і, як Каця, знерваваная, магла ні за што накрычаць на сямейнікаў. А што ж рабіць, калі яны не слухаюцца? А доўга і цярпліва тлумачыць нешта непаслухмяным і ўпартым сыну і ўнукам не хапае цярпення.

Зося абудзілася ад дотыку да яе пляча, расплюшчыла вочы і ўбачыла Кацю, якая вінавата сказала:

— Ты спіш? А я не магу адключыцца… Нешта не дае мне спакою. І сама не магу разабраць што. Раскажы мне пра сваіх унукаў.

— Мілыя дзеці. Ганусі мы піяніна купілі. Яно ўжо добра грае, збіраецца паступаць у музычнае вучылішча, нагадвае мне той час, калі я ў прытулку займалася музыкаю. Радзік хараша малюе. Паміж сабою яны сябруюць. Гэта мяне радуе. Нявестка вясковая, працавітая. Умее смачна

гатаваць. Працуе ў кафэ буфетчыцаю. Хаця, як я табе казала, жыць нам увогуле покуль нялёгка.

— Цяжка мне ўявіць ваша жыццё, — з сумам сказала Каця. — У нас тут усё ёсць, здаецца, ніякіх праблем, а шчасця няма. Засталося яно недасяжнае з маладосці. Бягу за ім, бягу, ажно за акіян прыбегла. Але ж так і не дагнала. Думаю, можа, не тое я шукала і лавіла?

— А ў чым ты бачыла шчасце?

— Хацелася мець вялікую дружную сям'ю, мужа каханага, дзяцей і ўнукаў. І нічога, нічога гэтага не маю… Дзяцей Бог не даў. Ведаю за што пакараў… Грэшная я, не ўмела дараваць і любіць, як вучыць Хрыстос… Каюся… Наконт мужа… Паспяшалася я выйсці замуж. Сустрэўся мне аднойчы варты чалавек. Але ж гэты мой стары пень не дазволіў дом прадаць і на развод не згадзіўся.

— Ну і халера з ім, з домам. Трэба было кінуць усё і ехаць у свет з каханым, калі ўжо так.

— Ды нешта той каханы, як даведаўся, што я без пасагу магу аказацца, пaціху рэціраваўся. Некуды з'ехаў і нават не развітаўся.

— Напэўна, не вельмі сумленны чалавек быў…

— Хто яго ведае. Але ж прыгожы быў, на Гардзея трохі падобны. Таму я яго і вылучыла сярод усіх тых, хто хоць як звяртаў на мяне ўвагу… Як жа ты, сястрычка, мой лёс абабрала. Знішчыла мяне! — горка сказала Каця.

Зося ўстрапянулася, села на ложку, спытала:

— Чым гэта?

— Чым? А ты і не здагадваешся? Робіш выгляд, што нічога не ведаеш?

— Я не раблю выгляд. Я сапраўды не ведаю, пра што ты кажаш. Мы з табой не бачыліся сорак гадоў. У цябе сваё жыццё! У мяне сваё! Што я табе магла зрабіць?

— Жыццё ў цябе сваё, але ты ўкрала мой лёс! Гэта я павінна была быць з Гардзеем! — з дакорам і слязьмі на вачах сказала Каця. — Ну што яму з табою? Ні цябе паслухаць, ні самому сказаць? Як ён жыве з табою? Ты ж нічога пра яго не ведаеш! Што ён думае, што адчувае? Нават пасцель ён з табою даўно не дзеліць! Гэта ж бессэнсоўна!

— Ён выбраў мяне! Я яго кахаю ўсё жыццё! А пры чым тут ты, не разумею!

— А ты не думала пра тое, што і я яго кахаю ўсё жыццё! Толькі пра яго думаю, ратую ў турмах, імкнуся дакрычацца з-за акіяна, каб атрымаць які ліст. А ён мне піша дзяжурныя драўляныя фразы без пачуцця і падтэксту. І я б'юся як аб сцяну неразумення і абыякавасці!

Зося разгублена паглядзела на сястру. Яна ведала, што некалі Каці падабаўся Гардзей. Каму ён не падабаўся? Але Зося не магла ўявіць, што тыя пачуцці старэйшая сястра пранесла праз усё жыццё. Яна паспрабавала разважліва сказаць Каці:

— Гардзей цяпер зусім іншы чалавек, маўклівы, засяроджаны ў самім сабе. Мала цікавіцца сямейнікамі. Разумееш? Ён хворы. У яго астма пасля працы на шахце. Яму нешта раптам прыходзіць у галаву і ён паводзіць сябе незразумела. Я ад яго ніколі не чую слоў спагады. Ён ніколі не казаў, што кахае мяне…

— Ён кахаў не цябе, а мяне! Мяне! Ты можаш зразумець! Гэта ты давяла яго да такога стану! Ты зрабіла яго шызафрэнікам! Калі б з ім была я, ён стаў бы выдатным чалавекам! Усё ў яго для гэтага было: прыродны розум, знешняя абаяльнасць, уменне арыентавацца ў грамадстве і павесці за сабою людзей!

Ты атруціла яму жыццё! Што ты магла? Толькі легчы з ім у пасцель! Але ж гэтага вельмі мала для таго, каб стварыць шчаслівы шлюб. Каханаму трэба належаць не толькі целам, а і душою. А якая ў цябе душа? І галава, і душа ў цябе пустыя! Ненавіджу цябе! Твайго сына і ўнукаў! Ненавіджу ўсіх вас! Змяінае кодла!

Каця кінулася да Зосі, схапіла яе за горла, пачала душыць. Зося адпіхнула яе ад сябе, устала на поўны рост.

— Вось што цябе даймае! Ідзі, вазьмі свайго Гардзея! Патаўчыся ў тым гноі, у якім я жыву! А я пабачу, як ты пацягнеш тую працу! Ідзі! Гардзея яна захацела! Ён стары чалавек, набожны! Яму не да каханак цяпер, калі кожны ўздых даецца з цяжкасцю! Калі вочы нічога не бачаць. Ён адну толькі сцежку топча, што вядзе да прыбіральні!

Каця з цяжкасцю паднялася і зашыпела так, што ажно сліна запырскала з рота:

— Гэта ты зрабіла яго такім! Ты знішчыла сваёю распустаю самага лепшага чалавека на свеце. Вось Бог цябе і пакараў, не даў табе магчымасці спаць з ім! Ненавіджу! Ненавіджу цябе!

Зося ўзяла сумку, стала скідваць рэчы.

— Збіраешся? Нікуды ты не паедзеш! Я атручу цябе і пахаваю тут, у Амерыцы, а сама паеду да Гардзея! Я ведаю, што ён усё жыццё кахаў толькі мяне адну! Я для яго назаўсёды засталася недасяжнаю. Мо ён сумняваўся ў маіх пачуццях? Цяпер я прызнаюся яму, што нікога не кахала так, як яго, — крычала Каця.

— Ты звар'яцела, — спакойна адказала Зося. — Пабойся Бога! Што ты кажаш!

У пакой зазірнуў Дзяніс, спытаў:

— Што ў вас тут здарылася!

— Прэч, лысы чорт! Задушу, як гніду! — гняўліва закрычала Каця, чырвоная ад злосці з распатланымі валасамі. — Ты ўсё жыццё п'еш маю кроў! Атруціў мне душу!

— Зося, што ў вас тут? — перапытаў Дзяніс.

— Нічога. Я хачу дамоў. Дапамажы мне, калі ласка, купіць білет, — папрасіла Зося.

— Чаму? Навошта? Заўтра яна адумаецца, будзе прасіць прабачэння…

— Прабачэння? Ха-ха-ха! У каго? У гэтай самадайкі! Ніколі! — закрычала Каця. — Яна мой вораг нумар адзін!

— Я прашу цябе, Дзяніс, дапамажы мне… У мяне няма сястры… І я не магу чакаць да заўтра. Паеду зараз жа, — сказала Зося.

— Пачакай, я патэлефаную, спытаю, ці ёсць месцы на бліжэйшы рэйс, — прапанаваў Дзяніс.

— Добра, пойдзем разам і патэлефануем, — рашуча адказала госця і пайшла следам за гаспадаром.

Каця правяла іх злосным позіркам.

## 10

Гардзей сядзеў на прызбе, грэўся ў апошніх промнях восеньскага сонца. Ён бачыў перад сабою толькі абрысы дрэў, а далей свет засцілаўся туманам. Пачуліся крокі. Ён павярнуў галаву і здзівіўся, пазнаўшы знаёмую постаць жонкі, хоць твару пакуль не мог разгледзець.

— Няўжо ты так хутка вярнулася з Амерыкі? — здзівіўся ён.

— У мяне няма сястры…

— І там пасварыліся?!

Зося нічога не адказала, накіравалася да дзвярэй.

— З чым паехала, з тым і вяртаешся.

— А табе што трэба, гасцінцы? Дык едзь сам…

— Ты чаго такая злосная? Прыехала і дзякаваць богу. Мне нічога не трэба…

— Як унукі? Што ў нас? — знервавана спытала Зося.

— Усё добра. Учора нявестка прыязджала, казала, што ўсе здаровыя…

— Гэта і ёсць наша найвялікшае багацце…

З-за хаты выйшла Алена, Леванюкова дачка, з кошыкам у руцэ, павіталася, спытала:

— Цётка Зося, вам цукар трэба?

— Трэба, гэта ж вечны дэфіцыт.

— Дык я прынесла тры кілаграмы.

— Мо ў бацькі ўзяла без дазволу? — спытала Зося.

— Не, гэта адзін хлопец працуе ў Жабінцы, цукар робіць… Ну і папрасіў трохі прадаць, — запэўніла Алена.

Гардзей узяў у яе цукар, разлічыўся, узрадаваная дзяўчына ажно пакланілася Рахубам.

— Во паляцела… Кажуць, у бутэльку добра зазірае. Уся ў бацьку ўдалася, — з жалем сказала Зося.

— А хто цяпер не п’е? Бязбожнікі, распуста, усё ў іх ёсць, а ім нічога не трэба, ні вучоба, ні праца…

У хаце Паўліна пляснула рукамі ад радасці і прамовіла нараспеў:

— Зоська вярнулася! Можа і мне гасцінца прывезла?

— Табе прывезла, пасля аддам. А пакуль дай мне што-небудзь паесці.

Зося села за стол, сёрбала крышаны, якія паслужліва паднесла ёй Паўліна, і маўчала. Бязрадаснай выдалася паездка. Такім жа было і вяртанне.

— Ты хоць бы што расказала, — папрасіла Паўліна.

— У яе рот заняты, бачыш, есць, — сказаў Гардзей, які таксама чакаў пачуць што-небудзь цікавае пра амерыканскае жыццё.

Зося пад’ела, адсунула міску і сказала:

— Жывуць амерыканцы добра, але і там шчасце даецца далёка не кожнаму ў рукі. Не залежыць шчасце ад грошай і ад таго, што ты маеш двухпавярховы дом з люстраным ванным пакоем. Разумееце? Кожны няшчасны па-свойму. А калі хто нават малады, здаровы і багаты, усё роўна можа прыдумаць сабе сто прычын для таго, каб быць нешчаслівым.

— Ты раскажы пра Кацю. Як яна там? — папрасіла Паўліна.

— Я пра яе і расказваю. Усё там ёсць: дом, дзве машыны. У доме ўсё прыгожа падабрана: мэбля, шпалеры, занавескі, а радасці няма. Ёсць толькі злосць, раздражненне, старасць і страх смерці, якая можа прыйсці ва ўсялякі момант. Каця без дайпрычыны сварыцца з Дзянісам, той крыўдзіцца, але трывае… Вось такое ў іх жыццё…

— Чаму яны не ладзяць? — здзівілася Паўліна.

— Можа, так яны звыклі жыць? Хто іх разбярэ?

— Ну, давай ужо свайго гасцінца.

Зося дастала з сумкі прыгожую квяцістую хустку, аддала Паўліне.

— Дзякую Каці, што не забылася пра мяне старую.

— Гэта не Каця, а я табе ў Маскве купіла.

— А Каця мне нічога не перадала?

— Яна абяцала табе пасылку прысланць, — схлусіла Зося, не жадаючы расказваць пра сваю сварку з Кацяй.

— Добра, я пачакаю…

— Вядома, чакай. Ты ж ёй самая блізкая родзічка, — насмешліва заўважыла Зося.

— Ну і што з таго, што я не родзічка, а яна мяне любіць, бо разумее, што я на вас усё сваё жыццё паклала.

— Годзе вам, зараз зноў пасварыцеся, — сказаў Гардзей, схіляючыся нізка над сталом і нешта запісваючы.

Нягледзячы на тое, што ён амаль аслеп, усё ж вёў дзённік. Гэтак ён рабіў усё жыццё. Толькі запісы губляліся з-за тых жыццёвых мітрэнгаў, якія не давалі спакойна жыць. Часам ён і сам спальваў свае сшыткі, калі прадчуваў нейкую бяду. Ён запісаў: «Сёння дзень цёплы, сонечны. Восень позніцца. Вярнулася Зося і сказала, што ў Амерыцы ўсё ёсць, толькі на шчасце мала каму шанцуе. Думаю, каб быць шчаслівым, трэба нічога не жадаць».

Зося з Паўлінаю пайшлі на двор агледзець гаспадарку, а Гардзей гартаў свой дзённік. У асноўным там былі запісы пра надвор'е, пра незвычайныя з'явы прыроды. Знарок не пісаў пра сямейнікаў, баяўся нашкодзіць. За сваё жыццё натрываўся вобыскаў, калі з-за нейкае паперкі, з-за нейкага аднаго слова маглі не толькі пасадзіць у турму, але і пазбавіць жыцця.

Можа, цяпер, як ніколі, ён адчуваў, што патрэбны сям'і. У нядзелю прыязджала ўнучка. Яна разумная, адукаваная, вучыцца ў музычным вучылішчы, а раілася з ім, дзедам. Сказала, што пазнаёмілася з хлопцам, які служыць у войску. І пыталася, што рабіць? Чакаць яго ці не?

— А што табе сэрца падказвае? — спытаў Гардзей.

— Чакаць. Ён мне падабаецца, — няўпэўнена адказала Ганка.

— А мне розум кажа, што не варта чакаць. На хлопцаў асабліва спадзявацца не варта.

— А цябе ж баба Зося чакала цэлых дзесяць гадоў. Так і я, калі трэба будзе.

— Ну што ж, рабі так, каб табе было добра. Такі мой табе запавет, унучачка.

Што ён мог яшчэ сказаць ёй? Выдумала Зося прыгожую казку пра сваё каханне і расказала Ганцы. Ці ж хлусня калі каму была на карысць? І любяць жа іншыя жанчыны свае фантазіі выдаваць за праўду. Можа, гэта таму, што рэчаіснасць занадта складаная, а жыццё цяжкае, вось і выдумляюць абы-што, каб суцешыць сябе, а пасля яшчэ і дочкам ды ўнучкам небыліцы ўводзяць у вушы. Але, атручваюць маладыя душы пустымі летуценнямі пра каханне, чаканне, вернасць, адданасць. Зрэшты, калі чалавек не верыць у каханне, дык для яго яно і не існуе.

У той жа дзень пад вечар паштарка Клава прынесла на хутар газеты і страшную вестку, што п'яны Леванюк засек сякерай дачку Алену за тое, што яна ўкрала ў яго цукар і прадала, а самога яго пасля гэтага разбіў паляруш. Якраз нахапіўся старэйшы сын, выклікаў міліцыю і хуткую дапамогу, дык Алену завезлі ў морг, а старога ў бальніцу. Гардзей з Зосяю, пачуўшы гэта, насцярожана пераглянуліся. Паўліна ж сказала:

— Леванюк, кажуць, у вайну нейкага чалавека таксама сякерай забіў… Бачыце, як яно ўсё вяртаецца…

— Бог з табою, Паўліна, што ты такое супраць ночы згадваеш? — перахрысцілася Зося. — Царства нябеснае Алене, не было ёй з каго добры прыклад браць. Заблудзілася, адпакутавала, бедная…

## 11

Праз месяц ад Каці прыйшоў ліст, у якім яна скардзілася, што пасля ад'езду Зосі вельмі смуткавала. Страціла апетыт, калі раней важыла 152 фунты, дык цяпер толькі 135. Але апетыт пачаў патроху зноў вяртацца, бо яна збіраецца доўга жыць, каб адпомсціць сваім ворагам, а таксама не губляе надзею пабачыць яшчэ раз калі-небудзь сваіх родных. Можа, сама збярэцца і прыедзе ў Крачкі.

«Яе яшчэ тут не хапала. Прыедзе расказаць Гардзею пра сваё каханне, а заадно — усім сямейнікам пра мае дзявочыя грахі. Не будзе гэтага, — злосна падумала Зося. — Калі не здолела быць шчаслівай, дык я ёй не вінаватая. Я за сваё шчасце змагалася, жыццём рызыкавала».

Зося перастала адказваць на Каціны лісты, прасіла зрабіць гэта ўнучку або Ораста. А тыя, карыстаючыся добраю нагодаю, выпрошвалі ў амерыканскай цёткі, хто што хацеў. І тая, каб загладзіць віну, старалася дагадзіць ненавісным родзічам. Зося толькі смяялася ў душы з гэтых сястрыных выбрыкаў. А з другога боку і радавалася, што ў сына з'явілася машына, купленая за грошы, якія Каця выслала ўпотай ад свайго мужа. Ораст апошнім часам зноў стаў захапляцца гарэлкаю, можа, дзякуючы машыне, перастане піць.

У адным з лістоў Каця напісала, што Дзяніс зусім састарыўся. Увесь час нешта гаворыць або спявае. Гэта ёй страшэнна абрыдла слухаць, яна гатова кінуць усё і бегчы ў свет. А яшчэ празрыста намякнула, што марыць пабачыць усіх Рахубаў, шкада толькі, што Зося больш не хоча з ёю сустракацца. «Ні табе, ні мне не выпала шчасце, Зо. Каго вінаваціць? Такі лёс. Чым даўжэй тут жыву, тым больш адчуваю адзіноту. Такі мой лёс — жыць сярод чужых людзей, — скардзілася Каця, разлічваючы выклікаць спагаду. — Як бы я хацела перадаць Ганцы ўсе мае бранзалеткі ды пярсцёнкі».

Зося дні тры хадзіла і помсліва думала: «Не дачакаецца, сюды яе не запрашу. Бачыш ты, надумала каханне шукаць на старасці. Гардзей ужо ледзьве па двары соўдаецца, а яна, можа, думае, што ён з ёю яшчэ спаць здолее?»

Малодшая сястра і на гэты ліст не дала адказу. Бабулі Каці, як звычайна, напісала ліст унучка Ганка, расказала пра дамашнія навіны, што ацялілася карова, цяпер будзе сваё малако, што ёй падабаецца ездзіць з татам на машыне, што яна добра вучыцца, а замуж не спяшаецца.

У адказ Ганка атрымала ліст, адрасаваны асабіста ёй. Амерыканская бабуля раіла не глядзець на прыгожыя твары, а шукаць чалавека здаровага, сардэчнага і працалюбівага. Замужжа часта нагадвае гульню ў карты, некаму шанцуе, а некаму не надта. Крый божа, захапляцца п'янствам. Ад гэтага нараджаюцца хворыя дзеці. А яшчэ Каця з жалем паведамляла, што яе жыццё ідзе на зыход, і яна сабе ўжо нічога не жадае, акрамя спакою.

Больш амерыканка не напрошвалася ў госці, мусіць, і сама ўжо прыкметна пастарэла. Праз некалькі гадоў коратка паведаміла, што ад старасці памёр Дзяніс. Цяпер яна, пасылаючы пасылку, кожны раз падкрэслівала, якую частку пенсіі патраціла на падарункі.

Зося па-ранейшаму была непрыступная і грэбавала Кацінымі падачкамі, ды і не да таго ёй было. Гады міналі хутка. Падрос Радзік. Быў ён нервовы і хваравіты, так што хлопца нават у войска не ўзялі. Ён захапіўся маляваннем, прадаваў карціны. Ганка скончыла музычнае вучылішча, яе накіравалі на працу настаўніцай спеваў у глухую палескую вёску, дзе не было моладзі. А дзяўчына ж мусіла неяк уладкоўваць сваё жыццё. Зося лічыла сябе вінаватай у тым, што ўнучцы не шчасціць. Яна хацела наведаць Кіева-Пячор-

скую лаўру, каб замаліць свае грахі з-за тых сваіх ненароджаных дзяцей, якіх яна вытруціла ў маладосці. Але не магла паехаць, бо Гардзей зусім аслаб, ён цяжка дыхаў, часта кашляў, яго даймала астма, апухалі ногі. Ён мала хадзіў, больш ляжаў у ложку за печчу, нешта думаў, часам рабіў нейкія запісы. З-за таго, што ў хаце часта было шумна і тлумна, калі прыязджаў сын з нявесткаю ды ўнукі, запісы Гардзеевы часта губляліся. Знайсці іх пры ягонай слепаце было цяжка. Таму ён апошнім часам заўсёды насіў з сабою ў кішэні маленькі нататнічак у цвёрдай зялёнай вокладцы.

## З дзённіка Гардзея Рахубы

*Чэрвень 1970 г.*

У красавіку і маі вельмі часта ішлі дажджы. У нізінах стаяла вада. Толькі ў пачатку ліпеня надвор’е палепшылася і пачалася спякота. Так Усявышні ўраўнаважвае холад і цяпло, вільгаць і сухасць.

*4 жніўня.*

Разважаў пра прыродныя катаклізмы: паводку ў Румыніі, бураны ў Польшчы, землятрус у Перу. У XX стагоддзі шмат было падзей, якія нагадвалі Божую кару. Але мне здаецца, што ва ўсіх сваіх бедах вінаватыя людзі, а Бог літасцівы і справядлівы.

*6 жніўня.*

Апоўдні падаў буйны град, у дыяметры будзе з капеечную манету. Вельмі цвёрды і цяжкі. Прырода хавае свае таямніцы. Зноў падумаў пра багацці, якія ўтвараюцца ў целе Зямлі ў выніку нікому, акрамя Бога, невядомых працэсаў.

*14—15 верасня* было сонечнае надвор’е. Ноччу *16 верасня* здарылася моцная навальніца. Наступны дзень быў пахмурны.

*1 студзеня 1971 года.*

Восень выдалася вельмі дажджлівая, аднак адразу пасля Новага года ўсталявалася добрае надвор’е: невялічкі мароз, сонечныя дні, зямля акрытая снегам. 8 студзеня наведаўся ў царкву, адзначыў свята Нараджэння Хрыстовага. Вернікаў было мала, у асноўным старыя людзі, з моладзі — нікога. Разважаў пра прычыну адыходу людзей ад веры ў Бога. Лічу, што галоўная прычына ў атэізме, а таксама — у п’янстве, курэнні, распусце. На маю думку, без веры ў Бога немагчыма пабудаваць дасканалае грамадства — камунізм, пра які ў нас шмат кажуць. Рэлігія сваімі запаветамі можа паказаць чалавеку праведны шлях. Як адзначае Святое пісанне, вера без справы мёртвая, а справа без веры таксама мёртвая.

*1 мая. Субота.*

Прырода стварае рай на зямлі, а людзі сваімі дзеяннямі — пекла. Згадаліся словы з Евангелля: «Ясны шлях і ісціна. Няма іншага шляху, акрамя мяне».

*2 жніўня.*

Усё лета гарачае, без дажджу. Сёння Ілля. Быў у саборы ў Берасці. Шмат людзей сабралася. Усе, і я разам з імі, маліліся, каб Гасподзь паслаў дождж. Але нічога не вымалілі. Значыць, не будзе яго яшчэ дзён дваццаць, на тое Божая воля.

*9 жніўня.*

Пасля доўгай засухі нарэшце ноччу пайшоў дождж з ветрам з паўночнага боку і дастаткова прамачыў зямлю. Будзе атава. Слава Усявышняму.

*30 чэрвеня 1972 г.*

Сёння снілася, што я звяртаўся да людзей, заклікаў іх верыць у Бога. Мяне слухалі ўважліва.

Сёння ж была моцная навальніца, якая паклала і пакруціла густое жыта і ячмень. Не варта сеяць збожжа густа.

*29 красавіка 1973 г.*

Пад раніцу прысніў вялізную зорку, якая праляцела маланкай і звалілася з неба.

Сёння пасеялі ячмень. У пачатку мая трэба пасадзіць ружовую бульбу.

*11 жніўня 1974 г.*

Учора папярэдзіў калгаснага брыгадзіра, каб у нядзелю не працавалі, бо сапсуюць надвор'е, аднак ён мяне не паслухаў. Людзі выйшлі на працу. Апоўдні паднялася бура з дажджом і прагнала ўсіх з поля. У святы дзень працаваць нельга.

*2 лютага 1976 г.*

Бачыў у сне незнаёмую дзяўчыну, якую пацалаваў, нешта сказаў ёй, і прачнуўся. Здалося, што душы нашы вельмі блізкія, хоць мы ніколі не сустракаліся ў жыцці. Адкуль яна, ці не з таго свету? Тое, што я шукаў, чаго прагнуў і называў воляю, зараз знаходжу ў спакоі маёй хаты без сяней, якая стаіць на хутары ў садку, не агароджаным ніякім плотам. Так і душа мая застаецца адкрытаю свету, нягледзячы на слепату, а сны мае яскравыя і каляровыя. Нават пазбаўлены зроку, я разумею і адчуваю людзей значна лепш, чым некалі ў маладосці.

*20 снежня.*

Думаў пра веру хрысціянскую; пра розныя рэлігійныя звычаі сярод хрысціян. Якая мудрасць у гэтай разнастайнасці? Ці не таму, што пакутуем ад недахопу духоўнай сілы, прагнем наталіць галодную душу нечым невымоўным, шукаем і ствараем новыя рэлігіі?

Сёння з самага ранку сонечнае з невялікім марозам надвор'е.

*1977 г.*

З новага года нічога не запісваў. 5 кастрычніка слухаў навіны па радыё і непрыкметна заснуў. Прысніў царкву ў вясновым яблыневым садзе. Уся царква была ў кветках. Калі прачнуўся, было 6 гадзін раніцы.

*28 лістапада.*

Слухаў у апошніх паведамленнях, што краіны ўзбройваюцца, палітыкі запэўніваюць: рыхтуюцца да абароны, але ж, пэўна, да вайны. Гісторыя чалавецтва перанасычана войнамі, па сутнасці — гэта шэраг злачынстваў. Што ж, гісторыя мае сэнс толькі таму, што асобныя яе падзеі маюць канец, інакш яна была б бессэнсоўная.

Гэта быў апошні запіс. Гардзей памёр на Піліпаўку ад прыступу астмы. Толькі пасля гэтага Зося зноў пачала перапісвацца з сястрою, бо цяпер не было з-за каго варагаваць. Чалавек, якога яны абедзве кахалі, чакаў іх у лепшым свеце. Каця перажыла Гардзея ўсяго на год. Напісала, што рыхтуе завяшчанне на пляменніка Ораста, як толькі дакументы будуць гатовыя, адразу дашле. Аднак больш ад яе лістоў не было. А неўзабаве Зося атрымала кароткае паведамленне з Амерыкі, што Кацярына Кірылаўна памерла, пакінуўшы ўсю сваю маёмасць у спадчыну Эні.

# ЭПІЛОГ

Гардзеева гіпотэза, выказаныя ім у сярэдзіне пяцідзясятых гадоў XX стагоддзя, пра тое, што каменны вугаль, нафта, прыродны газ і іншыя выкапні маюць хімічную, а не біялагічную прыроду, была пацверджана некаторымі навукоўцамі праз паўсотні гадоў, у 2006 годзе, калі з даўно выпрацаванага радовішча нафты каля Казані забіў новы фантан. Праўда, маскоўскія акадэмікі і на гэты раз успрынялі сенсацыйную заяву вельмі стрымана.

Аднак навуковая думка не стаіць на месцы. Вядомы расійскі геафізік Яўген Баркоўскі цяпер даследуе працэсы, якія адбываюцца ўсярэдзіне нашай планеты, і прыходзіць да высновы, што Зямля — гэта вялізны рэактар, дзе праходзяць розныя фізічныя і хімічныя працэсы, у выніку чаго ўтвараюцца газы, сілікаты, металы, вада. І гіпотэза яго мае шмат агульнага з той, якую выказаў Гардзей, ці, дакладней, прататып гэтага персанажа.

На 87-м годзе жыцця Зося атрымала паведамленне аб сваёй рэабілітацыі, але толькі пасмяялася з яго, бо віны за сабою не адчувала. Аднойчы ёй прыснілася Каця, якая паскардзілася, што Эні накарміла яе атручаным баршчом, таму яна заўчасна і памерла. Зося ўсё зразумела: хросная дачка Дзяніса пастаралася прыбраць з дарогі ягоную самотную састарэлую жонку, каб прысвоіць сабе спадчыну. У сне Каця прыязна, з любоўю пазірала на малодшую сястру, напэўна, на тым свеце здолела забыць ранейшую нянавісць і супакоілася.

Зося пражыла 96 гадоў, яшчэ паспела зазірнуць у XXI стагоддзе і паняньчыць свайго шостага праўнука. Памерла яна спякотным летнім днём, седзячы на прызбе каля хаты, якая да гэтага часу так і стаіць без сяней і агароджы. Адышла бабуля ціха — задрамала і не прачнулася. Мусіць, яна так і панесла б сямейныя паданні на той свет, але нейк прагаварылася, згадваючы мінулае, што вельмі пасварылася з Кацяю, калі нарадзіла сына і нават хацела ўтапіцца. Унучка Ганка здагадалася, што ў бабулі далёка не ўсё было гладка ў жыцці і каханні, і захацела даведацца праўду, пачала чапляцца з рознымі пытаннямі. Баба Зося вельмі трывожылася, нешта сама сабе мармытала, саромелася згадваць сваю грэшную маладосць, але ўсё ж памалу пачала тое-сёе расказваць і раскрываць свае жаночыя таямніцы. Яе згадкі і леглі ў аснову гэтага рамана, толькі прозвішчы і імёны зменены па зразумелай прычыне.





## Фелікс БАТОРЫН

### Я З ТЫХ, ШТО ПЕРАЙШЛІ ЕЎФРАТ

Я з тых, што перайшлі калісь Еўфрат,
Шукаючы шчаслівае зямлі,
Зазналі мноства згуб і безліч страт —
І на шляху пакут сябе знайшлі.

Адкрыта мне, што на палях эпох,
Якія б ні раскідваў хто глыжы,
Ёсць Бог і Хаты Матчынай парог,
Астатняе — пустэльні міражы.

Я ўсе пустэльні свету абыду,
Каменне пазбіраю там пуды
І ў крушні велізарныя складу,
Каб іх раскідваў нехта малады.

Усё міне: каханне, гора¸ жах,
І шчасця сны, і ўслед — бяссонне скрух,
І будзе свет то ў крушнях, то ў глыжах,
І вечныя кругі, і вечны рух.

* * *

Ты помніш вёсачку Хаўхоліцу
З яе зялёнаю ваколіцай
І з непарушнай цішай дня,

---

***Фелікс Баторын (Хаймовіч Фелікс Барысавіч)*** *нарадзіўся 5 лютага 1948 года ў Мінску. Скончыў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (1972). Працаваў у розных лячэбных установах Барысава і Мінска.*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Раніца» (1981), «Зялёны тралейбус» (1986), «Я дрэва пасадзіў» (1991), «Паглядам акідваю шлях» (2001), «На вуліцы Максіма Багдановіча» (2007). Перакладае паэзію і прозу з рускай, нямецкай, ідыш і польскай моў.*

З яе маленькаю бальнічкаю
Ў пустым двары з самотнай брычкаю,
Што век не бачыла каня?

Мы ж летуценілі пра клінікі,
Дзе будуць пошукі і вынікі,
Гады трыумфаў і трывог.
Мы дактары былі няўмелыя
І ад свайго няўмельства смелыя,
А беды ўсе адводзіў Бог.

Сябе пакутліва шукалі мы,
Маглі аддаць жа толькі каліва
Умельства сціплага свайго.
Ды ўсе былі да нас зычлівымі,
І мы з табой былі шчаслівымі,
Не разумеючы таго.

* * *

Агеньчык на тоненькай кноціка шыйцы.
Мігценне й спалох матылькоў.
Гайдаюцца зоркі на фортачнай шыбцы
Ад подыхаў скразнякоў.

І шоргат апалай, як лісце, адзежы.
І дотык ласкотны павек.
І гэтай салодкай хвіліны бязмежжа —
Як выкуп за хуткі наш век.

* * *

Сарамлівая поўня вуаляю твар зацяняе.
Сарамлівая, ты сарамлівасць адкінула прэч.
Дзве духмяныя белыя поўні ўзышлі сярод раю
Ў атачэнні распушчаных кос і аголеных плеч.

Птушкай радасці сэрца над светам і ноччу ўзляцела,
І анёльскімі спевамі трубы арганаў гулі.
І шчымлівае свята зліцця нашых душаў і целаў
Узняло нас над брудам зямлі і над болем зямлі.

## ПРАМЕНЬ

Прамень вясёлы сцежку перайшоў,
Травінкі цеплынёй сваёй прылашчыў,
Злізнуў расу з грыбных капелюшоў,
Бясстрашна зазірнуў гадзюцы ў пашчу.

Не знаў — не ведаў, што бывае зло,
Што хараство звядае на пачварнасць
І што пяройдзе ўсё жывое ў тло
Як доказ, што пануе ў свеце марнасць.

Ён проста быў прамень. Ён проста быў.
Ніякай не шукаў узнагароды.
І — наймарнейшы — марнасць я тапіў
У глыбіні праменнае лагоды.

* * *

Ізноў я сёння ў пошуку,
За далячынь сягаю.
Ababkaў пяць у кошыку,
А сэрца поўна гаю.

У гэты гай бярозавы
З асінкамі па краі
Ад паўсядзённай прозы я,
Стаміўшыся, ўцякаю.

Здароўкаюся з дрэвамі,
Нібы стары знаёмы.
Направа і налева мне
Сцяжынкі ўсе вядомы.

Палянаў травы спелыя
На сонейку ільсняцца.
Зялёна-чорна-белыя
Мне сны наяве сняцца.

* * *

Усцяж чырвонай паласы
Дымяцца чорныя лясы,
А побліз шэпчуць каласы
Мядзянага адліву.
Я доўгі міг, як век, стаю,
Руку трымаючы тваю.
Я цэлы міг шчаслівы.

За мігам міг — мінае век.
Я зведаў боль, я зведаў здзек.
Прайшоўся лесам дрывасек.
Прайшла дарога нівай.
І я ў сутонні зноў стаю,
Руку трымаючы тваю.
Я цэлы век шчаслівы.

* * *

Чорны човен, чырвоны буй,
Плынь, што белая ад аблокаў…
Ты не птах, а ўсё ж паспрабуй
Праляцець над вадой затокаў.

Ты нырні на самае дно
Надазёрных зыбкіх нябёсаў, —
І адтуль табе стане відно
Хараство ўсіх плыняў і плёсаў.

І прамень упадзе на скронь
Чысціні трапяткой, святое.
І ты ўбачыш нябесны агонь
Над сабою і пад сабою.

* * *

Асіныя гнёзды. Асінавы шум.
А сінь прыўзнімае ўвысь.
Ласіная сцежка. Кіпцясты сум
Стаіўся ў галлі, як рысь.

Іду я туды, куды рушыў лось,
Ламаючы хмызнякі.
Які сабе самі абралі мы лёс,
І маем яго такі.

Што ў пустку нас вабіць, і ў поймы рэк,
І ў тлумны натоўпу вір?
Чаму мы, да дна дапіваючы век,
Цалуем халодны жвір?

* * *

Рыжай восені хвост лісіны
Замятае сляды ў гаях.
Лёт чародаў белых у сіні —
Бы крыла адзінага ўзмах.

Восень поўніць вясёлай журбою
Пашырэлы абшар зямлі,
Рассцілае тканнё рабое,
Каб яго снягі замялі.

Ацішэлага сонца ззянне
Прабіваецца праз імжу,
Як запозненае каханне,
Што вярэдзіць і грэе душу.

## ВЯСНОВЫЯ ГАДЗІННІКІ

Вясновыя гадзіннікі:
Цік-так, цік-так, кап-кап!
Як весела асінніку,
Калі мароз аслаб.

Як весела бярэзніку,
Калі мароз ачах.
Як весела гарэзніку
З праменнем у вачах.

Як радасна дасціпніку,
Калі душы цяпло
У ду́шы, ненасытныя
На сонца, пацякло,

У душы, ненаежныя
На волю, на палёт,
У душы безбярэжныя,
Дзе раскрышыўся лёд!

## ПАДАРОЖНАЯ ПЕСНЯ

Трымае за дзвярыма
Свой посах пілігрым.
Усе дарогі з Рыма,
Як ёсць, дарогі з Рыма —
Яны ж дарогі ў Рым.

Усе дарогі з дому
Вяртаюць нас дамоў.
Вандроўніку вядомы
Шляхоў далёкіх стома,
Спакой дамашніх сноў.

Шукаем у засвецці
Мы шчасця, а дарма:
Там ёсць усё на свеце,
Як ёсць, усё на свеце,
А шчасця там няма!

А што такое шчасце?
Яно (за сведку — Бог) —
Да мілых меж дапасці
Й на ганак родны ўпасці,
Цалуючы парог.



Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ

# АНЁЛАК МОЙ, АНЁЛАК...

*Рамантычная аповесць*[1]

## 1

Аляксей Савіч усё ж вырашыў, што паляціць на радзіму. Сястра з Беларусі датэлефанавалася да яго напярэдадні ўвечары, каб паведаміць: у іх роднай вёсцы, дзе цяпер нікога са сваякоў і блізкіх ужо не засталося, адбудзецца сустрэча аднакласнікаў. Яго выпуск. Дваццаць пяць гадоў мінулася. Казала, што збіраюцца ўсе, жадаюць бачыць і яго…

І адразу завярэдзіла на сэрцы: аказваецца, ўсё, што было ў юнацтве, помніць да драбніц, нібы адбывалася ўчора. Помніць і добрае і кепскае, асабліва тое, што здарылася ў дзясятым класе між імі… Мабыць, недарэмна кажуць, што свой грэх — насіць усё жыццё. Хаця ж, калі разабрацца, які ў яго грэх? Ён жа тады быў зусім юным. А што яна так…

Стаяў спякотны ліпень. У Піцеры не было чым дыхаць, плавіўся асфальт, і можна было ачмурэць ад чаду!.. У прыгарадзе, на прыродзе, было не так млосна. Ён з'ехаў на дачу з тыдзень таму. Адпачываў. А ўчора ўвесь дзень карпеў над навуковай працай, якую пачаў яшчэ летась, у чарнавіку паклаў на паперу. Здавалася б, дробязі засталіся, зусім нязначныя. «Падчысціць» сёе-тое. Але вось гэты тэлефонны званок сястры перабіў усе думкі, і праца, як кажуць, пачала валіцца з рук. Знік творчы настрой. Не клеілася нешта. Нарэшце, адклаў паперы ў стол: значыць, не гарыць. Хай пачакае, выспее. Адляжыцца — лепей будзе.

Прыняў душ і апоўначы лёг спаць. Але заснуць так і не змог: вагаўся, трэба яму ехаць на гэтую юбілейную сустрэчу ці не?

---

*__Гаўрыловіч Уладзімір Мікалаевіч__ нарадзіўся 30 жніўня 1967 года ў вёсцы Вятчын Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1991). Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Вятчынскай СШ, дырэктарам Бялёўскай СШ у Жыткавіцкім раёне. Цяпер — галоўны рэдактар раённай газеты «Новае Палессе», старшыня Гомельскага абласнога аддзялення ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі».*

*Аўтар кніг прозы «Споднія яблыкі» (1999), «Забранае шчасце» (2001), «Глыбокія карані» (2001), «На мяжы» (2003), «Плата за каханне» (2007) і публіцыстыкі «...Дзе над горадам лунаюць буслы» (2000), «Крокі па роднай зямлі» (2005), «Запрашэнне» (Швейцарыя, 2007) і інш.*

---

[1] Часопісны варыянт.

Бадай, нічога ж і не затрымлівала. Ад студэнцкай мітусні ён ужо трохі адпачыў у адзіноце. Чаму ж не паехаць? Заадно пабачыцца з мамай і сястрычкамі — усё абяцае, а ніяк не выберацца наведаць іх. Але, калі прыедзе, хоць і запрашаюць аднакласнікі, як яны сустрэнуць яго, таго, які некалі пакінуў вёску з такім страшэнным кляймом, што… І толькі пад самую раніцу, шмат усяго перадумаўшы, рашыўся. Паедзе!

…Пералёт бізнес-класам быў амаль непрыкметным. У мінскім аэрапорце адразу ўзяў таксі. Аўтавакзал «Усходні» ён памятаў. Прыехаў туды, маючы запас часу на маршрутны аўтобус на Жыткавічы. Узяў білет, доўга хадзіў вакол вакзала, бавячы час, чакаючы адпраўлення, быццам раздумваў: ці правільна робіць. І зноў пераконваў сябе: правільна…

Да Зінкі, сястры, не паехаў спецыяльна, хоць яна жыла недалёка, ля трактарнага завода. Вырашыў, калі будзе вяртацца назад, тады наведае яе і маці. Нават колькі дзён пагасцюе ў мамы, якая даўно прыжылася ў сталіцы. Перад самым адпраўленнем набраў нумар мабільнага сястры.

Сястра, вядома, паўшчувала, што брат не заехаў. Сказала, што Сярожка, яе старэйшы сын, мог бы адвезці яго на сваім «Опелі» ў вёску і прывёз бы ўначы назад. Хвалявалася, а ён пра гэта і не падумаў: у каго ж там брат пераначуе? Казала, што пляменніку было б за радасць пабыць разам з піцерскім дзядзькам у вёсцы, а ён, дзядзька, пазбавіў яго такой магчымасці.

Сястра нават паспрачалася: заўсёды ён, Аляксей, робіць так, як яму хочацца, заўсёды настойвае на сваім. Але, можа, таму і ў прафесары выбіўся, стаў вядомым. Хто ж не ведае ў Расіі і дома мікрабіёлага Савіча?! Шкадавала ж хіба аб адным: сама не змагла б паехаць — не адпускалі неадкладныя справы, якія, скардзілася, не даюць ужо і жыць па-чалавечы (якія справы, так і не сказала). Але ўзяла ад брата слова, што ён паклоніцца і ад яе магілам родных — яна ж даўнавата там не была. Сказала, каб Аляксей абавязкова, як і абяцаў, вяртаючыся назад, на тыдзень затрымаўся ў Мінску. А яшчэ, калі ўжо ўзяў білет, то хай едзе, пляменнік жа накіруецца ў вёску адразу, днём ці ноччу, як толькі Аляксей патэлефануе, каб прыехаў па яго.

І вось аўтобус вёз яго ў дзяцінства. Туды вяртацца было і радасна, і страшна. Дзіўная рэч! Пасля школы, ды і пасля таго выпадку, з-за якога ён вымушаны быў у спешцы з’ехаць з вёскі, мінула чвэрць стагоддзя. Аляксей Савіч думаў пра школьных сяброў. Ці ўсіх іх ён пазнае?! А з настаўнікаў хто-небудзь застаўся? Ці ўсе памятаюць яго? А калі памятаюць, то як?..

За акном міналіся знаёмыя з падлеткавай пары населеныя пункты, вёсачкі і пасёлкі. Ён чытаў на дарожных знаках іх назвы, але думаў аб родным куточку, у якім нарадзіўся. А на душы было так неспакойна.

Калі забрала сястра да сябе маці — гэта здарылася амаль адразу пасля таго, як ён паступіў ва ўніверсітэт у Ленінградзе, — бываць у вёсцы яму не выпадала. Савіч ведаў, хоць і рэдка прыязджаў у госці да сясцёр і маці ў Мінск, сваякі клапаціліся пра магілы родных. Ездзілі, калі выпадала, звычайна на Радаўніцу. Ненадоўга. На гадзінку-другую: прыбраць магілкі, падфарбаваць загарадкі, пакінуць памінальныя вяночкі.

Аляксей звыкся з думкай, што родную хату даўно прадалі, што яна чужая. Што ж, чалавек прывыкае да новага жыцця вельмі хутка. Але ж… Ці стаіць яна яшчэ там, схаваўшыся ў засені вялікага саду? Хто цяпер жыве пад яе дахам?

З ёй, іх прасторнай хатай, звязана гэтулькі ўспамінаў. Адтуль на вясковыя могілкі завезлі на калгасным грузавіку дзеда-франтавіка. А праз год, нечакана, калі Аляксею споўнілася толькі шэсць гадкоў — бацьку. Расказвалі: ён трагіч-

на загінуў на лесапавале. Дзядулю і бацьку Аляксей амаль не памятае, толькі некаторыя рысы твару гэтых родных яму людзей усплываюць у памяці нібы з туману. Усё ж ён быў тады дзіцем. Маці падымала яго, свайго малодшага, як і дзвюх дачок, сама.

Ці жывыя яшчэ суседзі? Мусіць, многіх ужо няма. Добрыя былі людзі. Простыя. Прыстойныя. Цяпер такіх мала. Хаця, было, аднойчы і яны яму не паверылі…

Божа, што ж з ім такое адбываецца? Тое, што, здавалася, назаўжды знікла з яго памяці, зноў наплывала і наплывала, нібы гэта было ўчора, вярэдзіла душу. А ён жа да гэтай паездкі быў упэўнены: выкраслена, выбелена там усё пахмурнае і балючае, што звязана з завяршэннем яго дзяцінства і пачаткам юнацтва. Толькі чаму і праз гады, пасля таго, як усё здарылася, ён не змог больш нікога пакахаць? Па-сапраўднаму. Мусіць, гэта сам Гасподзь пазбавіў яго магчымасці кахаць. Хаця ж, што на Бога ківаць. Быў і жанаты. Нядоўга, праўда… Ды і жанчын не пазбягаў — шанаваў жаночую прыгажосць. Але гэта ўсё было не тое. Магчыма, ён не ўмеў, проста не ўмеў кахаць, як умелі іншыя.

Цяпер, седзячы ў новенькім, быццам толькі з канвеера, аўтобусе, вагаўся: а можа, сам захацеў, каб усё так было?..

Няпраўда! Ён хлусіў сабе. Яшчэ на заранку юнацтва з ім здарылася тое, што ва ўсіх рамантычных творах называюць першым каханнем. І яно — такое гораснае. Можна ж было ўсё забыць, навошта ж трэба было гэтулькі перажываць з-за таго, што адбылося і не вернеш, не паправіш? Навошта ўспамінаць усё, што даўно мінулася і здавалася нават няпраўдай? Прафесар Савіч разумеў усё і хацеў бы забыцца, адрынуць з памяці. Але ж ці загадаеш сэрцу?

Як жа даўно тое было…

## 2

У апошняй чвэрці дзявятага класа Аляксей Савіч рэзка запусціў вучобу…

Маленькая і светлавалосая аднакласніца надоўга стала яго ідэалам, сэнсам жыцця. Гэтая дзяўчынка, падобная на Мальвіну з дзіцячай казкі, здавалася, скрамсала яго сэрца на дробныя кавалачкі, пазбавіла сну і розуму.

Аднойчы на школьным вечары, ужо ў дзясятым класе, Аляксей зразумеў, што, аказваецца, ён не адзін такі летуценнік. Употай назіраючы за далікатнай школьнай прыгажуняй, якая танцавала ў крузе, заўважыў па вачах сваіх сябрукоў, Колькі і Генкі, што і яны глядзяць на яе гэтаксама, як і ён: з захапленнем і хваляваннем. Гэта было асаблівае мужчынскае хваляванне, калі хлопцы, як зачараваныя, не зводзілі з аднакласніцы сваіх пажадных вачэй. Ад гэтай гарэзы, здаецца, усё закіпала ў жылах і туманам засціла вочы не толькі ў яго!..

Галка ж вадзілася толькі са старэйшымі хлопцамі. З аднагодкамі чамусьці ёй было нецікава. І яго, які нічым не адрозніваўся ад іншых, яна, здавалася, проста не заўважала.

Каму ж быць яе чарговым праважатым — хлопцамі вызначалася за школай. Кулакамі. Ён, Лёшка Савіч, асаблівай фізічнай моцай пахваліцца не мог і змірыўся з тым, што яму такога шчасця, як праводзіць Галку, не дамагчыся. Таму пакуль дзесьці там ішлі кулачныя разборкі, ён танцаваў вальс, танга, польку з усімі без выключэння дзяўчаткамі свайго класа. Ён вельмі любіў танцаваць. Але яе, Галку, на жаль, так і не асмеліўся запрасіць. Ні разу. Саромеўся: як да яе падступішся? Права запрашаць Анёла (так Галку многія назы-

валі ў школе, дзякуючы пажылой настаўніцы рускай мовы, якая аднойчы за паспяховую вучобу ласкава ўзнагародзіла вучаніцу такой пахвалой-мянушкай, і якая прырасла да дзяўчыны) замацавалася за старэйшымі хлопцамі-аднавяскоўцамі. Ды і праводзіць яе дадому таксама была іх прывілея.

Хлопцу часам здавалася, што ён добра ведае яе, Анёла, і разам з тым не ведае зусім. Здаралася, у залежнасці ад таго, які быў настрой, у сваіх фантазіях ён маляваў вобраз дзяўчыны светлай, а часцей чорнымі фарбамі: пра яе ў вёсцы пляткарылі рознае. Хаця Аляксей не хацеў прымаць на веру ўсё кепскае, што казалі пра Галку і што даходзіла да яго вушэй. Не верыў плёткам, Анёла ён абагаўляў. А пагалоска пра яе, Галку, даўно ўжо ішла дрэнная. Ён жа, дзівак, на нешта працягваў спадзявацца, употай марыў, што некалі будзе з гэтай недасяжнай прыгажуняй. Але так і не змог хоць бы аднойчы падысці да яе. І, мусіць, ніколі б так і не асмеліўся, калі б не той выпадак... І, мабыць, так бы таемна і кахаў свайго маленькага вясковага анёлачка.

Божа, чаму і праз столькі гадоў так балюча ўспамінаць былое?

Аляксей Мікалаевіч расплюшчыў вочы. Амаль пусты аўтобус уязджаў у Слуцк. У вёсцы — памятаў гэта добра — казалі так — Слуцак. Ён зусім не пазнаваў горад. Чысты, утульны. Злавіў сябе на думцы, што, апыніся выпадкова на тутэйшых вуліцах, без нечай дапамогі наўрад ці змог бы знайсці аўтавакзал. Прыгажун-будынак, зрэшты, пабудаваны пазней. Хоць гэты горад з яго дзяцінства, з яго ўспамінаў — таксама.

Некалі ўлетку, падзарабіўшы грошай, здаючы нарыхтоўшчыку чарніцы, Аляксей наважыўся з’ездзіць да старэйшай сястрычкі Каці ў Мінск. Яна працавала там прадаўцом недалёка ад Прывакзальнай плошчы, у прадуктовай краме. Тую краму ён памятаў вельмі добра: там за пяць капеек можна было купіць шклянку соку. Бярозавік асабліва яму падабаўся. Бо дома пілі з бочкі, кіслы і церпкі, настоены на дзічцы. А гэты, з трохлітровага слоіка, быў салодкім, з дзіўным смакам. У вёсцы тады яшчэ не навучыліся так гатаваць бярозавік — з лімонкай і цукрам.

Савіч згадаў старэйшую сястру. Сёння Каця мае сетку ўласных магазінаў у сталіцы — бізнес ідзе добра, хаця ўвесь час сястра на нешта скардзіцца. Можа, грошай не хапае? А колькі іх трэба, каб жыць? Прырода чалавека: калі грошай шмат, хочацца, каб было болей…

Слуцк на ўсё жыццё яму запомніўся іншым: за восем капеек ён некалі тут купіў сто грамаў зефіру. Беласнежнае смакоцце сельскага хлопца надта ўразіла. Дагэтуль ён яшчэ не каштаваў такіх ласункаў. І бач — адклалася ў памяці на ўсё жыццё. Дзіва што: у райпоўскі сельмаг, які быў у яго вёсцы, прапахлы селядцамі і тытунём, нічога падобнага не завозілі. Але, хіба не запомніш…

Аляксей намагаўся ўзгадаць, з якімі яшчэ падзеямі ў яго жыцці звязаны гэты горад, стараўся гэтымі ўспамінамі адагнаць думкі пра школу. Так, сюды, у Слуцк, ён з аднакласнікамі прыязджаў купіць падарункі дзяўчынкам да Жаночага свята — тады набылі ім нейкія паўтараafрублёвыя рэпрадукцыі (спадабаліся прыгожыя рамкі) і шакаладныя цукеркі…

У кіёску прадавалі мясцовыя газеты. Аляксей купіў адну з іх і адразу вярнуўся ў аўтобус. Пасажыраў стала крыху больш, а дыхаць — цяжэй: спякота ўбіралася ў сілу, жорстка выцясняючы з салона ранішнюю прахалоду.

Праз хвіліну вандраванне прадоўжылася. Наступны прыпынак у яшчэ адным горадзе з яго дзяцінства — Любані, які асабліва нічым Аляксею не запомніўся. Для яго проста гэта быў чарговы прыпынак на шляху да сталіцы…

## 3

Быў п'янкі ад летняй спёкі школьны выпускны…

Аляксей Савіч усё ж такі атрымаў нядрэнны атэстат, хоць мог, па меркаванні настаўнікаў, праявіць у апошні год вучобы больш стараннасці.

Пасля афіцыйных урачыстасцей, якія закончыліся пад самы вечар, выпускны клас на некаторы час застаўся на другім паверсе без настаўнікаў. Пасля адзінаццаці ўсіх староннiх (восьмыя, дзявятыя класы) выпускнікі папрасілі выйсці з залы, ім хацелася самім крыху разам пабыць у роднай школе. Тым часам настаўнікі па традыцыі, якая ўсталявалася ў школе даўно, сабраліся ў настаўніцкай і пакрысе пілі шампанскае, якое загадзя падрыхтавалі бацькі выпускнікоў. А ўчарашнія дзесяцікласнікі, скінуўшы з зацёклых ног новы абутак, узяўшыся за рукі, сталі ўкруг, пачалі скакаць пад новы эстрадны хіт. Усе гучна, весела падпявалі вядомай групе, нібы кляліся: «Калі не расстанемся, значыць, не састарымся…»

Набліжалася поўнач. Неяк так атрымалася, што яна, Галка, апынулася побач з Алёшам. Рука Анёла, такая тонкая і далікатная, раптам з'явілася ў яго руцэ, а іх вочы сустрэліся.

Сысці адсюль ціха і неўзаметку — прапанавала дзяўчына.

— Давай збяжым ад усіх, — горача прашаптала яна яму.

— Куды? — усхвалявана і адначасова здзіўлена перапытаў ён.

— Куды-небудзь… Мы будзем адны… — у яе вачах не было насмешкі.

Быццам даўно чакаючы пачуць менавіта такія словы ад Анёла, Аляксей прапанаваў:

— Можа, пойдзем у калгасны сад…

— Не, давай пойдзем на арэлі, — сказала яна і ўсміхнулася. — На Горку.

— Пойдзем, — хвалюючыся, пагадзіўся Аляксей, не разумеючы пакуль, што адбывалася. Але ж ён даўно прыкмеціў: там, ля цэнтральнага ўваходу ў школу, тоўпяцца ранейшыя яе кавалеры. Няўжо яны ёй надакучылі? Ці не таму яна і хоча сысці так, каб ніхто гэтага не заўважыў? Ды яшчэ так далёка! Горка — вунь дзе, у паўночнай частцы вёскі. Адначасова юнака хвалявала і іншае: што ж магло здарыцца, каб яна, нарэшце, звярнула на яго ўвагу?

— Не здагадаюцца нас на Горцы шукаць, — нібы пацвердзіўшы ягоныя здагадкі, сказала Галка і неяк вінавата ўсміхнулася.

Яны выйшлі са школы праз запасны выхад (іх выпусціла добрая цётка Ніна, прыбіральшчыца), не чакаючы, калі аднакласнікі разам з класнай і дырэктарам або фізруком пойдуць сустракаць світанак.

Аляксей і Галка, узяўшыся за рукі, ішлі па аціхлай вёсцы. Маўчалі. Але абаім было добра. Дыхалася лёгка парным паветрам, якое, зрэшты, калі паварачвала на раніцу, трохі астуджалася слабым ветрыкам. Галчына белая сукенка выдавала ледзь улоўны шолах. То тут, то там цішыню парушалі дварнякі, што ахоўвалі гаспадарскія двары. Дарога была доўгай, але Аляксей з Галкай, здавалася, хутка дайшлі да абранага месца.

Горка — невялікае ўзвышша з жоўтага пяску, леваруч ад вёскі, каля кар'ера, выкапанага некалі будаўнікамі шашы рэспубліканскага значэння — сустрэла хлопца і дзяўчыну празрыстым месяцовым святлом, якое срэбрам прабівалася праз разгалістыя высокія дрэвы.

Яны доўга гушкаліся на арэлях, разам і па адным, сягаючы да верхніх густых галін хвой. Гэта быў сапраўдны цуд! Галка смяялася з Аляксеевых жартаў, а ў хлопца тады адкуль толькі яны браліся! Жартаваў, але на душы чамусьці было неспакойна. Усё гэта было за межамі яго разумення: як магло

здарыцца, што Анёл з ім? Чаму? Ды нават не мог ён марыць аб гэтым, тым больш у апошні вечар развітання са школай!

На душы ў яго тварылася нешта незразумелае і невытлумачальнае. Як выкрасліць з памяці ўсё тое чорнае, што ён раней пачуў пра яе? Старэйшыя хлопцы-аднавяскоўцы апошнім часам асабліва не саромеліся хваліцца тым, што яны нібыта вытваралі з Галкай. Праўда, хваліліся загадкава, намёкамі, часта падкрэслівалася, што нібыта ў некага з ёю было такое, што... І тут жа: «З твару — нічога, а так — дзеўка як усе…»

Зрэшты, дрэнна аб ёй, Анёле, казаць пачалі зусім нядаўна. Да гэтага мясцовыя юныя донжуаны пабойваліся яе старэйшага брата, які тады жыў у вёсцы. Але ж мінулай восенню ў Вятчын прыйшла сумная вестка: яго абрабавалі, забілі і выкінулі з цягніка, калі вяртаўся аднекуль з Расіі, з заробкаў. Бачыць мёртвага Міколу было нельга. Знявечаны, ён доўга ляжаў у трупярні недзе ў Падмаскоўі пакуль ішло расследаванне. Пахавалі, нават не адкрываючы дамавіну… Засталася дзяўчына з несуцешнай маці, якая, казалі, з гора запіла, ды зусім стала старэнькай бабулькай…

Божа, як жа спачатку Аляксею было балюча слухаць кепскае пра Галку! Ён праклінаў усю вёску, якая так непаважліва ставілася да яго Анёла, яго мары. І толькі праз нейкі час, відаць, пасталеўшы, хлопец крыху супакоіўся. Пачаў упарта вучыцца. Галку стараўся не заўважаць, як і яна не заўважала яго. І, праўда: хто яна такая, каб ён з-за яе гэтак даймаў сябе? Каму патрэбна такая ахвяра? І паступова нібы пагадзіўся з тымі, хто плявузгаў пра Анёла кепскае: можа, і праўда…

А Анёл, ганарлівая і непрыступная для яго, працягвала тым часам вучыцца на выдатна і па-ранейшаму зводзіла з розуму сельскіх хлопцаў, якія на кулаках за школай заваёўвалі права быць яе чарговым праважатым. Адно Аляксей ведаў — яна нікога не выбірала сама. Яе выбіралі! І гэта было яшчэ адной акалічнасцю не на яе карысць.

І раптам — як гэта зразумець? — яна зараз з ім, побач, з тым, каго яшчэ ўчора не заўважала, і хто марыў хоць аднойчы пабыць яе праважатым, але не станавіўся ў чаргу, каб займець на гэта права…

— Ты, Алёша, такі… — Галка раптам усміхнулася сваёй прыгожай усмешкай. У святле месяца бліснулі яе вочы. Ён разгойдваў арэлі, цёплы ветрык раздзімаў лёгкую, беласнежную, як у нявесты, сукенку дзяўчыны.

— І які ж? — здзівіўся хлопец, адарваўшыся ад сваіх думак.

Яна не адказала, толькі загадкава ўсміхнулася.

## 4

— Мамка, а куды ты сёння збіраешся? — Алежык, светлавалосы хлопчык-сонейка глядзеў на маці пакрыўджана. — Не хочаш казаць? Дык я сам ведаю — куды.

Галіна ўсміхнулася, далікатна і спагадліва, пагладзіла сыночка па галоўцы, хоць на душы ў яе было нялёгка, спытала:

— І куды ж, мой мядзведзік?

— Я бачыў. Гэтая тэлеграма на тэлевізары… Ты так знервавалася ўчора, нават плакала. Я ўсё бачыў. А ты ж мне абяцала, што ніколі не будзеш плакаць…

— Шчасце маё, даю табе слова: я ніколі больш не буду плакаць, толькі ўсміхацца. У нас усё будзе добра, так, Алежка?

— Так, я вельмі люблю цябе. Ты, па праўдзе, нікуды не паедзеш? Паабяцай тады! — узрадаваўся хлапчук.

— Я не ведаю, мой мядзведзік. Мне, мабыць, трэба з’ездзіць у адну вёску. Я там, разумееш, нарадзілася. Там жылі мае тата, мама, брат, бабуля. Я вучылася там у школе. Разумееш, як табе толькі растлумачыць… Маладая была, мне тады было менш гадоў, чым нашаму Міколку. Дурнічка зусім… І здзейсніла недаравальную памылку…

— Мамка, я ведаю, як завецца гэтая вёска. Я прачытаў у тэлеграме — Вятчын?

— Здагадлівы ты мой сыночак! Гэта назва маёй вёскі. Менавіта адтуль прыйшла тэлеграма.

— А што яна азначае?

— Вось табе на, я нават і не задумвалася ніколі. Кажуць, нейкі вялікі чалавек там жыў, у царыцы служыў. Хаця ж, ведаеш што.… Вось я паеду, у адной бабулькі і распытаю, калі яна жывая, — разгубілася Галіна Пятроўна, злавіўшы сябе на думцы: яна сапраўды мала што ведае аб сваёй вёсцы, а ёй, настаўніцы, недаравальна гэта, нядобра.

— А царыца — гэта хто?

— Некалі цары кіравалі ў нашай дзяржаве, гэта былі самыя галоўныя людзі.

— А калі ты паедзеш?

— Вечарам, мусіць. Міколка наш прыедзе бліжэй да абеду, ты з ім застанешся.

— Ура, брацік прыедзе! — заскакала на канапе дзіця. Гэтая яго шчырая радасць перадалася і жанчыне. Галіна, пацалаваўшы хлопчыка, накіравалася ў кухню, каб прыгатаваць сынам ежу на заўтрашні дзень.

Яе ўсё ж вельмі ўсхвалявала тэлеграма. За сваім маленькім шчасцем, што раптам пасялілася ў яе кватэры, напоўніла яе жыццё, яна зусім забылася аб тым, што яшчэ пяць гадоў таму, падчас чарговай сустрэчы выпускнікоў, на якой яна была, усе дамовіліся зноў абавязкова сустрэцца ў гэтым годзе. І ўвогуле, яна не прапускала ніводнай сустрэчы аднакласнікаў. Яна ездзіла ў вёску і на дзесяцігоддзе, і на пятнаццацігоддзе і дваццацігоддзе заканчэння школы, ездзіла з адной надзеяй: а раптам… Тыя гадзіны сустрэчы з аднакласнікамі праходзілі цудоўна, яна нібы і радавалася такім сустрэчам, аднак на душы заўсёды было журботна — не збылося… І кожны раз Галіна спадзявалася, што здарыцца нейкі цуд, і яна скіне з душы той цяжар, які з маладых гадоў гняце. Яна спадзявалася на выпадковасць, але цуду не адбывалася, не здаралася. І яна зразумела, што ў гэтым вінаватая сама...

Потым усё забывалася, на чарговыя пяць гадоў. І вось яна зноў выбіраецца ў дарогу, зноў спадзяецца на цуд…

Галіна вырашыла, што абавязкова трэба засмажыць у духоўцы курыцу, каб сыны, пакуль яна будзе адсутнічаць, былі забяспечаны ежай. Хлопцы ж вельмі любяць курынае мяса. І, усміхнуўшыся сабе, прынялася націраць тушку соллю і пахкімі прыправамі. Гатаваць яна любіла. У гэты момант ёй, занятай справай, успаміналася іншае, шчаслівае і гаротнае, што змяніла яе жыццё і прынесла ў яго гэтулькі радасці. Але за гэтых дваццаць пяць гадоў шмат самых розных падзей адбылося ў яе жыцці, адны змяняліся другімі, і было такое, што ад яе ўжо чамусьці не залежала…

## 5

Другую частку доўгага шляху ў родную вёску Аляксей Мікалаевіч Савіч разважаў аб сваім жыцці. Было яно markрознае і няпростае. Зрэшты, ён на яго, здаецца, не мог паскардзіцца.

Ён любіў сваю прафесію, выкладчыцкую працу. Ён шмат дасягнуў у навуковай дзейнасці, стаў вядомы. Аўтар і сааўтар шматлікіх навуковых прац і кніг. Член некалькіх творчых саюзаў і навуковых саветаў. Дзесьці ў чымсьці перамагаў, атрымліваў прызнанне як профі на дзяржаўным і нават міжнародным узроўні. Але любое чарговае лаўрэацтва ніколі не грэла яго самалюбства. Ён нямала і ахвотна ездзіў па краіне, пабываў шмат дзе за мяжой. Аднак, як разумеў, усё гэта было не толькі ж дзеля адной цікаўнасці. Здаецца, увесь час ён нешта або некага шукаў.

Так, ён проста любіў жыццё. Добрае, уладкаванае. Хапала грошай у яго, таму і ў бытавым плане — усё будаваў, як хацеў. Была кватэра, машына. У прыгарадзе Санкт-Пецярбурга летась набыў дачу. Невялікую, але ўтульную. З садам і сучасным ландшафтным дызайнам…

Што ж, нават у свае сорак два ён выглядаў яшчэ някепска. Праўда, на галаве ўжо ўгадваецца рэдкая сівізна. Але, здаецца, яна не псавала яго, гэтага вышэй сярэдняга росту хударлявага, падцягнутага мужчыну. Увогуле, ён яшчэ быў зайздросным кавалерам, як кажа яго малодшая сястрычка Зінка. Брата яна любіла і хацела любымі спосабамі перацягнуць яго на ПМЖ на гістарычную радзіму. Але ён казаў у адказ, маўляў, нічога ў цябе не выйдзе, мне і ў Расіі добра. Упіраўся, як мог: проста звыкся з расійскай рэчаіснасцю, з жорсткім жыццём, якое не дае паслаблення. Можа, дзякуючы гэтаму, тут ён і адбыўся як вучоны. Яго амаль усё задавальняла ў Піцеры, дзе жыў і працаваў. Галоўнае, там ён змог рэалізаваць сябе ў поўнай меры. У Беларусі, калі б вярнуўся, трэба было б шмат што пачынаць зноўку, заводзіць новыя знаёмствы, па-новаму ладзіць быт. Ён нават мову пачаў забываць. Хаця яму было дзіўна, што землякі ў сябе дома самі сталі свядома адмаўляцца ад яе, не разумеючы, што ў такім выпадку можа чакаць іх наперадзе…

Але што ўтойваць, тым не менш яго ўсё больш і больш цягнула сюды, у чысценькі, прыгожы, утульны Мінск. Сёстры і мама часта гасцявалі і ў яго, робячы разнастайным Аляксеева халасцяцкае жыццё. Тады, гледзячы на іх, самых родных яму людзей, ён часта думаў, што, можа быць, у гэтым іх пастаянным клопаце аб ім, дарослым мужчыну, і ёсць сэнс чалавечага шчасця маці і сясцёр? Але ці было поўным, шчаслівым жыццё ў яго? На гэтае пытанне Аляксей чамусьці баяўся шукаць адназначнага адказу...

— Сынок, вы не прыадчыніце люк? — раптам звярнулася да Аляксея сівалосая бабуля, якая сядзела справа. — Задыхнуцца можна.

— Добра, я крышку прыадчыню. — Ён падняўся са свайго месца, адрэгуляваў становішча люка і вярнуўся назад.

Бабуля бяззуба ўсміхнулася.

— Дзякуй, сынок.

— Няма за што.

Яны толькі выехалі за Любань і, абмінуўшы дарожнае кальцо, павярнулі ў бок Жыткавіч. Нечакана на дарожным указальніку Аляксей прачытаў знаёмую назву і затаіў дыханне. Ён не памятаў, каб раней тут стаяў такі знак — указальнік на родную вёску. Ад убачанага, нібы сустрэў земляка, палепшыўся настрой, з’явілася адчуванне нейкага гонару: не кожны населены пункт годны таго, каб яго згадвалі ў шляху!..

Знікалі з аўтобусам кіламетры. Да роднай вёскі заставалася ехаць каля гадзіны. Аляксей усё больш і больш хваляваўся, нібы збіраўся на першае спатканне. Ён чамусьці баяўся гэтага моманту — сустрэчы з ім, сваім дзяцінствам.

У памяці ўсплыла нядаўняя размова з другой сястрой, з Кацькай. Яна казала, што іх вёска выраджаецца. Яму не хацелася верыць у гэта. Яму зда-

валася, што ён, як прыедзе ў Вятчын, вернецца ў тую ж вёску, якую некалі пакідаў, як тады лічыў, назаўжды. Але сказанае Кацькай неяк пацвердзіла і Зінка: ад ранейшага зусім мала там засталося. Хтосьці з'ехаў, хтосьці памёр. Калгас, які некалі лічыўся далёка не горшым, з часам нібы змарнеў, яго даўно далучылі да суседзяў. А вяскоўцы, хто застаўся ў вёсцы, не маглі даравацъ кіраўніцтву, якое, выконваючы ўстаноўку «звысоку», згадзілася на ўзбуйненне гаспадаркі. Па даведзенай «зверху» разнарадцы праводзілася ўзбуйненне гаспадарак, і эксперымент атрымаўся толькі на паперы. Аб людзях ніхто і не збіраўся думаць, і яны пачалі шукаць лепшай долі ў іншых, чужых мясцінах.

Няўжо гэта так? Аляксей не хацеў верыць сёстрам: апошняе дзесяцігоддзе беларусы гэтак настойліва дэманструюць сваю гаспадарлівасць, парадак і дысцыпліну. Прыкладаў клопатаў пра вёску ён мог прывесці сотні. Ды, скажам, у адрозненне ад расійскай сельскай рэчаіснасці ў Беларусі і вёскі адраджаюцца, у іх будуюць аграгарадкі. Значыць, усё робіцца на карысць людзям. Пра ўсё гэта ён чытаў у Піцеры. Цяпер на ўласныя вочы пераконваўся, бачачы з акна: усё так. Але, які прыгожы малюначак за вокнамі аўтобуса — палі дагледжаныя, жыта ў рост чалавека, залюбуешся. У прыдарожных вёсках зайздросная чысціня, паўсюль роўныя пафарбаваныя платы, новыя катэджы. Ды што там казаць: кароткія візіты ў Мінск і прысталічча, дзе ў сясцёр дачныя катэджы, пераконвалі Аляксея, што менавіта так паўсюль у краіне, якая дала яму жыццё.

Вядома, думалася, што ў глыбінцы можа быць горш, але ж ці трэба было сёстрам маркотна і толькі чорнымі фарбамі маляваць жыццё ў роднай вёсцы, дзе ў час яго дзяцінства было ледзь не паўтары тысячы жыхароў? Не, думаў ён, тут нешта не так. Вёску ж і чарнобыльская трагедыя — ён адсочваў гэта — не кранула. Няўжо праўда, што яна ў заняпадзе?

Пытанне, на якое ён ужо два дзясяткі гадоў загадваў сабе не шукаць адказу, бо яго проста нельга знайсці, раптам за некалькі дзясяткаў кіламетраў ад роднай вёскі загучала ў душы вострым ранейшым болем. Аляксей ізноў падумаў, што, вяртаючыся назад, ён робіць вялікую памылку. Але што ён і калі зрабіў не так, як трэба і ў чым памыліўся, каб потым расплачвацца за гэта ўсё жыццё?.. Ён гатовы прама, не саромеючыся, паглядзець у вочы ўсім сваім аднакласнікам, настаўнікам, землякам — яму сапраўды няма чаго саромецца…

## 6

Галіна са слязамі на вачах успамінала мінулую восень — такую цяжкую і такую шчаслівую для яе…

Іх было сямёра жанчын — тых, каго лёс сабраў далёка ад родных мясцін. Яны працавалі ў аднаго прысталічнага фермера нядоўга, не больш як тыдзень, а пасля вярталіся дахаты.

З дзённай нормай, нягледзячы на цяжкую працу — секлі і чысцілі капусту, запаўнялі круглякамі-качанамі рознакаляровыя сеткі, — спраўляліся ўсе. Нават яна, Галіна, нязвыклая да такой фізічнай працы. Старалася.

Яна ўпершыню прыехала сюды не за адну сотню кіламетраў са свайго палескага гарадка. Паклікаў абяцаны заробак. Вычытала аб'яву ў раёнцы, што фермерскай гаспадарцы патрэбны рабочыя рукі, патэлефанавала. Рашылася неяк адразу: паеду! А на працы дамовілася, што на гэты час, пакуль будзе адсутнічаць, напарніца заменіць яе, напісала на тыдзень заяву новаму дырэктару, каб даў адпачынак за свой кошт. Той пагадзіўся.

Тое, што чула пра фермера, было праўдай: ён не скупіўся. Як і было агаворана — за тыдзень працы ён выдаваў жанчынам па трыста долараў. Проста ў поле кожны дзень прывозіў для агульнага катла толькі што ахалоджанае мяса, звычайна, свініну, а гародніны тут — колькі хочаш. У абсталяваных пад часовае жытло вагончыках, дзе яны начавалі, былі дзве пліты — гатуй, не лянуйся. І хлеб, белы і чорны, бясплатна. Па бохану таго і другога, як кажуць, на брата. Батоны заўсёды свежыя і дужа смачна пахлі. Ды ўжо толькі імі можна было наесціся з гарачым чаем...

Галіна даўно так смачна і з ахвотай не ела, як тут.

А як яна раней любіла свежае печыва! Стройная, высокая, яна ніколі не мела клопату з паўнатой, у адрозненне ад сваіх былых каляжанак амаль штодня, вяртаючыся са школы, з задавальненнем купляла сабе ў райпоўскай краме пахкую свежавыпечаную пышку-здобу. Добра, што крама побач са шматпавярхоўкай, дзе была яе двухпакаёвая кватэра.

Муж заўсёды зваў яе ласкава — ласухай. Але калі ж тое было?!

Даўно ўжо няма яго побач з ёй, яе Міхаіла. І сын ужо вырас, трэці год вучыцца ў Мінску. Нябога, адначасова працуе. Але што тут зробіш?..

Жанкі «ў заробках» былі амаль аднолькавыя па ўзросце. Самая маладзейшая, Верка, толькі нядаўна размяняла пяты дзясятак. З Галінай амаль равесніцы. Верка тут — старажылка, бо працуе без перадыху трэці тыдзень. Толькі аднойчы з’ездзіла на дзень дахаты, каб аддаць грошы маці, якая гадуе яе дзяцей, і пабачыць іх. Галіна дагэтуль здзіўлялася: як у Веркі хапіла волі кінуць у горадзе, дзе жыла, прапойцу-мужа і падацца ў забытую Богам і людзьмі вёску?

— А дзе я яшчэ столькі зараблю? — адказвала яна пытаннем на пытанне Галіне, і тая неяк адразу пранiклася да яе даверам. — Ад майго барбоса не аліменты, а слёзы! А дзевак на зіму трэба адзець і абуць... Растуць бы дылды. Я ж фельчарам-лабарантам працавала ў бальніцы, у хаце мужавай маці жылі. Спытайся: якое ж там жыццё? Гора цэлае. Не вытрымала… А ў вёсцы работу добрую хіба знойдзеш? Прасілася даяркай у саўгас — паставілі на чаргу…

І — заплакала.

Галіна больш не кранала балючага. І сама плакала. У самой немаведама што творыцца на душы. Але пра гэта расказаць не магла нікому. Унутры столькі не перагарэлага жыццёвага, і яно ўсё яшчэ смыліць, не дае спакою…

Яны хораша здружыліся, у пары днём спявалі, у перапынках паміж спевамі ўспаміналі кожны сваё — жаночае, добрае. Балючае не кранаалі. Так праходзілі дні.

А начамі ад стомы, цяжкай працы вельмі ныла спіна і гудзелі натруджаныя рукі, і Галіна ніяк не магла заплюшчыць вачэй — плакала ў падушку. Слёзы міжволі цяклі і цяклі, і перад ёй у каторы раз нібыта зноўку пражывалася, прабягала ўсё яе жыццё. Божа, ды за што з ёю так?!

## 7

— Нейкі незямны ты, Алёшка. Летуценнік… — ціха сказала тады Галка. І самотна дадала: — Вось толькі пра што марыш, баішся сказаць…

— А гэта дрэнна, ты лічыш?

— Не, гэта выдатна, — дзяўчына ўсміхнулася і, відавочна, падбіраючы патрэбныя словы, праз некалькі хвілін прадоўжыла. — Але… неяк дзіўна, што на свеце яшчэ засталіся такія людзі. Не, не дзіўна, хутчэй, незвычайна. Я, прызнаюся, заўсёды цябе паважала: ты, як мне здаецца, ведаеш, чаго хочаш.

І свайго даб'ешся. Мусіць, дзякуючы таму, што, як і Колька, мой няшчасны брат, ідэалізуеш свет. А ён далёкі ад дасканаласці, на жаль…

— Гэта ўжо нешта з вобласці філасофіі, — засмяяўся Аляксей. — Не, я не ідэалізую. Нікога і нічога. Тут я з табой не пагаджуся. Проста люблю ўсё на свеце. І гэтыя арэлі, і гэтыя хвоі, і гэтыя лавачкі, і валейбольную пляцоўку перад намі, і гэтыя бярозкі… Людзей, вядома, таксама люблю.

— А мяне ты таксама кахаеш? — дапытліва спытала Галка.

Ён змоўк. Пытанне заспела яго знянацку. Не ведаў, як быць. Сказаць праўду? Усю даастатку? Сказаць, што вось ужо два гады пакутуе ад кахання? Ён, нібы вар'ят, кожны раз па-новаму перажываў, калі пасля чарговай школьнай вечарыны яе праводзіў які новы пераможца кулачнага бою. І знішчаў сябе: чаму ж не ён, Аляксей? Як ён у такія моманты ненавідзеў яе!..

Зрэшты, ён самакрытычна ацэньваў сябе. Няўжо мог ён, сярэдняга росту хударлявы хлопец, які нічым не адрозніваўся ад іншых, калі не браць у разлік, што больш-менш паспяхова вучыўся, прэтэндаваць на тое, што належала, здавалася, больш сімпатычным, і, галоўнае, больш дужым? Бо ў іх вёсцы сіла заўсёды была ў пашане. Розум — потым.

Можа, усё ж такі, менавіта цяпер варта сказаць пра ўсё, што адбываецца ў яго сэрцы і на душы?.. А раптам — пасмяецца з яго? Але чаму ён сумняваецца ў яе шчырасці? Яна ж сама зрабіла першы крок! Дык чаго ж мучаешся, дурань, — пытаў ён сам у сябе, — твая мара побач, яна з табой гаворыць, і ў цябе ёсць шанец…

— Зараз я ўжо і не ведаю, — ціха адказаў ён, пхнуў арэлі і раптам адступіўся да сасны.

— Не ведаеш? — здзівілася Галка.

Аляксею здалося, што яна расчаравалася, пачуўшы такі яго адказ. У тую ж хвіліну дзяўчына спрытна саскочыла з вузкай дошкі-сяданкі, прыкручанай вінтамі да арэляў, падышла да яго, стала побач.

— А раней ведаў? — спытала ціха.

— Галь, гэта няпроста… — усхваляваны Аляксей апусціў вочы. — Я не ведаю, што адбываецца са мной… Я так даўно ўжо…

— Кахаеш мяне… — ціха дапоўніла Галка. — І, мусіць, ненавідзіш. Усё з-за гэтых плётак. Так?

Яна таксама расхвалявалася. Змоўкла. На даляглядзе з'яўляліся першыя светлыя водбліскі новага дня. Дзяўчына глядзела на хлопца, не адводзячы вачэй.

— Галь… — нясмела пачаў ён.

— Я не такая, Алёша, — прашаптала раптам Галка. — Зусім я не такая, як у вёсцы пляткараць. Я… змагу гэта… ты разумееш… зрабіць, калі пакахаю. Або толькі тады, калі буду ўпэўнена, што мяне сапраўды кахаюць.

— Божа, я ні пра што такое і не думаў.

Аляксей нясмела дакрануўся да рукі дзяўчыны і тут жа адхіліў — яна была халодная, нібы лядоўня. Вось жа, дурань, не здагадаўся, што дзяўчыне холадна! Хутка ж світаць будзе… Ён таропка зняў пінжак і акуратна накінуў яго ёй на плечы.

Галка не адмовілася. Яна маўчала. Але раптам яе худзенькія плечы задрыжалі, і ён адчуў, што ў яе на душы творыцца нешта нядобрае. Дзяўчына заплакала.

— Што з табой?

— Ты мне не верыш? Хто мне тады паверыць, калі не ты? Нават маці мной пагарджае. Дрэнна мне з ёй, разумееш? Як гэта жыць і не любіць сваёй маці…

Яна зусім, акрамя гарэлкі, ні пра што не думае… — Галка ўся дрыжала. — А ты… ты ж мяне кахаеш, кахаеш, я гэта адчувала заўсёды, але проста ты такі нерашучы. І я… цябе таксама…

— Галка, гэтага не можа быць… — ён быў здзіўлены такому яе нечаканаму прызнанню і разгубіўся.

— Думаеш, я сляпая? Бессардэчная дзяўчынка? — Галка выцерла слёзы рукавом пінжака і глядзела на яго закахана. — Я даўно ўсё зразумела. Ты можаш не згаджацца, але я ведаю гэта дакладна. Маё сэрца мне падказвае…

**8**

…Яна заўсёды вельмі хвалявалася, чакаючы першага верасня. Яшчэ з той далёкай пары, калі бацькі ўпершыню прывялі яе ў першы клас, у яе душы, калі задоўга да першага верасня думала пра школу, засталося адчуванне нечага светлага і сапраўднага. І чым бліжэй было да гэтай даты, тым больш ярка ўспыхвала гэтае светлае і хвалюючае цяпло, якое часам і трывожыла: ці ўсё будзе добра… Хаця чаго цяпер ужо хвалявацца: яна засталася на працы! Ды ці магло быць іначай? Тут, у спецыяльнай школе, Галіна Пятроўна адпрацавала ажно шаснаццаць гадоў. Здаецца, тое было ўчора: перайшла сюды з вясковай школкі, каб падмяніць настаўніцу, якая знаходзілася ў адпачынку па доглядзе дзіцяці. Хутка праляцелі два гадкі, і калі тая настаўніца выйшла на працу, Галіна згадзілася застацца тут на выхавальніцкай пасадзе: так прыкіпела да гэтай школы, што хоць пасля і вызвалялася месца настаўніка-прадметніка, не займала яго.

Гады, зменлівы час… Змяняўся статус школы, была яна і інтэрнатам, і са спецухілам, а Галіна Пятроўна ва ўсе часы заставалася з выхаванцамі пасля ўрокаў, жыла іхнімі клопатамі, іх болем.

Яна любіла сваіх хлопчыкаў і дзяўчынак, гэтых маленькіх людзей, невядома за што пакрыўджаных лёсам. У іх вачах столькі было болю! Яе любілі дзеці, звалі мамай. Ішлі гады. Дзеці раслі, сталелі і як птушкі выляталі з гнязда ў дарослае жыццё. І многія, звычайна, вось дзіва, так званыя самыя цяжкія, стаўшы самастойнымі, слалі ёй віншаванні, прыязджалі ў госці, прызнаваліся, што сумавалі без яе, выхавальніцы, іх прыёмнай маці.

Апошнія гады дзяцей у школе меншала: дзяржава актыўна прапагандавала выхаванне ў сям'і. Начальства не хавала, што інтэрнат у любы момант могуць расфарміраваць. Прыкра, але што зробіш. Магчыма, яе пакінуць тут. Без працы, відавочна ж, не застанецца. Яна ж не проста выхавальнік, а выхавальнік вышэйшай катэгорыі. Няўжо, калі што, не знойдзецца ёй месца ў родных сценах?

Калі апошніх дзетак забіралі ў іншы інтэрнат, ніхто з былых Галіных калег не прыйшоў з імі развітацца. Дый не дзіва: усе, акрамя яе былі працаўладкаваны — хто дзе. Яна ж наплакалася за ўсіх, абняла кожнае дзіця і пацалавала на дарогу. А вось Алежка Мыслюк, маленькі хлопчык, з паўнюткімі ад слёз сінімі, як неба, вачыма, абняў за шыю Галіну сваімі худзенькімі ручкамі і моцна-моцна, жаласліва папрасіў:

— Мама Галіна, забяры мяне!

Здавалася, яе сэрца ад адчаю разарвецца на часткі: не можа яна! Не можа яго зараз забраць. Ёй жа адной цяпер так цяжка жыць — сыну трэба яшчэ столькі дапамагаць…

Толькі і змагла шапнуць на вушка свайму маленькаму мядзведзіку, так яго звала заўсёды, свайго Алежку:

— Я буду табе тэлефанаваць…

— Абяцаеш?

— Абяцаю, дарагі. Толькі слухайся там, на новым месцы, вучыся як след…

— Я буду чакаць цябе, мама Галіна…

Ажно два месяцы стаяў у вушах яго роспачны голас: «Я буду чакаць цябе, мама Галіна…»

На наступны дзень з дому яна патэлефанавала ў той інтэрнат, куды забралі яе выхаванцаў. Пагаварыла з кожным з чатырох дзетак, каго не разабралі прыёмныя бацькі. А Алежка чамусьці адмовіўся падысці да тэлефона...

Плакала ўсю ноч. Але заўтра было першае верасня...

— Галіна, што з табою?.. — прахапілася раптам Верка, пачуўшы яе стогны. — Чаго ты не спіш?

— Спі, Верка, спі, — супакоіла напарніцу Галіна Пятроўна і адвярнулася да сцяны. — Я засынаю ўжо.

— Давай, сяброўка. Заўтра твой апошні дзень. Заўтра гарбаціцца зноў, — сонна ўздыхнула тая.

— Так…

Але ж растрывожанае Галініна сэрца не давала ёй спакою…

… — А вы чаго тут? — новы намеснік дырэктара гімназіі, Галіна Пятроўна яшчэ і прозвішча гэтага новага адміністратара не запомніла, спыніла яе на школьным двары напаўдарозе да лінейкі, дзе стаялі настаўнікі, здзіўлена залыпала чорнымі вачыма.

Галіна Пятроўна, прыбраная як заўсёды на першае верасня, нават у цырульню збегала, хацела стаць поруч з імі. У новым калектыве, дзе ёй цяпер давядзецца працаваць, са старога засталося толькі некалькі чалавек. І яна шчыра радавалася, што яе пакінулі амаль на ранейшым месцы, нават абавязкі мала зменяцца.

— А куды мне стаць? — здзівілася яна. — Не з прыбіральшчыцамі ж?

— Чаму і не? Праца памочніка выхавацеля — тэхнічная…

Здавалася, абвалілася пад нагамі зямля. Ледзь стрымліваючы сябе, каб не заплакаць пры ўсіх, яна схавалася сярод бацькоў. Кветак у гэты дзень Галіна не дачакалася ўпершыню за дваццаць гадоў працы з дзецьмі…

Адразу пасля лінейкі пастукалася да дырэктара. Новы кіраўнік прыняла добразычліва. Выслухала. Зразумела, што адбылося, пацвердзіла:

— Пасада выхавацеля цяпер скасавана, і вы, Галіна Пятроўна, самі ў аддзел кадраў напісалі заяву аб пераводзе вас на пасаду памочніка выхавацеля, а фактычна згадзіліся працаваць начной няняй. Па статусе — гэта пасада не адносіцца да педагагічнай. Адпаведна вы губляеце права на водпуск і ўсе, хоць і малыя, настаўніцкія прывілеі. Гэта быў ваш выбар…

— Але я не ведала, мне сказалі на ліквідацыйнай камісіі, што на гэтай пасадзе ў мяне толькі зарплата будзе крыху меншай, а ўсё астатняе не зменіцца. Я ж так хацела застацца тут працаваць, — не стрымалася і заплакала яна.

— Ну, я ж нічога гэтага не ведала, — сумелася малады дырэктар. — А па адукацыі вы хто?

— Закончыла геаграфічны факультэт. Некалі і біялогію выкладала. Але амаль пятнаццаць гадоў працавала выхавальнікам. У мяне вышэйшая катэгорыя, — Галіна Пятроўна з надзеяй паглядзела на дырэктарку.

— Мне вельмі шкада, але вакансій цяпер няма. Звярніцеся ў аддзел адукацыі, можа, у іншых гарадскіх школах што ёсць.

— Прабачце, — Галіна Пятроўна ледзьве жывая выйшла з кабінета.

Дадому ішла — не бачачы дарогі.

«Гэта ён, ён адпомсціў мне, Міхаіл!» — запульсавала і ўжо не сыходзіла з галавы нечаканая здагадка…

З Міхаілам, былым мужам, яна не размаўляла з таго часу, калі стамілася чакаць дзіця. У маладосці ў яе здарыўся выкідыш, а пасля яна не магла зацяжарыць. Можа, таму і пайшла на працу ў інтэрнат — там столькі дзетак, якія нікому не патрэбны…

…— Мамка, а ты чаго сядзіш такая? Гэта я цябе знерваваў? Прабач, я больш так не буду, — Алежык кінуўся да яе, абняў маленькімі цёплымі ручкамі.

— Не, што ты мой мядзведзік, — паспрабавала ўсміхнуцца сыну Галіна Пятроўна. — Так, ведаеш, успомніла нешта, не вельмі добрае. Але я не буду плакаць, я ж табе абяцала.

— Праўда-праўда? — узрадаваўся хлопчык.

— Праўда-праўда… Бяжы ў пакой, гуляй, Алежык. А ў мяне многа-многа спраў… Трэба ж вам з брацікам ежу прыгатаваць на цэлы дзень. Я ж паеду, мне неабходна, а вы тут дома будзеце адны. Не засумуеце? — усміхнулася Галіна.

Хлопчык уважліва паглядзеў на яе, сказаў:

— Мама, едзь, не хвалюйся. У нас усё будзе добра. Мы ж цябе слухаемся.

— Слухаецеся, родныя вы мае.

Алежка пабег у другі пакой.

Яна спрабавала нешта рабіць, але з-за ўспамінаў хацелася плакаць і ўсё чамусьці валілася з рук.

## 9

…Галка аціхла. Дзяўчыне нялёгка даваліся словы. Ён гэта адчуў, і ўжо не патрабаваў нейкіх тлумачэнняў. Але Галка нібы разгадала яго думкі.

— Я не магла пярэчыць, каб мяне хтосьці праводзіў… Загінуў Мікалай, і ўсё стала іначай. Дома — суцэльны кашмар, маці п’е, а бабуля… Бабулю мне вельмі шкада, старэнькая, няшчасная. У школе мяне не любяць аднакласніцы. Ды і настаўнікі. І гэтыя… праважатыя. Яны псіхалагічна зневажалі мяне. Гэта самае страшнае. А абараніць — няма каму, ты ж ведаеш. Я заўсёды ўцякала ад хлопцаў. Жудасна баялася толькі ж траіх — Сяргея Касога, Мішу Сароку і Валеру Паліпчука. Кавалеры тыя — смех: рукі ў драпінах, нос часта разбіты да крыві. Прывязаліся — не адчэпішся. Нібы я лялька бессардэчная… Адна бабуля не верыла ў гэтыя плёткі. Яна ніколі, калі вечарам мяне не было дома, не клалася спаць. Яна заўсёды пасля кожнай школьнай вечарыны чакала мяне ў сенцах альбо на лавачцы ля брамкі. Бывала, калі я вярталася з вечара, ішла мне насустрач. Бабуля яшчэ здалёк клікала мяне, каб усе на вуліцы чулі, і каб нічога са мной кепскага не здарылася. А я тым часам ад хлопцаў уцякала. Аднойчы да мяне стаў чапляцца Паліпчук… Скруціў рукі, заціснуў рукой рот. Я зразумела, што здарыцца непапраўнае. Але, на шчасце, падаспела бабуля, і паляніцай агрэла майго крыўдзіцеля па спіне, ён ажно завішчаў ад болю і збег.

Пасля таго, калі мяне зажадаў гэты прыблуда, а бабуля мяне выратавала, я жыла ў пастаянным страху.

— Галка, можа, не варта, — ціха паспрабаваў спыніць засмучаную дзяўчыну Аляксей. Пачутае ўзрушыла яго, ён пераканаўся, што яна не распусная,

як пра яе кажуць, здавалася, з плеч зваліўся невыносны цяжар, які прыгнятаў яго, і Аляксей з палёгкай уздыхнуў:

— Не плач толькі, калі ласка…

— Я з нецярпеннем чакаю таго дня, калі назаўсёды з'еду адгэтуль. Назаўсёды, разумееш? Хаця мне вельмі шкада, што бабуля застанецца, маці яе загоніць у магілу, калі не спыніцца, не кіне піць. Але тут веры мала…

— Мне так шкада…

— Не шкадуй. Лепш… пацалуй мяне, — дрыжачым голасам раптам папрасіла Галка. — Я даўно марыла, каб ты мяне пацалаваў…

Але ён не змог, не асмеліўся гэта зрабіць, толькі вельмі моцна абняў дзяўчыну, каб сагрэць яе ў сваіх абдымках, і адчуў, як шалёна тахкае яе сэрца, нібы імкнецца вырвацца з грудзей.

Аляксей маўчаў, а Галка, уткнуўшыся галавой у яго плячо, прашаптала:

— Ведаеш, гэтыя падонкі білі кожнага, хто на мяне звяртаў увагу, каму я няўзнак усміхнулася. А цябе я берагла — свядома пазбягала тваіх позіркаў, каб не здагадаліся ні пра што. Берагла для сённяшняга вечара, нібы ведала, што гэтым вечарам усё павінна дрэнна скончыцца…

— А што здарылася? — Аляксей раптам ажно здранцвеў, нічога яшчэ не разумеючы.

Галка заплакала, а ён не ведаў, як яе суцешыць, праклінаў непаслухмяныя рукі, якія чамусьці не асмельваліся дакрануцца да яе цудоўных валасоў, да галавы, да твару.

— Яны… дамовіліся. Даўно. Уся тройка. Я спускалася з другога паверха і выпадкова пачула іх размову. Гэтыя стварэнні стаялі ля акна і абмяркоўвалі, як усё гэта будзе.… Каб пакараць мяне. За ўсё… Што ўцякала, нікому не далася… Ну, яны згаварыліся зрабіць тое, каб я не была больш дзяўчынай. Усё, як яны задумалі, павінна было здарыцца сёння, да сустрэчы світанку. Таму я ўцякла з табой.

— Сволачы…

— Горш…

— Гэтага не здарыцца!

— Здарыцца. Гэта — лёс. І ты будзеш… першым… — дзяўчына рашуча паглядзела хлопцу ў вочы. — Я ўсе апошнія гадзіны толькі пра гэта думала.

— Галка, — у Аляксея, здавалася, сцяла дыханне.

— Маўчы. Я ўсё вырашыла.

— Галка, мілая…

— Лепш з табой, чым з гэтымі падонкамі.

— Галка, я ж і праўда ўвесь час цябе кахаў. І так ненавідзеў! Прабач!

— Я ўсё ведаю.

— Не, ты не можаш усё ведаць! Я…

— Алёшка… — засаромелася раптам яна.

— Што, Галка?

— А ты ведаеш…

— Што?

— Як гэта адбываецца?.. — спалохана прашаптала дзяўчына, сутаргава абхапіўшы яго рукамі за шыю.

— У мяне… яшчэ не было…

Яна прыхінулася да яго, у яе галаве шумела ад неверагоднага хвалявання. Яны абодва замоўклі.

— А… ты не будзеш шкадаваць? — блытана і хвалююча спытаў ён.

— Я кахаю цябе, гэта галоўнае.

— І я кахаю цябе.

— Я вельмі-вельмі моцна, — прашаптала Галка.

— Кахаю цябе…

Пасля няўмелага, амаль дзіцячага, далікатнага пацалунку яны ўсміхнуліся адно аднаму.

Першыя пеўні завялі свае пеназовы, і гэта спалохала іх.

— Пойдзем адгэтуль, — раптам Аляксей рашуча пацягнуў дзяўчыну за сабой.

— Куды?

Галка нават спалохалася гэтай яго рашучасці, ледзь паспявала ўслед.

— Недалёка тут… Там, памятаеш, падчас Усяночнай[1] заўсёды паляць вогнішчы. Ты памятаеш? Летась мы там збіралі бульбу…

Хутка яны дайшлі да ўзлеску. Ля старых дубоў-волатаў, у схаваным ад людскога вока зацішным кутку, пароcлым сакавітым нізкім разнатраўем, чуліся толькі водгукі супернікаў-пеўняў. Але хлопец і дзяўчына не звярталі на іх ніякай увагі. Як і на мокрую расу, і на світанне, якое перамагала ноч. Ашаломленыя нязведанымі дасюль пачуццямі, яны раптам адкрылі адзін аднаму нешта зусім для сябе новае, такое незвычайна-ўзнёслае, таемна-балючае, невытлумачальнае спачатку, але тое, што з'яўляецца вяршыняй кахання, прызначэннем на зямлі дваіх — працягваць род чалавечы.

## 10

…Белабрысага Міколку прывезлі ў інтэрнат позняй восенню, яму якраз было шэсць. Як толькі Галіна Пятроўна яго пабачыла, сэрца яе сцялася — такі ладненькі хлопчык, бацькі загінулі. Нікога на свеце ў яго няма. Сказала мужу, які тады працаваў дырэктарам адной са школ горада, пра хлопчыка, яго лёс.

Міхаіл накрычаў на яе:

— Пра што ты толькі думаеш! Хочаш усынавіць. А ці ведаеш, якія ў яго гены?

— Я ж не змагу нарадзіць, — заплакала яна.

— Яна не можа! Затое я не зломак! — злосна засмяяўся муж.

— Ды ты ведаеш хто?.. Раз так, шукай такую ж як сам. — Выпаліла пакрыўджаная Галіна. — Я цябе не трымаю! А Міколку ўсё ж забяру. З табой ці без цябе.

— Тады ўжо, даражэнькая, без мяне.

Міхаіл ляпнуў дзвярыма.

Праз месяц ён ажаніўся. На сваёй намесніцы-перастарцы, якая, казалі, ужо была цяжарная ад яго пасля сумеснага адпачынку на прыродзе з выпадку завяршэння навучальнага года.

Кватэра запісана на Галіну, а больш ёй не было чаго дзяліць з Міхаілам: якое багацце маглі нажыць маладыя настаўнікі?

Галіна адна расціла свайго сына, свайго Міколку, абыходзіла былога мужа столькі гадоў. А ён рабіў службовую кар'еру: праз нейкі час стаў адказваць за ўсю адукацыю раёна. Галіну ж зусім не хваляваў як кар'ерны рост былога мужа, так яго і асабістае жыццё.

Галіна ганарылася сынам: Міколка добра вучыўся, закончыў школу з залатым медалём. На гарадскім свяце яму гэтую першую, вельмі сур'ёзную,

[1] Усяночная — тут: велікодная традыцыя, калі моладзь усю ноч паліла вогнішчы, захавалася ў некаторых вёсках на Палессі.

заслужаную ўзнагароду павінен быў уручаць мэр. Але той нечакана захварэў, і Галіна знямела, калі ўбачыла, як яе сыну, Мікалаю Русічу, працягвае медаль той, хто мог быць яму за бацьку — Міхаіл Мікалаевіч Русіч, начальнік аддзела адукацыі.

Яе былы муж, збялелы, вядома ж, зразумеў, каму толькі што ўручыў медаль, і сярод добрай сотні бацькоў поглядам знайшоў яе. Галіна Пятроўна плакала пад успышкі фотаапаратаў: «Ну, чаму не змяніла, пакінула пасля разводу сабе яго прозвішча Русіч?!» Яно стала праз нейкі час і Міколкавым…

Выплакаўшыся, супакоіўшыся, праз якую гадзіну асмелілася-такі набраць рабочы нумар Міхаіла: яе ж падманулі, не ўсё распавялі пра пасаду, што яна будзе няняй, а яна не ведала, не разабралася…

Русіч падняў трубку.

— Міхаіл Мікалаевіч, гэта я, Галіна… Прабачце…— пачала яна, збіваючыся.

— Я вас слухаю… — суха адказаў той.

— Я не ведала, што мне, выхавацелю вышэйшай катэгорыі, прапануюць стаць… амаль прыбіральшчыцай. Як цяпер за дзвесце тысяч можна пражыць?..

— Хіба вас нехта прымушаў пайсці на гэтую пасаду? Магчыма, вам і не растлумачылі, што пасада начной няні не адносіцца да пераліку педагагічных пасад. Але ж дзіўна, што вы не разабраліся самі… — зласнавата прабубнеў ён у трубку.

— Я ж тады, калі ўсё рашалася, адпраўляла дзяцей у інтэрнаты, і нават не магла падумаць, што так будзе, — сумелася яна, зразумеўшы, што дарэмна патурбавала свайго былога мужа. Так, дарэмна!

— Але ж ёсць ваша заява — мы нічога не парушылі. Вы самі хацелі застацца там на працы. А раз так — якія могуць быць крыўды? Грошы плацім такія, якая і праца. Так што прабачце, вольных пасад у верасні не маем. Звярніцеся ў наступным годзе, перад камплектаваннем.

У трубцы пачуліся кароткія гудкі.

Яна зразумела суровую праўду: ён дачакаўся магчымасці адпомсціць. Хоць як. Дык вось чаму тады загадчыца аддзела кадраў, хутка ўзяўшы ад яе заяву, апусціла вочы, нібы саромелася нечага. «Для мяне проста не існавала іншых пасад!» — здагадалася Галіна. Хаця яна ведала дакладна, што ёсць вакансіі — па яе прафесіі і вопыце — у суседняй школе і дзіцячым садку.

А праз тыдзень дырэктарка завітала на яе змену і між іншым паведаміла, што на тыя вакансіі ўзялі маладых настаўнікаў толькі з сярэдне-спецыяльнай адукацыяй. Але… Бог ім суддзя!

Галіна жыла іншым. За тыдзень яна сабрала ўсе неабходныя дакументы, каб усынавіць Алежку — дні ў яе цяпер былі вольныя. З’ездзіла да яго ў інтэрнат — як малое ўзрадавалася ёй, нібыта сапраўднай сваёй маці! Пытанне ж усынаўлення, як ёй сказалі ў аддзеле адукацыі, канчаткова павінна вырашыцца напрыканцы кастрычніка. Таксама сказалі, што паперы ў парадку, да ўсяго, на яе карысць тое, што хлопчык таксама жадае жыць у яе, называе мамай. Ды і старэйшага яна выхавала сама. Умовы для пражывання неблагія. Мікола, калі яна сказала яму, што хоча ўзяць Алежку, падтрымаў маці: «Хачу, каб у мяне быў малодшы брацік!»

Вось і наважылася Галіна: пакуль ёй дазволяць забраць хлопчыка, паспрабуе ў фермера зарабіць грошай — трыста даляраў хопіць сям’і на цэлы месяц, ды яшчэ застанецца. Да ўсяго, нешта на ашчаднай кніжцы сабралася. Пражывуць. Добра, што цяперашнюю даведку аб заробку не запатрабавалі — няшчасныя дзвесце тысяч…

Апошні дзень працы ў фермера праляцеў імгнення — жанчыны выканалі ледзь не па дзве нормы. Задаволены іх працай гаспадар заплаціў нават больш абяцанага. Падвёз яе і Верку да аўтобуснага прыпынку.

Апоўначы, надта стомленая, дабралася дадому. Суседка аб'явіла з парога: званілі ёй. Дазволілі забраць Алежку. У панядзелак трэба ехаць. Дзе толькі стомленасць падзелася, калі такое шчасце?!

…У інтэрнаце пацікавіліся толькі:

— Хто вам Міхаіл Мікалаевіч Русіч?

— Былы муж.

— Тады — зразумела.

— А што такое?

— Званіў тут. Не хацеў, каб мы вам дзіця аддалі, маўляў, у вас сродкаў няма, бо вы на некваліфікаванай рабоце.

— А вы?

— Мы пазванілі па месцы вашай працы — там сказалі, што праз два тыдні вас бяруць яшчэ на паўстаўкі настаўніцай геаграфіі — нехта там звальняецца. Так і сказалі: дзіця ёй можна даверыць. Так што ўсё ў парадку…

— Я нічога не ведаю... Водпуск узяла, — ад болю і шчасця заплакала Галіна Пятроўна.

У гэты час у пакой з крыкам — мамка прыехала! — нібы вецер, уляцеў Алежык, абхапіў яе за шыю…

— Мамка, ой як смачна пахне, — на кухні зноў з'явіўся Алежык, яе маленькі сынок. Здалося, што ёй усміхнулася сонца.

У гэты час патрабавальна зазваніў тэлефон. Гэта была Галініна сяброўка Вера, якая нядаўна стала хроснай маці яе маленькаму сыночку.

## 11

Апоўдні аўтобус, нарэшце, вынырнуў з густога лесу ў бязмежнае поле, залітае сонцам высокае жыта — і вось яна, яго вёсачка! Аляксей убачыў першыя хаты, і сэрца зашчымела, застукала ва ўнісон яго хвалюючым пачуццям. Савіч падхапіў свой дарожны кейс і накіраваўся да выхаду. Кейс быў лёгкі, пару бутэлек італьянскага каньяку і шакаладныя цукеркі, некалькі яго кніг і яшчэ такія-сякія дробязі, якія могуць спатрэбіцца мужчыну ў дарозе. На ўсякі выпадак.

Захваляваўся, калі ўбачыў прыпынак. Адгэтуль чвэрць стагоддзя таму з болем у сэрцы ён пакідаў вёску. Праўда, не ведаў, не мог уявіць, што назаўжды…

Машына цяжка спынілася. На прыпынку было некалькі чалавек. Пажадаўшы паўнатвараму вадзіцелю добрага шляху, Аляксей старанна ўзіраўся ў твары маладых людзей, якія некуды збіраліся ад'язджаць адсюль гэтым жа аўтобусам. Але так нікога і не пазнаў. Гэта, мусіць, учарашнія школьнікі, падумаў Аляксей, мабыць, едуць насустрач свайму лёсу. Як і ён калісьці.

Ён застаўся на прыпынку адзін, разгублена паглядзеў услед ад'язджаючаму аўтобусу…

Аляксей удыхнуў на поўныя грудзі паветра роднай вёскі, задумаўся: куды ж цяпер? Сустрэча планавалася быць а шостай гадзіне вечара, і ў яго распараджэнні — цэлых пяць гадзін. Успомніў Зінку: ён жа і сапраўды зусім не падумаў, дзе можа спыніцца на ноч. Хаця прадчуваў, што спаць не давядзецца, а раніцай, як дамовіліся з сястрой, па яго праедзе на сваёй машыне пляменнік з Мінска.

Прыпякала. Аляксей, зняў і накінуў на плячо лёгкі светла-шэры пінжак, зрабіў першы крок і раптам спыніўся, нібы ўкапаны. Лёгкі гарачы ветрык прынёс аднекуль збоку спецыфічны пах, які ён адрозніў бы сярод тысячы іншых пахаў — недзе на санцапёку сохла толькі-толькі перавернутае сена. З таго часу, як Аляксей з'ехаў з роднай вёскі, ён ні разу не трымаў у руках касу: для яго яна засталася, як адзін з успамінаў дзяцінства. І цяпер, адчуўшы пах скошанай падвялай травы, ён, мужчына, не ведаў, ці змог бы, калі б яму далі касу, здолець у сенакос з гэтай асноўнай вясковай мужчынскай працай? Усміхнуўся, пагадзіўшыся сам з сабой, што наўрад…

Аляксей не здзівіўся, не ўбачыўшы нікога ля блізкіх хат, размешчаных уздоўж дарогі. Час быў сенакосны, гарачы.

Нарэшце, ён зрушыў з месца, вырашыўшы, куды накіруецца найперш: на могілкі.

Яны знаходзіліся крокаў за трыста ад шашы, насупраць прыпынку. Старыя вясковыя могілкі, агароджаныя пацямнелым ад часу плотам. Падышоўшы да іх вузкіх веснічак, Аляксей раптам засумняваўся: ці знойдзе магілы бацькі, дзеда, бабулі? Памятаў, што яны дзесьці ў глыбіні могілак. Каля іх ён быў двойчы толькі ў дзяцінстве. У сям'і не было прынята, каб дзеці наведвалі клады[1]. Гэта раўнялася граху.

Ён доўга шукаў магілкі родных яму людзей і ніяк не знаходзіў. Могілкі зараслі маладым падростам, там-сям магутна раскінулі тоўстыя галіны векавыя дубы, ствараючы прыемную прахалоду. Але Аляксею здавалася, што яму стала холадна ад іншага, ад таго, што ён так і не знойдзе магілу бацькі. Можа, у каго-небудзь спытаць? Але ў каго?

Ён некалькі разоў абышоў могілкі, спыніўся ў роспачы ля бярозы, якая была шчыльна, знізу і ў рост чалавека абвязана ручнікамі і рознакаляровымі стужачкамі. Гэтую бярозу, толькі некалі яшчэ маладую і гонкую, ён памятаў вельмі добра. Мама, калі быў малы, казала, што якраз на гэтым месцы калісьці была драўляная царква. Яна згарэла яшчэ да рэвалюцыі, таму ў вёсцы больш як стагоддзе няма абаронцы. Вернецца царква — вёска будзе абароненая ад усіх нягод, а не будзе царквы — рана або позна знікне. Таму людзі на гэтым месцы і моляцца Богу, просяць яго, каб вёска не знікла, каб яе людскі род не перапыніўся.

— Абавязкова, сынок, перахрысціся тут, — Аляксей нібы толькі што пачуў матчыныя словы, і тройчы перахрысціўся. Затым рука, здавалася, сама намацала ў кішэні грошы, і ён акуратна паклаў пад дрэва некалькі манет.

Ён яшчэ пастаяў некалькі хвілін ля святой бярозы, затым, абраўшы кірунак направа, не спяшаючыся, рушыў углыб могілак. Прайшоў некалькі крокаў, як раптам зазваніў тэлефон. Званіла Зіна.

— Лёшка, дабраўся, нарэшце? — заклапочана спытала яна. — Званю, званю, а ты ўсё недаступны. Мама таксама хвалюецца, увесь час кажа, што ў цябе, мабыць, нешта не так.

— Зін, усё ў парадку. Я ў вёсцы, на кладах — ціха адказаў Аляксей, узрадаваўшыся яе званку, як ыратавальнай саломінцы. — Ведаеш, мне сорамна…

— Што ўжо здарылася? — занепакоілася сястра.

— Абышоў усё, здаецца, зарасло так, не памятаю, дзе магілы. Яны ж дзесьці разам, проста ў цэнтры кладоў?

[1] Клады — так у многіх палескіх вёсках называюць могілкі.

— Так, Лёшка, але там дарожка зарасла. І ісці трэба ад уваходу наўскасяк, са святой бярозай амаль побач, метраў дзесяць, — усхвалявана тлумачыла Зінаіда. — Там і ўбачыш новыя помнікі. Адзін дзядулі і бабулі, мы пазалетась замянілі на новы, а побач — бацьку. Глядзі ўважліва: дзве металічныя высокія агароджы, у чорны колер пафарбаваныя, побач два дубкі і рабінка. Ты ж яшчэ не бачыў, брацік, гэтыя помнікі. Ты ж грошы заўсёды пакідаў, вось мы і абнавілі іх.

— Бачу, Зіна, я ператэлефаную пазней.

Аляксей не змог больш гаварыць — ён спачатку ўбачыў партрэт бацькі, затым помнік дзеду і бабулі.

Да горла адразу падступіў камяк, Аляксей нібы аслупянеў. Здавалася, бацька са здымка ўсміхаўся яму. А прамень сонца, прабіваючыся скрозь густую лістоту, патрапіў проста ў вочы, асляпіў.

Аляксей адчыніў веснічкі і, усхваляваны ад пачуццяў, якія авалодалі ім, прысеў на пафарбаваную цэментаваную лаўку. Ногі чамусьці адмаўляліся слухацца, у вачах з'явіліся слёзы, вусны задрыжалі і ледзь чутна прашапталі:

— Добры дзень, родныя… Я доўга да вас ехаў. Прабачце…

Тут, у засені дрэў, ён сядзеў каля гадзіны. Чамусьці нікуды не хацелася ісці.

## 12

— Як твае дзяўчынкі, сяброўка? — спытала ў Веры па тэлефоне Галіна, зачыніўшы дзверы ў кухню.

— А што, дзеўкі? Здаровыя, дзякаваць богу. А што ж з іх узяць? Па начах шныраць вунь у суседнюю вёску на танцы. Год скончылі добра, не сорамна. Адно малю: толькі не прынеслі б маці каго ў падоле. Гэта ж не хлопцы, ад дзевак усяго можна чакаць, — Вера стомлена ўздыхнула.

— Не прыдумляй, яны ў цябе ў строгасці растуць. Аня, нябось, у медыцынскае пойдзе? — Галіна завяла размову пра старэйшую дачку сяброўкі.

— Ды яна адвезла ўжо дакументы ў Мінск. Кажа, хачу быць, як і ты, мама, фельчарам. Ды ж яшчэ дзіця горкае, толькі скончыла дзевяць класаў. Але не пярэчу ёй, хай вучыцца, хоць цяжка мне будзе яе вучыць. Але з Гасподняй дапамогай як-небудзь. А як мой хрэснік?

— Усё выдатна. Мы ўжо самі чытаем, лічым. Карацей, адольваем першыя ступені школьнай навукі, — сказала Галіна.

— Ой, дзеўка, усё ж шчаслівая ты ў дзецях. Хоць і твой былы мужанёк сапраўды нелюдзь. Дагэтуль мяне трасе. Што тут скажаш — іх, мужчынскае, племя, мабыць, усё такое. Што мой, што твой. Як успомню, дык мой і па маладосці больш піў ды гуляў. Не выпала нам з табой шчасце на нармалёвых хлопцаў. Пра свайго я думала, што перараблю яго на свой лад, зменіцца да лепшага. Змяніўся ж... Гэтулькі слёз выплакала. Мусіць, добрых хлопцаў і ў прыродзе няма. Або жыццё іх робіць чорт ведае кім.

— Былі. Ёсць. Вунь у нас у класе шмат добрых хлопцаў было. І цяпер яны не змяніліся. Шчаслівыя з імі іхнія жонкі, ведаю. Па вачах бачыла і зайздросціла.

— Калі ж гэта бачыла? Дзе? — здзівілася Вера.

— Дык мы ж раз у пяць гадоў сустракаемся. Наш выпуск.

— А мы ні разу не збіраліся разам. Ды нам і няма дзе сабрацца. Вёскі нашай няма. Выселена. Ты ж ведаеш, з Хойніччыны я родам. Была там такая

вёсачка Бабчын. Сню яе часам… Ох, не дай Гасподзь, балюча так… Пачытаю вершы майго земляка паэта Міколы Мятліцкага пра Бабчын, асабліва пра ўрок, якога не было ў Бабчынскай школе, дык потым начамі не сплю… Адчуванне такое, што душа разрываецца…

Запалі, школа, святло,
Дзверы шырака расчыні.
Урок, якога тут не было,
Я правяду ў цішыні.
І не вакольна-прыблізна
Стану тлумачыць прадмет.
Гэта не лірыка —
Фізіка!
Тэма —
«Ядзерны свет».
Раніца гляне ядрана
Сонцам у шкло.
Побач праменна-ядзерна
Б'ецца бяды крыло…

— Паспрабуй цяпер каго збяры, — скончыўшы чытаць урывак з верша, сказала яна. Ды і хто возьмецца? Тут арганізатар добры патрэбен… А ў наступным годзе ў нас магла быць юбілейная сустрэча, дваццаць пяць гадкоў, як разляцеліся мы хто куды, — з сумам у голасе сказала Вера.

— Але і мяне гэты верш хвалюе… — сказала Галіна. — Ведаеш, а ў нас сёння сустрэча, — раптам без энтузіязму ў голасе паведаміла сяброўцы Галіна. — Сёння ўвечары…

— Ды ты што! Проста клас! Паедзеш, вядома?

— Мабыць не, Вера. Збіралася, але перадумала.

— А што так, сяброўка?

— Гэта, ведаеш, адразу не растлумачыш.

— А я не спяшаюся, — сказала Вера. — Давай, выкладвай, што там цяжкае носіш у душы. Бачу, гатовая зараўці. Што здарылася?

— Ад цябе схаваеш, — Галіна зусім расхвалявалася.

— Не мудры…

— Ды я заўсёды ездзіла на тыя сустрэчы не з-за аднакласнікаў, — ледзь выціснула з сябе Галіна. — Хацела ўбачыць толькі аднаго…

— Гэта было тваё першае каханне? — праніклівая Вера нібы чытала думкі сяброўкі.

— Мусіць, гэта быў мой шчаслівы лёс, але я, дурная, сама яго растаптала. За тое, што я зрабіла, не даруюць… — голас Галіны задрыжаў, яна гатовая была заплакаць.

— Ён цябе кахаў?

— І я яго кахала. І так змаладушнічала, збаялася. Таму і паплацілася… І — плачу за сваю дурасць па рахунках усё жыццё, плачу за тое, што сама загубіла свой лёс. Сваімі рукамі.

— Трымайся, сардэчная.

— Ды мне нічога і не трэба, адзінае: убачыць, які ён стаў, папрасіць у яго прабачэння, і толькі. Я ж не магу яго затрымаць. Папрасіць трэба абавязкова, ён быў тады вельмі чыстым хлопцам, а я, наадварот, дрэнь смазлівая была… Толькі ён не прыязджае і не прыязджае. Я цікавілася: кажуць, дзесьці ў Расіі жыве. Вялікі чалавек… Маці з вёскі даўно забралі сёстры ў Мінск.

— А раптам ён сёння прыедзе? — Верка, здавалася, была гатовая заплакаць разам з сяброўкай. — Прыедзе, а ты яго і не ўбачыш.

— Калі б я яго ўбачыла, то прасіла б прабачыць… Крыж на мне. Што ж мне рабіць, Вера?

— Абавязкова ехаць. Хоць бы дзеля таго, каб пераканацца: быў ці не быў. А потым, як я разумею, паміж вамі адбылося нешта недарэчнае, дзіцячае. Можа, ён і не помніць. Калі не прыедзе — забыцца пра яго назаўжды. І жыць спакойна для сябе, для дзяцей.

— Не, між намі было зусім не дзіцячае. У такія гульні дзеці не гуляюць. Але, мусіць, ты праўду кажаш, Верка. Я падумаю, што рабіць.

— А што тут думаць? Вядома, едзь. Ты нічога не страціш — сярод людзей звычайна забываешся пра многае.

— А я там наадварот толькі аб гэтым і ўспамінаю. А яшчэ, пра загінулага брацікa, бабулю, якая заўчасна пайшла з жыцця, і пра апухлую ад гарэлкі нябожчыцу-маці.

— Але ж ты моцная, Галка…

— Не… Мне так хочацца быць слабай жанчынай, а жыццё прымушае быць моцнай.

— Усё будзе добра. У Міколкі ўсё ў парадку?

— Чакаю па абедзе. Прыедзе.

— Пакідай на хлопца Алежку, а сама — хоць на таксі выберыся, на гадзінку, на сустрэчу. Ці далёка да вёскі тваёй?

— Паўтары гадзіны ехаць, гэта ў суседнім раёне.

— Едзь, абавязкова. Грошы — смецце. Заўтра вечарам пазваню. Не маркоцься, чуеш, Галка. Нядобра гэта, так пакутаваць ад няпэўнасці. Даеш слова?

— Угаварыла.

## 13

Аляксей не пазнаваў сваю вёску. Яна захавалася, яшчэ жыла сяк-так трохі ў цэнтры, хоць і тут было нямала пустых, скасабочаных, урослых у зямлю хат, але памірала наводшыбе.

Гэта добра было бачна адсюль, з могілак. Прабіраючыся да яе праз ўрослыя хвашчом выбоіны, ён ледзьве знайшоў сцяжынку, па якой дабраўся да самотных, пакінутых людзьмі і Богам, сядзіб.

Ён ведаў з дзяцінства гэтае месца: за павароткай была шырокая нізіна, а пасярэдзіне — звычайная палявая дарога. Там, няроўнымі радамі з аднаго і другога боку, раней стаялі дзясяткі два спраўных хат. Тут, у адной з іх, Аляксей нарадзіўся і пражыў амаль сямнаццаць гадоў…

Ён не мог паверыць сваім вачам. Іх хаты, шостай ад краю, не было зусім. Зарослы, здзічэлы сад, які некалі пасадзіў дзед, рэшткі падмурка нагадвалі, што раней тут было чалавечае жытло, знікла, сцерлася з зямлі і яшчэ некалькі хат, што некалі стаялі па суседстве. Пакінутая зямля пуставала. Густа ўтравелыя сцяжынкі сведчылі, што па іх даўно ніхто не хадзіў: ні жывёла, ні чалавек. Усё выдавала здзічэлым, а то і амярцвелым.

Ад бязрадаснага малюнка ў Аляксея зашчымела сэрца. Ён разгубіўся і не ведаў, куды падацца. Мабыць, трэба вярнуцца назад, у цэнтральную частку вёскі. У скрушным роздуме, што рабіць і куды ісці, ён і не заўважыў, як ззаду да яго падышоў сівы стары ў кортавым пінжачку.

— А чые вы будзеце, сынку? — абапіраючыся на палку і цяжка дыхаючы, стары спыніўся каля Савіча, пільна ўглядаючыся ў яго.

Аляксей павярнуўся на голас, і ледзь пазнаў у гэтым згорбленым дзядку некалі яшчэ маладога і худога, як бэлька, Паўлюка Кіслага, былога калгаснага конюха. Божа, што час зрабіў з чалавекам!

— Дзядзька Павел, вы мяне не пазнаяце? — спытаў Аляксей і радасна ўсміхнуўся старому.

— Ды сляпы я стаў, чалавеча. Хаця ж нешта знаёмае згадваю. Але ж калі стаіце каля былога селішча Адама Савіча, добры то буў чалавек, то ж, мабуць, з іхняга роду. Ага, праўда, падобны. Ці не Валянціны і Міколы, гэто, сынок малодшанькі будзеце? — стары з хітрынкай глядзеў на Аляксея, не адводзячы ад таго выцвілых, амаль бясколерных вачэй.

— Угадалі.

— Ну, так, бацькавы кроплі пабраў. То ты, ага ж, Ляксей, той, што дзеўку, кхе-кхе… знахаліў і ўцёк. Шусцёр хлопец… — хіхікнуў у рукаў стары. — А дзе маецеся цяпер? І ці жывая мамка ваша?

— Жывая, дзядзька. У Мінску. Дзякуй богу, добра ўсё.

Аляксею стала непрыемна: столькі гадоў прайшло, а ў вёсцы і сёння ўспамінаюць яго нядобра, хоць ён ні ў чым і не перад кім не вінаваты. Дзядок вунь вочы коле… Эх, людзі, што вы ведаеце пра мяне, пра мой боль… Настрой сапсаваўся зусім, але ці крыўдзіцца на старога? Ён на ўсё глядзіць па-свойму, з вышыні свайго ўспрыняцця жыцця, і верыць, мабыць, як і ўсе, плёткам. І як ты не пераконвай яго, што нікога ён, Аляксей, не ганьбаваў, не паверыць табе.

— Я ў Пецярбурзе жыву, працую. У Расіі. А вы, дзядзька Павел, як жывяце? Як цётка? Здаецца, яе Алесяй звалі? — пацікавіўся Аляксей.

— Што тут, сынку, скажаш? Наша ж жыццё якое — дзень да дня і бліжэй да смерці. Вось чакаем-чакаем яе, ды ніяк не дачакаемся. Алеся, жонка мая, дужа ж хворая, ляжыць каторы год спаралізаваная. Міласэрная мне дапамагае. Бяда, далібог… А Віцька наш, мо памятаеце яго, хоць малы па гадах былі, такі й ладны ж буў хлапец, а ўсё з-за дурноты сваёй згінуў недзе ў турме. Часам яго дачка, а наша ўнучка з Бабруйска наедзе на дзень-другі, а так дажываем са старой у хаце, — дзядок выцер скупую слязу.

— А тут, на нашым пасёлку, ці шмат засталося жыхароў?

— Ды не. Тры бабы ды я. Чуў жа, мабыць: і школу сёлета закрылі. Бяда вялікая ў вёсцы, калі няма школкі. Ані царквы, ані школкі. І Чарнобыль далекавата ад нас, а бяда. З кожным годам меней становіцца людзей. Калі чалавек трыста набярэцца, то і добра. Уся вёска. Не тое, што ў былыя гады. А вашу хату, здэцца, купілі ў суседнюю вёску. Гады чатыры ўжо як мінулася. Памерла была вясной, яшчэ снег не сышоў, Ганна Восцева, што жыла ў ёй. А яе дочкам з Магілёва хіба сюды наездзішся? Клопат толькі. Вось і прадалі. А селішча астатняе згібела. Ды й ці толькі адно яно. Не стала калгаса, то і ўсё згібела. Дзе й тыя людзі падзеліся? Ото ж, вайны няма, а жыцця нямашака таксама… Бувайце, чалавеча. Не крыўдуйце на старога, мо, і праўда з той дзеўкай у вас па-добраму было, а аславіла толькі дарэмна. І маці ваша так казала. І мая старая… То жывіце шчасліва. Ды не крыўдуйце, што я былое ўспомніў. Вінаваты не вінаваты, там усё відаць, — стары слаба торкнуў пальцам у неба, перахрысціўся дробненькай рукой, паціху патупаў да свайго паселішча. Аляксей яшчэ доўга глядзеў яму ўслед, затым шпарка пайшоў прэч ад гэтага, пакінутага людзьмі, месца. Пасля размовы з Кіслым, ён адчуваў сябе вельмі няўтульна.

## 14

Савіч быў расчараваны, усведамляючы, што вёска памірае. І — вельмі ўзрушаны, калі на парозе сельскага клуба сустрэў былых аднакласнікаў і аднакласніц. Пазнаў ён не ўсіх: рассталіся ж на парозе роднай школы чвэрць стагоддзя таму. Як жа змяніліся за гэты час сябры дзяцінства! Як паважнелі і памажнелі. З хваляваннем ён узіраўся ў іх твары. Лаяў сябе ў думках за тое, што не прыязджаў раней. А яны, былыя аднакласнікі, аказваецца, проста пачалавечы, калі трэба і не трэба было, падтрымлівалі адзін аднаго, сустракаліся не толькі раз у пяць гадоў, а і так, калі выпадала, запрашалі настаўнікаў на свае сустрэчы, і, здавалася, ведалі ўсё аб усіх. Не ведаў нічога ні пра кога, мабыць, толькі ён, Савіч.

Перад афіцыйнай часткай, якую рыхтавала мясцовая самадзейнасць, Аляксей усё ж адчуў сябе ніякавата. Былыя аднакласнікі хоць і ўзрадаваліся яму, але сустрэлі крыху стрымана. Нібы казалі: што ж ты, хлопча, заганарыўся…

Ён не крыўдзіўся і на дакоры настаўнікаў — пасівелай «хімічкі» Вольгі Максімаўны і ўсё яшчэ маладжавай, былога завуча, Ганны Пятроўны, — якія, калі разабрацца, праўду сказалі: «Забыў дарогу да нас, забыў…» Атрымліваецца, яго тут памятаюць, ён далёка не апошні выпускнік. І ў навуцы дасягнуў неблагіх вышынь, якія спрадвеку нікому тут і не сніліся: ці не ва ўсім свеце яго ведаюць, а ў родную школу дарогу забыў… Але ўсё ж з’явіўся, хай і тады, калі зачынілі родную школу.

У клуб на сустрэчу выпускнікоў сабралася, здавалася, уся вёска. Аляксей зразумеў, што толькі ўлетку яна яшчэ крыху ажывае: на святы сюды з’язджаюцца яе дзеці і ўнукі, праўнукі. Але думалася не пра гэта. Чым бліжэй быў пачатак свята, тым з большай гаркатой ён разумеў, што часам лёс распараджаецца з чалавекам так, як яму заўгодна: яна, мабыць, не прыедзе, таму што, нарэшце, прыехаў ён. Пра Анёла і яго ніхто з былых аднакласнікаў не згадваў. Мабыць, саромеліся, памятаючы, што некалі ў юнацтве адбылося між ім і ёй. Ён жа не змог, не адважваўся ў каго-небудзь запытацца пра яе. І ўсё ж Аляксей спадзяваўся на цуд: раптам адчыняцца дзверы, і яна, Анёл, увойдзе ў залу. Галку, як бы яна ні змянілася за гэтыя чвэрць стагоддзя, ён пазнаў бы адразу, у гэтым быў упэўнены.

Калі размова зайшла аб аднакласніках, пачалі ўспамінаць тых, каго ўжо няма на свеце. Аляксей стаў думаць пра іх. Але, няма, аказваецца, ужо і Віцькі. Ён сядзеў на суседняй парце, добры быў хлопец, хоць і задзіра. Не пажыў чамусьці на свеце, зламала яго жыццё, запіў, наклаў на сябе рукі. І сям’я не ўтрымала, дзіця. Гэта лёс у Віцькі такі, ці што…

Былі і іншыя страты сярод аднакласнікаў. Некаторыя з тых, хто застаўся ў вёсцы, спіліся і рана памерлі. Што некалі яны былі Савіч нават забыўся: вучыліся з двойкі на тройку, нічым іншым, здаецца, не вылучаліся: толькі ўсплылі ў памяці іх цьмяныя вобразы, калі разглядалі школьны альбом, які нехта спецыяльна ўзяў на сустрэчу.

Аляксей нечакана згадаў яшчэ аднаго аднакласніка, нават сябра, Кольку, з якім калісьці займаўся фотасправай. Хтосьці з аднакласніц распавёў, што пасля школы Колька падаўся на Данбас і нават на пахаванне маці не прыязджаў. Яго не бачылі ў вёсцы гэтулькі ж, як і Аляксея. Не прыехаў Колька і цяпер — не змаглі знайсці арганізатары яго адрас…

Здзівіў Савіча яго школьны сябар Генка. Заўсёды, як памятаў Аляксей, той быў шалапутным, нейкім нясkладным. І вучыўся сяк-так. А зараз перад ім

стаяў высокі, падцянуты мужчына. Жыў Генка ў Мінску, гадаваў сына і дачку, працаваў на трактарным заводзе. Казаў, што пачынаў рабочым пасля службы ў войску, цяпер — майстар. Паважаны чалавек, на дошцы гонару завода вісіць яго партрэт. Кантактны і адказны мужык. У вёсцы ў адпачынку, дапамагае старым маці і бацьку. Генка не адыходзіў ад Савіча, і сустрэча з ім была сапраўды радаснай для Аляксея. Абмяняліся адрасамі і тэлефонамі.

Ну, а дзяўчаткі — цяпер ужо жанчыны — жылі і працавалі, хто дзе і як.

Выходзіла, што ўсе шчаслівыя, задаволеныя тым жыццём, якое ў каго ёсць, у многіх ужо з'явіліся ўнукі. А, можа, усё не так. Можа, яны не хочуць казаць, што не ўсё так і добра, як хацелася б. Каму хочацца, каб іншыя ведалі, што ў цябе не ладзіцца. Людзі такія: адзін пашкадуе, другі наадварот, парадуецца тваёй скрусе…

Аляксей, калі былыя аднакласніцы расказвалі пра тое, як у каго з іх склаўся лёс, падумаў, што ў яго, вучонага ды знакамітага, няма нічога добрага ў асабістым жыцці. Так, быў жанаты. Любіў — не любіў жонку, справа не першая. Было, зацяжарыла. Радаваўся, думаў, што народзіцца дзіця, у сям'і будзе лад, усталюецца звычайнае чалавечае шчасце. Паехаў у камандзіроўку, а жонка зрабіла аборт. Як ён пакутаваў!.. Ірына заявіла, што ніколі не збіралася мець ад яго дзіця, што не любіць яго. Ці мог ён такое ёй дараваць?.. Разышліся. Ірына паспрыяла таму, каб ён зняверыўся ў жанчынах, здавалася, назаўжды. Аляксей цяжка перажываў другую ў сваім жыцці няўдачу. З гадамі забылася Ірына, прытупіўся, прыглушыўся боль, які яна яму ўчыніла. Але не сышоў той, што ад яе — Галіны — хаця і спрабаваў забыць усё, што было між імі. І жыць сваім жыццём, якое ствараў сваімі рукамі, сваім талентам, не атрымлівалася. Ён не пазбягаў жанчын — мужчына ўсё ж такі, спадзяваўся сярод іх, выпадковых, сустрэць сваё каханне. Але так і не сустрэў. З часам ужо не ўяўляў сябе ў шлюбе, у ролі сем'яніна. Паступова прывык жыць адзін…

Аляксей Савіч з зачараваннем слухаў вядучую, маладую дзяўчыну, загадчыцу клуба, якую, мабыць, прыслалі сюды пасля культасветвучылішча. Мілае, светлае, наіўнае дзяўчо!.. Так прыгожа, добра гаворыць наогул пра школу, пра першае каханне, якое, мабыць, сама толькі спазнала, што сэрца паступова адтае, і ўспамінаецца дзяцінства. Тым больш, што раптам пасля яе самадзейныя артысты нагадалі легенду, якую хтосьці з дарослых, мабыць, дзядуля, распавядаў яму, тады яшчэ някемліваму хлапчуку.

«…Вечарам на траве выпала раса. У маленькіх кропельках вільгаці зіхацелі промні сонца, яно ўжо асела на верхавінах хвой. Казачным выглядаў шырокі луг у залатых промнях, нібы хтосьці запаліў на ім тысячы ліхтарыкаў…

Заснуў вецер, заціхла прырода. І толькі зусім маладзенькая дзяўчына ў зрэбнай выбеленай сукенцы, забыўшыся на стомленасць, нібы цэлы дзень і не збірала чарніцы ў лесе, гулліва крочыла па няскошаным разнатраўі і, нібы чараўніца, кланялася кожнай расліне. Яе агністыя валасы адлівалі золатам у апошніх промнях сонца. Здалёк здавалася, што яна размаўляе з ліпеньскімі кветкамі. Але дзяўчына збірала іх сабе ў вянок — толькі самыя прыгожыя.

Ціха-ціха нешта напяваючы, яна нават не пачула, як па старым шляху — ён быў побач, рукой падаць — праехала, падняўшы слупы пылу, брычка. У ёй сядзеў прыгожы мужчына, апрануты ў нейкае далікатнае адзенне. Мабыць, ён быў з чужых земляў, тут жа акрамя палатнянага, яшчэ не бачылі іншага адзення.

Мужчына загадаў кучару спыніцца, спусціўся з брычкі на зямлю. Ён з захапленнем стаў назіраць за вячэрняй залатакосай прыгажуняй. А дзяўчына паволі набліжалася да дарогі.

Нарэшце, яна заўважыла, як чужаземец уважліва назірае за ёй і вельмі спалохалася. Стала сур'ёзнай і, толькі памкнулася збегчы адгэтуль, як гэты дзіўны чалавек спыніў, схапіўшы яе за руку.

— Не бойся мяне, прыгажуня, — ветліва прамовіў ён і ўсміхнуўся. — Ты, нібы сонейка яснае, нібы дачка яго. Як цябе завуць, Божы дарунак? Чыя ты будзеш?

Дзяўчына сарамліва апусціла вочы і маўчала.

— Не бойся, я не пакрыўджу цябе. Ты ж дрыжыш уся, дурненькая, — мужчына ўсміхнуўся і ласкава дакрануўся рукой да дзявочых агніста-залатых валасоў і раптам пацалаваў яе руку.

— А што пан жадае ад маёй падчаркі? — аднекуль з'явілася старая сялянка, якая цяжка дыхала, бо шпарка бегла сюды.

— Жадаю гэтую прыгажосць забраць з сабой, у Варшаву, калі яна захоча, — усміхнуўся пан.

— А хто ж мне дапамагаць будзе? Я яе, сірацінку, гадавала, гаравала. І вось так, дарма, пан жадае забраць? — раскрычалася старая. — Бягом, дурніца, у хату! Чуеш, Улада.

Але пан мацней сціснуў руку дзяўчыны, не адпусціў.

— Дык вось якое ў цябе, прыгажуня, імя! Улада… — са здзіўленнем прамовіў мужчына. — Паедзеш са мной? Я цябе, крый божа, не пакрыўджу. Вер мне!

— Людцы добрыя, што ж гэта дзеецца на белым свеце? Гадавала, глядзела, — не на жарт разышлася сялянка, але на яе ніхто не звяртаў увагі.

— А ці пан праўду кажа? — усміхнулася чужынцу, праўда, не без падазронасці, дзяўчына.

— Праўду, Божы дарунак ты мой…

— Не аддам, гадавала-гаравала, а хто працу цяпер за яе рабіць будзе? — даводзіла сваё старая сялянка.

— Не плач, жанчына. Вось табе поплатак, — чужаземец падаў старой залатую манету. Тая прагна схапіла золата, у твар аж прыліла кроў, вочы заблішчалі ад сквапнасці.

Мужчына толькі ўсміхнуўся, убачыўшы такія перамены ў сялянцы.

— Бачу, што і сама радая, пазбавілася ад лішняга едака.

Чужаземец знямелай ад шчасця жонцы рыбака не сказаў больш ні слова, падхапіў дзяўчыну на рукі і панёс да брычкі. Праз некалькі хвілін на старым шляху курэў толькі пыл, які нагадваў туман…

А праз дваццаць гадоў нейкі багаты чалавек выкупіў за вялікія грошы гэтую зямлю, якая дасягала да самога возера Князь. Мясцовыя багацеі цешыліся, што надта ўдала ўзялі золатам за гэтыя недаступныя глухія лясы і балоты, і невялікую колькасць ворнай зямлі. Але здзівіліся, што новы ўладальнік сам ніколі не быў тут, ад яго імя ўсім распараджаўся ўпраўляючы.

Гэта быў каржакаваты пажылы мужчына, які непарушна выканаў волю свайго гаспадара: неўзабаве людзі даведаліся, што гаспадар хоча тут пабудаваць палац. Так яно і было: упраўляючы, агледзеўшы ўладанні, выбраў самае высокае месца, дзе стаялі гонкія бярозы і старасвецкія дубы, ліпы. Тут і быў закладзены каменны палац, які за некалькі гадоў пабудавалі чужаземныя будаўнікі. Маёнтак абсадзілі прыгожым паркам. Упраўляючы дазволіў усім за невялікую плату хто хоча сяліцца на невялікім аддаленні ад панскага палаца, распрацоўваць зямлю, адбіраючы яе ў балота, будаваць гаці. Сяляне абрадаваліся: пры сваім пане яны былі ў лепшым становішчы на гэтай зямлі — у іншых месцах палешукі жылі ў жахлівых умовах.

А далей было так. Упраўляючы, ужо немаладым чалавекам, адчуўшы сябе нездаровым і баючыся раптоўнай смерці, напісаў свайму гаспадару ліст, у якім прасіў, каб той хутчэй прыехаў і прыняў яго працу. Аднак гаспадар чамусьці затрымліваўся.

І вось аднойчы пад вечар, калі ўпраўляючы ўжо здоўжыўся яго чакаць, па старым шляху да маёнтка пад'ехала крытая брычка. Упраўляючы і нанятыя ім у маёнтак дваровыя людзі пабеглі сустракаць свайго гаспадара. І як жа ўсе вельмі здзівіліся, калі з брычкі на зямлю, а потым на ганак новай сядзібы ступіла яшчэ маладая і вельмі прыгожая жанчына з ярка-жоўтымі, нібы залатымі валасамі. Побач з ёй стаяў высокі юнак.

— Божа, гэта ж Улада! Якая прыгожая, быццам каралева, — сталі шаптацца людзі.

Упраўляючы, пакланіўшыся, адразу падаў гаспадыні справаздачу аб сваёй працы. На скураной вокладцы важкай кнігі замест назвы значылася: «Вотчыннае месца князёў».

А пані ўсміхнулася яму, затым свайму сямнаццацігадоваму сыну, высокаму і падобнаму на свайго бацьку, ветліва прамовіла:

— Тут, сынок, дзякаваць богу, і будзе твая вотчына. На гэтай зямлі нарадзілася твая маці…

Праз дзесяцігоддзі зямельнае ўладанне пані Улады, якая была добрай гаспадыняй і дапамагала сялянам, але пражыла мала, перайшло сыну, а ад яго — яе ўнукам і праўнукам. Адзін са спадчыннікаў гэтай зямлі меў вялікі ад цара, якому служыў, чын. А калі выйшаў у адстаўку, маючы інжынерныя веды, праклаў тут вузкакалейку, заснаваў заводы па перапрацоўцы смалы і драўніны. А яшчэ пабудаваў у вёсцы драўляную праваслаўную царкву, большасць мясцовага насельніцтва была праваслаўнай. Маёнтак захоўваў на шматлікія дзесяцігоддзі назву Вотчына. Праз стагоддзі яна змянялася, кожны перапісчык уносіў свае змены ў дзелавыя паперы, і неўзабаве стала Вотчына, Вітчына, Вятчына, затым Вятчын, якая і захавалася да нашага часу…»

У мясцовым клубе даўно не збіралася гэтулькі людзей, як цяпер. І зараз усе яны, стоячы, дружна апладзіравалі самадзейным артыстам.

Добрыя словы сказалі настаўнікі пра сваіх былых вучняў і малады старшыня сельсавета. Выступалі і Аляксеевы аднакласнікі, успаміналі дырэктара школы, які так рана адышоў у іншы свет, яркія моманты з жыцця класа, школы, роднай вёскі…

І раптам вядучая, звяртаючыся ў залу сказала, што на сустрэчы прысутнічае знакаміты вучоны з сусветным імем Аляксей Савіч. Пачуліся апладысменты. Аляксей ад той да сябе ўвагі землякоў ажно спалатнеў і, нібы здалёку, пачуў, што яго запрашаюць на сцэну. Такога яшчэ з ім не здаралася: падкошваліся ногі, калі ён паднімаўся туды…

## 15

Добра, што ён захапіў у дарогу некалькі сваіх кніг. Хвалюючыся, нібы ніколі ў жыцці не стаяў за кафедрай у студэнцкай аўдыторыі, ён пасля сваёй кароткай прамовы-падзякі аднавяскоўцам, за тое, што памятаюць яго, уручыў іх сваім настаўніцам і бібліятэкару. Яму зноў апладзіравалі, але ўжо стоячы, і гэта надзвычай кранула Аляксея.

Яшчэ раз падзякаваўшы аднавяскоўцам за ўвагу да яго, Аляксей нетаропка пачаў спускацца ў залу. І чамусьці яшчэ больш расхваляваўся. І раптам стала ціха. Штосьці падказвала яму, што ў гэтую хвіліну ў зале нешта адбываецца.

Цішыня стаяла напружаная, нібы людзі чакалі чагосьці незвычайнага, і яе нішто не парушала. Савіч не мог зразумець, што здарылася. І толькі вярнуўшыся на сваё месца ў другім радзе, дзе сядзелі ўсе яго былыя аднакласнікі, і, зірнуўшы на сцэну, пахаладзеў. На тым месцы, дзе толькі што быў ён, стаяла рудавалосая прыгожая жанчына ў светла-бэжавым дзелавым гарнітуры. Яна!.. Ён пазнаў бы яе з тысяч…

— Галка, адкуль ты ўзялася? Малайчына, што прыехала! — ускрыкнула з месца іх былая аднакласніца Волька Сялец, яе сяброўка, бухгалтарка адной з камерцыйных гомельскіх фірм. Здзіўленыя аднакласнікі пачалі апладзіраваць, чакаючы, што скажа Галка.

— Дзякуй вам усім… — ціха пачала яна. — Дзякуй, што ёсць на зямлі такое месца, дзе, нягледзячы ні на што, адчуваеш сябе часткай чагосьці вялікага. Дзякуй усім аднавяскоўцам за тое, што берагуць памяць аб мінулым. Мой маленькі сын, яму толькі шэсць гадоў, усю раніцу мяне распытваў: адкуль у нашай вёскі такая назва. Я — педагог, да гэтай прафесіі заўсёды адносіла ўсіх дасведчаных людзей, але ўпершыню не ведала, што яму адказаць… І нічога дзіўнага, што ў гэты ж вечар я ўжо ведаю, што распавесці свайму мядзведзіку, я так ласкава называю свайго Алежыка, пра маю родную вёску. Мне, якая нарадзілася тут, сорамна не ведаць яе гісторыі. Прабачце мяне за гэта. Прабачыце, дарагія настаўнікі, што не заўсёды і паштоўку да свята дашлю, а вы ж так чакаеце вестачак ад сваіх выпускнікоў. Я сама, выпусціўшы ў дарослае жыццё дзясяткі вучняў, чакаю ад іх гэтых вестачак…

З вачэй Галіны пацяклі слёзы, яна на хвіліну прыпынілася, але потым авалодала сабой, працягвала.

— Толькі… я на гэтай сцэне ўсё-такі не таму. Дваццаць пяць гадоў чакала, каб зрабіць гэта. Мне трэба прылюдна павініцца перад адным чалавекам, якога я ў маладосці зняславіла на ўсё жыццё. Сёння я павінна зрабіць тое, што даўно павінна была зрабіць… Тады я была зусім неразумнай дзяўчынкай і не да канца разумела, што нарабіла. Я спалохалася і нагаварыла на аднаго добрага хлопца таго, чаго не было, абвінаваціла яго ў тым, у чым ён не вінаваты. Хто ён, вы добра ведаеце. Гэта…

— Галіна, не трэба!.. — вырвалася з вуснаў Аляксея, іх погляды сустрэліся. Ён глядзеў на яе, а Галіна адвяла свой.

— Не, — праз імгненне рашуча сказала яна і паглядзела яму ў вочы, — я павінна сказаць, хачу жыць з чыстым сумленнем. Гэты хлопец ні ў чым не быў вінаваты. І няхай ён сёння, праз столькі гадоў даруе мне за тую маю памылку. Я яго кахала, і я так вінаватая перад ім... за гэта мяне пакараў Гасподзь. І ён жа падтрымаў мяне, калі я страціла родных, ён вярнуў мяне да жыцця, падараваўшы шчасце ў дзецях. Прабач, дарагі мой чалавек Аляксей, прабачце ўсе добрыя людзі... А маладых прашу: не рабіце каханым балюча…

Зала маўчала. Галіна сышла са сцэны і, сціснуўшы вусны, не звяртаючы ні на кога ўвагі, амаль подбегам накіравалася да дзвярэй — маўклівыя аднавяскоўцы, якім не хапіла месца і якія стаялі ў праходзе, расступаліся перад ёй.

На шырокім ганку клуба яна глытнула свежага паветра, твар астудзілі апошнія кроплі ліпеньскага дажджу — задуха паменшылася, спадала. Хутка сцямнела, хмары зацягнулі неба.

Галіна стаяла на двары і ёй здавалася, што сэрца вырываецца з грудзей. Затым, крыху супакоіўшыся, не звяртаючы ўвагу на лужыну ля ўваходу, яна напрасткі пайшла да крамы, дзе яе чакала таксі, якое яна наняла, каб прыехаць сюды. Але раптам нешта магутнае і жорсткае спыніла яе, схапіла за руку, сціснула.

— І ты хочаш так проста сысці? Чаго тады варта тваё прабачэнне?

Аляксей моцным рыўком выбавіў яе з лужыны і нібы незнарок прыгарнуў да сабе. Ад цёплага мужчынскага дыхання ў яе закружылася галава.

— Алёша, не спыняй мяне, — прашаптала Галіна. — Я павінна…

— І ты хочаш проста так сысці? — паўтарыў ён. — Не, мы павінны пагаварыць аб тым, што некалі між намі адбылося і чаму? Вядома, у цябе, мусіць, добрая сям’я, дзеці… — ужо з крыўдай у голасе сказаў ён.

— Алёша, я разлічылася за сваю здраду спаўна… Так, у мяне ёсць сям’я: я і два сыны, гэта святое. У мяне няма мужа, і дзеці мае прыёмныя. Я не змагла нарадзіць, бо сама вінаватая. Узяла грэх на душу — не дала з’явіцца на свет майму і твайму дзіцяці… І я ведаю, што Бог за гэта пакараў мяне. А яшчэ — за цябе. І аднойчы, калі мне было вельмі цяжка, я паклялася, што калі-небудзь закрычу на ўвесь свет, што ты ні ў чым не вінаваты, а я — дрэнь… Я не ведала, калі і дзе гэта зраблю, але я гэта зрабіла цяпер, крыху нечакана нават для сябе, як толькі ўбачыла цябе, такога недасягальнага і, як думаю, такога ж шчырага, як у момант нашага расстання. Прабач. Я не хачу больш насіць гэты цяжар на душы, хачу жыць далей, выхоўваць, расціць маіх хлопчыкаў, зрабіць усё, каб яны былі шчаслівыя.

— А як жыць мне? — скрушна спытаў ён. У гэты момант у яго галаве пранеслася ўсё, што адбылося паміж імі досвіткам, пасля выпускнога…

Стомленыя шчасцем, яны не здагадваліся, якія чорныя хмары згусцелі над гэтым месцам, над імі. Праз святло фар матацыклаў, якія іх асляпілі, Аляксей убачыў спалоханы погляд яго Анёла, і нечакана заўважыў на беласнежнай сукенцы чырвань — доказ таго, што яна страціла дзявоцкасць. Хлопец нават не зразумеў, што адбылося далей.

Галка раптам адхінулася ад яго, ускочыла на ногі і істэрычна закрычала:

— Гэта ўсё ён! Не чапайце мяне больш! Гэта ўсё ён... Ён мяне згвалтаваў… Абараніце!.. Завязіце мяне дадому…

Неразлучная тройка — Касы, Сарока і Паліпчук — з касцетамі ў руках пайшлі на яго. Аляксей устаў, і ў тую ж хвіліну моцны ўдар у галаву зваліў яго на мокрую траву. Трацячы прытомнасць, нібы за туманам, ён бачыў, як плача Галка, як пхнуў яе ў плячо, нядобра абазваўшы і груба пасадзіўшы ззаду сябе на матацыкл, Паліпчук.

Замест світанння наступіла ноч. Калі Аляксей ачуўся, стаяла раніца. Хістаючыся, акрываўлены, мінаючы выпадковых людзей, ён ледзь давалокся дадому. Маці знайшла яго ў лазні, дзе ён зноў знепрытомнеў, спрабуючы змыць кроў.

А раніцой уся вёска абмяркоўвала адно: што здзейсніў Аляксей з Галінай. Мама плакала, чакаючы горшага. Але потым высветлілася, што ніхто ў міліцыю не заяўляў, а Галіна, якую пабіла п’яная маці, сышла з вёскі. Следам за ёй, у іншы бок, праз два дні з’ехаў і Аляксей. Як аказалася, на доўгія дваццаць пяць гадоў…

— А як жыць мне? — Аляксей глядзеў на яе з такім непадробным хваляваннем, як глядзіць закаханы на любімую, што Галіна абвяла ў яго руках. — Ты ачысціла сваю душу… А як мне сваю ачысціць? Усё жыццё я хацеў адшукаць цябе і баяўся гэтай сустрэчы. Не, я не вінавачу цябе. Што здарылася — тое здарылася. Мы былі дзецьмі. Так, мы былі яшчэ дзецьмі. Не больш…

— Тое, што я прымусіла цябе зрабіць, не дзіцячая забава, — заплакала яна. — Я тады ратавала сябе і цябе, разлічваючы, што тыя вылюдкі не крануць мяне пасля цябе, пагрэбуюць, і не думала, што з табой усё так абернецца.

— Чаму ж ты збегла ад мяне, Анёл?

— Мне было сорамна. І я вырашыла забыць цябе.

— Атрымалася?

— Так, Алёша. Атрымалася. Я нават, здаецца, потым зноў пакахала. Але неўзабаве ён здрадзіў мне. А пакахаць яшчэ раз я не змагу. Для мяне больш не можа быць мужчын. Я жыву для дзяцей…

— Але я кахаў цябе ўсё жыццё.

— Не, Алёшка, ты кахаў тую памяць, якая ў цябе засталася ад дзяўчынкі-анёла. Твой анёл паляцеў, ён пакінуў гэты свет. А жанчына, якая перад табой — з іншага свету. Яна перажыла многае. Апяклася на сваіх памылках. Магчыма, і яна калі-небудзь яшчэ пакахае…

— А чаму табе не пакахаць зноў… мяне?

—Таму што ты не зменіш сваё жыццё дзеля майго і чужых табе дзяцей. У нас розныя дарогі. Навошта ж тады ўсё?

— Ты мяне дрэнна ведаеш.

— Не, Алёша. Зразумей: анёлы не вяртаюцца. Прабач. І прабачэння папрасі за мяне ў нашых аднакласнікаў і настаўнікаў. Я тэрмінова еду дадому. Пазваніў на мабільнік старэйшы: у майго малодшага сыночка па абедзе раптам паднялася тэмпература, я павінна ехаць, і нішто на свеце не можа спыніць: ён кліча маму. Разумееш, кліча мяне, — спакойна адказала яна.

— Пачакай хоць хвіліначку, — сказаў ён. — Няўжо анёлы, якія адлятаюць, калі іх папрасіць, не могуць выканаць адно жаданне?

Галіна зразумела, што меў на ўвазе Аляксей. Яна пацалавала яго ў скронь і прашаптала на вуха:

— Будзь шчаслівы, Алёша!

— І ты… — толькі і змог прамовіць ёй услед Савіч.

Ён не хацеў мірыцца з тым, што цяпер павінна было адбыцца. Але гэта адбылося: Галіна, не азіраючыся, села ў таксі. Яшчэ праз хвіліну аўтамабіль знік, яго нібы праглынула ноч.

Пасля дажджу стала холадна. Узбуджаны і збянтэжаны, Аляксей доўга стаяў на месцы. Яму здалося, што з аўтамабілем, пакінуўшы яго сам-насам, знікла, растала яго юнацкая мара. Раней ён нават і ўявіць не мог, што развітацца з ёй будзе не так ужо і цяжка, і так цяжка адначасова. Мусіць, адхварэла душа за гэтулькі гадоў? А можа, яна толькі пачынае хварэць. Зноўку?





Соф'я ШАХ

# КРЫЖ

*Вянок санетаў*

**1**

Які ж ён халодны, напэўна, той крыж,
жалезны і не адзінокі паміж
так густа настаўленых побач другіх —
жалезных, драўляных, вялікіх, малых…

Які ж ён сцюдзёны і скрушлівы там,
дзе столькі навечна засыпаных ям,
а зараз прыкрытых радном снегавым —
не белым, а нейкім, здаецца, сівым.

Які ж ён… Зірну безнадзейна ў акно —
адно мне і тое ж урэшце відно:
дом шматпавярховы ў святле вокан-ніш.

Ды хвоі высокім лясочкам стаяць.
Ані галасоў, ні машын не чуваць
у гэткую мёрзланапятую ціш.

---

***Шах Соф'я Мікалаеўна*** *нарадзілася 29 лістапада 1947 года ў вёсцы Лясец Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Дзіцячыя і школьныя гады прайшлі ў г. п. Азарычы таго ж раёна. Скончыла факультэт пачатковых класаў Мазырскага педагагічнага інстытута імя Н. К. Крупскай (1969), дэфекталагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (1980). Працавала настаўніцай пачатковай школы ў вёсцы Гажын Нараўлянскага раёна, у вёсцы Цідаў, у пасёлку Азарычы Калінкавіцкага раёна, лагапедам у школе-інтэрнаце ў Светлагорску.*

*Аўтар паэтычных кніг «І не пакіне спадзяванне» (1989), «Пад высокай лагодай нябёс» (1995), кніг вянкоў вянкоў санетаў «Адухаўленне» (2000), «Прысвячэнне» (2001), «Прызначэнне» (2002), «Увасабленне» (2003), «Спасціжэнне» (2004), «Азарычы» (2007), зборнікаў вянкоў санетаў «На ўсё дабро ў адказ» (2003), «Кругаспеў» (2006), «Малітваспеў» (2010) і інш.*

**2**

У гэткую мёрзланапятую ціш,
калі закрані, — загрыміць нават глыж,
калі крок ступі, — і аглушыць той крок
спалоханым трэскам на ўвесь нават змрок…

З акна пазіраю на вырысы хвой,
і штосьці не грэе нагрэты пакой —
такая зіма зааконная там,
што холадна слыху ды сцюжна вачам.

І думкі туды, зноў гатоўна туды —
на вечныя тыя грудкі і груды
між згорбленых сосен, дубоў і бяроз…

Туды, дзе і ён мерзне, пэўна, ушчэнт,
ды тоіць жалезны свой стогн мо і крэкт
у студзеньскі сама траскучы мароз.

**3**

У студзеньскі сама траскучы мароз,
калі і ад трэску бы мрэ адгалос,
бы цішу спужаць так баіцца сабой
ці сам ён страшыцца яе, векавой…

Калянасць панікклыя церпяць кусты,
бы разам сабраліся ўсе халады,
а травы — дык тых і даўно ўжо няма —
схавала, змярцвіла крутая зіма.

Здаецца, здаецца настойліва зноў,
што то не мароз, а мароз маразоў
ужо і не тоіць злавесных пагроз,

калі з-за яго гэта сі́вая стынь
калюча хавае ў сабе далячынь,
калі з-за яго не відаць і нябёс.

**4**

Калі з-за яго не відаць і нябёс…
А мо не відаць іх усё-ткі з-за слёз?
І далеч не бачна таксама з-за іх —
таксама ўжо немых, таксама сляпых.

Зірну я ў нябёсы, у далеч зірну,
а бачу ўсяго сівашэрасць адну,

і пухне, і шырыцца, засціць яна —
ні верху ёй нейкага ўжо, ані дна.

Мароз… Маразішча… Надоўга ці не
ваколле заняў і пранізвае-тне
ўсёй моцай сухой, сілай шчыльна-крутой?

І гэты паўзмрок у самой цішыні…
І гэтыя думкі — гані, не гані…
Які ж ён скалелы, напэўна, крыж той!

**5**

Які ж ён скалелы, напэўна, крыж той!
Скалелы да сутнасці ўжо нутраной,
скалелы да крайнасці, што прыгняла,
скалелы, скалелы, здаецца, датла.

Мароз насядае, мароз аж дрыжыць,
марозным паветрам як бы ўжо віхрыць,
марозны ўтвараючы нейкі і пыл
з марозных усіх сваіх зрынутых сіл.

Які ж ён здранцвелы, які ледзяны
у гэткі мароз яры і зацяжны
і гэткай аслепла-глухою парой —

жалезны той крыж, той пакінуты знак,
што ўзняўся пакорліва, суджана так,
што так, мая мамка, стаіць над табой…

**6**

Што так, мая мамка, стаіць над табой,
над беднаю долечкай-доляй тваёй,
над слёзным тваім, горка-гнёткім жыццём,
над скрушным былым непапраўным быццём.

Над тым існаваннем між буднага зла,
над тым неспрыяннем цяпла і святла,
над марамі, што хоць і больш у журбе,
а ўсё-ткі былі, выспявалі ў табе…

І вось ён стаіць. У зямелечку ўрос,
як бы заключыў у сабе ўвесь твой лёс,
як бы ўсё былое тваё і ўвабраў.

Як быццам апошні твой вымкнуты шчыт,
як быццам ахоўвае зараз нябыт, —
два крыльцы натужныя нема разняў.

**7**

Два крыльцы натужныя нема разняў —
тваім абаронцам выразліва стаў,
і значыць мясціну жалобную ён,
і ён сцеражэ гэты прывідны сон.

Туманы, завеі, дажджы, прамяні…
А ён нібы мае ўжо там карані,
дзе вечная сырасць, дзе вечная цьма,
куды не дастаць ні вятрам, ні грамам.

І колькі ўжо гэтакіх шквалістых зім
над ім перавісла, вісела над ім
чарговай калянай напругай праяў…

А ён свае крыльцы напятыя два…
(Ад болю сцінаецца й гэта страфа.)
Прастору ўсяго над грудком і абняў.

**8**

Прастору ўсяго над грудком і абняў.
Грудок жа суцэльна пад снегам прапаў:
раўнюсенька ўпалі-палеглі снягі,
усе бугаркі, ўсе грудкі замялі.

Такія глыбокія — груд і любы
закрыюць, зраўняюць, засцелюць, нібы
пад імі нікога, нічога, ані —
на той векавечнай, сырой глыбіні.

Скрозь проста ўсё дрэвы, скрозь проста кусты…
Каб не агароджа, ды каб не крыжы,
ды снег каб ад скрухі ўжо так не сівеў…

І твой, мая мамачка, столькі гадоў
на гэтым прыстанку апошнім правёў —
ад фарбы ці сцюжы ён так пасінеў?

**9**

Ад фарбы ці сцюжы ён так пасінеў?
Ужо ад марозу і сам заінеў,
а крыльцы як бы намагаюцца ўсё
абняць і тваё на зямлі небыццё.

Паветра ўдаецца адно ахапіць,
што па-над табою застыла маўчыць,

бо дзеліць сабою яно, ў рэшце рэшт,
свет белы і той, невядомы нам, свет.

А крыж нібы мкнецца, спрабуе штораз
абняць зноўку тое, што выкрасліў час,
нібыта адкінуўшы ў нечым сумнеў…

А крыж сустракае чарговую цьму
і ведае, ведае, пэўна, чаму
стаіць, агароджаны, стойка між дрэў.

**10**

Стаіць, агароджаны, стойка між дрэў,
і сцюжны, пранізлівы, зведаны гнеў
як бы не датычыцца болей яго,
як бы ўжо і звык да іспыту таго.

Ды каб жа іспыт гэткі толькі і быў,
што творыць мароз, як дагэтуль тварыў,
ды каб жа адна гэта сцюжа са сцюж
і гэткая немасці поўная глуш!..

Іспыт — не надвор'я шал стромісты ўвесь,
а думнай мясціны выразлівы сэнс,
а сутнасць, з якою любая ўжо з праг —

жыццёва-зямных, чалавеча-людскіх —
бясследна, бязлітасна з ліку жывых
ізноў патанае ў снягах.

**11**

Ізноў патанае ў снягах…
Ніякіх, нікому — ані пераваг.
З'явіўся, пажыў — ну дык следам у дол —
працягнецца іншым жыццё навакол.

Але і тых іншых час не ўберажэ,
ад глыбі зямное іх не ўсцеражэ,
а следам, а следам… Няма і канца
па волі ўсявышняй, па Слове Тварца.

Стаіць вось і твой, мая мама, — умёрз
ці, можа, карэнне займеў усур'ёз —
і значыць, зусім ужо ён не слабы?..

Два крыльцы разняў і між тысячаў цемр
ды тысяч святлыняў тваё ўсё цяпер
сабою аддана бароніць як бы.

**12**

Сабою аддана бароніць як бы…
А ўсё тваё ў межах ужо гарацьбы,
а межы-то — з нейкай дабаўкаю рост,
каб гарызантальна ўмясціцца наўпрост.

Ад сотак у селішчы колішніх тых —
да метраў вядомых, ужо векавых.
І розніца гэта — хоць плач, хоць пярэч —
над кожным вісіць, як дамоклавы меч.

… Калее твой крыж, вымярзае, але
і ў цемры начной, і пры дзённым святле
скрозь буры-віхуры-завеі-вятры

трымае ён знак на сабе імянны,
што не паржавеў ад сваёй даўніны, —
таблічку, на ёй словы родныя тры.

**13**

Таблічку, на ёй словы родныя тры
і лічбанькі, што — ад пары да пары,
між імі працяжнік, між імі ўсё, чым
і поўніўся лёс твой на ўлонні зямным.

І як ён — танюткі, кароткі, малы —
вось гэты значок непрацягла прамы,
вось гэты рысочак, што ледзьве відаць, —
гадоў умясціў тваіх шэсцьдзясят пяць?..

Гасподзь міласэрны, высокі Гасподзь,
працяжнік — усё, што было і што ёсць?
І лічбы — як межы ў яго па баках…

І памяць трох слоў, што сцвярджаюць: была,
і повязь трох слоў, што вяшчуюць: жыла
Лукер'я Адамаўна Шах.

**14**

Лукер'я Адамаўна Шах…
Ну вось куды знік твой пакутлівы шлях —
у глыб у сырую скаціўся-сышоў
і там табе легчы мясцінку знайшоў…

Мая ты матулька, а ў той вечнай цьме
ні сонца не паліць, ні вецер не дзьме,

там сціснуты самі ўжо і халады,
якім павярнуцца няма там куды.

І ён над табою — жалезны, цяжкі.
І ціш. Нібы трапіў-злавіўся ў ціскі
ўсяленскае сцюжы сам вецер-скавыш.

Зіма. І тупік. Закалелы тупік,
дзе ўздрыгвае зоркай марозавы блік.
…Які ж ён халодны, напэўна, той крыж…

**15**

Які ж ён халодны, напэўна, той крыж
у гэткую мёрзланапятую ціш,
у студзеньскі сама траскучы мароз,
калі з-за яго не відаць і нябёс…

Які ж ён скалелы, напэўна, крыж той,
што так, мая мамка, стаіць над табой…
Два крыльцы натужныя нема разняў —
прастору ўсяго над грудком і абняў.

Ад фарбы ці сцюжы ён так пасінеў?
Стаіць, агароджаны, стойка між дрэў,
ізноў патанае ў снягах.

Сабою аддана бароніць як бы
таблічку, на ёй словы родныя тры:
Лукер'я Адамаўна Шах.





Леанід ЛЕВАНОВІЧ

# ЖОНКА ЛІКВІДАТАРА

*Апавяданне*

## I

Па абедзе праз бухматыя попельна-шэрыя хмары прабілася, быццам вылузнулася з учэпістых абдымкаў, зыркае сонца. Дзень адразу пасвятлеў, павесялеў, але на душы ў Каці было змрочна і скрушна. У галаве білася трывожная думка: як там Аляксей? Уранні ён абліваўся потам, дыхаў цяжка, як загнаны конь.

Каця наддала ходу, шчыльней захінулася цёплай шарсцяной хустай, бо ў твар дзьмуў пругкі, калючы вятрыска, які часцяком уладарыць напрадвесні. Добра, што ўскінула на галаву хусту. Захварэць ёй ніяк не выпадае. Хусту яна звязала сама зімовымі вечарамі. А вечары мінулаю зімою падаліся Каці дужа доўгімі. Яна сядзела дома, як прыкаваная — ні ў госці да суседзяў, ні ў клуб, ні ў горад да дзяцей. Нават на прысягу да малодшага сына Вадзіма, які служыць у Барысаве, не змагла вырвацца. Куды кінешся, калі муж ужо не можа выйсці з хаты, добра, што яшчэ сам ходзіць па патрэбе, няма пролежняў. Але яна разумела, усё гэта будзе, калі Гасподзь не прыбярэ яго раней…

У Бараўлянах, калі выпісвалі Аляксея, доктар, лысаваты, каржакаваты, нахмурыўшы бровы, ад чаго на лбе збегліся гармонікам баразёнкі-зморшчынкі, глухаватым голасам прамовіў:

— Медыцына тут ужо бяссільная. Мы зрабілі ўсё, што маглі. А цяпер скрозь пайшлі метастазы. Меланома ў такім выпадку не вылечваецца…

Каця чакала гэткага прысуду, разумела, што тут нічога не паробіш, але ў глыбіні душы, нібы палахлівы, трапяткі агеньчык свечкі, дыхала надзея: а

---

*__Левановіч (Лявонаў) Леанід Кірэевіч__ нарадзіўся 14 верасня 1938 года ў вёсцы Клеявічы Касцюковіцкага раёна. Скончыў Магілёўскае культасветвучылішча (1956) і журфак БДУ (1963). Служыў на Балтыйскім флоце. Працаваў у рэспубліканскіх газетах, часопісах «Полымя», «Нёман», у выдавецтве «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг нарысаў і прозы: «Зялёны трохкутнік» (1973), «Якар надзеі» (1979), «Валанцёр свабоды» (1983), «Хлеб і мужнасць» (1987), «Усмешлівая Амерыка» (2005). Надрукаваў раманы: «Шчыглы» (1986), «Паводка сярод зімы» (1989), «Дзікая ружа» (1993), «Сіняе лета» (2005), «Бесядзь цячэ ў акіян» (2007), «Палыновы вецер» (2009).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1999) і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2005).*

раптам здарыцца цуд і Аляксей акрыяе. Усё часцей яна чула, што медыцына перамагае рак.

У вочы кінуліся зялёныя шыльцы травы на цёмна-бурым лапіку адталай зямлі. Увосень засохла, вясною аджыла. Во, каб чалавек мог так ажываць, як вясновая прырода! Каця ажно здрыганулася, як раптам над галавою зазвінеў жаўрук. Няўжо Аляксей ужо не пачуе птушынага спеву, не пабачыць зялёнай травы, квецені яблыняў, якія ён пасадзіў?

Сэрца сціснулася ад жалю і бездапаможнасці.

— Трэба хутчэй дамоў! — ногі самі наддалі ходу. Яна пакаўзнулася на гразкай сцежцы. Ледзьве не ўпала. Пайшла асцярожней. Павольней.

Аляксей ляжаў, заплюшчыўшы вочы, быццам спаў. Але яна ведала, што ён не спіць. Вострае няголенае падбароддзе тырчала з-пад коўдры. «Божачкі, які ён худы! Адны косці, — апякла Кацю думка. — Трэба неяк пагаліць…»

— Ну, што там на хверме? — як з-пад зямлі даляцеў да яе голас.

— А што там? Ацёлы яшчэ не скончыліся. Надоі прыбываюць, — Каця скінула гумовікі, ногі ў цёплых шкарпэтках усунула ў хатнія пантофлі, падсела да ложка. — Прымчаўся на хверму Шаўчук. Дзяўчаткі, кажа, паздраўляю са святам, з днём 8 Марта. Прыходзьце ўвечары ў клуб, уручым прэміі. Табе, Кацярына Сямёнаўна, як загадчыцы, будзе падвышаная. Так што, у сем вечара, каб усе былі ў клубе як штык. А мне зусім не хочацца ісці. Не хачу ніякай прэміі…

— Не гарадзі глупства. Трэба ісці. Нічога са мной не зробіцца, — вялікія сінія вочы дакорліва зірнулі на Кацю. Адны вочы мала змяніліся. Праўда, яны пазіралі неяк суха, стомлена, загадкава, быццам яны ўжо нешта ведалі, бачылі, чаго не ведаюць і не бачаць здаровыя, звычайныя людзі.

Аляксей адвярнуўся да сцяны. Шурпатаю, мазолістаю цёплаю далонню Каця пагладзіла ягоную голую галаву — непакорлівы ільняны чуб пасыпаўся пасля прамянёвай тэрапіі. Аднойчы ўранні падняў галаву, прызнаўся неяк Аляксей, усе валасы засталіся на падушцы.

— Не, Кацька, трэба ісці ў клуб. А то я буду душу сабе выядаць, што праз мяне ты свету белага не бачыш. На хверму бягом, з хвермы бягом… Я за локці сябе кусаю. Ну, што не паслухаўся цябе, — Аляксей павярнуў галаву да жонкі. — Мог жа не паехаць у гэты кляты Чарнобыль. Ты ж казала: не едзь! Адмаўляйся. І Шаўчук адгаворваў. І ў райкаме сказаў: «Кавальчук мне патрэбны. Лепшы механізатар, брыгадзір. Пашлём каго іншага». А сакратар упёрся: просяць надзейнага чалавека, камуніста. Каб і ў Чарнобылі быў за брыгадзіра. Дый мацак, кажа, твой Кавальчук. Вунь кашуля на грудзях трашчыць. Яго ніякая радыяцыя не возьме. І дзяцей ужо мае… Дый гэта ж не на век. Праз месяц-два вернецца. Я й сам думаў, што ніякая радыяцыя ні храна мяне не зваліць. Я ж літруху мог перакуліць і пайсці роўненька. Не хістаючыся. А ты праўду казала: не едзь. Адмаўляйся.

— Як бы ж ты не паехаў? Дый не з тваім характарам у кусты хавацца. Я ж цябе ведаю.

— Ну, выгналі б з партыі… А дзе яна цяпер тая партыя? Дзе той райкам? Мы, як дурні, яго баяліся. З брыгадзірства знялі б. А з трактара ці з камбайна — не! Араць, сеяць і малаціць некаму ж трэба. Гэта не языком мянціць.

Аляксей закашляўся, зноў адвярнуўся да сцяны. Каця ціха адышлася. Бачыла, як расхваляваўся муж. Хай супакоіцца.

Узгадалася, як Аляксей вярнуўся. Гэткі ж здаравяка, як і раней. Гэткі ж вясёлы, усмешлівы. Але твар яго меў бурачковы колер. Быццам дзесьці загараў каля цёплага мора. І на скуры былі месцамі чырвоныя плямы. Зноў сеў

на камбайн — убіраў кукурузу на сілас. Працаваў як чорны вол. Але ўвечары часам жаліўся: надта смажыць у роце, ногі баляць у каленях. Куляў чарку-другую, а іншым разам і цэлую паўлітэрку асушваў і завальваўся спаць.

— Станеш ты алкаголікам, Алёша. Прап’еш усё.

—Я ж не п’ю. Я раблю прафілактыку. Гарэлка расшчапляе, вымывае ўсялякую пошасць. Дзеля гэтага ліквідатарам і грабавыя даюцца. Каб лячыліся.

Каця чула ад многіх, што гарэлка ачышчае чалавечы арганізм ад радыяцыі. Чарнобыльцы набывалі ў краме віно скрынямі. І неўзабаве пасыпаліся ліквідатары як мухі. Гарэлка, так званае чарніла, радыяцыя касілі мужыкоў, нібы кулямёт. Аляксей трымаўся. Магутны арганізм вясковага асілка не здаваўся. Чырвань з твару паступова знікла, і чырвоныя плямы — таксама. Здавалася, што ўсё пойдзе на дабро.

Узгадваць пра Чарнобыль Аляксей не любіў. Хіба што пасля чаркі развязваў язык. «Хапала там безгалоў’я. Мне, брыгадзіру, і то не давалі дазіметра. Каб не ведалі, які радыяцыйны фон. Маладзейшыя хлопцы зайздросцілі мне, што маю дзяцей. Быў сярод ліквідатараў гэткі жарт: «Калі хочаш стаць айцом, абвярні яйцо свінцом…» Апавядаў Аляксей, як салдаты адстрэльвалі бяздомных сабак і катоў. Усе дзіву даваліся, што сабакі ў зоне падыходзілі да жанчын. Прасілі есці. А як бачылі мужчыну, уцякалі з усіх ног.

Ішлі гады. Падраслі дзеці, пайшлі на свой хлеб. Каця цішком дзякавала Богу, што Аляксей жывы-здаровы. Бывае, то ногі забаляць, то спіна, то галава пачне кружыцца, а потым усё прыходзіла ў норму. І доўжылася змаганне чалавека з нябачным ворагам — радыяцыяй — амаль сем гадоў. Але мінулаю восенню Аляксей злёг. У раённай бальніцы далі накіраванне ў Бараўляны. Праз два месяцы ён вярнуўся. Але гэта ўжо быў іншы чалавек: без валасоў, з абвіслымі плячыма і слабым, ціхім голасам. Зразумела Каця, што ейны мужасілак ужо не жылец на гэтым свеце, але душою і сэрцам яна не магла змірыцца з жахліваю думкаю і пачала новае змаганне з праклятаю немаччу.

Людзі параілі лячыць мужа настоем гарэлкі на пчаліным падморы. А таксама на прапалісе — пчаліным клеі. Паіла сырадоем з мёдам. Але паляпшэння не было.

— Не ў каня корм, даражэнькая, — сумна ўздыхаў Аляксей. — Давядзецца зноў ехаць у Баранавічы.

— Чаму ў Баранавічы? — здзівілася Каця.

— Гэта са мною ў палаце ляжаў журналіст. Малады мужык. Сорак пяць гадоў. У Чарнобылі не быў. Не курыў, мала піў. Праўда, казаў, працаваў шмат. Па камандзіроўках матаўся. Пісаў начамі. Кватэру будаваў. Дзяцей расціў. Калі захварэў, дык сказаў сямейнікам, каб на тэлефонныя званкі адказвалі: «Паехаў у камандзіроўку ў Баранавічы». Сябры, сваякі разумелі. Іншыя верылі… Так што, паеду і я ў камандзіроўку ў Баранавічы... Так і гавары ўсім…

— Алёшка, ты можаш паправіцца. У цябе моцны арганізм. Не здавайся. Буду маліцца і ноччу, і днём, — праз слёзы казала Каця на развітанне.

І вось ліквідатар Кавальчук вярнуўся дамоў паміраць.

…Увечары Каця збіралася ў клуб. Апранула сваю лепшую сукенку. Ад яе патыхала нафталінам, бо яна доўга вісела нечапанаю. Прычасала валасы. Запляла іх на патыліцы ў тоўстую куксу.

— Прыгожая ты, Каця. Нам бы жыць ды жыць. Дзецьмі, унукамі цешыцца… Ну, гульні ты з кім-небудзь. Гады ж ідуць…

—Ты што здурнеў? З кім?

— Паслухай сюды, мая любая, — Аляксей з цяжкасцю прыўзняўся на ложку. — Даўно хачу сказаць. Ну, калі я… Сама разумееш... Адкіну капыты…

Выходзь замуж. Можа, год пачакай, каб языкамі не абмывалі. І выходзь. Не слухай нікога. Ты столькі нацярпелася…

— Што ты балбочаш? За каго мне выходзіць замуж? Аб'яву даваць у газету? — праз слёзы выціснула Каця.

— Ну, хопіць румзаць! Мала начамі плачаш, дык і ўдзень… Думаеш, я не чую? Я ўсё чую. Так што, супакойся. Слязьмі гору не паможаш. Хадзі. Пацалую. Асушу твае вочы ад слёз. Ты ж іх мазілкай не падводзіш. Яны ў цябе і так прыгожыя.

Каця прысела на ложак. Прыхінулася да мужа. Ён пяшчотна пацалаваў ейныя вочы, вусны.

— Не вешай нос. Не падай духам. Жарт на днях чуў па радыё. Пракурор адчыняе халадзільнік. А там студзень, халадзец трасецца. «Не бойся! Я па кетчуп». Вясёлы жарт, — Аляксей паспрабаваў засмяяцца, але раптам асекся, павярнуўся да сцяны і бязгучна заплакаў.

**II**

Каця стаяла перад люстэркам, наводзіла марафет. Злёгку падмалявала ружаватаю памадай вусны, ужо сухаватыя, але яшчэ прывабныя. Прычасала яшчэ густыя каштанавыя валасы, але ўжо з сярэбранымі ніткамі сівізны. Ляціць час. Ужо сямнаццаць гадоў без мужа, маладая пенсіянерка, маладая бабуля — у старэйшага сына нарадзілася дачушка. Узгадаўся далёкі вечар, як збіралася ў клуб атрымліваць прэмію. І Аляксей праз слёзы вымавіў «Гульнула б ты, Каця…» Можа, тут, у санаторыі, гульнуць. Я ж вольная. Яна прыдзірліва агледзела сябе спераду, ззаду. «Яшчэ ўсё пры мне», — засталася задаволеная сабой.

Збіралася Каця на канцэрт-конкурс, дзе будуць выбіраць Міс санаторыя «Зялёны Бор». Культарганізатар Ядвіга Іосіфаўна на рэпетыцыі вельмі прасіла яе прыйсці. «У вас моцны голас. Праспяваеце. Танцуеце добра. Прыходзьце».

Канцэрт-конкурс пачаўся па абедзе. А трэцяй гадзіне. Смелых жанчын знайшлося пяцёра — акурат гэтулькі і трэба было. А вось трох мужчын — членаў журы ніяк не знаходзілася. Ядвіга гучна заклікала мужчын не саромецца, быць смялейшымі. Неўзабаве два маладыя мужчыны падышлі да сцэны. Не ставала трэцяга. Зноў Ядвіга пачала прасіць-угаворваць мужыкоў. Нарэшце ў зале ўзнялася рука, падняўся сівагаловы чалавек. Каця згледзела, як ён таропка крочыў да сцэны, высокі, сутулаваты, у акулярах.

— Як вас завуць? Адкуль вы прыехалі?— дапытвалася Ядвіга.

— Дзядзька Рыгор. З Мінска.

— А па бацьку як вас? Ці прозвішча.

— А навошта? Дзядзька Рыгор. Хіба гэтага мала?

— Ну, добра. Хай будзе так, — пагадзілася Ядвіга, раздала членам журы маленькія нататнічкі ды алоўкі, каб яны ставілі адзнакі канкурсанткам.

Першы нумар — танцы. Усе жанчыны аказаліся выдатнымі скакухамі. Зала дружна пляскала далонямі, члены журы паставілі ўсім па пяць балаў. Потым былі спевы. І тут дзядзька Рыгор паказаў свой характар.

— Усе спявалі хораша. Усе галасістыя. Але за тое, што спявалі невыразныя песні, усім стаўлю па тры балы.

Канкурсанткі падціснулі вусны, Каця нават буркнула: «Дзядзька гэты — нейкі паўдурак». Але ў зале пачуліся воплескі. Нехта нават крыкнуў: «Малайчына, дзядзька! Правільна вырашыў!» Тады Каця паўшчувала сябе: «От, дурніца. Магла ж праспяваць «Рушнікі», або «Касіў Ясь канюшыну», ці маміну

любімую — «О, не кувай, зязюленька, рана…» Дык жа пацягнула «…на тот бальшак, на перакростак…» Але ж песня добрая, душэўная — спрачалася ў думках Каця з дзівакаватым дзядзькам Рыгорам. Потым канкурсанткі прызнаваліся ў каханні сваім «абраннікам». Затым Ядвіга прапанавала з варанай бульбы, морквы, квашанай капусты, салёных агуркоў згатаваць страву і даць ёй вясёлую назву. І з гэтым заданнем канкурсанткі справіліся з бляскам. Потым яны адгадвалі загадкі. Урэшце пачалі лічыць балы. Каця хоць і была старэйшая між канкурсантак апынулася на другім месцы, атрымала званне «Віцэ-Міс» санаторыя «Зялёны Бор» і прыз глядацкіх сімпатый. І першым яе павіншаваў дзядзька Рыгор, якога яна ахрысціла паўдуркам.

**III**

А ўвечары былі танцы. Каці раптам захацелася, каб яе запрасіў гэты сівагаловы чалавек. Яна ціха ўзрадавалася, калі ўбачыла яго. Ён стаяў бліз дзвярэй, у круг, дзе, нібы камары вясновым вечарам, таўкліся адпачываючыя, не ішоў. «Можа, аб’явяць дамскі вальс… Трэба не спазніцца». — Каця пасунулася бліжэй да дзвярэй. І тут зайгралі вальс. Дзядзька Рыгор падышоў да Каці, галантна пакланіўся:

— Дазвольце вас запрасіць…

— Калі ласка, — з нечаканай гарэзлівасцю адказала Каця.

Спярша ў іх нядужа ладзілася, партнёр нават наступіў Каці на нагу. Сумеўся, захваляваўся:

— Прабачце. Даўно не выпраўляўся ў скокі.

Памалу яны асвойталіся. Закружыліся ў такт музыкі. Рыгор пасмялеў, узняў Кацiну руку над ейнай галавой і разы чатыры хвацка пакружыў партнёрку. Потым зноў праваю рукою пяшчотна абняў яе за талію, а леваю злёгку цісkанyў далонь. У Каці аж сэрца ёкнула. Нібы іскарка праскочыла праз усё цела.

Яны танцавалі ўвесь вечар. Калі прагучала апошняя мелодыя, Рыгор запрасаіў Кацю да сябе. Сказаў, што жыве ў асобным нумары. Яна сумелася, нерашуча пачала адмаўляцца.

— Ну, не бойцеся. Я вас не з’ем.

— Ды я не баюся. Проста неяк нечакана, — а сама радавалася, што будзе сам-насам з гэтым сімпатычным чалавекам, пэўна ж, адукаваным, можа, якім начальнікам, раз жыве ў асобным нумары.

Падняліся на трэці паверх. У невялікім Рыгоравым пакоі месціўся шырокі ложак, на тумбачцы ля яго некалькі тоўстых кніг. Каля акна невялікі столік, два мяккія крэслы. Меўся тэлевізар, тэлефон. Невялікі халадзільнік.

— Сядайце. Адчувайце сябе як дома. Можа, віна па кроплі за знаёмства?

Каця не пярэчыла. Рыгор наліў у бакалы чырвонага віна. Паставіў спадачак з цукеркамі.

— За прыемнае знаёмства! — Рыгор падняў бакал, прыязна зірнуў на Кацю.

«У яго прыгожыя вочы, — міжволі адзначыла яна. — Але пазіраюць стомлена. І цёмныя кругі пад вачыма. Мусіць, шмат чытае. Цікава, хто ён па прафесіі? Ясна, што не паўдурак, як я ахрысціла яго за тры балы…»

— Кацярына Сямёнаўна, можа, раскажаце трохі пра сябе. Адкуль вы прыехалі?

Слухаў Рыгор вельмі ўважліва, часам падтакваў, хітаў сівою галавой, у ягоных вачах за шкельцамі акуляраў было столькі спагады і цеплыні, што Каці хацелася расказаць пра ўсё сваё жыццё .

А потым гаварыў ён. Жонку пахаваў два гады таму — з’еў кляшнясты вусач яшчэ не старую жанчыну. Яму нядаўна споўнілася шэсцьдзясят тры. Мае дарослага сына, дзвюх унучак. Працуе ў інстытуце выкладчыкам. Чытае лекцыі па культуралогіі. «Вось чаму ён гэткі культурны. Гжэчны кавалер. Ён і студэнтаў культуры вучыць. З ім трэба акуратна. Каб не ляпнуць чаго лішняга, недарэчнага», — зрабіла для сябе выснову Каця.

— Я адразу зразумела, што вы — чалавек вучаны. Як загаварылі па-беларуску, я й падумала, што вы паэт ці пісьменнік.

— Во, дажыліся. Толькі паэты ды пісьменнікі гавораць на роднай мове.

— Ну, чаму? І вы ж гаворыце. І я. І ўся наша вёска. Хай сабе на трасянцы. Але ж гэта наша, родненькая трасянка.

— Добра. Гэта асобая тэма. Давайце вып’ем за нашых унукаў. Каб ім шчаслівей жылося, чым нам.

— За гэта можна выпіць да дна. Унукі — гэта вялікая радасць. Я ж казала, што ў мяне два хлапчукі і дзяўчынка. Усё лета пасуцца ў мяне. Ім жа ў вёсцы вольніца, не тое, што ў горадзе.

Каця сапраўды асушыла бакал да дна, адчула, як прыемная цеплыня разліваецца па целе. Рыгор нібы прачытаў, здагадаўся, як яна чуецца, бо тут жа сказаў:

— Ёсць і яшчэ радасці. Выпіць віна з сімпатычнай жанчынай. Пацалавацца. А што, давайце пацалуемся.

Яны цалаваліся доўга і прагна. Як у спякоту чалавек п’е крынічную ваду.

— Праўду кажуць: маладому дзеду з маладою бабай — маладое ў галаве. А яшчэ кажуць, нібыта ў санаторыі жанчыны дзеляцца на дзве катэгорыі: на — дам і не дам.

— Я з другой катэгорыі.

— А чаму? Вы ж — вольная. Сямнаццаць гадоў без мужа.

— Усё так. Вольная. Але ў ложак адразу я не магу…

— Мужчыны таксама часам не могуць. Але з іншай прычыны, — Рыгор Андрэевіч раптам спахмурнеў. Пільна зірнуў на Кацю. — Ведаеце што… Ну, як чэсны чалавек мушу вам прызнацца. Я хварэў. Сэрца прыціснула. Зараз ужо чуюся лепей, але… Як вам сказаць? Ну, мабыць, я здатны толькі на пацалункі…

«Ну, вось ты, Кацька, і гульнула. У вёсцы не было з кім. Дык і ў санаторыі асечка…» — мільганула ў Кацінай галаве, а ўголас яна сказала:

— От, не бядуйце. Мне і так з вамі хораша. Утульна. Спакойна. Давайце будзем хадзіць на танцы. Штовечар.

— Згодзен. А яшчэ будзем хадзіць па лесе. Штодня. У любое надвор’е.

## IV

І яны гулялі. І гаварылі, гаварылі... Расказвалі пра свае сем’і, пра дзяцей, пра ўнукаў. Потым перайшлі на іншыя тэмы, прычым самыя розныя. Рыгора цікавіла і праца на ферме, і адносіны між людзьмі. Ён уважліва слухаў, задаваў пытанні. Гэта натхняла Кацю. Яна апавядала шчыра, як на споведзі ў храме. Яны і былі ў храме. Храм гэты шумлівы, жывы, зялёны — сапраўдны цуд прыроды — Яго Вялікасць Лес.

Санаторый нездарма меў назоў «Зялёны Бор»: яго карпусы месціліся сярод стромкіх соснаў, між якіх пракідаліся цёмна-зялёныя спічастыя яліны, зрэдку бялеліся танклявыя бярозкі, нібы зялёныя пінгвіны, гарнуліся адзін да аднаго кусты ядлоўцу, часам яны збягаліся ў духмяныя купкі, быццам хаце-

лася ім пагрэцца. У гэткім лесе лёгка, вольна, раскавана дыхаецца, ногі не ведаюць стомы. Чалавек маладзее душою і целам.

Дні стаялі ціхія, светлыя, з лёгкім марозікам. Канчаўся люты, пачыналася вясна святла. Неяк Рыгор і Каця зайшлі далёка, ажно да павароткі на асфальт. Па шашы даволі часта праносіліся машыны. Сонца растапіла на дарозе снег. Шаша была цёмная, дымілася параю. Рыгору нават заманулася праехаць па ёй на машыне. І каб побач сядзела Каця. Яна нібы адчула пра што падумаў ейны кавалер, бо спыталася:

— У вас ёсць машына?

— Ёсць. Фольксваген. Колеру металік. Ну, светла-шэрая. Зручная машынка. Задняе сядзенне адкладаецца. Нават дошкі на лецішча вазіў. Каб маладзейшы быў, то кабету можна раскласці.

— Во, якія ў вас грэшныя думкі, — Каця пільна зірнула на яго, усміхнулася. — Вы памаладзелі, Андрэевіч. Здаецца, не так сутуліцеся. І маршчынкі пад вачыма разгладзіліся.

— Так, чуюся лепш. І ў гэтым заслуга адной сімпатычнай кабеты, якую мне хочацца пацалаваць.

— А яна не супраць, дарагі мой чалавек.

Каця прыўзнялася на дыбачкі. Пацягнулася да ягоных вуснаў. Яны цалаваліся доўга і прагна, як маладзёны. І раптам Рыгор адчуў, што ў яго ўнутры абудзілася нейкая хваля, нібы нарадзілася жаданне блізкасці з гэтай мілай жанчынай.

— Ну, хопіць, а то нехта ўбачыць, — азірнулася Каця.

— Ну дык што? Убачыць і пазайздросціць. Гэта я недзе чытаў, што ў вайну Сталіну паведамілі: адзін малады камандуючы фронтам водзіць вечарамі да сябе ў бліндаж дзяўчат з медсанбата. І вось начальнік галоўнага палітупраўлення генерал-палкоўнік Мехліс пытаецца: «Что будем делать, товарищ Сталин?» А той адказвае: «Завидовать будем, товарищ Мехлис». Сталін разумеў: камандуючы малады, здаровы мужык. Сёння ён жывы, а заўтра — невядома.

— А дзяўчаткі з медсанбата… Хіба лёгка было ў вайну? А колькі іх пагінула… Ім хацелася ласкі. Пяшчоты. Мая цётка Тэкля… Ёй восемдзесят два гады. Яшчэ кароўку трымае. Пчол. Дык яна пасля чаркі любіць казаць: чарвяк зямлю точа. А і той хоча…

— Мудрая ваша цётка, — зарагатаў Рыгор. — Вы разбудзіце ўва мне спячага льва.

— Буду старацца, — гучна смяялася Каця.

Але гаварылі яны, вядома ж, не толькі пра любошчы. Кацю цікавіла, пра што Рыгор Андрэевіч гаворыць у сваіх лекцыях. Што гэта за навука — культуралогія. І ён апавядаў, падбіраючы самыя даходлівыя словы.

— Чалавецтва зараз перажывае татальны… Ну, шырокі, глыбокі крызіс. Асабліва — еўрапейцы.

Патэнцыял індывідуалізму, узняты на вышыню абсалюту, вычарпаў сябе. Індывідуалізм — гэта калі кожны сам па сабе. Калектыў — гэта суполка людзей. Ну, як у вас на ферме. Індывідыуума цікавіць толькі маё, уласнае карыта. На гэтым грунтуецца капіталізм. Мой інтарэс. Мой прыбытак. Мой дом — вышэй за ўсё. Дык вось, крызіс гандлёвага грамадства дасягнуў апагея. Што далей? Некалі Шапенгаўэр… Быў такі славуты філосаф. Ён падаў ідэю перабудовы бяздумнага аптымізму на крытычны аптымізм. Маўляў, трэба думаць чалавеку пра адказнасць перад Матухнай-Прыродай за падараванае жыццё. Ці так жывеш? Што зрабіў добрага? Прыгожы дом збудаваў. Сад пладовы пасадзіў, дзяцей працавітых вывеў у людзі. Значыць, не дарэмна таптаў

зямлю. Увогуле чалавеку для нармальнага жыцця не шмат трэба. Каб паесці было што, апрануць, мець жытло, сям'ю, любімы занятак. І ўсё. А паслухаеш рэкламу…

— О, як мне збрыдзела гэтая рэклама! Глядзіш кіно і на самым цікавым месцы хоп — пайшло: купіце тое, купіце гэта. Калі муку «Гаспадар» хваляць, дык і паслухаць прыемна. Аладкі з яе люблю пячы. А то ж усё не па-нашаму…

Рыгор адзначыў, што Каця хваліць «нашу», беларускамоўную рэкламу. Можа, і ягоныя тры балы за чужыя песні паўплывалі.

— Дык вось, крызіс гандлёвага грамадства дасягнуў апагея. Што далей? Ніхто не ведае… Сацыялізм і камунізм аплявалі. Залілі брудам. Хіба што кітайцы дакажуць свету, што ідэалы сацыялізму не вычарпалі сябе. Кітай неўзабаве будзе першым у эканоміцы. Магутная Амерыка мусіць саступіць… Можа, вялікі Кітай і пакажа чалавецтву шлях у будучыню?

— Я вось слухаю вас, Рыгор Андрэевіч, і думаю. Мусіць, студэнты любяць вашы лекцыі. А студэнткі, пэўна, закаханыя… Мабыць, жонка некалі раўнавала?..

— Некалі было. Тэлефанавалі дамоў, запіскі прысылалі… Не заўсёды ж я быў сівагаловым. Што зробіш, усё праходзіць. Усё мінаецца… Цяпер пішуць скаргі. Ат, пра гэта і гаварыць не хочацца.

— А што было? Мне ўсё цікава. Раскажыце, — прасіла Каця.

— Гісторыя вось якая. Аднойчы на лекцыі я ўзгадаў пра так званую Невядомую вайну. У 1654 годзе войска маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча ўварвалася на Беларусь. На землі Вялікага Княства Літоўскага. Так называлася тады наша дзяржава. Пра гэта напісана ў кнігах. Ёсць у Беларускай гістарычнай энцыклапедыі. Я нічога не прыдумаў. Рэктар мне і кажа: на вас паступіла скарга, што вы ў сваіх лекцыях распальваеце варожасць паміж народамі. Зараз улетку я яшчэ чытаю завочнікам. Праз год-два буду хранічным пенсіянерам. Ні табе лекый, ні экзаменаў. Ні залікаў.

— Дык у вас болей будзе вольнага часу. Хопіць працаваць. Адпачніце. Расслабцеся. Прыязджайце да мяне. У мяне заўсёды памідораў поўна, агуркоў. А на балоце журавін мора.

— А што? Гэта ідэя! Ты — мая журавінка.

— Ты — мая клюквачка, — заўсміхалася Каця. — Што рускае, што беларускае. Усё сваё. Хаця як я помню, бабуля дый матка заўсёды казалі — журавіны.

— Ну вось, бачыш. Справа ў тым, Кацюша, што ў нашых продкаў была вялікая, але вельмі пакутлівая гісторыя. Зямля наша палягае на скрыжаванні вялікіх дарог. Таму яе тапталі, драталі заходнія і ўсходнія захопнікі. Полаўцы ды татары лезлі з поўдня. Шведы — з поўначы. Гэта дзіва, што народ наш выжыў. І што мова наша жыве. У нас тысячы рэк і азёр. Мабыць, нашы продкі вучыліся мудрасці ў вады.

— А што, вада мае мудрасць?

— Так. Вада здольная прымаць форму любога сасуда і заставацца сама сабою. З усімі сваімі якасцямі. І народ наш мусіў падпарадкоўвацца любой уладзе. Так бы мовіць, прымаць форму любога сасуда. Каб выжыць. Але заставацца самім сабою не заўсёды ўдавалася. Ўратавацца, выжыць, мусіць, дапамагаў лес. Грыбы, ягады. Найперш — журавіны… І баяцца гісторыі, хаваць яе, замоўчваць не трэба. Што было, тое было. Немцы і французы ўсё жыццё ваявалі. І ў мінулую вайну былі праціўнікамі. А зараз Нямеччына і Францыя — найлепшыя сябры. Вось такія справачкі, як гаворыць мой сусед па стале. Былы вясковы электрык, — Рыгор зірнуў на гадзіннік. — О, падвячорак ужо блізка, а мы зайшлі далёка… Каламбур атрымаўся.

— Падвячорак можна прапусціць. Нейкі там апельсін. Чай ці пачак пячэння. Надта ж хораша ў лесе. І так цікава!

— Прыгожа тут. Гэткі светлы лес. Хараство — гэта адзінства дабра і красы. Ой, Кацярына Сямёнаўна, заносіць мяне. Забываюся, што я не на лекцыі. Што прыгожую кабету цалаваць трэба. А не дурыць ёй галаву навуковымі байкамі.

— Дык у чым жа справачкі? Хіба ж кабета супраць?! На зло Чарнобылю будзем цалавацца.

Яны зноў горача, са смакам пацалаваліся.

— От, я сказаў: падвячорак блізка, а мы зайшлі далёка. Гэта — не каламбур. Каламбур — гульня словамі, гукамі. І сэнс павінен быць парадаксальным. Ну, вось Пушкін пісаў:

Все говорят: он — Вальтер Скотт,
Но я, поэт, не лицемерю.
Согласен я — он просто скот,
Но что он Вальтер Скотт — не верю.

— Ой, як здорава гучыць! Я чытала некалі Вальтэра Скота. У школе Пушкіна вучыла на памяць. А ведаеце, мой Аляксей, калі захварэў, дык чытаў Джэка Лондана «Любоў да жыцця». Так што, і я нешта ведаю. Ці паставілі б вы мне залік?

— Думаю, што залік ты б атрымала. Бо прайшла вялікую школу жыцця. Давай будзем «на ты». Так прасцей. Цяплей.

— Згодна. Хай будзе цяплей.

За дрэвамі паказаліся белыя карпусы санаторыя.

— От, і наша хароміна ўжо відаць. Тады яшчэ адзін каламбур. Уладзіміра Маякоўскага.

В степи раздавался грохот и звон.
Бежало стадо бизоново.
Впереди бежал с хвостом бизон.
Позади бизон без онова.

— Ну і праўда! Такая гульня словамі! Так гучыць. Як музыка. Што значыць — талент! Дзякуй, Рыгор Андрэевіч, за такую цікавую, незабыўную прагулку. І як вы… Не, ужо — ты ўсё памятаеш?

— На тое й галава, каб памятаць. А не толькі шапку насіць. Гэта адзін гумарыст неяк зазначыў: усе скардзяцца на сваю памяць, але ніхто не скардзіцца на свой розум… А табе дзякуй за цярпенне. Што ўважліва слухала маю балбатню. Дзякуй за праходку. За пацалункі — асаблівая падзяка.

Каця гарэзліва зірнула на яго, але нічога не сказала. А ёй так карцела прызнацца, што палічыла «дзядзьку Рыгора» за паўдурка, нават ляпнула тады дзяўчатам. Цяпер яны цішком пасміхаюцца, калі бачаць Рыгора і Кацю разам. А Міс санаторыя нават уела: ну, як твой дзядзька-паўдурак? О, каб усе былі такія паўдуркі, адказала Каця, на планеце Зямля было б іншае жыццё.

## V

А ўвечары зноў былі танцы. Рыгор і Каця не ведалі стомы. Нарэшце «паўдурак-прахвесар» адчуў, што спіна ўзмакрэла, прапанаваў Каці перадыхнуць. Пайшлі ў ягоны пакой. Сядзелі, пілі, смакуючы, чырвонае віно. Потым цалаваліся. Рыгор чамусьці шэптам, быццам некага баяўся ці не верыў сабе самому, сказаў: «Каця, хачу цябе…» Яна хуценька распранулася і шуснула пад коўдру. Але...

... — Хочаш масаж зраблю? — пасля сказала Каця. — Я ўмею. Рукі ў мяне моцныя.

— Я тут прымаю падводны масаж. Вельмі здарова.

— А ў мяне грошай не хапіла. Хаджу на бясплатны. Шыю, карак размінае Вася. Здаровы малады хлопец. Рукі ў яго, як лапаты.

Рыгор паслухмяна лёг. Аддаўся цёплым, пяшчотным жаночым рукам. Увішныя дужыя пальцы то моцна, глыбока цiскалі ягоную спіну, то расціралі скуру шырокімі рухамі далоняў. Потым Каця прыкрыла разагрэтую спіну ягоным світарам, узялася расціраць пяткі, пальцы ступакоў.

— Ну, мілачка мая, ты прафесіянал! Мне ніхто ніколі не рабіў гэткі масаж.

— Я не прафесіянал. Я толькі вучуся. Гэткі масаж мужчыну раблю першы раз у жыцці. Спіну некалі націрала Алёшу гарэлкай. Ну, сядзеў на трактары па дзесяць гадзін. Дык, вядома, сярэдзіна ламіла. Наш старшыня, Шаўчук, прызнаваўся, што жонка тапталася па спіне. Гэтак лячыла.

— Ну, дык патапчыся, — рагатнуў Рыгор.

— Не, наступны раз. Праз дзень трэба. Заўтра ж — Масленка. Будзем зіму праводзіць. Абвестку бачыў? Па-беларуску напісана. Мусіць, сорамна стала нашай Ядвісі. Яна ж родам з Палесся. Казала, што ў ейнай вёсцы некалі настаўнічаў Якуб Колас.

— Гэта цікава. Вось ты сказала: Масленка. А ў абвестцы напісана — Масленіца. Але паляшучка Ядвіся ўспамінае родную мову.

Пасля абдымкаў, пацалункаў і масажу спаў Рыгор моцна. Прачнуўся бадзёрым, соладка пацягнуўся, у галаве мільганула грэшная думка: каб цяпер пад бачок Кацю, у іх бы ўсё атрымалася.

## VI

Дзень выдаўся светлы, сонечны, але даволі халодны, ветраны. На атуленай дрэвамі адкрытай пляцоўцы сабраўся народ. На невысокім памосце гаспадарыла Ядвіга ў касцюме Вясны — доўгай зялёнай сукенцы з вянком на галаве. Тут жа была і Зіма. Ядвіга прапанавала паклікаць Дзеда Мароза. Усе хорам падтрымалі яе. І неўзабаве на міні-трактары ён прыляскатаў — магутны, гучнагалосы, чырванатвары. З сівымі вусамі і белаю барадою. Пад гучную музыку пачаліся скокі. Марозік прымушаў топаць, стаяць не выпадала.

Рыгор і Каця кружыліся, нібы хлапец і дзяўчына. Рыгору падабалася, што Каця, вясковая жанчына, апранута з густам: круглая, падобная на кубанку, футравая шапачка, прыталенае цёмна-сіняе паліто з футравым каўнерыкам. Вялікія шэра-зялёныя вочы яе свяціліся гарэзлівым бляскам, але ўсмешка была скупаватая: саромелася Каця белай металічнай фіксы.

Тым часам на сцэне разыгрывалася вясёлае вясновае дзейства. Ядвіга аб’явіла конкурс на лепшую песню пра вясну. Затым загадвала дасціпныя загадкі. Потым утварыліся дзве каманды з мужчын і жанчын, якія ўзяліся перацягваць канат. Гледачы падбадзёрвалі, дружна пляскалі ў ладкі. А потым было частаванне блінамі з мёдам, гарачым духмяным чаем. І зноў скокі.

Прафесар Дрозд злавіў сябе на думцы, што ніколі ў жыцці так не весяліўся на Масленку, з такой асалодай не кружыўся ў вальсе.

— Рыгор Андрэевіч! Мы вамі любуемся! — ён азірнуўся на голас: яму махала сямейная пара, ён і яна вясковыя настаўнікі-пенсіянеры.

— Далучайцеся да нас! — Рыгор пацягнуў іх у круг. А сваёй расчырванелай партнёрцы шапнуў. — Я кахаю цябе. Ты падобная на «Невядомую» з карціны Крамскога. Ну, трохі старэйшая за яе. Але такая ж прыгожая.

Каця не ведала, як выглядае тая кабета з карціны, але адчула сябе шчаслівай.

Увечары Рыгор і Каця на танцы не пайшлі. Ім хацелася быць разам, удваёчку, гэтак сказала Каця. І на гэты раз у іх усё атрымалася.

— Каця, дарагая, любая. Ты вярнула мяне да жыцця. Ціск у мяне нармалізаваўся. Сэрца перапоўненае пяшчотаю. Я ніколі не ведаў гэткай радасці.

— Мабыць, ты забыўся. Хіба жонку не любіў?

— Чаму? У нас было каханне…Але… Так, як з табою, не было. Ты — маё апошняе каханне. Давай будзем жыць разам.

Яны пачалі планаваць сваё далейшае жыццё. Рыгор сказаў, што чытае лекцыі апошні год, прапанаваў пераехаць да яго.

— У горад я не паеду. Кінуць гаспадарку? Не, дзеці, унукі гэтага не зразумеюць… Давай ты да мяне. Хата вялікая. Ад нас да Мінска шэсцьдзясят кіламетраў.

— А да майго лецішча — пяцьдзясят пяць.

— Ну, дык будзем катацца. Ты — да мяне. Потым я — да цябе. Толькі ведаеш, Рыгорка, ці не будзе табе са мною сумна? Ты — прафесар. Я — малаадукаваная даярка. Цалавацца і абдымацца — гэта адно. А жыць штодня разам — зусім іншае.

— Пра нейкі там сум нават і не думай. Мы будзем гаспадарыць. Я ўмею касіць, дровы люблю сячы. Некалі і за плугам хадзіў. Цяпер, мабыць, не змагу…

— Дык і не трэба. Суседзі маюць коней. І ўзаруць. І пасеюць. Ды колькі той зямлі! Усяго дваццаць пяць сотак. Як добрай бабе сесці.

— Вясёлая ты, Каця, жанчынка. Грэх цябе не любіць. Мы ж яшчэ не старыя. Мне — шэсцьдзясят тры. Табе — пяцьдзясят сем. Яшчэ гадкоў дваццаць можам жыць і радавацца.

— А чаму не трыццаць? На зло Чарнобылю!

— Слушна! Трыццаць лепей. Жарт успомніўся. Сустрэліся два яўрэі. Адзін і кажа: «Слухай, Фіма, ты хочаш пражыць 120 гадоў? — Не, я хачу пражыць 119. — Чаму? — А каб на помніку напісалі: — «Безвременно ушел из жизни».

— І ты, Рыгорка, вясёлы. Не засушыў мазгі навукаю. І яшчэ гарачы. Дужы, — Каця пяшчотна прыхінулася да яго. — Мне з табою так цікава. Неяк проста, лёгка. Нібы знаёмыя даўно.

— Якое шчасце, што мы з табой сустрэліся! Я чакаў, я спадзяваўся… Як пісаў рускі класік: «…на мой конец печальный блеснет любовь улыбкою прощальной…» І гэта збылося.

— Так, Рыгорка, развітвацца нам давядзецца. Паслязаўтра канчаецца мой тэрмін. Заўтра развітальны вечар.

— А можа, паедзем разам? Мне там тры дні застанецца.

— Ты што? Гэтулькі працэдур! Не, набірайся моцы. Жанчыны любяць дужых. Ты ж да мяне прыедзеш. Потым — я да цябе. І кожная стрэча будзе святам. На зло Чарнобылю!

Наперадзе Рыгора і Кацю чакала новае жыццё.



**Алжас СУЛЕЙМЕНАЎ**

# НОЧ-ПАРЫЖАНКА
# І ПОЎДЗЕНЬ КАЗАХСТАНА

*Алжас Сулейменаў, які ўсёю душой і ўсім сэрцам звязаны з Казахстанам, піша на рускай мове. Так склаўся яго духоўны, паэтычна-генетычны код, што наканаваны яму зносіны з вечнасцю на мове Пушкіна, Лермантава, Блока... Але нельга не заўважыць, што і на пачатку свайго творчага шляху, і ў часы сталага асэнсавання сваіх мастацкіх пошукаў Сулейменаў упарта і жорстка крытыкаваў тых, хто жыў па законах бяспамяцтва. Іваны, якія не помняць каранёў сваіх, сваіх прашчураў і папярэдняга жыццёвага вопыту, планетарнага вопыту, былі і застаюцца прадметам крытыкі, крытычнага стаўлення сур'ёзнага і сапраўднага мастака слова. Славутая кніга нарысаў «Аз і я», якую Алжас Амаравіч выдаў у 1975 годзе, пацярпела разам з аўтарам нямала здзекаў з боку партыйных бонзаў. Асабліва — за перакананні паэта, звязаныя з тэмай еднасці рускіх і туранцаў, за тое, што звярнуў увагу не толькі на этнаграфічныя, але і антрапалагічныя сувязі. А яшчэ — і выклаў у сваёй публіцыстычнай працы відавочнае: наяўнасць у «Слове пра паход Ігаравы» жывых цюркскіх тэрмінаў і лексічных формул.*

*Еўразійскія, казахстанскія матывы — аснова, грунт, на якім выраслі паэтычныя кнігі А. Сулейменава «Аргамакі», «Сонечныя ночы», «Ноч-парыжанка», «Добры час усходу», «Год малпы», «Гліняная кніга», «Кожны дзень — раніца», «Паўтараючы поўдзень», «Круглая зорка», «Вызначэнне берага», «Над белымі рэкамі»...*

*Шукальнік еднасці і шукальнік самабытнасці, шчыры і адкрыты мастак, Алжас Сулейменаў невыпадкова зацікавіў беларускага паэта, перакладчыка Міколу Мятліцкага. Вопыт пранікнення ў казахстанскі светапогляд — гэта і яго работа над пераўвасабленнем на беларускую мову вершаў Абая. А цяпер вось — прачытанне рускага паэта Казахстана... Ці ўсё ж — казахскага паэта, які піша на рускай мове?..*

*А мне падаецца сімптаматычным тое, што рака еўразійскага асэнсавання светабудовы не мялее і ў беларускай прасторы. У апошнія гады ў Беларусі заўважылі і такіх рускіх паэтаў Казахстана, як Валерый Міхайлаў і Любоў Шашкова. Цяпер чытач наноў сустракаецца з Алжасам Сулейменавым. Ёсць надзея, што гэтыя сустрэчы будуць доўжыцца.*

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

## ІСЫК

У гарах Алатау арлінае мора
Ісык,
Бераг — цвёрды граніт,
Елак цёплых блакітнае срэбра.
Ў ім купалася здаўна
Самотная свежасць расы,
І да холаду хваль прыхінулася сіняе неба.
На гару узыходзіш, і тахкае сэрца ў грудзях,
Вышыня, вышыня,
П’еш з біклажкі ваду ледзяную,
Не ратуе
Мядовы паветраны пах,
Чуйна тахкае кроў,
бы нагадвае рану скразную.

Кроў стукоча, ірвецца.
Раптам вецер парывісты ўзвыў.
Галасы спадалёк,
І тапырацца буйныя травы.
Бубны, топанне, крыкі,
Капытамі прыбіты кавыль…
Ды штуршок у плячо, —
Голас спуджаны, дзікі.

Са скалы — на скалу — цераз трэшчыну,
Пара крокаў — ствалы разышліся.
І адкрылася мора арлоў.
Прыгажосці яго берагоў падзівіся,
Пазірні: хвалі мыюць скалы́ загарэлыя плечы.
Пазірні, зразумей,
Быў абрыў тут яго берагоў,
Потым вецер хістаў
Адзінокія елкі ў далечы.
І ў разнасцежы неба кругі недасяжных арлоў,
І струмені бруіста ўскіпалі ў чарнечы цясніны.
І вада б уцякла ўніз
сотняй бурных імклівых руччоў,
Калі б рухнулі скалы —
засталіся адно ва ўспаміне.

Разлілася вада,
Гнеўна зрушыла горы плячом,
Зазіхцела пад сонцам і возерам стала глыбокім.
Тут па гойстрым пяску я калісьці блукаў хлапчуком,
І сягоння суціш тут
крок спешны, як калісь бывала,

Нахіліся, напіся,
Ды так, каб сагнаць скрухі ком,
Каб вада ледзяная у венах празрыстых спявала.

І тады ты ўзмахнеш,
Зажадаеш рукамі ўзмахнуць,
Твае цягліцы сквапна папросяць зноў працы ў ахвоту.
Ты ідзеш,
Ты спрабуеш далёка адгэтуль сягнуць,
Твае шчокі казычуць салёныя кроплiны поту…

## ГОРЫ, ГОРЫ

У горы едзем
Гэтаю нядзеляй?
Вядома месца: рэчка — да грудзей.
Там бераг голы,
Кварцамі засеяны,
Паўстане, быццам шчодры чарадзей.
Ты здымеш туфлі
І апусціш ногі,
Ускрыкнеш,
Пырскі ўскінеш на мяне,
І не завабіць бераг крутарогі, —
Убачыш сквер у зыркай сінізне.
Адзежыну схаваеш пад скалою
І мне дазволіш на цябе глядзець,
Да пухіроў захочаш загарэць…
Сцямнее,
Стане зябка,
Ты прыціхнеш,
Зірнеш няцямна,
Стоішся ў журбе
І ў думках будзеш
Прымушаць сябе,
Каб зноў устаць,
І вусны ў плачы
Сціснеш.

Не зразумець мне хвалявання ток,
Ускочу і цябе я супакою,
Усмешліва паглянеш у мой бок:
«Ці ж можа ў галаву ўзбрысці такое?..»

Ты з туфелькі павытрасеш пясок,
Мы выйдзем на бугрыстую дарогу,
Аўтобус прыйдзе — рушыць праз лясок,
Зірне кандуктар прынцыпова строга.

Пад’едзем.
Я скажу: «Ну вось, пайшоў…»
Ты пасміхнешся — выблісне надзея.
Спахопішся і скажаш:
«Рушыш зноў…
Мы адпачылі… Слаўная нядзеля…»

* * *

Гэтыя словы народжаны ноччу,
Днём не пачуеш стук прагнага сэрца.
Ціха.
Спакойна.
На дрэвах счарнелых
Белыя гнёзды звіваюць сняжынкі,
Гучныя хвілі кладуцца на лёсы
Ціхай, сцюдзёнай, марознай пылюкай.
…Ты не выходзь гэтай ноччу на вулку,
Снег узвіхурыць
І голаў пабеліць,
Ты не заўважыш: у цёмныя косы
Ўрэжуцца светлыя мяккія пасмы,
Любая, юная і сівая,
Снег асядае,
Снег асядае.
Ты не выходзь жа,
Забараняю,
Спі, дакрануўшыся мяккай падушкі,
Я тваіх пасмаў кранруся дыханнем,
Вецер за вокнамі пружыцца люта,
Іней растане,
Іней растане.

* * *

Што мог распавесці
Датчанін-паэт, —
Мог Баян,
Рудакі мог уздыбіць газель.
Час мінуўся: шапталі, шумелі, крычалі,
Ды ў эпоху Цянь-Шаня хтось скажа пра ўсё.

Я хачу і магу, абавязаны мовіць,
Я люблю — калі вецер між скалаў
Цянь-Шаня.
Толькі ветразі ўсё ж
Напаўняюцца мерна

(Моцна, з мора паўднёвага) ўсплёскам
Ціхуткім.

Казахі завуць —
Ала-тау.
Кіргізы завуць —
Ала-тоо!
Хакасы завуць —
Алтай!
А Цянь-Шань застаецца — Цянь-Шанем.
І стагоддзямі доўжыцца нерухомая непраходнасць.
Я чытаю Цянь-Шань, як новы, як Ноевы міф.
У трох знаках
(Жаданне, Магчымасць і Неабходнасць)
бачны зводдалі ў небе
скупы іерогліф.

* * *

Чорны беркут над стэпам
крыло распасцёр.
Жарабя засынае
пад назіркам зор,
а палын яму ноздры
казыча пылком,
поўня, быццам агонь,
выйшла ў небны дазор.
Дзесь сякуць капыты
варанога каня.
Сорам мучыць мяне —
і наўкруг цішыня.
Асцярожна, мой дужы,
шмат спазнана бяды.
Ты даруй,
нават слёзы
не ўратуюць тады.

## ТРАВА

Страчаемся мы часта за Таболам,
у лесе, у траве густой
ляжым
і не шумім.
Я чысты ўсё ж з табою,
як наш Табол, які цячэ ў Ішым.
Чырвоныя з кары спаўзаюць ліўні,

трава ў барвянай лісцяной крыві,
запомні ўсё-ткі тое,
як шчасліва
на нас глядзеў скачок малы
з травы.
Варожасці няма ў айчынным лесе,
на сцежках цёмных — ранні блік святла,
і па руцэ тваёй — па ёй ішла
мурашка,
і прапала,
і сышла.
Спявалі птушкі ўзнёсла, безназоўна,
за клёнамі маўчаў-сінеў Табол.
І так, ці не? — і мне было ўсё роўна.
І што было б, каб не былі з табой?
Ўсіх, на цябе падобных, не пакрыўджу,
і бель бяроз аберагаць зноў буду,
і што б было, каб не было вачэй,
святлом налітых, болем, чутай крыўдай…
Ты так кахай мяне штораз,
каханая,
бы ў раз астатні бачымся, —
жарчэй.

## АЙТЫС*

***Войска выбірала сабе ў правадзіцелі таго батыра, які перамагаў саперніка ў спрэчцы.***
***Народ захаваў у памяці некалькі батырскіх айтысаў. Найбольш вядомы айтыс (спрэчка) Кара-батыра і Урак-батыра з Сярэдняга жуза, рода караул.***

### ГАВАРЫ, КАРА-БАТЫР!

Калі хочаш, скажу я табе, Урак,
пра маньчжураў, нагайцаў
хахлатагаловых,
пра башкіраў, пра рускіх калматаротых,
пра туркменаў, грузін
у далёкіх гарах,
пра кітайцаў, ні чым у жыцці
не натхнёных,
аб вялікіх народах, што ўмеюць
плакаць —
іх, падобных
на доеных ранкам авечак,

* Гэты айтыс упершыню запісаў Ч. Валіханаў у XIX ст.

бляяць я прымушаў у імя алаха.
Калі ты мусульманін,
ступай за мной,
а няверны —
то з вен тваіх выпушчу гной.
Рэха коціць па стэпах маё імя,
сотні тысяч джыгітаў вадзіў я ў бой.
Мяне ўчулі сайгак, і арол, і змяя!
Мяне ведае неба
і шчэ вышэй!
Сын Алія, Урак,
годна ўслаўлены я!
А імя тваё —
не для ўсіхніх вушэй!

### ГАВАРЫ, УРАК-БАТЫР!

Я скажу, калі хочаш, Кара-батыр.
Я прайшоў па дарозе вялікай тваёй:
у туркменаў спытаў,
у грузін я спытаў,
у башкіраў у цёмных лясах пабываў,
і у рускіх у іхняй Маскве пабываў,
у палякаў у цесных палях пабываў,
я з маньчжурамі дзікімі
ваяваў,
у Літвы я спытаў,
у балгар я спытаў,
у плямён я прызнанне, было, вырываў.
Ты вядомы усім!
Хто не ведае — ты
сын раба!
Ўнук раба!
Бацька знаны рабоў!
Ты ганебны, калісьці зямлю ты араў.
Жарабец Карабул пахудзеў пада мной.
Жарабец Карабул знатны больш за цябе.
Хочаш, я асядлаю цябе на бой?
І няма кабыліцы ў стэпе такой!
Асядлаю, удару цябе па баках,
павалю і зняважу, як тлустую бабу!
Сын ваўка, хоць і склюд, ды з ашчэрам ваўка,
Сын сабакі, хоць тоўсты, — на бацьку падобны!
З адрэзанымі вушамі.

***Паданне гаворыць,***
***што ў гэтай спрэчцы перамог Урак-батыр.***

* * *

Чароды аблачын
стаяць над гарадамі,
імкнуцца на спачын,
услед іду гадамі.

А там унізе — стог
на беразе затокі,
і шэры смог залёг
пад самыя аблокі.

Ля берага ракі
канчаецца дарога,
крыляюць матылькі
ля самага парога.

Жанчына там мяне
ля весніц супакоіць,
рукой аброць кране,
каня вадой напоіць.

Пагляне ў стынь начы
прыветная кабета.
Не зможа памагчы, —
мяне ратуе гэта:

зялёныя стагі
на беразе пратокі,
рука у пук тугі
сціскае рэзь асокі,
вясёлыя малькі…

…І пасміхнуўся лётчык.
У пойміне ракі
разбіўся самалёцік.

***Пераклад з рускай***
***Міколы МЯТЛІЦКАГА.***



Маргарыта ПРОХАР

# ЭСХАТАЛАГІЧНАЕ ПЕРААСЭНСАВАННЕ ЛІТАРАТУРНЫХ ВОБРАЗАЎ У ТВОРАХ ПРА ЧАРНОБЫЛЬ БЕЛАРУСКІХ І ЎКРАІНСКІХ АЎТАРАЎ

Літаратурны вобраз — гэта «адзінства індывідуальнага і агульнага, прыватнага і заканамернага, думкі і пачуцця» [1, с. 182], і гэта стварае вялікія магчымасці для пісьменнікаў у плане выказвання творчых ідэй, «эстэтычна ўздзейнічаючых аб’ектаў» [2, с. 668].

Асноўны вобраз «вясковай» беларускай прозы — зямля. Зямля — багацце селяніна, галоўнага героя. Гэта яго спадчына, яго жыццё і яго душа. Зямля — увогуле цэнтральны вобраз у беларускай літаратуры, выдатна апеты яшчэ Якубам Коласам у паэме «Новая зямля», пасля прааналізаваны многімі пісьменнікамі ў розных праблемных аспектах. Варта згадаць трылогію І. Мележа: «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань», дзе за зямлю селянін гатовы аддаць усё, біцца за яе да крыві, бо зямля — дабрабыт, багацце, лепшае жыццё. Вобраз роднай зямлі, якую захапіў вораг, горыч адабранай і разрабаванай зямлі-Радзімы раскрыты ў творах К. Чорнага, І. Чыгрынава, І. Пташнікава і іншых пісьменнікаў. Пытанне ўрбанізацыі, адыходу ад спрадвечнай сялянскай працы, а значыць, выміранне вёскі і адчужэнне ад зямлі, што раней была багаццем і асновай жыцця, паўстае ў творах пісьменнікаў 60—80-х гадоў ХХ стагоддзя. У гэтым кантэксце прыгадаем зборнік апавяданняў М. Стральцова «Сена на асфальце», раманы «Мсціжы» і «Алімпіяда» І. Пташнікава і інш. Як пісала В. Локун у артыкуле «Сучасны беларускі раман»: «Сацыяльна-бытавое апавяданне, вельмі характэрнае для беларускага рамана, як бачым, набывае рысы праблемнай этыкі» [3, с. 187]. Чарнобыльская катастрофа адкрыла яшчэ адну грань праблемы «зямля-чалавек»: адчужэнне ад зямлі не па сваёй волі. Радыяцыйнае забруджанне прымусіла людзей пакінуць родную зямлю, якую берaглі, з якой карміліся іх продкі. Аднак не так проста чалавеку-селяніну адрачыся спрадвечнага, роднага, што даўно стала не толькі сродкам існавання, жыцця, а душою працаўніка-вяскоўца. Таму нездарма ў аповесці «Краем Белага шляху» В. Карамазаў піша ад імя сваіх герояў пра зямлю, яе ролю і значэнне: «І не воўчая, а наша з табою, родненькая».

«Зямля, кажаш? Была, пакуль не зарасла поўсцю.

— Была і ёсць! — павысіў голас Будавей» [4, с. 116]. Героі рамана не могуць змірыцца з думкай, што трэба пакінуць родную зямлю, у іх разуменні — гэта ўсё роўна, што аддаць яе ваўкам на спажыву і рабаванне.

Мастацкі вобраз зямлі набывае ўсё большае значэнне для герояў твора, паколькі іх жыццё і іх сэрца цесна звязана з ёю, і таму яны не могуць і не павінны судзіць яе. Валетаў нават пры смерці папрасіў высадзіць яго з машыны, апусціць на зямлю, ён верыць ёй і адчувае яе ўсёй душой: «Пад ім была зямля, вялікая і жывая, над ім — неба, таксама вялікае, родненькае; ён ляжаў, сагрэты знізу і зверху, як паміж духмяным сеннічком і ватовай коўдрачкаю» [4, с. 125]. Валетаў у апошнія хвіліны напружана думае пра зямлю, сваю радзіму: «Зямля плыла і пагойдвалася. Хто сказаў, што яна нерухомая? Сам калісьці не верыў, што плавае, кружыць вакол свяціла. Не верыў, бо не адчуваў і не бачыў, што гэта так. А цяпер чуе: плыве і пагойдваецца разам з мамчыным цёплым каленам пад галавою» [4, с. 126].

Пачатак тэмы адасобленасці душы чалавека ад прыроды становіцца прычынай яго маральнай спустошанасці, адсутнасці гармоніі ў жыцці, духоўным эсхаталагічным матывам. У В. Казько гэта ярка перададзена мастацкімі вобразамі Зоны і чорнага бусла ў аповесці «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел» (1993), у якой філасофскія пошукі пісьменніка праяўляюцца як выяўленне глыбока індывідуальнага погляду аўтара на свет, як сведчанне здольнасці мастака ўбачыць прычынную залежнасць, узаемасувязь асобных фактаў.

Аповесць — «горкі рэквіем страчанаму раю» [5, с. 170], Палессю, і таму пры ўсім знешнім падабенстве з дачарнобыльскім часам — Палессе, буслы, дуброва, казкі, легенды, паданні — усё ў гэтым творы выглядае інакш: і пейзаж, і людзі. Безумоўна, мастацкае адлюстраванне духоўных і фізічных пераўтварэнняў звязана з агульнай паэтыкай аповесці, якую мы пастараемся разгледзець для далейшага даследавання яе ролі ў выражэнні эсхаталагічнага матыву ў аповесці.

Твор пачынаецца знакава-сімвалічна: нават у знешнасці людзей — адчуванне Чарнобыля. Вось як апісвае В. Казько свайго героя Дарожкіна: «Твар, як адуванчык, у бялёсым вясеннім пуху. А скрозь гэты пух — дзіцячае ластаўчына рабаціннне, вожыкавая стракатасць і кудзелькавыя валасы вожыкам… Вожык у лятучым адуванчыкавым пуху. Чарнобыльскі нядголены вожык» [7, с. 9]. Гэтая мастацкая дэталь не проста пададзена для красы і любавання аўтарам, а яна мае мэтавы мастацкі працяг. У далейшым ідзе развіццё партрэтнай дэталі для яркай перадачы настрою і характару без прамой аўтарскай ацэнкі: «… усмешка паволі пачала спаўзаць з твару Дарожкіна. Пушок на яго румяных хлапечых шчоках пачаў цямнець і больш выразна-цвёрда пазначылася на твары вожыкава мяккае рабацінне. Падобна, у чарнобыльскага вожыка пачалі расці калючкі». [7, с. 14]. Аўтар трапна назваў Дарожкіна «чарнобыльскім вожыкам» з румянымі хлапечымі шчокамі, і ў гэтым — і спачуванне аўтара да яшчэ не сталага, маладога Дарожкіна, і адначасова — насцярога, таму што такі самаўлюбёны Дарожкін — прадстаўнік улады. І гэта не адзінкавы выпадак трапнай характарыстыкі, дадзенай праз падобную мастацкую дэталь. Ярка карыстаецца В. Казько мастацкай дэталлю-падрабязнасцю для апісання прыроды і кантэксту «чалавек-прырода», што ў многім вызначальны ў канцэпцыі твораў на чарнобыльскую тэматыку. Трывога аднавяскоўцаў аб тым, што спілуюць іх спрадвечную дуброву яскрава перадаецца праз апісанне ветру: «… вецер нёс з балота пахі прагорклых травяных палаў, гарчыў горла згарэлай вольхай і крушынай, падхопліваў і кружыў на плошчы дробны пясок і пыл, кідаў у твар людзям, Лазару ў твар, хоць стаяў ён у зацішку, наасобіцу ад усіх, пад ладнай і голай яшчэ па гэтай пары бярозай» [7, с. 136].

Балота — неад’емная частка палескага краявіду, частка зямлі Палесся. Балоты — адна з цікавых прыродных з’яў, атрыбут палескай прыроды, яе адметнасць. Таму для палешукоў у мірны час балота «жыватворнае» (менавіта такі эпітэт ужывае В. Казько). «Ніхто не дайшоў да яго дна — ці ёсць у яго тое дно. Гразкімі, багністымі ямінамі, дурманліва парослае зверху багуном і ягадай-буяком, падземнымі жыламі, крынічнымі плынямі яно павязана з усім белым светам. На адным краі зямлі з яго падымаецца вясёлка і свеціць сонца, на другім — ідзе дождж» [7, с. 38]. Нездарма аўтар так запамінальна апісвае палескае балота, з дапамогай мноства дэталей-падрабязнасцей, нібыта і сам імкнецца запомніць яго такім, якое яно было заўсёды, спакон вякоў. Аднак гэта ў мірны дачарнобыльскі час. Гэты заўсёдны падзел у рамане на дачарнобыльскае і паслячарнобыльскае закранае ў аўтара і прыроду, і чалавека, і ў такім супараўнанні найбольш яскрава і невымоўна-трагічна паўстае бяда пад назвай «Чарнобыль», яе бязлітасныя вынікі.

Цяпер жа, пасля меліярацый і ўрэшце Чарнобыля «жыватворнае балота ўсыхала, глынуўшы вады ў ракі Леты, душа яго забывала мінулае, таму што амярцвела, хаця і супраціўлялася смерці захаванымі ў запаветнай глыбіні і цішы правальнымі скрозь зямлю астраўкамі дрыгвы. Як жабы на купіну, з той балотнай дрыгвы паскакалі апошнія лесуны, чысцікі і нячысцікі, вадзенікі і шышыгі. Лёгкія на нагу

д’яблы адхрышчваліся ад сябе і давалі дзёру са свайго балота, забыўшыся, што без балота няма і чорта, і вольна таму чорту блажыць у сваім балоце. І не было і няма, пэўна, нічога больш страшнага, як увераваны чорт» [7, с. 38].

Яскравыя і параўнанні — мастацкае атачэнне вобраза «зямля»: «благаслаўлёная» зямля (да Чарнобыля) — пустыня (пасля Чарнобыля). «І ягады больш у лесе не збіраць, і грыба не падняць, — зажурылася … сляпая Аўронне. — Бачу пустыню перад сабою, бачу пустыню, дзеткі мае мілыя» [7, с.45].

Пачатак катастрофы, такім чынам, — развітанне з мірным адчуваннем прыроды. Гэтую думку падкрэслівае і І. Шамякін у рамане «Злая зорка». Напрыклад, вобраз туману набывае асацыятыўнае значэнне сігнала-папярэджання («я думаю пра ранішні туман… ён дзёр табе горла») [8, с. 70].

Асацыятыўнае адчуванне катастрофы падтрымліваецца рэальнымі сігналамі, жорсткай праўдай: «Навіну паведаміў старэйшы зяць Пустахода Віктар Ёрш, між іншым:

— Хлопцы ўкраінскія прыплылі, расказвалі: на станцыі пажар быў. Усе кіеўскія пажарныя там. І міліцыя з усёй вобласці.

Словы ўдарылі Глебу ў сэрца. Чамусьці спалохалі. Ні на міг не сумняваўся, што размова ідзе аб іх станцыі, але чамусьці спытаў:

— На якой станцыі?

— На якой? На тваёй. Якая не дыміць» [8, с. 66].

Дым — асноўны сігнал пажару. І словы герояў аб тым, што станцыя, якая спаліла столькі жыццяў, не дыміць, — гучаць, нібы горкая іронія, і гэты мастацкі прыём яшчэ больш моцна падкрэслівае папрок у бездапаможнасці перад няяснаю небяспекаю.

І — новая рэальнасць у адпаведных мастацкіх апісаннях і новых вобразах: рэгуліроўшчыкі ў чорных камбінезонах, палівальная машына, што мыла шашу зялёным растворам, падзел на «чыстыя» і «забруджаныя» вёскі; палын, дрот і пыл як асноўныя дамінуючыя вобразы новага, паслячарнобыльскага жыцця: «І ўсе яны ведалі, наколькі ён небяспечны, пыл гэты» [8, с. 164].

Сэнс літаратуры пра Чарнобыль — паказаць трагічнасць сітуацыі і адначасова мабілізаваць на яе вырашэнне і папярэдзіць будучыя пакаленні. Першая частка гэтай шматузроўневай задачы — па-мастацку праўдзівы паказ трагедыі — выконваецца пісьменнікам праз вобразна-паэтычныя сродкі: асацыятыўныя вобразы (туман, дым, «новае» сонца), эсхаталагічны накірунак эпітэтаў і параўнанняў, назвы-сінонімы Чарнобыля: нуклідная зона, вайна («А цяпер — як перад Айчыннай», Хірасіма («Гэта — Хірасіма»). Адсюль — і матыў адчаю і папярэджання, паколькі «Іван Шамякін як пісьменнік і гуманіст пратэстуе супраць сляпога тэхнічнага прагрэсу ў атамны век» [9, с. 30]: «Сцямнела. Ні горада, ні станцыі не было відаць. Але на саркафагу і на дзеючых блоках гарэлі яркія чырвоныя сігналы. Як сігналы трывогі. Стоп-сігналы: спыніся, чалавецтва!

Уладзімір Паўлавіч узняў над сабою сціснутыя кулакі.

— Стаіш? Свеціш? Паліш людзей? Спалі мяне! Не можаш? Не па зубах я табе? Скура ў мяне задубянелая! Свінцовая! Чуеш? У мяне свінцовая скура стала! — і павольна апусціўся на калені, ударыў кулакамі ў зямлю, крыкнуў:

— А ты чаму анямела, сціхла? Уздрыгніся!

Чалавек крычаў — зямля маўчала» [8, с. 305].

Эсхаталагічным матывам безнадзейнасці, страху і смерці напоўнены перададзеныя вобразна-выяўленчымі сродкамі апісанні мясцовасці пасля эвакуацыі ў аповесці І. Шамякіна «Зона павышанай радыяцыі»:

«А селішча спусташалася. І страшнымі былі не сядзібы, з якіх дамы вывезлі і на якіх журботна-сіратліва выглядалі яблыні, вішні, рабіны і ліпы пад белымі вокнамі. Страшнымі былі дамы, якія заставаліся пасля перасялення гаспадароў… Халадзеў ад думкі, што ў такі страшны шкілет ператворыцца і мой дом… Гэта — родны кут, які я меў хіба што ў маленстве. Асаблівы сэнс набывалі радкі

паэта, якога вучыў у школе: «Мой родны кут, як ты мне мілы»[10, с. 354]. І ў гэтым — горкая іронія, выкліканая матывам разбурэння ўсяго святога і дарагога кожнаму чалавеку.

Эсхаталагічны матыў добраахвотнай асуджанасці на смерць ад радыяцыі гучыць у такім мастацкім апісанні, выражаным праз параўнанні і эпітэты: «Жанчына, уражаная, відаць, нашым добраахвотным жаданнем ісці на самагубства, змоўкла, як звяла. Такой ваяўнічай гаварунняй пачала, а тут глядзела на нас сумнымі вачамі, як на асуджаных на смерць» [10, с. 356].

У аснове рамана У. Яварыўскага «Марыя з палыном у канцы стагоддзя» — лёс звычайнай украінскай сям'і Міровічаў, для якой трагедыя Чарнобыля стала не толькі вялікім узрушэннем, але і іспытам, драмай іх роду. Нездарма аўтар пачынае твор са знакавай акцэнтуацыі-параўнання «род-карані»: «Карані. Вузлаватыя, жылістыя карані на пясчанай вясковай дарозе. Усё роўна як цесна ім там, пад зямлёю, і яны цяжка выпручваюцца на паверхню». [11, с. 3].

Як і ў творы І. Шамякіна «Злая зорка», У. Яварыўскі даследуе падзеі непасрэдна ў час катастрофы, даследуе актуальную, сучасную ў той момант для яго рэальнасць. Раман пачынаецца адразу з эсхаталагічнага матыву — апісання падрыхтоўкі да пахавання старэйшага з Міровічаў. Цікавая мастацкая акалічнасць: у гэтай замалёўцы ўжо прысутнічае згадка пра чарнобыль — праўда, мірную малавядомую расліну, назва якой пасля прагрыміць на ўвесь свет, але як назва трагедыі на атамнай станцыі. У апісанні сканцэнтраваны два сімвалічныя вобразы — крыж («крыж з жывой сасны і мёртвай шэрай дошкі», на якой выразаны надпіс «в. Гарадзішча») і Чарнобыль.

Сам жа Чарнобыль у мірныя часы называўся паважліва — «горад атамных энергетыкаў» [11, с. 9]. Нічога не прадказвала бяду, наадварот, як піша аўтар: «Малады, зводдаль нават рамантычны, быццам і не запусціў сваіх каранёў у гэтую зямлю, а ляціць над ёю; высокія старыя сосны імкнуць па-над будынкамі, як мачты, — напні ветразі, і горад, што стаіць на беразе рэчкі, лёгка паплыве на хвалях» [11, с. 9]. У гэтым апісанні адчуваецца прыхаваная горыч: прышлы, чужы горад здолеў «перасекчы» векавыя карані мірнага жыцця людзей, адабраў у іх радзіму, сам жа ён «існуе толькі таму, што вунь там, непадалёку ад яго, у бетонных утаймаваных кашулях шалёна грукочуць чатыры атамныя рэактары, кожны з якіх штогадова ўлівае ў энергасістэму краіны мільён-кілават гадзін» [11, с. 10].

Аўтар выбірае вобразы, якія напачатку не прыцягваюць увагі, а пасля, дзякуючы частотнасці выкарыстання аўтарам, адкрываюцца для чытача з іншым, шырокім сэнсам. Гэта вобразы каранёў, чарнобыля-расліны, крыжа і іх апісанні з дапамогай адпаведных выяўленчых сродкаў. Часта трапляюцца замалёўкі балота і яго жыхароў: «несамавіта лямантуюць жабы ў вясновых завоінах рэчкі. Здаецца, усе яны выпаўзлі на ўвагрэтыя сонцам берагі і штодуху крумкочуць: перазімавалі! Выжылі! Гатовы прадоўжыць свой жабін род насуперак усім вашым дустам, гербіцыдам, смярдзючым сцёкам, якія вы зліваеце ў нашы воды! Жывём самі і вам не перашкаджаем: жывіце!» [11, с. 64]. Пасля аварыі людзі апынуліся ў становішчы такога ж выжывання, але, атручаныя і знямоглыя, яны былі ў горшым стане, чым нават жабы, якія пераможна і помсліва «крумкаюць бесперастанку, быццам акружаюць горад з усіх бакоў і папярэджваюць пра гэта сонных жыхароў» [11, с. 99]. У гэтым фантастычным гіпербалізаваным параўнанні таксама назіраецца прыхаваны эсхаталагічны матыў перамогі пачварнага над людзьмі і іх светам — эсхаталагічны матыў Чарнобыля. Аднак і іх чакае смерць: «булькаюць і кіпяць … раўчукі, з іх выпаўзаюць сонныя, ледзь жывыя жабы-варопаўкі, выпаўзаюць, але ўцячы ад небяспекі не могуць. Ні паўзці, ні крумкаць няма сілы» [11, с. 107].

Эсхаталагічныя матывы прадчування бяды найбольш ярка перадаюцца праз мастацкае апісанне аўтарам атамнай станцыі: «Свяцілася атамная за горадам, на яе карпусах павесілі ўжо святочную ілюмінацыю, якая то загараецца, то гасне,

гэта яе пульсоўнае святло дасягае горада, яго вуліц і будынкаў» [11, с. 65]. «Над атамнаю, над навакольнымі лугамі пульсуе яркае святло святочнай ілюмінацыі. Ужо святочнай» [11, с. 80]. Аднак замест святочных мерапрыемстваў «з рэактара вырываецца ў неба слуп злавеснага агню, пары, аскабалкаў перакрыцця, бліскучых труб, палаючых кавалкаў графіту» [11, с. 93].

Для апісання вобразаў трагедыі аўтар карыстаецца знакавымі эпітэтамі і параўнаннямі, што найбольш ярка перадаюць эсхаталагічную карціну катастрофы: «Над раструшчаным выбухам даху плавіўся гудрон і сплываў на зямлю, як чорныя слёзы гэтага мнагагрэшнага стагоддзя» [11, с. 93]; «слуп імкліва, як фантастычная ракета, узнімаецца ў неба, асвятляючы карпусы атамнай, рэчку з вербалоззем, з ціхімі вогнішчамі рыбакоў па абодвух берагах, асвятляе крайнія будынкі горада, паўкруг «чортавага кола», пустэльны пляж са старым чоўнам, кінутым пад нахіленым грыбком» [11, с. 93]; «падобная на медузу хмара павольна разрастаецца над горадам. Неба вакол яе падпаленае, аплаўляецца па краях і растае» [11, с. 98]; «Навокал блока валяюцца аскабалкі бетонных перакрыццяў, жалеза, выкінутага з рэактара урану і графіту. Усё гэта раскідана на клумбах ружаў і цюльпанаў перад уваходам на станцыю, на бетонных плітах плошчы, на пясчаным беразе водазаборнага канала, на зялёным лузе, на дахах дапаможных памяшканняў» [11, с. 98]; «зачапіўся вырваны з пясчанага грунту куст каліны, цягнецца па зямлі, пакідаючы сляды-драпіны» [11, с. 100].

Уладзімір Яварыўскі акцэнтуе ўвагу на апісанні разбуранага жытла ля станцыі — разбуранага людскога жыцця, найбольш выразнага вобраза апусташэння: «Вецер ганяе па шпітальным двары бланкі рэцэптаў, кавалкі марлі, парожнія каробачкі ад лекаў, валяюцца згубленыя хворымі тапачкі, утаптана ў асфальт вата» [11, с. 167]; «забітыя студні, як сляпыя, утаропіліся ў нябесную невядомасць» [11, с. 172]; «мільганулі могілкі з дзвюма свежымі магіламі побач. Недалужны надпіс «в. Гарадзішчы».

Пыл і цвет.

І гіпсавы Сакрат з-за шторы акна»; «На клумбе, што адзінока пярэсціцца расквітнелымі цюльпанамі, пасецца пакінутая некім каза, што забегла сюды з гарадскіх ваколіц. У высахлым ложы вадаспада некалькі мёртвых вераб'ёў» [11, с. 183].

Галоўная думка апавядання Я. Гуцалы «Радыяцыя» — Чарнобыль знішчае чалавечнасць. «Чарнобыльская катастрофа перастварыла псіхалогію людзей» [12, с. 70].

Да галоўнага героя твора — Хведара — прыехала маці з чарнобыльскай зоны. Зіна, жонка Хведара, спужалася, што тая заражана радыяцыяй, і збегла з хаты з дзецьмі, каб яны не падхапілі хваробы. Хведар, які напачатку асуджаў такія паводзіны жонкі, пасля забаяўся: сапраўды, а што, калі маці заразіць дзяцей? І ён вырашыў адвезці яе да сяброўкі маці — Фрасіны. Так Чарнобыль не толькі фізічна, але і маральна ўплывае на людзей, робіць іх ворагамі між сабой, змушае чалавека занядбаць нават такія пачуцці, як сыноўняя любоў, доўг перад бацькамі. Аўтар ярка адлюстроўвае сітуацыю праз партрэтныя і прыродаапісальныя карціны, сістэму вобразных сродкаў апавядання. Найперш ён паўтарае характэрнае для многіх пісьменнікаў параўнанне Чарнобыля з вайной: «Тут усе кажуць, што вайна, толькі яе не бачна. І я нічога не бачу», — сказала маці Хведара, што прыехала з чарнобыльскай зоны [13, с. 102].

Трывога, што яркім матывам праходзіць праз увесь твор, адлюстроўваецца праз мастацкія параўнанні і эпітэты. Напрыклад, узгадаем воблік жонкі Зіны, якая бегла прэч ад сваёй свякрухі, якая прыехала з чарнобыльскай вёскі: «твару не бачна, скукожыла, вочы жаласныя, як слязінкі, ледзь не выскачаць». Трывога і страх перад Чарнобылем для Хведара пачынаецца з новага, непрыемнага адчування вясны: «Заўсёды любіў вясну — хай познюю, хай ранню, але гэтая дыхала вялікай трывогаю» [13, с. 101]. Далей трывога павялічваецца праз гіпер-

балізацыю звычайных пачуццяў, якія ўзнікаюць вясной. Хведар любіў свой сад, а ўвесну — асабліва: «Яблыня гула пчоламі і пахла мёдам» [13, с. 104], усё цвіло, і Хведар не разумеў, як гэта можа быць, калі прыйшла такая бяда — Чарнобыль. «Ахапіўшы галаву рукамі, Хведар сядзеў у роспачы, не бачачы ні расцвіўшага саду, не чуючы птушынага спеву» [13, с. 103].

Такім чынам, Я. Гуцала праз асацыятыўнасць (Чарнобыль і вайна), праз новы, нязвыклы сэнс вобразаў-сімвалаў вясны і саду, ужо чужых для чалавека, яркіх партрэтных апісанняў паказаў Чарнобыль вачыма сялян-украінцаў. Выяўлена разбуральнае дзеянне нябачнай катастрофы перш за ўсё на свядомасць і душы людзей, якія пераступаюць Божы закон любіць і клапаціцца пра сваіх бацькоў, якія іх узгадавалі, і тады, як пазначае ўкраінскі даследчык І. Шапавал, пачынаецца самае страшнае — «Чарнобыль нашых душаў» [14, с. 10]. Менавіта ў перайначанні псіхалогіі, адмаўленні ад спрадвечнага праглядаецца яркі эсхаталагічны матыў.

Чарнобыльскі светапогляд дыктуе і новае ўспрыняцце прыродных з'яў. Напрыклад, вецер у рамане ўкраінскага пісьменніка Л. Губіна «Вішнёвае вока д'ябла». Пасля Чарнобыля вецер перастаў успрымацца і апісвацца людзьмі як цёплы, вясновы, халодны і г. д. Ён стаў ветрам «адтуль» і «туды». І ўсе баяліся, калі вецер — адтуль, бо ён нёс радыяцыю. Тут выкарыстоўваецца эсхаталагічны матыў страху, прадчування бяды.

« — Дык гэта ж вецер адтуль! — ледзь не крыкнуў я, увесь ад галавы да пятаў прасякнуты токам здагадкі. — Сапраўдны норд. Маракі наракаюць, што ён самы непрыемны з усіх вятроў на моры.

На зямлі — таксама.

Я стаяў і не мог прыйсці ў сябе: вецер дзьмуў з Чарнобыля» [15, с. 31].

Вясновае свята Першамаю не абыходзіцца без ветру-папярэджання: «адтуль, з галавы калоны — з поўначы! — прама на вуліцу дзьмуў звярэючы халодны вятрышча» [15, с. 33]. Трэба адзначыць, што і эпітэты аўтар падбірае таксама эсхаталагічнага характару.

Прывыкаць да бяды цяжка, таму ў аўтара часам узнікае жаданне збегчы:

«Лепш пакуль у лес. У лес, у лес! Там хоць шуміць лістота, пяюць птушкі, свісціць вецер.

Вецер?» — ізноў вяртаецца ён да новай, страшнай рэальнасці [15, с. 35].

Неба — таксама новае, прадвесце бяды. Людзі ўвогуле перасталі бачыць прыроду яркай, яны баяцца яе, чакаюць толькі горшага. І таму іх не здзіўляе, што «на горад з поўначы насунулася шыза-шэрая пухліна. Ну і неба» [15, с. 32].

Такім чынам, аўтар прыходзіць да высновы: прырода тоіць пагрозу. Нават маленькі зялёны лісток можа забраць дзіцячае жыццё Алёшкі, які гэтага не разумее, просіць:

« — Татачка, сарві лісточак! — ныў Алёшка. — Татачка, сарві. Я хачу лісточак.

Адкуль нам было ведаць, што нават кранацца лістоты нельга? Яна несла нешта нябачнае, вельмі пагрозлівае.

Восенню, калі яна пажухне, па ўсім Кіеве і вакол Кіева яе будуць збіраць у спецыяльныя поліэтыленавыя мяшкі і ў жалезныя — на колах — кантэйнеры, потым адпраўляць ці то пад Обухаў, ці то яшчэ куды, каб закапаць у ярах і вырытых калодзежах глыбока ў зямлю.

Гэтага ніхто з нас пакуль не ведаў.

Зрываючы лісточак і даючы яго ў Алёшкіны ручкі, мы, па сутнасці, па сваёй волі адымалі ў яго і без таго хліпкае здароўе» [15, с. 33].

Такім чынам, літаратурныя вобразы грунтуюцца на кантрасным да- і пасля-чарнобыльскім успрыняцці.

Ва ўсіх творах, што разглядаюцца, кантраснымі з'яўляюцца да- і паслячарнобыльскія апісанні прыроды і да- і паслячарнобыльскія колеры ў апісаннях

(мірныя белы, зялёны, сіні проціпастаўлены чорнаму, шэраму, жоўтаму, крывава-чырвонаму).

У І. Шамякіна ў рамане «Злая зорка» кантрасныя нават назвы раздзелаў, адчуваецца падзел іх на да- і пасля катастрофы, як і жыццё сем'яў. Пісьменнік вылучае сюжэтныя кантрасты (дагледжаныя, неразбураныя і нікому непатрэбныя вёскі, вайна—Чарнобыль—Хірасіма, вяселе — пажар на станцыі), так і апісальныя (да- і паслячарнобыльскай прыроды і горада Прыпяць, ветру — з Украіны і на Украіну). У аповесці «Зона павышанай радыяцыі» кантрастуюць вобразы школы як заўсёды ажыўленай дзіцячымі галасамі і пустой школы з выбітымі акаліцамі, жылога дома — і жылога дома ў зоне (міраж).

Яркі вобразны кантраст скарыстоўвае В. Карамазаў, параўноўвае новы сонечны горад, які пачалі будаваць да Чарнобыля і мёртвае поле з чарнобыльскім ваўком, груганамі, якія замянілі будоўлю пасля катастрофы.

Вобразныя кантрасты вызначаюць і аповесць В. Казько «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел»: вёскі параўноўваюцца з паслячарнобыльскімі братнімі магіламі, зямля — «як жаба парэпаная», «трызна»; кожны дзень пасля Чарнобыля — незразумелы, «як крохкае птушынае яйка». Твор адметны цэлымі кантраснымі ланцужкамі апісанняў: «чорны чарнобыльскі дым» — «светлае ласкавае сонейка».

У рамане У. Яварыўскага нават звыклы сімвал радасці — усмешка — становіцца агоніяй смерці («халодная ўсмешка паміраючага»), кантрасна паказаны зварот да Бога (надзея — адчай).

## Спіс літаратуры

1. Лазарук А., Ленец Я. Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў. — Мн.: Народная асвета, 2003—240 с.

2. Литературная энциклопедия терминов и понятий под ред. А. Николюкина. — М., 2001. — 1600 с.

3. Локун В. Сучасны беларускі раман // Полымя. 1983. № 12.

4. Карамазаў В. Краем Белага шляху // Карамазаў В. Аброчны крыж. Мн.: Маст. літ., 1994. — 382 с.

5. Нуждзіна Т. Палескія матывы ў творчасці Віктара Казько // Духоўная і культурная спадчына беларускага Палесся: Матэрыялы навуковай канферэнцыі (18—19 верасня 1997 г.) Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны. — Гомель, 1998.

7. Казько В. Выратуй і памілуй нас, чорны бусел. — Мн.: Маст. літ., 1993. — 319 с.

8. Шамякін І. Злая зорка // І. Шамякін. Збор твораў. Т. 6 Мн.: Маст. літ, 2005. — 446 с.

9. Жардзецкая А. Зямля, параненая Чарнобылем. — Роднае слова. 2003. № 10.

10. Шамякін І. Зона павышанай радыяцыі // І. Шамякін. Палеская мадонна. — Мн.: Юнацтва. — 1998. 590 с.

11. Яварыўскі У. Марыя з палыном у канцы стагоддзя // Мн.: Маст. літ., 1991. — 315 с.

12. Фіалкова Л. Чорнобильска катастрофа і фольклор. Вісн. АН Украіни. 1993. № 1.

13. Гуцало Я. Радыяцыя // Вітчизна.1991. № 12.

14. Шапавал І. «Данило Кулиняк: «Час — відстань від серця до рідного краю». Вісник Чорнобиля. 1998. 27 чэрвеня.

15. Губин Л. Вишневое око дьявола. Радуга. 1991. № 10 С. 15—89.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 23 студзеня 2012 г.

**Маргарыта Прохар**

## «Эсхаталагічнае пераасэнсаванне літаратурных вобразаў у творах пра Чарнобыль беларускіх і ўкраінскіх аўтараў»

### Рэзюмэ

Артыкул прысвечаны аналізу літаратурных вобразаў у творах пра Чарнобыль. Гэтыя вобразы адметныя ў кожнага з творцаў і адлюстроўваюць аўтарскі погляд на трагедыю. Для параўнання прапануюцца творы беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў.

**Margaryta Prokhar**

## Eschatological Rethinking of Literary Images in Works Dedicated to Chernobyl Disaster by Belarusian and Ukrainian Authors

### Summary

The article analyzes literary images in works dedicated to Chernobyl disaster. The images vary due to the authors’ manners and reflect different views of the tragedy. The works of the Belarusian and Ukrainian writers are compared.



**Казімір КАМЕЙША**

# «ВЯСЁЛКА» ЎСПЫХНУЛА Ў КРАСАВІКУ

На небе айчыннай культуры «Вясёлка» загарэлася ў красавіку 1957 года. Гэты яркі сямікалёрны агонь вітаў нас з маляўнічай вокладкі і з цёплых радкоў паэта:

Раскрывае крыльцы пчолка,
Зелянее збажына.
Загарэлася вясёлка —
Будзе добрая вясна.

Не памыліўся Сяргей Грахоўскі, добрай выдалася вясёлкаўская вясна. А хіба горшае лета, калі ўмоўна браць сённяшні яе дзень?!

Толькі ў сталасці пашанцавала мне патрымаць у руках і пагартаць той першы нумар новага часопіса. Дзіўна, але падалося тады, што я чытаў і нават памятаю той верш С. Грахоўскага, якім пачынаецца часопіс. І малюнкі быццам знаёмыя. Адчуванне маё падманвала мяне, бо ў той, 1957 год, у маіх пушчанскіх мясцінах ніхто не ведаў пра з’яўленне новага часопіса. Ды і тую шматкалёрную вясёлую дугу, што зрэдку з’яўляецца на небе, у нас называлі па-іншаму — тэнча. Амаль нічога вясёлага і паэтычнага ў гэтым слове я не знаходзіў.

У 1957 годзе мне было чатырнаццаць гадоў, і я падбіраўся ўжо да ўзросту «Маладосці». Ад гэтага часу пачынаецца маё сяброўства з газетай «Піянер Беларусі», дзе неўзабаве і будзе надрукаваны мой першы верш, таксама пра красавік, пра вясновае абуджэнне на Нёмане.

Сёння я думаю, як жа радавалася тады малодшая дзятва, гартаючы тое першае пасля вайны маляўніча-вясёлае выданне. Мне пашанцавала хіба ў іншым: яшчэ ў пачатковай школе прачытаў беларускія народныя казкі, паэтычна апрацаваныя тым самым першым рэдактарам часопіса Васілём Віткам. Памятаю, як аднойчы, будучы студэнтам-першакурснікам, таптаўся ля ціхіх дзвярэй з шыльдачкай «Вясёлка» ў будынку былога ЦК камсамола, але зайсці, паказаць некалькі вершаў для дзяцей так і не адважыўся. Першы быў пра бусла, якога я зрабіў дантыстам, бо ён устаўляў зубы баране, якую нехта зацягнуў на ліпу, а другі баяў пра нешта курынае. Так і засталіся яны ў мяне ненадрукаванымі. Гэта ж так напалохаўся тады трох старэйшых і сур’ёзных дзядзькоў, якіх пабачыў праз прачыненыя дзверы. Былі гэта Васіль Вітка, Алесь Пальчэўскі і Сяргей Грахоўскі. Ды і стрымаў жарт іншага старэйшага дасціпцы: «Каб пісаць творы для дзяцей, трэба спачатку самому стварыць хоць аднаго чытача». Сёння б я знайшоў што адказаць таму гумарысту. Ну, калі б толькі гэтай навукі было дастаткова, кожнага б другога мужчыну мы б змушаныя былі прымаць у Саюз пісьменнікаў. Я набраўся цярпення і чакаў. Праўда, да часу, пакуль не зразумеў, што дзіцячы чытач самы ўдзячны і самы патрабавальны ў свеце. Ён табе і рыфму, калі трэба, падправіць, як гэта здарылася з вядомай рускай паэткай.

Ну, не захацеў ён чытаць яе радкі так, як хацела яна:

У меня для Петеньки —
Леденцы в пакетике.

Чытач, сам таго не хочучы, падрэдагаваў іх так:

У меня для Петеньки —
Леденцы в пакетеньке…

І загучала! Так што з ім, маленькім, трэба паводзіць сябе вельмі далікатна. Нават паэту!

Згадваючы сваё, перажытае, я неяк вершавана пажартаваў:

У валожынскай раёнцы
Грэўся я, нібы на сонцы.
Шчыра ў радыёэфіры
Я пасля ўжо казімірыў.
Трапіў пад крыло «Вясёлкі»,
«Вожыку» лічыў іголкі;
Быў сваім у «Маладосці»,
Быў і ў «Полымі» не госцем.
Калі стаж свой падлічыў,
Дык падаўся ў чытачы.

Пад крыло «Вясёлкі» трапіў я ў студзені 1981 года, запрошаны на працу яе галоўным рэдактарам Уладзімірам Ліпскім. Мне адразу спадабаўся невялічкі згуртаваны калектыў рэдакцыі. Цешыла, што са мной поплечкі ў пакоі сядзеў мой сябра і зямляк Мікола Маляўка, які і сасватаў мяне ў часопіс. Я адразу зразумеў, што затрымаюся тут надоўга. У трох рэдакцыйных пакоях, адзін з якіх займаў галоўны рэдактар, было хоць і цесна, але даволі ўтульна.

Цяпер паняцце гарадскога цэнтра далёка не тое, якім яно было ў тыя гады. Беларускае радыё і часопіс «Полымя», дзе я працаваў дагэтуль, месціліся бліз плошчы Перамогі, а Калектарная, дзе ў вялізным будынку прытулілася «Вясёлка», мне чамусьці здавалася далёкім водшыбам, ці, як я называў, «хутарком». Затое тут хапала цішыні і не так даймалі самыя назойлівыя аўтары.

Уладзімір Сцяпанавіч Ліпскі ўбачыўся мне чалавекам вялікіх арганізатарскіх здольнасцей. Ён не любіць дарэмна бавіць час, а таму мае яго ў дастатку і для рэдакцыйных, і сваіх асабістых спраў. У яго дзённым раскладзе распісана кожная хвіліна. Неяк я падцікаваў тое на лістку яго календара. Пазней на свае плечы ён узваліў і яшчэ адну ношу — Дзіцячы фонд. Нават здзіўляўся, як гэта яго на ўсё тое хапае. А тады ўсё ў нас, як кажуць, кіпела. А калі кіпіць агульны кацёл, дык кіпяць у ім усе разам.

— Ну што вам там рабіць у той «Вясёлцы»? — чуў я часам ад сваіх знаёмых. — Можна за месяц падрыхтаваць усе нумары на цэлы год і тады — гуляй сабе, як той «конь на волі». Каб жа так!.. Гэта толькі таму, хто не бярэцца за гуж, усё здаецца занадта простым. Таму ж, хто па-сапраўднаму «ўпражэцца» ў справу, трэба цягнуць, варушыцца, ды яшчэ як. І не зусім складаным быў нам рэдакцыйны прынцып: няхай аўтары ідуць да нас самі, а мы пойдзем да чытачоў. І хадзілі, і ездзілі да сваіх маленькіх і крыху большых. Той, хто лічыць несур’ёзнай рэдакцыйную працу ў дзіцячым часопісе, хай пойдзе і хоць раз выступіць у дзіцячым садку. Вось і паглядзім, што ён потым скажа. Першым разам і я сярод дзетсадаўцаў адчуваў сябе даволі нязручна. Пакінулі нас удваіх з цэлай залай неўгамонных дашкалятак. А выхавацелькі знарок зніклі з гэтай неўгамоннасці. Думалі, пэўна: «Паглядзім, што вы з імі будзеце рабіць!..» Але ж калі назваўся грыбам, трэба лезці ў кош. Ох, і не проста было ў тым дзіцячым «кашы». Давялося выцягваць з памяці ўсе загадкі свайго дзяцінства, перамешваць іх уласнымі вершамі, дайшло нават да песень. Другім разам пайшло куды весялей. Я назіраў, як умее падбіраць «свой ключык» да дзіцячых сэрцаў наша паважаная Тамара Тарасава, і хутка зразумеў, што гэта прыходзіць з вопытам. А ў мяне які яшчэ вопыт?! Пачатковец я ды і ўсё. А вопыту не пазычыш, ды і напавер яго жыццё не дае. Усё трэба дабываць самому. А народ які цікавы, сур’ёзны і дапытлівы падрастае. Глядзіш, заўтра за камп’ютары сядзе. Толькі б ад кніжак не адбіўся!

Ёсць у Мінску цудоўны дзіцячы садок пад назвай «Сонейка». Дзеці там і размаўляюць, і спяваюць, і гуляюць толькі па-беларуску. Туды ахвотна ідуць выступаць пісьменнікі. Быў я некалькі разоў там і сам. У садку і сапраўды шмат сонечнага, нават самі дзеці робяць ураджанне сонечных праменьчыкаў.

З «Сонейка» заўсёды вяртаешся з адчуваннем святочнасці і светласці на сэрцы. Не, не ўсё так змрочна ў гэтым свеце, думаеш потым, калі ёсць у нас такія вось «сонейкі». А таму трэба ісці заўсёды насустрач сонцу!

Не лічу сябе асаблівым педагогам, але думаю так: калі ты ў сваім жыцці некага вучыш, дык вучышся адначасова і сам, бярэш па крупінцы і ў таго, і ў гэтага. Нездарма ж народ кажа: «Век жыві — век вучыся!» Вучыцца можна і ў тых жа дзяцей. Асабліва, што тычыцца праўды. Бо ніхто, апроч дзяцей, не здольны так адкрыта і непасрэдна гаварыць словы праўды.

Быў у нас у часопісе свой літаратурны герой Вася Вясёлкін. Нарадзіўся ён у часы Васіля Віткі, падрастаў пры рэдактарах Еўдакіі Лось і Анатолю Грачанікаву, набіраўся сілы пры нас. «Герой» браў на свае плечы даволі шмат. Дастаткова сказаць, што ўсе чытацкія лісты праходзілі толькі праз яго. Дзіцячая пошта была багатай: штодня дзясяткі пісем, за тыдзень іх збіраецца сотні. І ніводнае нельга пакінуць без адказу. І так традыцыйна складвалася, што кожны з нас, адказваючы на лісты, хаваўся за прозвішча Васі Вясёлкіна. Чытачы, вядома, вераць у існаванне нашага героя, пішуць, звяртаюцца да яго па імені. І сёння не ведаю, добра тое ці дрэнна. Вось і паслаў я аднойчы адказ нейкаму Пятру з Гомельшчыны, дзе паспрабаваў паразважаць пра яго вершы, якія не падыходзяць да друку. «Дарагі Пеця, — пісаў я ласкавым тонам, — малайчынка, што ты ўзяўся пісаць вершы, але, перш чым брацца за пяро, паспрабуй пачытаць нашых цудоўных паэтаў… Можа, яны табе што добрае падкажуць». А ўжо недзе праз тыдзень на маім стале ляжаў ліст ад таго самага аўтара. «Слухай, Вася, — абураўся ён, — ты каго гэта вучыш?! І я ніякі табе не Пеця, а Пятро Фёдаравіч, мне ўжо за шэсцьдзясят…» Бедны Вася, увесь удар ён узяў на сябе.

Шмат чаго і вясёлага, і цёплага пакінулі ў маёй памяці гады працы ў «Вясёлцы». Многае, пачутае з дзіцячых вуснаў, я занатоўваў, потым яно клалася на вершы. Дагэтуль памятаю загадку, якую даслаў хлапчук з Гродзеншчыны. «Хто такія падпольшчыкі? — сур'ёзна пытаўся ён і тут жа адказваў: — Гэта людзі, якія жылі пад Польшчай…» Ну, было такое ў не так і далёкай гісторыі.

Дзіцячы часопіс нельга ўявіць без яркага мастацкага аздаблення. Малы чытач у першую чаргу смакуе малюнак і толькі потым звяртаецца да слова. Наш мастацкі рэдактар Яўген Змітровіч, які гуртаваў у рэдакцыі цэлую кагорту таленавітых мастакоў, і сам прасіўся на арыгінальнага літаратурнага героя. Быў ён гэткім усёўмеем, за што толькі не браўся ў сваім жыцці, нават вершы спрабаваў пісаць (захоўваю дзесьці адзін, прысвечаны мне). Праўда, часам выпіўшы кубак кумысу, які тады прадавалі ў нашым, саўмінаўскім, буфеце, я настойліва адгаворваў свайго калегу ад паэтычнага занятку, бо ў чалавека было безліч іншых цікавейшых захапленняў. Калі сёння бываю ў Доме літаратара, заўсёды затрымаюся і палюбуюся на кідкія вітражы. «Гэта мая работа!» — не без гонару казаў ён мне. Пакінуў усё ж памяць пра сябе чалавек, думаю часам. Хоць хто, акрамя мяне, пра гэта ведае? Нідзе ж прозвішча аўтара не засведчана. Неяк мастак запрасіў мяне ў сваю майстэрню. Зачаравала яна мяне сваім начыннем. Яго было столькі, што я разгубіўся. Такога больш я нідзе не бачыў. Дзіва што, Яўген Змітровіч, казалі мне, некалі выклёпваў такія персцёнкі, паўтараў узоры ордэнаў і медалёў. І залата, і срэбра былі паслухмяныя яго рукам. Шкадую, што не ўгаварыў гаспадара напісаць хоць пра нейкі малаточак ці кавадлачка сваю казку. Вось бы чыталася! Мастацкі твар часопіса дапамагалі распрыгожваць мастакі Уладзімір Пашчасцеў, Сяргей Волкаў, Алена Лось, Наталля Грамыка, Ісак Давідовіч, Георгій Скамарохаў, Таццяна Беразенская, Яўген Ларчанка… Усіх і не пералічыш.

Яўген Змітровіч, адыходзячы на пенсію, перадаваў сваю справу другому Яўгену з прозвішчам Ларчанка. Таленавіты, працавіты, надзвычай шчыры чала-

век. Нізка схіляю галаву перад памяццю і аднаго, і другога, у сэрцы маім яны пакінулі добры след. Ад Яўгена Ларчанкі маю дарагую памяць: ён вельмі па-мастацку, з густам пераплёў і адрамантаваў старое выданне Біблії (1908), падараванае мне калісьці Іванам Рубіным.

Цёпла згадваюцца і паседжанні рэдкалегіі, на якія ахвотна збіраліся аўтарытэтныя творцы, вельмі зацікаўленыя не толькі нашымі рэдакцыйнымі справамі, а і тым, як будуць расці і выхоўвацца нашы дзеці. Узгадаю тых, каго ўжо няма сёння з намі, — Васіля Вітку, Эдзі Агняцвет, Генрыха Вагнера. Маладзейшым жадалася паслухаць патрыярхаў, ім заўсёды належала найпершае і галоўнае слова. Гаворка зацягвалася, часам перарастала ў дыскусію. Мне асабіста ўсё гэта нагадвала своеасаблівае царкоўнае казанне, пасля якога сябе адчуваеш лёгка і прасветлена, нават забываеш нейкія крыўды, якія абавязкова ўзнікаюць у творчай працы. Генрых Вагнер і Кім Цесакоў часам з тых «збюрак» вярталіся з новымі песнямі. Словы тут жа падказвалі аглядальнікі нумароў.

Дарогі і сустрэчы з чытачамі ніколі не знікаюць з памяці. Іх было шмат. Толькі ў памяці яны чамусьці зліваюцца ў адну дарогу, дзе мноства прыпынкаў, самых розных людзей, вачэй, жартаў і ўсмешак. Можа, таму, што мінула шмат часу, пастарэлі мы самі, а з мноства назапашанага выбіраеш нешта адно, самае найяркае. Часам здаецца, што імчымся мы на разгоністай рэдакцыйнай «Волзе» праз лясістыя абсягі Палесся, нейкімі вясёлымі прыгадкамі падбадзёрваем сябе і нашага мілага кіроўцу Міколу Дарашэнку і ўсё азіраемся, ці выглядаем некага. Едзем і хвалюемся, ці будуць чакаць, ці сустрэнуць тыя, хто павінен сустрэць. Да мабільнікаў яшчэ далекавата, а таму сувязі аніякай.

З таго, самага незабыўнага, магу прыгадаць нашы сустрэчы з рэдакцыяй украінскага «Барвінка». Тады мы сябравалі з многімі дзіцячымі часопісамі нашых братніх рэспублік. На святы з’язджаліся да нас госці з Расіі, Украіны, Літвы, Арменіі, Эстоніі. Але асаблівым вузлом было змацавана дружбацтва з украінскім «Барвінкам». Мы часта абменьваліся нумарамі, а раз у некалькі гадоў сустракаліся рэдакцыямі на мяжы нашых рэспублік, дзе абавязкова было вогнішча да самай раніцы, песні, прызнанні, вядома ж, з перцаванай украінскай і нашай аржаной моцнай. Абавязкова ў такіх выпадках згадвалі даўні жарт Максіма Рыльскага: «Калі я прамаўляю слова «дружба», рука сама цягнецца да чаркі». Пашанцавала мне на некалькі такіх сустрэч, але найбольш запомнілася першая. Тады нашы дарогі збегліся ў высокім хвойным бары, якому саступіў месца разложысты дубовы гай, здаецца, ужо на роднай, беларускай прасторы, бо пеўні за лесам, як мы жартавалі, спявалі па-нашаму. Мы выбралі ўзгорыстую і паляністую, з амаль партызанскім размахам, мясціну і там адчынілі свае багажнікі.

Ніякі сучасны рэстаран не дасць вам таго, што можа прапанаваць стары палескі бор. Нават гарадскому чалавеку не трэба асаблівай навукі, як паводзіць сябе ў райскай лясной гасподзе, дастаткова быць толькі абачлівым і паслухмяным. Усё пачынаецца, вядома ж, з цяпельца. Таму даручыўшы жаночай палове засціланне абрусаў, мы, мужчынскі гурт, кінуліся нарыхтоўваць дровы. Трэба было падумаць пра іх запас аж да першых пеўняў. Бо калі сцямнее ды калі мы самі завесялеем, дровы шукаць будзе позна. А летні агонь даволі пражэрлівы. Дровы яму толькі падкідвай — глытае тут жа.

Агонь наш гарэў весела, языкі полымя скакалі ля самых верхніх сукоў хвоек, а іскры, напэўна, даляталі да зорак і вышэй. Было весела і нам. У начным агні ёсць шмат загадкавага і таямнічага. Ён не толькі грэе, але і свеціць, ён зусім па-іншаму высвечвае людскія твары. І хто ведае, калі б не яго паднебная высокасць, ці заўважыў бы я на самай макаўцы высокай хвоі старую борць. А што, калі там цэлая калода мёду? Вось упрыгожыў бы і падсаладзіў ён наша лясное застолле. Паскакалі мы, паскакалі з украінскім хлопцам Багданам каля камля, пакоўзаліся-пацеляпаліся нагамі па ствале ды супакоіліся. «А хвігу вам, паспрабуйце дастаць!» — пасмяялася звысоку борць. «Паплыгаеш-паплыгаеш ды сядзеш», —

казаў некалі мой стары рэдактар Хведар Жычка. Прыселі да вогнішча, асмеяныя ўсімі, і мы. Доўга не давала спакою нам тая борць. Хто і калі зацягнуў яе на тую хвою? Мы і раніцай пра гэта пыталіся ў сябе. А можа, яна яшчэ з таго веку? Бо ці забраўся б сёння які спрытнюга на такую вышыню? А ствол жа без сукоў. Відаць, борць усцягнулі, калі хвоя яшчэ была зусім нізкай. Так і пакінулі з той загадкаю ранішні лес. Як кажуць, і мёд па вуснах цёк, а ў рот не патрапіў.

А другая сустрэча была недзе за год да Чарнобыльскай трагедыі. Мы тады наведалі Нароўлю, потым спакойна гулялі па пасёлку Прыпяць, начавалі там. А вечарам і ў бліжні лес на шашлыкі выязджалі. Памятаю, здзівіла мяне там, у лазовым кустоўі, баравіковае багацце. Ну такія чарнагаловікі сядзелі, зусім не кранутыя, пад раскідзістымі лазовымі кустамі. Я нарэзаў іх добрую капу. І сабраўся падараваць нашаму гіду, прыгожай прадстаўніцы мясцовага камсамола. А яна рукамі адмахваецца:

— Што вы, не трэба, дзякуй.

Толькі праз многа гадоў дапяў. Відаць, ведала чарнявае дзеўчанё, якая начынка ў тых чарнагаловікаў. Дыхалі ж, пэўна, хоць і паціху, тутэйшыя рэактары. А можа, я і памыляюся…

Усё гэта, прыгаданае, магчыма варта аднесці да катэгорыі лірычных адступленняў. У шточасінным заўсёды знойдзецца месца і весялейшаму, хвіліннаму. Ды і ў кожнай рабоце ёсць свой нябачны бок, тое, што застаецца «за кадрам». Для большасці чытачоў важны сам твор, а не тое, як ён пісаўся. Іншым, наадварот, цікавы той, нябачны, бок. І нічога заганнага ў гэтым я не бачу.

А «Вясёлка» набірала тыражы, заваёўвала сэрцы чытачоў, шукала, запрашала на свае старонкі не толькі пісьменніка, але і акадэміка, інжынера, хлебароба, воіна. З’явілася рубрыка «Урокі цікавых сустрэч», а потым пад той жа назвай выйшла і кніга. Да юбілейных свят «Вясёлкі» выходзілі цэлыя зборнікі выбраных твораў вясёлкаўскіх аўтараў.

Думаю, намнога бяднейшай была б сёння наша дзіцячая літаратура, калі б не той красавік 1957 года, які падараваў нам «Вясёлку». Яна заўсёды збірала і клікала пад сваё крыло і старэйшых, і маладзейшых аўтараў. На яе старонкі прыходзілі і прыходзяць новыя маладыя творцы.

Шмат чаго памянялася за гэты час у маім любімым часопісе. Памяняўся і адрас рэдакцыі. Яна пераехала з Калектарнай на Кальварыйскую. У святлісты рэдактарскі пакой заходзіш, як у музей. Тут — уся гісторыя «Вясёлкі». Яна — у здымках, малюнках, самых розных прыдуманках, створаных рукамі саміх дзяцей. Ёсць адчуванне, што трапіў у дзіўны, крыху падобны на казачны, свет, але свет той дзіцячы. Ды гэта і ёсць своеасаблівы рэдакцыйны музей, сюды прыязджаюць, каб сустрэцца з супрацоўнікамі рэдакцыі, чытачы з усёй рэспублікі. А кагорта чытачоў немалая. Хутка набярэцца пад дваццаць тысяч. Гэта, калі меркаваць па лічбах тыражных. А чытаюць жа часопіс значна больш.

У згаданым вышэй рэдакцыйным музеі, будзем называць яго так, уражвае і тое, як шануецца тут усё далёкае і блізкае. Ёсць партрэты ўсіх вясёлкаўскіх рэдактараў, лаўрэатаў штогадовых літаратурных прэмій часопіса імя В. Віткі, ёсць шмат чаго іншага, што сведчыць пра гісторыю выдання.

Я не ставіў сабе за мэту расказаць пра ўсё тое, што напрацавана вясёлкаўцамі. Пра стаpанні, здабыткі і знаходкі рэдакцыі найлепш усё ж гавораць старонкі часопіса. Да іх я і адсылаю ўсіх зацікаўленых. «Вясёлцы» — 55. Гэта падзея просіцца ў радкі:

Хто кажа, што расцем памалу,
Не разумее той нічога.
Вунь і маленькі самы мае
Больш за паўсотні, дзякуй богу!

Прыйшло да «Вясёлкі», да чытачоў і аўтараў новае юбілейнае свята. Прыйшло з новай вясёлкаўскай кнігай, з новай вясной і новымі сябрамі. А святы нам жыццё дае не для таго, каб мы толькі святкавалі, яно заўсёды нагадвае і пра будні, працу, клопаты, якія абавязкова чакаюць нас потым. Будзем памятаць пра гэта.

Аляксандр ХАЗЯНІН

# ПАЭТ У МЕДЫЦЫНЕ

Нарадзіўся і вырас ён у Маладзечне. У цудоўна-непаўторным куточку нашай Беларусі-матухны. Жыў на вуліцы Зарэчнай. Тут, у бацькоўскай хаце, набіраўся сіл, з гадамі ўпітваў прыгажосць чалавечых узаемаадносін: дабрыні, спагады, даверлівасці. І з часам моцна палюбіў родныя краявіды: калі прырода абуджаецца, калі сады ў беласнежную квецень убіраюцца. Любы яму быў, як і яго сябрам-аднагодкам, якія, падрастаючы бегалі да Ушы-ракі, казачна-чароўны чэрвень, калі на ўтравелым беразе рачулкі слухаў лагоднае плюскатанне цёплай вады, пошчак салаўя, шолах ветру. Назіраў, як гарэза-ветрык калыхаў бурштынавыя косы беластволых бяроз. У такія мінуты радаснага настрою яго вочы, утрымліваючы водбліск неспакойнай думкі, цепліліся ад ціхага ўнутранага агню...

Змалку прыахвоціўся да працы: бацькі трымалі карову, свіней — былі апанаваны безліччу клопатаў. І дзецям давалі зразумець, што праца здароўя не адбірае. Жыццё любілі параўноўваць з дрэвам. Казалі, што ў яго дзве дарогі: адна ў зямлю, другая — угору, да сонца.

Калі ж дзеці, Фаіна, Леанід ці Антаніна, штосьці рабілі не так, Аляксей Васільевіч — бацька, і маці, Марыя Васільеўна, голасу на іх не павышалі, не сварыліся. Проста давалі зразумець, як ім горка ад іх дзіцячага свавольства, непаслушэнства. Добрыя і мудрыя яны былі. Здольнасці вялікія мелі. Толькі вайна не дала магчымасці рэалізаваць іх.

Удзячны бацьку, ад якога, як расказвае кіраўнік аддзялення анкамамалогіі Навукова-даследчага інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі імя М. М. Аляксандрава, кіраўнік Рэспубліканскага мамалагічнага цэнтра, доктар медыцынскіх навук, член-карэспандэнт Акадэміі медыцынскіх навук Беларусі, прафесар Леанід Путырскі, ён унаследаваў здольнасць да аналітычнага мыслення, упартасць, любоў да працы, а ад маці — мяккую, адкрытую душу: яна любіла сваіх дзяцей, цаніла, прымала такімі, якія ёсць. Умела цаніць іхнюю думку. Вучыла: «На жыццёвай дарозе чалавек павінен ведаць, чаго хоча дасягнуць».

Бацькі Леаніда Путырскага на цяжкасці ніколі не скардзіліся. Шчыравалі ў працы, імкнуліся, каб усё сваімі рукамі рабілася. І ў дзяцей выхоўвалі працалюбства. Бацькі працавалі — дзеці побач завіхаліся. На агародзе, у садзе, на полі. Дзеці заўсёды адчувалі бацькоўскі клопат, мацярынскую любоў.

Бацькі, родны дом, тыя сцежкі-дарожкі, па якіх усе рабілі ўпэўныя крокі ў жыццё, быццам магніт, прыцягваюць. І колькі б часу ні мінула, а заўсёды з горадам свайго маленства сустрэчы асаблівыя, душэўныя і цёплыя з аднакласнікамі, многімі жыхарамі Маладзечна. У такія моманты яго душа свеціцца нейкім дзіўным святлом і набягаюць сцішана-радасныя думкі пра тую дарогу, якая, узяўшы пачатак з Маладзечна, і вядзе Леаніда Аляксеевіча па вірлівай быстрыні жыцця.

Вучыўся ў сярэдняй школе нумар пяць. Прызнаецца:

— Навука давалася лёгка. Педагогі працавалі творча, нестандартна. Развівалі інтарэс да вучобы.

— У школьныя гады вы вызначаліся ўпартасцю?

— Ключык да мяне знайшла Ганна Афанасьеўна Пужэвіч. Не шкадавала добрых слоў. Умела ўсяляць у сэрца аптымізм і надзею.

Здаралася ж вольная хвіліна, спяшаўся дамоў. Падабалася бавіць час ля рэчкі Нарачанкі. Любаваўся прыгажосцю прыроды. З цікавасцю назіраў за птушынымі гнёздамі, слухаў пераліўныя спевы птушак, любіў жывёл, асабліва коней. Зімой хадзіў у лес, каб адсачыць сляды яго насельнікаў, чытаў іх. Адчуваў зімовае жыццё лесу па слядах птушак, звяроў. Гэта дабратворна сказвалася і на фарміраванні характару.

Кажа:

— Мамін характар у мяне. Мяккі. Спагадлівы.

Сам жа змалку навучыўся не марнаваць час. У старэйшых класах гадаваў сотню трусоў... Але і лёгкай атлетыкай займаўся, і футболам, і хакеем, і ў школьных алімпіядах прымаў актыўны ўдзел. У дзявятым класе стаў пераможцам алімпіяды па англійскай мове, што давала права пазаконкурснага паступлення ў інстытут замежных моў. Удзельнічаў і перамагаў у чэмпіянаце Беларусі па хакеі. Любіў танцаваць. Калі ж хацелася застацца сам-насам, браў у рукі баян.

Толькі выпадак, які здарыўся з ім, школьнікам, летам у час школьных канікул, стаў лёсавызначальным. А было так: старэйшыя дзеці ў траншэі для водаправода вырылі пячору. Гулялі тут. Далі і Лёню сапёрнай лапаткай пакапаць. Самі ж сталі скакаць. Зямля і абвалілася... Ніхто гэтага не чакаў. Дзеці ад страху і адчаю закрычалі. Пачулі дарослыя. Схапіўшы хто што, сталі Лёню Путырскага адкопваць. Бацька ад хвалявання і страху, не знайшоўшы лапаты, разграбаў зямлю дошкай.

Выжыў дзякуючы таму, што ў траншэі ляжаў тварам уніз, але адкапалі сінім. Першае, што ўбачыў, вярнуўшыся з таго свету, гэта вялікія вочы доктара, які сказаў ягонай матулі:

— Ну, вось бачыце, будзе жыць. Ён яшчэ вырасце і стане вялікім чалавекам...

І сёння сэнс гэтых слоў Леанід Аляксеевіч адназначна не можа растлумачыць: які рост меў на ўвазе той, з усмешкай, урач, яго выратавальнік. Фізічны? Прафесіянальны? Толькі гэты чалавек у белым халаце зрабіў на яго незабыўнае ўражанне... Праўда, запомнілася і іншая сустрэча з урачамі. На гэты раз з хірургамі, калі ў сёмым класе кап'ё выпадкова трапіла ў твар.

Магчыма, у такія моманты зразумеў простыя ісціны: рабі людзям дабро — і ты ніколі не застанешся адзін. У любым выпадку да чалавека трэба шукаць падыход, каб можна было паверыць яму, пайсці за ім, палюбіць за справу. Жыў у згодзе з душой, як казаў у час нашых неаднаразовых размоў. Падкрэсліваў, што адчуваў уплыў маці, глыбакаверуючай жанчыны... А калі сэрца перапаўнялі пачуцці, выказваў іх у вершах. Яшчэ ў школе.

Скончыўшы школу з залатым медалём, вучыўся ў Мінскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце па спецыяльнасці «ўрач-лячэбнік». Паспяхова вытрымаўшы шмат жыццёвых экзаменаў і застаўшыся чалавекам-аптымістам, дастойным, з добрым сэрцам, спагадлівым, чулым, каму ўласцівы і энергія, і працаздольнасць, шмат дабіўшыся ў жыцці яшчэ маладым, неяк выказаўся:

— Я ні разу не пашкадаваў, што выбраў медыцыну! Не ведаю іншай спецыяльнасці, дзе б знайшоў сябе, як у нашай медыцыне — тут трэба ўмець «увайсці» ў жыццё іншага чалавека, каб штосьці змяніць у ім... Для поспеху любому медыку мала быць харошым спецыялістам. Важна, каб пацыенты бачылі ў табе спагадлівага, жывога чалавека. Разумелі, што сэрца ўрача баліць за кожнага...

Такія высновы прыйшлі да яго тады, калі ўжо за плячыма былі немалы жыццёвы вопыт, поспехі і здабыткі, пераадоленне цяжкасцей і дасягненне мэты. І грунтавалася ўсё гэта на яго простай жыццёвай філасофіі: ты сам каваль свайго шчасця.

Як і многія, мог бы ён проста жыць, прайсці свой шлях па зямлі. Толькі дзе б ні знаходзіўся, стараўся дарыць шчасце, каму было неабходна, працягваў руку дапамогі. Словам, быў разам з людзьмі. І заўсёды ўмеў парадавацца іх поспехам.

Шмат душэўнага цяпла, энергіі аддаваў, але і шмат атрымліваў ад тых, з кім даводзілася сустракацца.

Неяк сказаў:

— Для бацькоў я не быў дрэнным сынам... Ніколі не курыў і не спрабаваў нічога з алкагольных напіткаў. Настроенасць да жыцця заўсёды была станоўчай. А ўпэўненым і Бог дапамагае. І шанцуе тым, хто верыць у лепшае, ва ўласныя сілы.

У яго была мэта, і ён стараўся яе дасягнуць. І не толькі. А быць на яе вяршыні. Шчыра працаваў. Поспех жа, вядома, прыходзіць да працалюбівых, мэтанакіраваных.

Яго называлі завадатарам. Але жыццялюбства, смеласць, пачцівасць з натурыстасцю ўжываліся...

З часам акрэслілася жыццёвая філасофія:

— Жыццё чалавеку даецца, каб жыць...

Слова «выжываць» не любіць. І цяпер, калі ўжо так шмат ажыццёўлена і дасягнута. Ішоў акрэсленым шляхам. Да лёсу свайго ішоў! Нярэдка — праз цяжкасці і выпрабаванні. Паступова асвойваючы спецыяльнасць, будучы башкавітым. Але і здатны на рукі быў. У студэнцкія гады навучыўся будаваць. Восем разоў летам пасля паспяховай здачы сесіі выязджаў у складзе студэнцкіх атрадаў на будаўнічыя пляцоўкі былога Саюза.

— Што прыцягвала? — запытаўся я.

Адказаў:

— І грошы, і рамантыка...

Паважліва тлумачыў:

— У студэнцкіх будатрадах за два месяцы зарабляў сабе на год наперад на жыццё. У Беларусі і Казахстане ёсць дамы, пабудаваныя і маімі рукамі.

Іграў на баяне. Спяваў. Актыўна займаўся спортам. Вывучаў харэаграфію. Шмат гадоў танцаваў у народным ансамблі «Вясёлка» Палаца культуры Белсаўпрофа.

— Дзякуючы танцам сустрэў сваю жонку Наташу.

— А што маглі даць танцы медыку? — пытаюся.

— Многае!.. Загартоўвалі характар. Вучылі вытрымцы. Фарміравалі прыгажосць душы. Да медыцыны ж адчуваў і адчуваю вялікае прызванне.

За што б ні браўся Леанід Аляксеевіч, напаўсілы не рабіў. Станавіўся лаўрэатам многіх аглядаў-конкурсаў мастацкіх калектываў: у складзе «Вясёлкі» выступаў на сцэнах многіх краін свету. Ён і спартсмен выдатны: неаднаразовы чэмпіён і прызёр горада, раёна па футболе, баскетболе. Быў прызёрам Мінскай вобласці па лёгкай атлетыцы і Беларусі па спартыўным арыентаванні, чэмпіёнам Беларусі па хакеі.

Толькі стомы ад таго, што заўсёды любіў, чым захапляўся, ніколі не адчуваў. У нават самай складанай сітуацыі навучыўся кіраваць сабой, падганяць сябе. Заўсёды хацелася дарыць цяпло і шчасце іншым. І самому больш цяпла ад зносін з людзьмі хацелася. Нярэдка стамлялі людская чэрствасць, грубасць, хамства... У дваццаць тры гады з'явілася сівізна... Ад напружанай працы. Даводзілася спаць не больш як шэсць гадзін у суткі. Позна класціся. Рана ўставаць.

— Памятаю, — расказвае Леанід Аляксеевіч, — калі нарадзіўся сын, я якраз працаваў над кандыдацкай. Гэтай работай займаўся ўдзень, а ноччу ўставаў да немаўляці, таму што жонка вельмі стамлялася. Ды і сплю я больш чуйна, чым яна. Потым, у Маскве ўжо, жонка ў сваю чаргу пісала кандыдацкую, я — доктарскую...

У іх падрасталі двое дзяцей. Хлопчык і дзяўчынка — сённяшнія кандыдат медыцынскіх навук і спявачка. Калі ж вучыўся ў клінічнай ардынатуры па анкалогіі пры Мінскім НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі, затым — дактарантуры пры Маскоўскім навукова-даследчым інстытуце анкалогіі імя П. А. Герцэна, праходзіў стажыроўку ў Германіі, Францыі, сям'ю жыццё выпрабоўвала на трываласць, і гэты экзамен паспяхова вытрымлівалі.

Перабудовачныя працэсы, работа над дысертацыяй жонкі вымусілі Путырскіх пакінуць Маскву. Працяглы час Леанід Аляксеевіч з дзецьмі жылі ўтраіх без мамы. Самому, па яго прызнанні, даводзілася і гатаваць, і бялізну мыць, і коскі дачцэ заплятаць. Пры гэтым яшчэ напружана працаваць. У трыццаць пяць гадоў абараніў доктарскую дысертацыю, у сорак адзін стаў прафесарам.

З цеплынёй і шчырасцю называе свайго першага і адзінага настаўніка з вялікай літары прафесара Ціхана Панцюшэнку. Менавіта ён даў яму першы штуршок у навуку. Навучыў мысліць, думаць, працаваць. Леанід Путырскі не толькі ўрач-вучоны. Ён добра малюе і яшчэ — аўтар трох кніг прозы.

А вось дырэктар Маскоўскага навукова-даследчага анкалагічнага інстытута імя П. А. Герцэна акадэмік Валерый Чысаў, навуковы кансультант па доктарскай дысертацыі, вучыў быць дыпламатам у медыцыне. Працаваць і бачыць тое, што многім не відаць. Навучыў дамагацца высокіх мэт.

Нярэдка ўзнікала пытанне: што рабіць? Ды заўсёды помніліся словы, сказаныя кімсьці са свяціл медыцыны: калі хочаш шмат зарабляць, у медыцыне няма чаго рабіць. Калі ж хочаш мець сваю любімую справу і адбыцца як асоба, як вучоны, як спецыяліст, то трэба спрабаваць сябе на гэтай цярністай дарозе.

І працаваў у розных кутках Расіі, Беларусі і на розных высокіх пасадах, увасабляючы тое шматлікае, новае ў доктарскай дысертацыі, тэма якой «Камбінаванае і комплекснае лячэнне рака малочнай залозы з выкарыстаннем сучасных фізічных метадаў уздзеяння ў практычнай дзейнасці». У Маскве далучыўся да прафілактычнай работы. Выязджаў у Цюмень, Нафтаюганск і іншыя гарады, часта выступаў па радыё. Вялося скрупулёзнае абследаванне жанчын, якія самі ў сябе, заўважыўшы хваробатворныя сімптомы, на ранняй стадыі маглі звярнуцца да спецыяліста...

У Беларусі Путырскі ў 1992 годзе — кіраўнік аддзялення клінічнай мамалогіі і агульнай анкалогіі Навукова-даследчага інстытута. Затым — намеснік дырэктара НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі. Працаваў кансультантам Гамеапатычнага цэнтра «Крэда», кансультантам чацвёртага Галоўнага ўпраўлення пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Але найбольш яго талент як кіраўніка, урача, вучонага і педагога раскрыўся са стварэннем і адкрыццём Рэспубліканскага мамалагічнага цэнтра.

Далося гэта нялёгка. Многія, здавалася б, простыя ісціны неабходна было аргументавана даказваць. Скажам, перавагі прафілактычнай медыцыны над лячэбнай. У чыноўнікаў былі свае важкія аргументы: маўляў на прафілактычную медыцыну дзяржавай заўсёды прадугледжваецца менш грошай, ды і эфект ад яе можна атрымаць толькі заўтра. Напачатку схіляліся на адкрыццё прафілакторыя. Спасылаліся на навуковую літаратуру, дзе сцвярджалася, што навучанне жанчын самаабслугоўванню не дае паляпшэння ў дыягностыцы рака малочнай залозы. Даводзілася даказваць, што гэта не так. Пераконваць. На ўзроўні інстытута, Міністэрства аховы здароўя. Удалося!..

Быў урачысты момант адкрыцця мамалагічнага цэнтра ў Бараўлянах. Былі размовы з хворымі.

Сёння асноўная дзейнасць цэнтра — прафілактычная работа з медыцынскім персаналам і жанчынамі Беларусі, а таксама вывучэнне сусветнага вопыту — наладжваюцца сувязі з міжнароднымі арганізацыямі, якія займаюцца гэтымі праблемамі.

Леанід Аляксеевіч запытальна глядзіць на мяне:

— А ведаеце, чым сапраўдны хірург адрозніваецца ад простага рамесніка? — Сам жа і адказвае: — Тым, што ў яго, апрача розуму і рук і душа яшчэ ёсць. Кожнаму пацыенту аддаю яе часцінку. Гэта адбірае вельмі шмат сіл, але і дае іх...

— Вы лечыце не толькі як анколаг, але і падтрымліваеце чалавека як выдатны псіхатэрапеўт?

— Безумоўна... Тут урачу без вытрымкі, цярпення, спагады нельга. Мамолаг абавязкова павінен ведаць псіхалогію жанчыны, умець пераканаць яе змагацца,

нават калі па ўсіх прагнозах жыць ёй засталося лічаныя месяцы. У нас усе кадры высокапрафесійныя, выдатныя вучоныя, увогуле добрая сістэма аховы здароўя.

У анкалогіі цяжка затрымацца выпадковаму чалавеку: да ўрачоў тут звяртаюцца як да апошняй надзеі. Зварот-просьба гэтай маладой жанчыны раздзірае сэрца, раніць душу.

— Доктар, міленькі, толькі не адштурхоўвайце мяне, не адпраўляйце нікуды, я хачу лячыцца толькі ў вас. Я адчуваю, што ў вас добрае сэрца, без вас я памру. А мне толькі дваццаць тры. У мяне такая маленькая дачушка... Я вельмі хачу жыць. Дапамажыце, калі ласка...

Думаю: як яму і такім, як ён, аблегчыць іх боль, як абнадзеіць? Як трываць, калі бачыш заплаканыя вочы, у глыбіні якіх — жудасны страх. Ён — разбуральны. Найперш паражае розум, а потым і сэрца са строю выводзіць.

— Не верце тым, хто сцвяржае, што з гадамі ўрачы прызвычайваюцца да чужога болю, — гаворыць Леанід Аляксеевіч. — Не!.. У каго ёсць сэрца, у таго яно і баліць усё жыццё, колькі б ні працаваў: у такіх сітуацыях немагчыма ні пачалавечы, ні прафесійна заставацца раўнадушным.

Хоць і разумее, што ў хворай запушчана пухліна малочнай залозы, але ўсё роўна адчуванне такое, што быццам сам не дапрацаваў. Прызнаецца, што за многія гады так і не набыў каэфіцыента жорсткасці. На шчасце для хворых і на бяду для сябе, усіх ён вельмі шкадуе...

Пастаянна імкнецца аблегчыць стан тым, каго лечыць. У такім выпадку яны і папраўляюцца хутчэй і жывуць даўжэй: трэба толькі, каб чалавек нават у безнадзейнай сітуацыі паверыў табе... Аказвае не толькі прафесійную дапамогу, а падтрымлівае ў горы цеплынёй сваёй душы. Путырскі ратуе жанчыну нават тады, калі ведае, што выратаваць яе немагчыма. Але як змірыцца, калі дзіцятка застанецца без мамы? Мо таму сэрца хірурга часцей, чым іншых урачоў, плача, глыбей любіць, мацней баліць?

Тут і ў скроні стукае, і халадок усё цела пройме, калі ў жанчыны, якая звярнулася па дапамогу, бачыш ярка-чырвоныя, бугрыстыя грудзі, на якіх замест скуры суцэльная язва. У яе вачах трывога, страх. Родныя, на каго раптам абрынулася гора, стараючыся падтрымаць хворую, у вачах урача шукаюць надзею. Для іх гэтая бяда — трагічны злом жыцця і лёсу, выпрабаванне на мужнасць. Хворая ж у такім выпадку гатова цярпець любы боль, пераадольваць страх дзеля таго, каб выжыць... Не менш стойкімі ў такія моманты павінны быць і ён, Леанід Аляксеевіч, і яго калегі: ідзе ж змаганне са смерцю. І нярэдка ў змаганні за чалавечае жыццё вучоны і ўрач выходзіць пераможцам.

— Што дабратворна можа сказацца на выздараўленні пацыенткі? — цікаўлюся.

— Калі ўдаецца «злавіць» хваробу на першай стадыі. Ранняя дыягностыка вельмі эфектыўная. У Беларусі жывуць пяць і больш гадоў тысячы людзей, якім на ранняй стадыі выдалілі пухліны. Ёсць і такія, хто дажывае да глыбокай старасці: на першай стадыі вылечваецца 90—95 працэнтаў хворых, на другой — 80—85, на трэцяй — толькі 50 працэнтаў. Калі б пачынаць лячэнне на першай і другой стадыях, то можна сказаць, што рак малочнай залозы пераможаны. Але сітуацыя пакуль не дазваляе супакойвацца: ён выйшаў на першае месца сярод анкалагічных захворванняў у жанчын. Скажам, у свеце рэгіструецца прыкладна 800 тысяч хворых. У нас на сто тысяч — 61 чалавек...

У такіх сітуацыях трэба спадзявацца толькі на ўрача-цудатворцу? Ды не... Амерыканскія вучоныя даказалі, што выжывальнасць у экстрэмальных умовах у аптымістаў вышэйшая, чым у песімістаў — сілай пераканання можна забіць або ажывіць чалавека.

— А ці можна верай хваробу перамагчы?

— Перамагчы не, дапамагчы — можна.

Леанід Аляксеевіч прывёў прыклад, які назваў нетыповым. Да яго звярнулася жанчына з просьбай паглядзець сваю сястру — жонку аднаго з вялікіх чыноўні-

каў. Прасіла дапамагчы ёй пражыць паўтара месяца, да 60-годдзя, каб не азмрочыць ягоны юбілей. У яе была запушчаная, апошняя стадыя. Пахудзела на больш як дваццаць кілаграмаў, не ўставала. Усё ж яе пераканалі лячыцца. Пагадзілася. Але хіміятэрапіі баялася... Пачалі з гамеапатыі... З'явіўся апетыт. Пачала хадзіць. Дажыла да дня нараджэння мужа. Праз год вярнулася да нармальнага жыцця, пражыўшы яшчэ сем з паловай гадоў.

Неяк, ідучы па горадзе Клецку, заўважыў, што на яго глядзіць жанчына. Твар падаўся знаёмым. Яна падышла, абняла яго, і тут яе губы задрыжалі:

— Доктар, вы памятаеце? Дзесяць гадоў таму вы выратавалі мне жыццё...

Дзеля такіх момантаў і не шкадуе сябе ў рабоце Путырскі, чалавек шматграннага таленту — вучоны, урач, паэт. Высокаарганізаваны. Высокага прафесіяналізму, культуры і духоўнасці, незвычайнай працаздольнасці, уважлівых адносін да людзей, якіх вельмі любіць і заўсёды цэніць, самаахвярны...

Паспяхова спалучае навуковую і практычную дзейнасць, якая адлюстравана ў яго шматлікіх выступленнях і дакладах на Усесаюзных, усерасійскіх і міжнародных канферэнцыях, з'ездах. У яго звыш 250 навуковых публікацый, каля 50 патэнтаў і рацыяналізатарскіх прапаноў. Ён — доктар медыцынскіх навук, прафесар, член-карэспандэнт Акадэміі медыцынскіх навук, Міжнароднай славянскай акадэміі, Беларускай інжынернай акадэміі, лаўрэат шматлікіх прэмій, дыпламант як расійскіх, беларускіх, так і міжнародных. Вядучы хірург-анколаг Беларусі з'яўляецца ўладальнікам шасці медалёў ВДНГ СССР і Усерасійскага выставачнага цэнтра.

Яго добра ведаюць у свеце, куды даволі часта выязджае абменьвацца вопытам. Гэта Расія і Украіна, Германія і Францыя, ЗША і іншыя краіны. Выступаў на міжнароднай канферэнцыі «Свет пасля Чарнобыля» ў Мінску, з'ездзе анколагаў СНД у Маскве, міжнароднай канферэнцыі «За ўмацаванне супрацоўніцтва паміж Усходняй і Заходняй Еўропай» у Італіі і інш. У Злучаных Штатах Амерыкі, непасрэдна ў Каліфорніі, да вядомага мамолага калегі звярнуліся з просьбай прадыягнаставаць хворую.

— Я вызначыў дыягназ і прызначыў лячэнне, — гаворыць Путырскі. — А на наступны дзень, зверыўшы мой вывад з дадзенымі, атрыманымі пры дапамозе апаратуры, амерыканскія ўрачы былі ў поўным захапленні і выказалі вялікае жаданне супрацоўнічаць з намі, беларусамі. Калі ў нашай краіне мы папрасілі масцітага, замежнага спецыяліста прааперыраваць адну хворую, то ён, убачыўшы наш інструментарый, адмовіўся. Сказаў, што ён так працаваць не можа, не прывык...

Працаваць і нам, і ім яшчэ ёсць над чым. Але і прызнаць трэба, што апошнім часам беларускія вучоныя зрабілі значны крок наперад: наша школа анкалогіі можа ганарыцца сістэмай назірання за хворымі.

Леанідам Путырскім ажыццёўлена ўжо звыш дзвюх тысяч аперацый. Хоць, як сам прызнаецца, не займаўся іх падлікам. Праўда, дні ў Бараўлянах бываюць розныя. Адны запоўнены складанымі шматгадзіннымі аперацыямі, а ў другія дастаткова пагутарыць з пацыенткай, абнадзеіць хворую, каб пакінула кабінет са шчаслівымі вачыма.

— Калі б ваша спецыяльнасць не тычылася жанчын, магчыма, з вас бы паэт не атрымаўся і вершы былі б не такімі пранікнёнымі.

— Магчыма...

Леанід Аляксеевіч, як аднаго разу сам заўважыў, паэт у медыцыне. А я дадам, што ён і прафесар у паэзіі. Вось верш, які ганаровы грамадзянін Маладзечна чытаў на сваім творчым вечары «З любоўю ў сэрцы» ў мясцовым Палацы культуры:

Говорят, у хирургов иначе
Сердце скроено — как монолит,
Это так: оно чаще плачет,
Глубже любит, сильнее болит.

Жизнь — не записи драматурга,
И когда тонет лучший друг,
То горячее сердце хирурга —
Это вечный спасательный круг.
Скальпель режет, а сердце стонет,
Слёзы льёт от чужой беды,
И спасает того, кто тонет,
Вынося на поверхность воды.
А наутро, уж Вы поверьте,
Видя слёзы спасённых глаз,
У хирурга трепещет сердце,
Что звезду в небе чью-то спас…
И взирая на звёзды утром —
Не погас ли какой сателлит,
Необъятное сердце хирурга
Утром любит, а ночью болит…

Вершы, па яго прызнанні, нараджацца, як дзеці. А творчасць адыгрывае дадатковую псіхатэрапеўтычную ролю ў практыцы хірурга. І ў кожным з вершаў ягоных сямі кніг — філасофія дабрыні, спагады, надзеі, любові.

Аб гэтым добра ведаю, бо разам з колішнім галоўным інжынерам друкарні «Перамога» Е. Вапняр працавалі над падрыхтоўкай і выпускам у свет першых яго паэтычных зборнікаў «Верность», «Огонь и боль». Сцвяржаю: гэта быў добры імпульс! Добры ж пачатак, як кажуць у народзе, палавіна справы ўжо. Затым у рэспубліканскіх выданнях з’явіўся мой артыкул «Паэтычная філасофія Путырскага», пазней уключаны ў маю кнігу «Скарбонка мудрасці».

У медыцыне яго называюць паэтам, у паэтычнай творчасці — прафесарам. Так, відаць, і ёсць, бо калі чалавек таленавіты, то ён таленавіты ва ўсім. А кампазітар Валянціна Сярых у размове са мной заўважыла:

— Вершы Л. Путырскага прафесійныя, душэўныя.

Заканамерна, што яны прыцягваюць увагу кампазітараў, спевакоў. Яго лірычна-паэтычныя творы ў рэпертуары многіх салістаў Белдзяржфілармоніі, творчых студый Палаца культуры г. Маладзечна. З задавальненнем піша музыку на яго вершы вядомы кампазітар А. Елісеенкаў. Нямала песень, якія кранаюць душу і хвалююць сэрца, выконвае беларуская спявачка, яго дачка Таццяна. Сам А. Елісеенкаў, калі праходзіла прэзентацыя зборніка паэзіі «Сэрца хірурга», праспяваў некалькі песень, у тым ліку «Адзінокая», «Рай» і іншыя. Дзяніс Пацэвіч, саліст студыі Бельканта, што працуе пры Палацы, тады выканаў раманс «Жаночы пагляд». Раманс на верш Путырскага «Зорачкі» быў апошнім творам кампазітара У. Будніка. Выконваліся на тым незвычайным вечары і цудоўныя песні «Багіня», «Наташа», якія адрасаваліся Наталлі Пятроўне, вернай жонцы, урачу-гінеколагу, кандыдату медыцынскіх навук. Сам Леанід Аляксеевіч сярод іншых прачытаў верш «Будет жить»:

Как она пронзительно смотрела,
Пациентка в скромненькой одежде,
Бессловесно, горько и несмело
Взор молил о маленькой надежде.
— Доктор, мне ведь только двадцать восемь,
Только расцвела моя звезда,
Доктор, ну ответьте на вопросик —
Я ведь буду жить? Скажите, да?!
И такая боль меня пронзила...
Что ответить? Месяцы ей жить...
Правда в том. Да разве хватит силы,
Чтоб надежды правдою лишить!?!
Ну, а вдруг судьба её не бросит,
Разве нам судьбу узнать дано?!
И свою девическую осень,

Может быть, ей встретить суждено!?!
И развеял доктор силы мрака,
И ответил из последних сил:
— Вместе мы с тобой сильнее рака,
Разве б я без веры в то лечил?!!
Как она пронзительно смотрела,
Что смогла на миг заворожить...
Как она в тот миг похорошела...
Даже я поверил — будет жить!

Я ўбачыў, як маладыя дзяўчаты хусцінкай крадком змахвалі слязінкі...

Падумалася: значыць, такія вершы патрэбны, бо, як лічыць Путырскі, шчасце ў тым, каб не мець няшчасця. І нясе ён душэўную пяшчоту людзям, каб менш было жорсткасці. Дык чаму ж тады мы іншы раз шчасця не цэнім, а думаем пра яго, калі напаткае бяда? Калі, згубіўшы яго, плачам?

Трэба, каб людзі адкрывалі адзін аднаму сэрцы, не таілі крыўды, каб свет быў любоўю сагрэты! І гэтую любоў доктар выпраменьвае ў час напружанай работы з пацыентамі, думаючы аб прозе жыцця. Лечыць не толькі вострым скальпелем, але і цеплынёй свайго сэрца, шчырасцю паэтычных радкоў. А паэзія яго — яго акрыленасць, тое, што надае яму сілы. Сваё шчасце бачыць у тым, каб тыя, хто да яго, вядомага хірурга, звяртаецца, мелі менш няшчасця. Яго душэўная паэзія, замешаная на канкрэтных фактах, якія мелі месца ў ягонай хірургічнай практыцы, таксама лечыць! Бо і паэтычным радком ён умее выклікаць у жанчыны веру ў жыццё, нярэдка перавярнуць яго, а, магчыма, і падарыць... Сваёй лініяй паводзін, кожным крокам вучыць цаніць кожнае імгненне жыцця, яго непаўторнасць і прыгажосць. А тыя, каму ён дзякуючы вялікім намаганням, змог падарыць яшчэ некалькі гадоў жыцця, перапоўнены пачуццямі ўдзячнасці да Урача, Паэта і Чалавека. Нямала пісем адрасуюць свайму выратавальніку, хто даў сілы справіцца з хваробай.

Леанід Аляксеевіч працуе і бачыць тое, што не кожнаму дадзена. Ён неаднаразова ганараваны за распрацоўку новых метадаў лячэння рака малочнай залозы і новых інструментаў, актыўна займаецца педагагічнай і навуковай дзейнасцю з маладымі медыкамі. Ёсць аперацыйны дзень, калі праводзяцца планавыя аперацыі, а ёсць, як сам не раз прызнаваўся, дні нетыповыя, калі даводзіцца праводзіць і шэсць, і сем аперацый... Тут трэба сціснуць зубы і — наперад!

Ганарыцца, што нямала паслядоўнікаў выхаваў. Сярод іх — сын Юрый Леанідавіч, кандыдат медыцынскіх навук, які пайшоў бацькоўскай дарогай... Як тут не парадавацца! З’яўляючыся стваральнікам, ён і маладых стваральнай працы вучыць. Піша ў вершы «Разговор с сыном»:

— Помни, жизнь безделья не приемлет,
Встал, составил планы и дерзай.
Если утром смочишь потом землю,
Значит, будет добрый урожай.

А за вокнамі будынка, дзе кабінет Путырскага знаходзіцца, ад лёгкага подыху веснавога ветру шумяць-калышуцца бараўлянскія сосны. І яны ў пэўнай меры супакойваюць, узнімаюць настрой. Бывае: здарыцца хвілінка-другая для таго, каб сканцэнтравацца, супакоіцца, і ён выгляне з акна. На поўныя грудзі ўдыхне смалісты водар елак і соснаў, спыніць погляд на светлым мігценні беластволых бяроз-бялянак.

Мы ж заходзім у будынак, у якім працуе славуты хірург. Самі сабе адзначаем — цудоўныя ўмовы. А ўсё роўна трывога не пакідае, цепліцца. Сустрэўшы ж чалавека ў белым халаце, на імгненне губляемся, але ўпэўненасці надае тое, што нас гатовы прыняць і выслухаць Леанід Путырскі...

***Да 90-годдзя часопіса «Полымя»***

# ЗЫРКАЕ ПОЛЫМЯ ...«ПОЛЫМЯ»

*Сёлета часопісу «Полымя» спаўняецца 90 гадоў. Праўда, да самога юбілею яшчэ далекавата, бо першы нумар з'явіўся ў снежні 1922 года. Тым не менш ужо цяпер ёсць нагода коратка акінуць ягоны шлях. Менавіта коратка, бо калі асочваць яго падрабязна, то можна пісаць цэлую кнігу, таму што мастацкі летапіс «Полымя» — гэта, па сутнасці, усе найбольш значныя дасягненні беларускай літаратуры ў галіне прозы, паэзіі, драматургіі, літаратуразнаўства, перакладу.*

*Цягам гадоў неаднаразова мяняліся заснавальнікі і выдаўцы часопіса. Спачатку гэта было выданне Беларускага каапературыўнага выдавецкага таварыства «Савецкая Беларусь», потым — Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі, крыху пазней «Полымя» стала органам Арганізацыйнага камітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, затым органам праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, нарэшце, органам Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, якім часопіс з'яўляўся да вайны і ў першы пасляваенны год. У 1957 годзе «Полымя» стала органам Саюза пісьменнікаў БССР (знікла, як і ў назве самога творчага саюза, слова «савецкіх»). Сёння «Полымя», як вядома, — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс, заснавальнікам якога з'яўляюцца Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі» і Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва».*

*Увесь гэты час «Полымя» заставалася (дарэчы, у 1932—1941 гг. выходзіла пад назвай «Полымя рэвалюцыі») галоўным выданнем гэтага профілю ў рэспубліцы, а цяпер такім часопіс з'яўляецца і ў нашай краіне. Сімптаматычна тое, што неафіцыйна яго называюць акадэмічным. Хоць пасля таго, як «Полымя» ўключана ў спіс рэцэнзаваных Вышэйшай атэстацыйнай камісіяй выданняў па літаратуразнаўстве, на такую ролю часопіс можа прэтэндаваць ужо і афіцыйна.*

*Гісторыя «Полымя» — гэта не толькі гісторыя беларускай літаратуры, але адначасова і жыццяпіс творчых узаемасувязей Беларусі з іншымі краінамі. Гэта тычыцца не толькі перакладаў з розных літаратур, якіх асабліва шмат змяшчалася ў даваенны час. Цікавы, для прыкладу, такі факт: членам рэдкалегіі «Полымя» з'яўляўся нямецкі пісьменнік-антыфашыст І. Бехер. З «Полымем» цесна супрацоўнічалі чэшскія пісьменнікі У. Ванчура, І. Гора, Ю. Фучык. Дый такія дзяржаўныя дзеячы, як В. Кнорын, А. Чарвякоў, П. Панамарэнка лічылі за гонар выступіць на ягоных старонках.*

*Аўтарытэт часопіса заўсёды быў нязменна высокім, пачынаючы з першых гадоў ягонага існавання... Не, не існавання, праўдзівей дый правільней усё ж сказаць — жыцця, бо іначай і быць не магло, паколькі каля ягоных вытокаў стаялі класікі беларускай літаратуры Якуб Колас, Янка Купала і Цішка Гартны. Яны, а таксама Алесь Сянкевіч, Міхась Зарэцкі, Міхась Чарот і іншыя пісьменнікі прымалі ўдзел у рэдагаванні выдання і тады, калі яно толькі станавілася на ногі, і калі ўжо стала рэальным фактам не толькі літаратурнага, а і грамадскага жыцця.*

*«Полымя» ёсць «Полымя». Яно гэткае ж, як і ў паўсядзённасці. Полымя можа сагрэць, атуліць сваім цяплом. Але і можа апячы. Жыць жа ў грамадстве і быць незалежным ад грамадства, як вядома, немагчыма. І гэта тычыцца не*

Казімір КАМЕЙША

# МЫ ЖЫЛІ НА ВУЛІЦЫ СВЯРДЛОВА

Гэты здымак заўсёды перада мною, я ніколі яго не хаваю. Кожны раз ён вяртае мяне ў нашу далёкую маладосць. Шэсць несамотных хлопцаў са студэнцкага інтэрната на Свярдлова: Мікола Пацэнка, Рыгор Семашкевіч, Уладзімір Навумовіч, аўтар гэтых радкоў, Сяргей Судніковіч ды ён, Эдуард Зубрыцкі, трэці ў першым радзе. Мы сфатаграфаваліся ў лістападзе 1963-га, калі позвай з ваенкамата мяне паклікалі на вайсковую службу. Цяжка было пакідаць дарагіх сяброў ажно на тры гады. На свой курс я вярнуся, калі на ім ужо будуць вучыцца зусім іншыя, маладзейшыя, хлопцы, і мне стане між іх нязручна. Падаўся пераводзіцца на завочнае навучанне, а працаваць паехаў у Валожынскую райгазету. Гэтага журналісцкага хлеба балазе я ўжо паспрабаваў пасля школы.

А тады… А тады ўсё было як у лёгкім і бесклапотным сне. У сталіцу мы заявіліся зусім наіўнымі вясковымі дзецюкамі. У перашытых з бацькавых плеч касцюмчыках, з вельмі сціплай правізіяй у абшарпаных валізках. Яго я запомніў светлавалосым, падстрыжаным «пад вожыка», з заўсёднай усмешкай на вуснах. Мы, першакурснікі, зайздросцілі Эдуарду — ён, яшчэ будучы вучнем, надрукаваў у часопісе «Маладосць» свае вершы. Мы толькі-толькі падступаліся да рэспубліканскага друку, нясмела тапталіся каля рэдакцыйных дзвярэй, часам так і не адважыўшыся іх адчыніць. Эдуард Зубрыцкі меў добрыя стасункі з Алесем Ставерам, сваім земляком, часта сустракаўся з ім. Ставер нават катаў яго на сваім бывалым матаролеры. І мы часта жартавалі: «У літаратуру Эдзік уварваўся на матаролеры». За жарты ён не крыўдаваў. Ён наогул быў хлопцам некрыўдлівым… Запомніўся яго верш «Радзіма», эпіграфам да якога Эдуард узяў словы Кузьмы Чорнага: «Радзіма пачынаецца там, дзе прайшлі гады маленства»:

Мне ўсё дарага тут і знаёма.
Я па роднай іду зямлі.
На рачных сітняговых поймах
Заяц печы свае запаліў.
Туманамі дымяць лагчыны,
Вось, здаецца, успыхнуць агнём.
Там, дзе сосен цыбатых вяршыні
Золак сіні абняў крылом.
І якія шляхі ні схадзіў я,
Ўсё адно прывядуць сюды…
Пачынаецца там Радзіма,
Дзе маленства прайшлі гады.

Як бачыш сёння, у радках няма нічога асаблівага. Тады падобныя вершы агульнага плана пісалі ўсе і выдзеліць каго-небудзь з паэтычнага хору было цяжка. Не ведалі мы жыцця, яно толькі пачыналася для нас, слізгалі па драбнатэмнасці, перапявалі адзін аднаго, запазычвалі. У гэтых жа вершах, якія дужа падабаліся самому паэту, акрамя афарыстычнага выслоўя К. Чорнага мог кінуцца ў вочы хіба што «заяц, які печы свае запаліў». Дык заяц той, пэўна, збег ад У. Караткевіча. Памятаеце яго ранні верш пра зайца, які варыць піва? Але ў тым



*Аднакурснікі: верхні рад — М. Пацэнка, Р. Семашкевіч, У. Навумовіч; ніжні рад — К. Камейша, С. Суднїковіч, Э. Зубрыцкі.*

канцоўка якая хлёсткая была, ды яшчэ з падтэкстам. Тады найбольш увагі мы аддавалі мілагучнасці, а не сэнсу. Але раўняцца было на каго. Вунь як рванулі наперад і здзівілі В. Макарэвіч, А. Сербантовіч, М. Маляўка!.. Не адразу, аднак, мы зразумелі, што топчамся на месцы на ўзроўні пачаткоўцаў, а патрэбен больш смялейшы пошук ды і позірк таксама. Пра тое казалі нам і нашы аўтарытэтныя настаўнікі Анатоль Вялюгін і Мікола Аўрамчык. Пазней ужо мы будзем з гонарам жартаваць, перафразаваўшы рускага класіка: «Старик Велюгин нас заметил…»

Але мы былі студэнты, і жыццё змушала нас не толькі пісаць вершы, але яшчэ здаваць экзамены і залікі, карацей — вучыцца. У гэтым выбары — навука ці паэзія — перамагала заўсёды апошняя.

Пісаў ён шмат, а таму і сам губляўся ў напісаным. Яно вельмі непадатліва высноўвалася ў сваё ўласнае і адметнае. Падказаў бы тады хто нам, маладым, як найдакладней і найтрывалей ступіць на сваю сцяжыну! У такіх выпадках самы найлепшы падказчык заўсёды душа. У гэтым ён і сам потым пераканаецца.

Маладым заўсёды здаецца, што ў запасе яшчэ цэлая вечнасць. І мы лёгка трацім свой час на нейкія зусім марныя забавы і захапленні. Ці мала тых самых захапленняў было і ў нашы гады, пакуль не прыйшло разуменне, што час усё ж — рэч хуткая. Калі я кажу пра захапленне, то ні ў якім разе не маю на ўвазе паэзію. Яна тады ўжо для кожнага сталася патрэбай.

А ў пакоі нашым мірна суіснавалі тры паэты і адзін празаік. Астатнія два лічылі сябе крытыкамі. Уся літаратурная моладзь тады гуртавалася вакол «Чырвонай змены». Рэдактар газеты Міхаіл Андрэевіч Суша любіў шчырае паэтычнае слова, хоць і не заўсёды даверліва ставіўся да паэтаў — было, падводзілі. У «Чырвонцы» нас хораша падтрымлівалі Іван Калеснік і Уладзімір Паўлаў. Ах, як горача, як палемічна востра праходзілі нашы паседжанні літаб’яднання! Былі мы ўсе маладыя і бескампрамісныя. Не так даўно сустрэў паэта Кастуся Ільюшчыца, тады студэнта тэхналагічнага інстытута. Завялі гаворку пра сённяшнія справы, пра жыццё-быццё, і ён раптам згадаў:

— Ах, і дасталося ж мне ад цябе на той паэтычнай пятніцы ў «Чырвонцы!»

Я пачаў напружваць памяць — сапраўды, было такое. Яшчэ, бачыце, сам як след не навучыўся трымаць у руцэ паэтычнае стыло, а ўжо ва ўсю павучае іншых.

— Дык гэта ж калі было, — смяюся ў адказ, — сёння я зусім ціхі крытык…

Эдуард Зубрыцкі даволі часта выступаў у «Чырвонай змене», друкаваў на яе старонках, здаецца, і свае пераклады.

Сёння, з адлегласці гадоў, мне здаецца, што і сам наш інтэрнат на вуліцы Свярдлова меў добрую паэтычную аўру. І паэты, якія даўно закончылі ўніверсітэт, мелі ўжо свае ўтульныя кватэры і сем'і, часта вярталіся ў яго родныя сцены, каб хоць крыху намагніціцца маладосцю, а, можа, і пазычыць натхнення. Каго я тут толькі не сустракаў у якасці паважаных гасцей! Заходзілі і Вялюгін, і Барадулін, і Стральцоў, не кажучы ўжо пра сваіх — Ларчанку, Лойку, Навуменку…

Неяк гасцяваў у нас і зямляк Эдуарда Зубрыцкага Іван Стадольнік, які завітаў у Мінск з Полацка. Знаёмства, здаецца, было доўгім і вясёлым, бо госць прыехаў не толькі з докшыцкім салам, але і з чаркай. Здаецца, творы свае нам чытаць не адважыўся. Дзіва што, побач сядзела вунь колькі ваяўніча настроеных крытыкаў.

Сярод апошніх вершаў Зубрыцкага я нядаўна адшукаў і такія радкі:

Пішу. Ператрасаю. Перапісваю.
Знішчаю. Крэслю. Зноў пішу.
Я не даю радкам сваім амністыі,
Я і сабе амністый не прашу.

Тут мне ўсё зразумела. Паэт даўно адчуў сябе вязнем, асуджаным на самыя горшыя пакуты ў імя яе, Паэзіі. А зняволенне гэта заўсёды пажыццёвае.

Як памятаю, і там, на Свярдлова, ён заўсёды «Пісаў. Ператрэсваў. Перапісваў», а то і знішчаў. А тут неяк раптам Эдуард захапіўся прозай. Сярод аднакурснікаў празаікаў мы ведалі толькі двух — Васіля Гроднікава ды Уладзіміра Навумовіча. Ды вось яшчэ і нашага Эдуарда на тое пацягнула. І пачаў ён не з апавяданняў, а адразу з аповесцей. Дзе той у студэнта вольны час?! Пісаў у асноўным на лекцыях. На заняткі мы штодня хадзілі на Чырвонаармейскую, дзе размяшчаўся тады філфак. Пешшу штодня адольвалі добры кавалак гарадской плошчы, часта з перакурам у скверы стадыёна «Дынама», асабліва калі вярталіся назад. Жылі беднавата, і па дарозе думалі не пра рыфмы ды вобразы, а пра тое, як дзе і танней перакусіць. Ганарары нам толькі сніліся. На лекцыях ён пісаў свае аповесці. Канспекты, куды прасіліся яго творчыя задумы, не паспявалі прасыхаць ад чарніла. Сённяшніх шарыкавых самапісак, здаецца, тады яшчэ не было. Ён пісаў, потым крэсліў напісанае. Адна аповесць быццам удалася паэту. Ён часта расказваў пра яе ў нашым інтэрнацкім пакоі, але на чытацкі суд сяброў не аддаваў. Аповесць называлася «Суэма». Ён потым аднёс яе ў часопіс «Маладосць» Міхасю Стральцову, які загадваў у той час аддзелам прозы. Здаецца, твор гэты быў надрукаваны. Але душа ў нашага сябра была рамантычная, летуценная, яго цягнула па-ранейшаму да паэзіі.

Скончыўшы Белдзяржуніверсітэт, Зубрыцкі паспрабаваў і настаўніцкага хлеба. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Чашніках, а потым у Асвеі. А яшчэ пазней запрасілі на працу ў верхнядзвінскую раённую газету «Дзвінская праўда».

Тэма радзімы шырока гучала і ў пазнейшых вершах паэта, па сутнасці, ледзь не ў кожным з іх адчувальныя матывы роднага, дарэшты неспазнанага. Толькі ў іх, у адрозненне ад ранейшай летуценнасці, больш сталага роздуму, разважлівасці, а то і зразумелага ўзроставага смутку:

Такі сцюдзёны гэты дым!
Над цішай лесу пракаветнай,
Клубіўся ён парой дасветнай.
І я вяду размову з ім.
Такі сцюдзёны гэты дым!

Гарэлі познія лясы,
Жыцця цішэлі галасы.
І доўга дым не ападаў,
Пакуль сівым я ўвесь не стаў…

Там, на Свярдлова, мы звыкліся бачыць сябе маладымі, у добрым разбегу дум і вёсен. А вось «сівога» яго пабачыў, калі мы сустрэліся праз многа гадоў у Мінску. Я працаваў тады ў часопісе «Маладосць», куды ён аднойчы і завітаў з Верхнядзвінска. Перад гэтым быў я ў камандзіроўцы ў ягоным горадку і нават дакараў сябе: «Як гэта мы там ды не сустрэліся?» Той, чый ложак стаяў упрытык да майго ў цесным інтэрнацкім пакоі, збег гэтак далёка ад мяне, ды не так, аказваецца, далёка ад сваіх родных мясцін.

У рэдакцыйным пакоі мы доўга згадвалі нашы студэнцкія прыгоды. А іх, дзякаваць богу, хапала. Гэта з яго вуснаў, здаецца, паляцела скорагаворка: «Я йшоў к Камейшу, Камейша ка мне йшоў». Згадалі і дыялектычную экспедыцыю летам 1963 года пад Маладзечна. Змарнелі б там, у глухаватай лясной вёсачцы, калі б не староста групы Хведар Чэрня, які праз тыдзень заявіўся з летняй стыпендыяй для кожнага. Хітры кіраўнік экспедыцыі Міхей падзяліў нас на дзве групы — дзяўчат і хлопцаў, а рассяліў кожную за добрых дзесятак кіламетраў. Але гэта не спужала нас, вясёлых, са стыпендыяй у кішэні, і мы лёгка адшукалі дарогу да сваіх сімпатычных аднакурсніц, дзе і прагудзелі аж да самай раніцы. Ах, якая гэта была цудоўная летняя ноч! І паміраць будзеш — яе не забудзеш. Збеглі мы з той экспедыцыі раней, чым з’явіўся сам кіраўнік. Вядома ж, задання свайго не выканалі. А дыялектныя словы спісвалі са сваіх мясцін. Ці надта ўжо, думаў я, адрозніваюцца яны, маладзечанскія, ад маіх, івянецкіх?!.. У рэдакцыі «Маладосці» мы прагаманілі доўга, узялі, вядома ж, па добрай чарцы. Яго вершы друкаваліся ў часопісе часта, а мяне ўсё цікавіла, як жыве ён там, у глыбінцы. У адным з апошніх вершаў быццам прагучаў і адказ на маё тое пытанне:

А я адсюль нікуды не паеду,
Хіба што ў свой апошні шлях.
Усе мае тут радасці і беды,
Пяшчота ў сэрцы, слёзы на вачах.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І будзе крона воблачкам зялёным
Працягам дум начных маіх і сноў,
Што я ў жыцці нібы той птах залётны,
Які ніяк не вернецца дамоў.

Сумна прачыталіся гэтыя радкі. Я адчуў у іх нешта яшчэ большае, пазначанае бядой ды стратамі. Потым з яго ж вершаў даведаўся, што ён страціў блізкага сэрцу чалавека — жонку («Цябе няма за стомленым парогам, // Няма цябе, даўно няма»…) Мабыць жа, не проста з адчаю напісаліся радкі:

Мне людское гора не чужое —
Я свайго нямала перанёс.

Паэма чалавечага болю ўсё выразней гучыць у радках паэта, нават калі ён піша пра дарагія і родныя малюнкі, пра якія некалі спявалася светла і ўзнёсла. А ў вобразах амаль няма зямной жыццёвай канкрэтыкі, яны няўлоўныя, мройлівыя. Былыя светлыя малюнкі пачынаюць набываць больш змрочныя адценні:

Пад нагою зыбіць і хістаецца сцежка,
У адчаі рачулка хінецца да стомленых ног.
Адкажыце мне, людзі,
Куды імкне вечная спешка
Па-над безданню сённяшніх бед і трывог?!

У маладосці ён любіў добры жарт, з гумарам заўсёды распавядаў пра нейкія свае, відаць жа, прыдуманыя ім прыгоды, у памяці меў добры запас анекдотаў, нават тых, якія можна было расказваць толькі на кухні. Рассмяшыць сяброў можна было і так. Ты выразаеш зусім невыпадковыя загалоўкі з газет, а потым іх слупком, як верш, наклейваеш на дзвярах прыбіральні, і ў выніку з'яўляецца такога жартоўнага кшталту тэкст, што рагоча ўвесь паверх інтэрната. Паспрабаваў я нядаўна дзеля смеху вытварыць тое самае з загалоўкаў ужо сённяшніх газет. Яшчэ як смешна атрымалася! Пашанцавала нам з Эдуардам на другім курсе навучання трапіць на нараду маладых гумарыстаў у Каралішчавічы, якую ладзіў тады часопіс «Вожык».

Асабіста я нейкім сатырыкам ці гумарыстам на той нарадзе не пачуваўся. Кожны дзень — а адбывалася ўсё на працягу тыдня — маладым поціскам рукі мы віталіся з класікам і нават не адчувалі ніякай збянтэжанасці. Было шмат і нечаканага. Чамусьці найвялікшы сатырык і гумарыст Кандрат Крапіва паўстаў перада мною вельмі хмурым і сумным чалавекам. Не дзіва, што з той нарады я вярнуўся перакананым лірыкам.

Усё гэта шчасліва прыгадвалася мне, калі я працаваў у «Вожыку», куды аднойчы і пазваніў Зубрыцкі. Я пазнаў адразу знаёмы голас, павіншаваў яго з вершамі, што нядаўна друкаваліся на старонках нашага часопіса. Ён часта званіў Уладзіміру Саламаху, просячы ў яго нейкай парады. Пастаянна дасылаў у рэдакцыю і прыпеўкі, што запісваў дзесьці на Віцебшчыне. Я нават пажартаваў: «Вяртаеш доўг нядаўняй дыялектычнай экспедыцыі на Маладзечаншчыне?» Не, чаму ж, пацяшаліся мы, вунь якую ўдалую чатырохрадкоўку запісалі ад бабулі, у якой кватаравалі:

А ў горадзе авёс родзе —
Ядраныя каласы.
Люблю тога кавалера,
Што угору валасы.

Гэта была апошняя наша гаворка з ім. Там жа, у «Вожыку», я аднойчы даведаўся, што Эдуарда не стала. У часе нашай апошняй сустрэчы ён прызнаваўся, што цяжка хварэе, дайшло нават да хірургічнага скальпеля. Але асаблівага смутку ў голасе не адчувалася. А, можа, проста не жадалася выходзіць з настрою тых прыгаданых маладых гадоў.

У яго творчым набытку вершаваныя зборнікі «Блакітныя казкі», «Рабінавыя астравы», «Мне б хоць кропельку неба».

Матыў апавядальнасці, што ўсё больш шчымліва і падкрэслена адчуваецца ў апошніх вершах паэта, кладзе свой адбітак і на ранейшыя яго творы, якія ўвайшлі ў вышэй названыя кнігі. Нам цікава параўнаць, узважыць той, ранейшы, позірк на рэчы з сённяшнім, больш узважаным. Вобразы роднай зямлі, замілавана апетыя калісьці ім, сёння кладуцца на вагах served перажытага, многа разоў перадуманага. Ужо і сам маладзік над роднай хатай паўстае зусім іншай, чым некалі, жыццёвай выявай:

Цок ды цок ялінцавы кіёк —
Колькі яшчэ разам ім прайсці?
Бачыш, узышоў маладзічок —
Коска ў недасказаным жыцці.

Вобраз бабулі з кійком і маладзічка, які паэту нагадвае коску ў жыццёвым радку — гэта вынік не толькі назіральнасці, уяўленняў, але і сведчанне глыбокага роздуму над перажытым, уласнага заглыблення ў яго сэнс і сутнасць. Цяпер, у свае найсталыя гады, паэту карціць «паспець сваю засеяць ніву // Паспавядацца

хлебу на стале». Гэтая зразумелая спавядальнасць суправаджае яго з верша ў верш і патрабуе ад паэта ачышчальнай слязы.

У маладосці чалавек заўсёды прагне паспець за сваімі жаданнямі і памкненнямі. У старасці ён найчасцей жыве прадчуваннямі. «Жыву прадчуваннем зімы, // Халодны і змрочны, як восень», — прызнаецца ў адным з вершаў. Сёння, відавочна, мы можам гаварыць і аб спраўджанні гэтага «прадчування». У апошніх сваіх творах паэт засяроджваецца на шматлікіх пытаннях, якія задае яму само жыццё. Адзін з вершаў так і называецца — «Пытанні». Самае дзіўнае, што і адказу на гэтыя пытанні не патрабуецца, бо ён ёсць у тых жа вершах. Адказ адзін: тое, што адыходзіць, пакідае нітку свайго працягу. І выснова — даўняя і мудрая — жыць трэба на зямлі «і годна, і прыветна».

Нядаўна ішоў да вакзала і збочыў на вуліцу Свярдлова, прыпыніўся ля знаёмага мне шэрага дома, абвёў позіркам яго вокны. Вунь з таго, сярэдняга, на другім паверсе, з усмешкай глядзелі мы на нашы маладыя вёсны. А недзе за сцяной грымелі і спявалі сіпатымі галасамі цягнікі. І само жыццё здавалася бясконцым цягніком, у адным выгоне якога трасешся і ты, зялёны, пад колер тых вагонаў, пушчанец. І здавалася, ніякі чорт, ніякая старасць не дагоніць тыя колы маладосці. Аж не, дагнала. І ўжо просіць паціху пакідаць свае вагоны.

Наш студэнцкі пакой быў таксама падобны на вагон, у якім шчасліва трэсліся шасцёра маладых і вясёлых пасажыраў. Траіх ужо няма. Сышлі — кожны на сваім прыпынку. Сышоў і ён, Эдуард Зубрыцкі, мой сябра па вясне і аднакурснік. Ён нарадзіўся вясной 1942 года, калі ў родным бягомльскім краі грымела суровая вайна, пра якую шмат пісалі яго старэйшыя землякі і сябры Юрась Свірка і Алесь Ставер. А ён вайну памятаў хіба што памяццю сваіх бацькоў ды аднавяскоўцаў. Таму і пісаў пра зямлю мірную, на хараство багатую, дрымотна-лясную, бо і прозвішча адпаведна меў пушчанскае — Зубрыцкі. Ён спяваў пра сваіх людзей, пра іх дабрыню і спяваў сваім, уласцівым толькі яму, голасам.



**Наталля МІЦКЕВІЧ**

# ДОЎГАЯ ДАРОГА*

*(ад дома Янкі Маўра*
*да дома Якуба Коласа)*

У адным з сеансаў атрымалі ад «духа» Севяраніна — вельмі моднага ў той час паэта, верш. З ім Янка Маўр пайшоў да сваіх паплечнікаў папытацца — каму можа належыць гэты твор? І яны вызначылі — Севяраніну! Як жа могуць атрымлівацца такія цуды? Бацька вырашыў праэкзаменаваць «духаў», задаючы ім правакацыйныя пытанні, у першую чаргу звязаныя з датамі падзей, абставінамі. І «духі» пачалі блытацца, даваць няправільныя адказы. А ўсіх іх набралася на два тоўстыя агульныя сшыткі. У змрочным 1938 годзе, баючыся магчымага кампрамату, іх давялося спаліць. З праведзеных сеансаў бацька прыйшоў да высновы, што адказы «духаў» засноўваюцца на тых ведах, якімі валодаюць тыя, хто іх праводзіць. Але якім чынам адбываецца трансфармацыя і якія сілы прымушаюць круціць сподак? Магчыма, энергетыка медыума. Напэўна, Янка Маўр быў магутным медыумам, такімі ж здольнасцямі валодала Жэня Пфляўмбаўм. Так аднойчы, калі яна зайшла да майго бацькі, ён прапанаваў ёй далучыцца да сеанса. Як толькі яна дакранулася да сподка, той крутануўся так, што Жэня спалохалася і адарвала руку ад яго. Бацька прапанаваў Міхасю паўдзельнічаць у сеансе, але ён адмовіўся. У яго хапала сваіх хобі больш, чым трэба. Найперш, быў заядлым паляўнічым, іншы раз прыносіў шмат дзічыны: качак, цецерукоў, зайцоў. Так што мне даводзілася скубці, гатаваць, часам на дзічыну запрашалі сяброў. Я навучылася гатаваць зайцоў па-французску, па-польску і г. д. Восенню і зімою на балконе віселі 2-3 зайцы, каб мяса выспела. Але куды больш часу ў Міхася адрывала стэндавая стральба. У дні спаборніцтваў насіла яму «перадачы». Канешне, відовішча, калі пасля трапнага выстралу разлятаецца талерачка, захапляючае. Але ж вельмі шмат часу забіралі розныя спаборніцтвы. Я пастаянна адчувала недахоп яго ўвагі да мяне, да дзяцей. Ніякія вынікі, прызы не кампенсавалі гэтага. Другім яго захапленнем было фатаграфаванне. Большасць ілюстрацый да маіх успамінаў — гэта яго здымкі. Тысячы картак дзяцей, прыроды запоўнілі дзясяткі альбомаў і канвертаў. І не толькі фатаграфіі, але і слайды і стэрэаслайды знаходзяцца ў шуфлядах сталоў. Ну, а калі дадаць такія захапленні, як збіранне грыбоў, якое прывіў яго бацька, заядлы грыбнік, ды яшчэ рыбалку, то што заставалася на дом? Усе хатнія рамонты, перабудовы арганізоўвала я. А колькі давялося папракаць яго, што не рыхтуе дысертацыйнай работы. Мне было сорамна, што ў мяне, кандыдата навук, муж акрамя спорту нічым не вызначаўся. Але з яго як з гуся вада, пасмяецца, пажартуе — і ўсё. Сваімі жарцікамі ён мяне, маладую жанчыну, даводзіў да слёз і, калі бачыў, што магу расплакацца, тыя ж самыя словы перакручваў так, што я не магла не смяяцца. Як у яго гэта атрымлівалася, не магла зразумець. У сваіх жартах, выкрунтасах ён быў падобны да майго бацькі куды больш, чым да свайго. І калі я расказвала аб яго жарціках свайму бацьку, той смяяўся і гаварыў, што ў аналагічнай сітуацыі зрабіў бы гэтаксама.

Аднойчы летам Міхась прынёс невялікі падарунак з віншаваннем з Новым годам. Які Новы год? На дварэ лета! А ён кажа: з кожнага дня пачынаецца новы

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 3, 4, 5, 7, 8, 2011 г., № 1, 3 2012 г.

год, палічаць так людзі і ўсе будуць святкаваць гэты дзень, а сёння — адзначым мы з табой. Ён быў, як і яго бацька пеўнікам, а я, як і мой бацька, савой. І ён часта ўзнімаў мяне з ложка рана — трэба падымацца! І так ён тэрарызаваў мяне пакуль не вычытаў у часопісе, што ў розных людзей свой алгарытм жыцця. Я любіла сядзець дапазна, мне добра працавалася ўначы, а ён страшэнна не любіў заседжвацца ў гасцях, як і дома. Неяк неўзабаве пасля нашага шлюбу я пайшла з ім да сястры і там засядзелася, хоць ён мяне падганяў скончыць размовы. Калі сталі спускацца з восьмага паверха — ліфт не працаваў — забрахаў нейкі сабака. І тут Міхась адазваўся сваім моцным брэхам, на што адгукнуліся сабакі з некалькіх кватэр. Падняўся страшэнны шум. Я стала мужа прыструньваць, — не будзі людзей, час позні. А ён кажа: ты ж з сястрой цэлы вечар прагаварыла, а мне не дазваляеш пару хвілін перакінуцца словам з братамі меншымі.

Ён мог пазваніць па тэлефоне як мне, так і сябрам, і нават роднаму бацьку і чужым голасам, або з ярка выражаным акцэнтам што-небудзь запытаць. Аднойчы, ужо з год мы жылі разам, прыехаў у Маскву Канстанцін Міхайлавіч і, як заўсёды, спыніўся ў гатэлі «Масква». Міхась патэлефанаваў яму і жаночым голасам запытаў: «Это Константин Михайлович?» І тут жа пачуў: «Это Нина Александровна?» Мелася на ўвазе журналістка, якой Якуб Колас даваў парады ў майстэрстве пісьменніцкай работы. А ў адказ прагучала: «Якая табе Ніна Аляксандраўна, гэта я, Міхась».

Канешне, жартаваць з бацькі сорамна, бацька не раўня сыну. Але здараліся і іншыя смяшлівыя выпадкі. Так, аднойчы, калі мы ўжо з год пражылі ў Мінску ў драўлянай хаце, Канстанцін Міхайлавіч купіў чацвярцінку і збіраўся асушыць яе да вячэры. Увайшоў Міхась і адабраў бутэльку. Увечары, яшчэ да вячэры! Канстанцін Міхайлавіч, напэўна, спалохаўся, што не атрымае тых двухсот грам і стаў настойваць, каб вярнуў канфіскат. Міхась не пагаджаўся, але прыйшлі да «кансэнсуса». Колас даў слова, што дачакаецца вячэры, калі сын пакіне чацвярцінку ў буфеце. Як толькі Канстанцін Міхайлавіч выйшаў, Міхась замяніў бутэльку на такую самую, толькі з вадою. Праз некаторы час Канстанцін Міхайлавіч зайшоў у гэты пакой — праз калідорчык было чуваць. Праз пару хвілін туды ж зайшоў Міхась. Бацька збіраўся выйсці з пакоя, а на яго твары была такая хітравата-вінаватая ўсмешка, што ўсё стала зразумелым. На вячэру Міхась прынёс «канфіскат». Сам ён гарэлку амаль не ўжываў — у яго было цяжкае пахмелле і гэта стрымлівала. Але галоўнай прычынай была неабходнасць трымаць сябе ў форме з-за бясконцых спаборніцтваў і трэніровак.

Быў выпадак, калі ў нас сабралася на Першае мая кампанія, а Міхась нічога спіртнога не браў, бо назаўтра трэба было прымаць удзел у спаборніцтвах. Оська Энцін стаў падначваць — во, заўтра Міхась хоча стаць чэмпіёнам — і гэтак далей. Міхась не стрымаўся і сказаў: давай вып’ем з табой аднолькава і аднолькавую якасць напоя. Згодзен? Даеш слова? Оська пагадзіўся. Міхась наліў дзве поўныя шклянкі гарэлкі і прапанаваў выпіць. Оська струхнуў, але слова стрымаў. Выпілі, і Оська адразу выскачыў на двор.

Шмат пазней, калі адзначалі 50-годдзе Міхася, ён падрыхтаваў сюрпрыз. На бутэлькі з напоямі наклеіў здымкі ўдзельнікаў вечарыны і прыдумаў жартоўныя назвы напоям. Калі хто-небудзь выступаў з тостам, яму ўручалі бутэльку з адпаведнаю назваю. Усе рагаталі і дружна рэагавалі на тосты, толькі Даніку — па яго рэакцыі — не спадабалася «Калыханка», дзе ён быў сфатаграфаваны ў гамаку ў стане глыбокага сну.

Свае прыдумкі Міхась ажыццяўляў не толькі дома, але і на рабоце. Так, неяк перад Восьмым сакавіка ў інстытуце вырашылі правесці КВЗ: каманда супрацоўнікаў супраць каманды супрацоўніц. Канешне, у каманду ўвайшоў і Міхась. Ён прапанаваў пераапрануцца ў жаночую адзежу і выступіць у такім выглядзе. Смеху было шмат, але дзвюх «жанчын», у тым ліку Міхася, не мог вызначыць член журы К. Гораў, які добра ведаў яго. Аб гэтым жарце я расказала свайму бацьку,



*Якуб Колас з нявесткай Наталляй. 1955 г.*

ён засмяяўся і ўзгадаў, што ў сваёй маладосці таксама пераапранаўся ў жаночую адзежу, дык падгуляўшыя мужчыны нават ні пра што не здагадваючыся, заляцаліся да яго.

Пакуль бацька адпачываў на дачы, прайшло больш як месяц, і я з ім не сустракалася. Калі ён вярнуўся ў Мінск, адразу ж наведала яго і жахнулася: за месяц Антаніна Мікалаеўна схуднела больш чым на 10 кіло, асунулася, пастарэла, у яе з'явіліся болі пад лыжачкай. Калі паклалі ў бальніцу, выявілі рак. Адпраўляючыся ў бальніцу, забрала з сабою бацькавы ашчадныя кніжкі. А старому надакучыла кожны месяц запаўняць квіткі ў сабес аб тым, што яшчэ жывы. І ён у пенсійнай кніжцы на некалькіх лістах напісаў нешта накшталт таго, што стары і хворы, але яшчэ жывы. У ашчаднай касе палічылі пенсійную кніжку сапсаванай і перасталі выплачваць пенсію. І бацька застаўся без грошай на самае неабходнае. Міхась прапанаваў пазычыць. Але той адмовіўся і папрасіў Міронава забраць у Антаніны Мікалаеўны сваю ашчадную кніжку. Міронаў справіўся з гэтым даручэннем. А праз месяц яна памерла. Я забрала бацьку да сябе, пасяліла ў вялікім пакоі, які меў выхад на балкон, вакол раслі дрэвы і было шмат сонца. Я ўгаворвала яго застацца ў мяне. Але ён хацеў жыць толькі ў сваёй кватэры, да якой прывык і дзе яму ўсё было добра знаёма. Дый і Шура з Арсенем былі супраць таго, каб бацька заставаўся ў мяне.

Зноў узнікла праблема, дзе знайсці жанчыну, якая б пагадзілася даглядаць старога чалавека. Яму ж было ўжо за 85. І, вядома, пажадана, каб не мела ілюзіі выйсці за яго замуж. У маёй сяброўкі Ліды Кісялёвай, якая працавала ў туберкулёзнай бальніцы, была на прыкмеце такая жанчына: пенсіянерка, якая перажыла двух мужоў, бяздзетная, пражывала ў маленькай уласнай кватэры, а працавала прыбіральшчыцай у бальніцы. Яна прыехала да бацькі, пазнаёмілася з ім і з умовамі, у якіх давядзецца жыць, і засталася задаволенай. Звалі яе Зінаіда Міхайлаўна, стараватая і непрыгожая — даўганосая, з маленькай галавой на пакатых і вузкіх плячах, з велізарным шырокім тазам. Калі Фёдар пабачыў яе, то вельмі абрадаваўся — такая не стане заводзіць раман і патрабаваць жаніцца на ёй, тым больш, што бацька навучаны жыццём, адразу папярэдзіў яе: ні аб якойсьці жаніцьбе не можа быць і гаворкі. Яна прамаўчала, а што падумала, хто яе ведае. Гатаваць страву не ўмела, бо харчавалася ў бальніцы. Каша ў яе прыгарала, суп нярэдка перасольвала і г. д. Але бацька не быў патрабавальны да разнасолаў, яго задавальняла простая страва, а з часам яна навучылася гатаваць на ягоны густ.

Арсень і Шура не саромеліся яе, і калі я заходзіла наведаць бацьку ў часе іх прыезду, амаль кожны раз устройвалі мне скандалы. Маўляў, я кепская дачка, думаю толькі пра сябе, слаба клапачуся пра бацьку. Яны не ведалі, што ў мяне з ім надзвычай даверлівыя адносіны. Калі бацьку што-небудзь патрабавалася, ён тэлефанаваў мне, і я выконвала яго просьбы без лішніх слоў.

Можна было падумаць, што калі Арсень і Шура прыязджалі, то значна паляпшалі ягонае жыццё. Бацька ж жыў ціха і спакойна, і ў іх клопатах не меў патрэбы. Ён балюча перажываў сямейныя сваркі і аднойчы, калі Арсеня і Шуры не было

ў Мінску, сказаў амаль даслоўна наступнае: «Я хворы і стары і нічога не магу зрабіць з іх звярынай нянавісцю да цябе. Таму дзеля майго спакою, не прыходзь да мяне ў іх прысутнасці».

Час ад часу, калі раздаваўся тэлефонны званок і я здымала трубку, ён вымаўляў толькі два словы: «Ён (яна) прыехаў (прыехала)» і вешаў яе. Праз некаторы час я чула толькі адно слова: «Адбой». Ведала, што цяпер магу прыходзіць да яго. За якія грахі яны, можна сказаць, з нянавісцю адносіліся да мяне? І я, і Міхась ставіліся да іх як да блізкіх людзей, ніколі не выказвалі знявагі. Напэўна, прычынаю была зайздрасць да мяне, да больш удачлівай у жыцці, чым яны. Але «ўдачлівым» быў і Фёдар, а за яго трымаліся абедзвюма рукамі. Іх негатыўныя адносіны да мяне ўзніклі яшчэ ў дзяцінстве. Бацька ўдзяляў мне больш увагі, бо я была меншай. Я вучылася выдатна, а Шура, і Арсень перабіваліся з двойкі на тройку. Прымаючы экзамен па фізіцы ў Арсеня, Фёдар быў вымушаны паставіць двойку. Арсень больш займаўся ігрой на трубе, спортам і г. д., але не вучобай. У сям'і ўзнік скандал. Без належных ведаў Фёдар не хацеў прымаць экзамен паўторна. Давялося бацьку ўпрошваць яго прыняць экзамен. У тыя часы ніхто з іншых выкладчыкаў прымаць экзамены па тым курсе не мог. Так-сяк Арсень атрымаў траяк, а пасля хадзіў і выхваляўся, што адказы спісаў.

У час вучобы Шуры бацька рэгулярна высылаў ёй грошы для падтрымкі. Арсень жа жыў на ўсім гатовым з бацькамі. Калі ж я вучылася ў інстытуце, мне ніхто не дапамог. Бацька быў цяжкахворы, ляжаў у бальніцы. Толькі тады, калі крыху паправіўся, пераехаў у гатэль «Якар», я заходзіла да бацькоў, дзе маці магла пакарміць мяне. Пазней, калі выйшла замуж, абараніла дысертацыю, разам з жонкай мужавага брата, гаспадарылі ў хаце Якуба Коласа, прымалі знакамітых гасцей, можно было пазайздросціць, але ж не ўзненавідзець.

Бацькоўская высновa аб «звярынай нянавісці» перавярнула душу і братэрскія пачуцці да сястры. Я ж дачку яе Машку-Бэшку часта брала з сабой у вандроўкі і ў нас дома яна часта бывала, калі Шура прывозіла яе ў Мінск, да бацькоў. І Шура, і Арсень былі страшэнна незадаволены тым, што я прапісала ў бацькоўскай кватэры старэйшага сына Сяргея. Бацька нічога супраць не меў, Сяргей наведваў дзеда не так часта, але ж бацька цікавіўся яго справамі, распытваў, як жывецца моладзі, а ўнук ахвотна расказваў яму.

Аднойчы, як успамінаў мой зяць Валерый Федчанка — былы мой студэнт і самы прыгожы, сімпатычны хлопец на патоку, — яны з Сярожам зайшлі да дзеда, хлопцам хацелася выпіць, а грошай не было. Валера саромеўся, стаяў у калідорчыку, а Сяргей распытваў дзеда аб здароўі, а пасля папрасіў пазычыць пяць рублёў. Дзед, як заўсёды, ляжаў на ложку, напэўна, уставаць не хацелася, і ён сказаў: «Вазьмі ў шуфлядцы стала». Але схамянуўся, відаць, падумаў, што ўнук можа ўзяць лішку і паспешліва сказаў: «Не, пачакай, я сам дам!» Хлопцы былі вельмі задаволены вынікам візіту — бутэлька каньяку каштавала чатыры рублі дванаццаць капеек. Праз Сярожу Валера пазнаёміўся з маёй дачкой. Яны пабраліся, не так даўно адзначалі сярэбраную дату. Зяць аказаўся надзвычай чэсным, працавітым, жыве разам з намі ў адным доме. І за ўсе гады я ні разу не мела нагоды пасварыцца. Калі ж у іх узнікалі непаразуменні, я часцей за ўсё прымала ягоны бок.

Тое, што Сяргей можа пасля смерці дзеда атрымаць яго кватэру, выклікала абурэнне як у Шуры, так і ў Арсеня. Але Фёдар досыць жорстка наказаў Арсеню, каб не ўмешваўся не ў сваю справу. А Шура напісала ліст у Саюз пісьменнікаў, каб абаранілі Янку Маўра ад замаху чужых людзей. Пад лістом стаяў подпіс Арсеня, але па почырку бацька ўбачыў сапраўднага аўтара. На бацькаву кватэру ніхто з іх не мог прэтэндаваць, бо мелі жыллё ў Маскве і не збіраліся вяртацца ў Мінск. Напэўна, бурлілі «клопаты» аб бацьку, але ж яны выглядалі паказушнымі. Нарэшце ліст ад Шуры атрымала і я. Колькі на мяне было выліта бруду! Абсалютна беспадстаўныя абвінавачванні ў сквапнасці, у самалюбстве і г. д.

Праўда, быў у нас выпадак, калі я адмовілася дапамагаць яе сястры па маці ад першага шлюбу. Яе ніколі не бачыла і ніякай раднёй яна мне не даводзілася. Я сказала Шуры, што гэта ваша радня, вы і дапамагайце, прычым тут я. Мне стала так горка і балюча ад таго ліста, што я не стрымалася і расплакалася. Я хацела парваць яго, але Міхась адабраў і ўзнёслым голасам сказаў: «Гэта дакумент! Я яго буду паказваць унукам, каб ведалі, як ты можаш прыкідвацца і якая ты на самай справе. Нават я не ведаў!»

Я зразумела, што гэта чарговы жарт, але мне не стала лягчэй. У свой апошні прыезд Шура патэлефанавала мне і папрасіла дазволу зайсці да мяне. Я крыху здзівілася, але запрасіла яе на гарбату. Яна сказала, што прыйшла прасіць прабачэння за свае адносіны да мяне. Я ледзь не расплакалася, аднак стрымалася і сказала, што не трэба варушыць мінулае. І тут яна ўпершыню пацалавала мяне. Больш я з ёй не бачылася.

Што тычыцца адносін да мяне старэйшага брата, то пісала ўжо аб гэтым: пяшчота да мяне ў маленстве і сяброўства ў сталым узросце, яго ўдзел у нашай кампаніі. Праўда, адбываліся часам непаразуменні. Нам з Міхасём давялося двойчы ратаваць Фёдара ад бацькі. Калі бацька страціў зрок, мы кожны тыдзень наведвалі яго. Міхась дзяліўся сваімі праблемамі і чытаў яму самыя цікавыя публікацыі з газеты «За рубежом», а таксама найбольш трапныя матэрыялы з «Крокодила». Бацька з цікавасцю слухаў, і ў сваю чаргу дзяліўся сваімі перажываннямі. Так мы даведаліся, што ў яго з Фёдарам былі гарачыя спрэчкі, і сын не саступіў. Гэта выклікала страшэнную крыўду і непрыязь да яго да такой ступені, што ён не хацеў сына больш бачыць. Фёдар напамінаў яму свайго дзеда «попіка Фёдара», такога ж зацятага і скваплнага.

Даводзілася пераконваць бацьку, што сын — вучоны, ва ўсіх пытаннях навукі непахісны і заядлы, і гэтыя рысы тычацца жыццёвых абставін. Так, характар у яго цяжкі, але ж ён сапраўдны вучоны! Гэта патрэбна ўлічваць і дараваць яго ўпартасць.

Арсень жа ніколі не спрачаўся з бацькам і, калі даводзілася прабіраць яго, ён рабіўся такім безабаронным, што было шкада яго. Аднойчы бацька некуды выходзіў, а калі вярнуўся, то заўважыў, што яго кніга з бурштыну разбіта, а ў шуфлядзе ўсё перавернута. Ён патэлефанаваў мне, каб зайшла. У пакоі ўжо былі Фёдар і Арсень. Бацька з горыччу растлумачыў, чаму нас выклікаў. Нехта зрабіў «рэвізію» ў яго стале. Пабіта бурштынавая кніга — падарунак пагранічнікаў. Чыя гэта работа? Добра, што ні ў мяне, ні ў Сярожы не было ключа ад кватэры.

Я аб гэтым сказала. Фёдару, вядома не было ніякай патрэбы ў адсутнасці бацькі перайтрасаць яго шуфляды. Ён, напэўна, падумаў, што работа «брацікa», але выказаў здагадку, што гэта магла зрабіць Шурына дачка Маша, хоць тая ж была вельмі спакойнай дзяўчынкай, многія гады лятавала ў дзеда і западозрыць яе было немагчыма.

Відаць, бацька зразумеў, хто вінаваты, але змаўчаў. Хутчэй за ўсё Арсень шукаў ашчадную кніжку, якой не было, таму што бацька перавёў грошы на Міхася. І калі яму патрэбны былі грошы, ён тэлефанаваў яму. Арсень даведаўся, што грошы ў Міхася і, відаць, вельмі знерваваўся. Гэта пытанне ён перажываў разам з Шураю, бо праз некалькі год, калі ў Мінск прыехалі малодшыя дочкі Шуры — Оля і Таня — яны распытвалі ў мяне, што за гісторыя з дзедавымі грашыма. Магчыма, Арсень падняў бучу з-за таго, што бацька папрасіў Міхася зняць увесь астатак і перадаць Фёдару, што і было зроблена. Пасля зацікаўленасці маіх пляменніц гісторыяй з ашчаднай кніжкай, мне стала зразумелай матывацыя абразлівага Шурынага ліста. Яна была ўпэўнена, што бацькавы грошы дастануцца мне.

Да бацькі прыязджалі яго родныя, да Міхася — яго. Так, улетку 1971 года ён запрасіў сваю стрыечную сястру Ніну прыехаць на адпачынак. Яна з мужам і сынамі жыла і працавала ў Жукоўскім, Міхась жа часта гасцяваў у іх, будучы ў камандзіроўках. Муж Ніны, палкоўнік, служыў у Маскве. Пасля заканчэння Бау-



*Наталля Іванаўна з унучкай Васілінай.*

манскага інстытута яго прызвалі ў армію і ён застаўся там па сваёй прафесіі. На працягу многіх гадоў працаваў у Саратаве на абаронным заводзе, дзе пасябраваў з галоўным інжынерам Бальмантам, пляменнікам слыннага паэта. З Нінай я была знаёма даўно, яшчэ ў далёкім сорак шостым мы разам ляцелі ў Мінск А яна ў даваенныя гады гасцявала ў сваёй цёткі Марыі Дзмітраўны ў Вусці. З якой цеплынёй пачуцця і павагаю Ніна ўспамінала маці Міхася. А яе бацька, таксама Міхаіл, быў для яго эталонам адносін да людзей, аб чым ён мне неаднаразова расказваў.

27 ліпеня мы адзначалі мой дзень нараджэння, і перад паездкай на адпачынак на возера Мядзел я зайшла да бацькі праведаць яго і паведаміць аб сваім ад'ездзе на некалькі дзён. Мяне вельмі здзівіў яго выгляд: абыякавасць, безнадзейнасць на твары. Ён сядзеў у сваім любімым крэсле, ківаў галавою і паўтараў адны і тыя ж словы: «Я страціў любімага сына, я страціў любімага сына…» Не дабіўшыся нічога, я зайшла на кухню распытаць у Зінаіды Міхайлаўны, што здарылася. Яна сказала, што прыязджаў Арсень (ён у тыя часы адпачываў з жонкай на Нарачы) і ў іх адбыліся моцныя спрэчкі. Арсень паехаў назад, а бацька заставаўся ў крэсле і бясконца паўтараў адно і тое. Я паехала на Мядзел з цяжкім сэрцам. Прыгажосць мясцін, дзе мы прыпыніліся, а таксама клопаты ўладкавання на ўлонні прыроды згладзілі трывожныя пачуцці.

Праўда, пачатак адпачынку быў крыху азмрочаны адным з турыстаў, лагер якіх быў непадалёк ад нас. З развязнасцю і нахабствам ён прапанаваў нам пашукаць іншае месца. Яны, бачыце, прыбылі з самой Масквы і ім непажадана, каб поруч знаходзіўся хто-небудзь яшчэ. Іх кампанія прыехала пакатацца на водных лыжах. Міша, муж Ніны, тут жа адпарыраваў, што і ён з жонкаю з Масквы, а бераг возера аднолькавы для ўсіх і свой ваяўнічы тон прыхавайце. Мы ж чакалі прыезду сюды сваіх сяброў, таму «ўльтыматум» задзірыстага турыста праігнаравалі. Між тым гэта гісторыя мела працяг.

Іншы раз проста дзіву даешся, якія неспадзяваныя наступствы могуць узнікнуць. Так, пазней, як расказвала Ніна, калі яна вярнулася дахаты ў Жукоўскі, у сталоўцы інстытута, у якім яна выкладала ангельскую мову, да яе падышоў незна-

ёмец і сказаў, што яму знаёмы яе твар і запытаў, ці не сустракаліся яны раней. Ніна акінула яго позіркам з ног да галавы і пазнала нязванага турыста, які ў адных трусах прыходзіў на Мядзелі.

— Вы ж прыходзілі прагнаць нас на Мядзелі!

Яму стала вельмі ніякавата, ён пачаў апраўдвацца і прасіць прабачэння. Гэта быў супрацоўнік кафедры фізікі, нехта Гарбуноў.

Ну, а адпачынак праходзіў цудоўна. Міхась з пляменнікам Міколкам лавілі акунькоў, хадзілі ўздоўж возера, Міхась фатаграфаваў. Надвор'е было выключнае, вада каля берага праграваласся так, што дзяцей немагчыма было выцягнуць з яе. Нічога не прыгнятала, настрой быў, можна сказаць, святочны. Быў лагодны вечар, мы сядзелі каля кастра, Міша спяваў рамансы, песні — у яго быў прыемны барытон і добры музычны густ. Мы з асалодаю слухалі. Раптам сэрца сціснулася, ахапіла трывога і я перш-наперш падумала пра бацьку. Што з ім? Растрывожыўся і Міхась. Гэта было 3 жніўня.

Усю ноч я не магла заснуць, а на золку, каб не будзіць радню, Міхась адправіўся ў пасёлак Мядзел на пошту. Шэсць ці сем кіламетраў для яго былі прагулкай. Дома павінен быць Сярожа, але ніхто не адазваўся на тэлефонны званок. Пазваніў бацьку — таксама маўчок. Дазваніўся ён да Зарыны. Яна паведаміла, што ўчора ўвечары памёр Янка Маўр. Міхась хутка вярнуўся, і мы паехалі на Нарач у студэнцкі лагер, дзе адпачывала Маша. Яна ўжо ведала аб смерці дзеда і купіла білет на самалёт. Мы заехалі на дачу Максіма Танка паведаміць яму гэтую цяжкую навіну, але яго не засталі. Ён паехаў да сваёй маці ў Пількаўшчыну.

Фёдар паслаў тэлеграмы: Шуры — у Маскву, Арсеню — на Нарач. Нашага ж адраса ніхто не ведаў і ніхто б не знайшоў нас у лесе. Мая радня спакойна адпачывала, а я сэрцам адчула нядобрае. Бацькі не стала на 89-м годзе жыцця. Пахавалі яго на Маскоўскіх могілках поруч з магілай маёй маці.

Як стала вядома, незадоўга да скону бацькі, Арсень прывёз натарыуса, каб заверыць завяшчанне. Перад гэтым ён дамагаўся, каб усе грошы адышлі яму. Але бацька настояў, каб грошы і будучыя ганарары дасталіся пароўну Шуры і Арсеню. Канешне, калі і былі нейкія ганарары, то ні Арсень, ні Шура наўрад ці маглі б атрымаць іх, жывучы ў Маскве.

Фёдар атрымаў у спадчыну гараж. Пасля пахавання бацькі ён папрасіў мяне раскласці на чатыры часткі бялізну, адзенне, якія заставаліся. Мне бялізна была непатрэбна, таму сабе адбірала самае горшае. Калі ж Арсень даведаўся, што адну частку адабрала для сябе, запратэставаў і патрабаваў забраць маю частку сабе. Так сквапнасць пакарала яго, а я прамаўчала. Засталося больш як дзясятак бутэлек каньяку, якія прывозіў бацьку Міхась. Мне, канешне, не дасталося ніводнай бутэлькі, ды і мне яны непатрэбны. Ад бацькі ў мяне захоўваецца бутэлька венгерскага фурмінту з дарчым надпісам, якую ён падараваў Кастусю: «Канстанціну Міхайлавічу Міцкевічу ад дзеда Янкі Маўра. 17. V. 60. Поздравляю тебя, дорогой внучек, с первым годом твоего рождения и желаю тебе распить эту бутылку в первый день твоей свадьбы. Я. Маўр.» За пяцьдзясят год палова віна выпарылася, засталося цёмнае рэчыва. Дзедава пажаданне так і не спраўдзілася. Нібы нейкае пракляцце вітае над Коласавай раднёю. Так, у сям'і бацькі Коласа жыў бабылём яго брат, дзядзька Антось, які, дзякуючы «Новай зямлі», стаў легендарнай асабай. Аб яго лёсе ў паэме ёсць такія радкі:

Каб дапісаць партрэт Антося
Скажу: на свеце не знайшлося
Ні ўдоўкі-любкі, ні дзяўчыны,
Каб палучыць дзве палавіны,
Каб разам шчасце здабываць
І поруч долю падзяляць.
І я тут сам за дзядзьку мушу
Назад старонку адгарнуць
І аб вясне яго ўздыхнуць

І добрым словам яго душу
Яшчэ раз шчыра памянуць.
Была вясна, было імкненне,
І сэрца ведала тамленне,
І сэрца водгук сэрца чула,
І сэрца к сэрцайку гарнула.
Ды толькі ж доля не судзіла,
І любка-Наста, яго міла,
Што так клялася, цалавала
І к сэрцу з жарам прыхіляла,
Што так суліла шчасця многа, —
Яго змяніла на другога!
Антось… Ды што?.. цяпер забыта,
Даўно пажалі тое жыта
І тыя межы зааралі,
Што дзядзьку смутак калыхалі.

У сям'і самога Коласа бабылём жыў жончын брат — Аляксандр — дзядзька Саша. Ён таксама клапаціўся аб выхаванні пляменнікаў, пашыраў іх адукацыю, займаўся домам, садам, агародам. Лёс жа яго аказаўся трагічным. У 1938 годзе яго арыштавалі, каб выбіць паказанні супраць «нацыянал-фашыста Якуба Коласа», аб гэтым пасля пісалі.

Вельмі горка, што мой меншы сын, які так цяжка даўся мне, не знайшоў сабе палавіны і, напэўна, будзе дажываць пры сям'і сваёй сястры. З другога боку, шчаслівая, што ён заўсёды са мной, у радасці і горы, а засталося мне зусім мала. Старэйшы Сярожа пасля смерці бацькі збіраўся пераехаць у дзедаву кватэру. Ён ажаніўся і разам з жонкай жыў у нас. Арсень ведаў, што Сяргей уселіцца ў дзедаву кватэру, і не мог не разумець, што маладым спатрэбяцца розныя дробязі. Тым не менш ён усё, што мог, звёз у Маскву: інструмент, крупы, муку, посуд і г. д. Нават выкруціў са сцен разеткі і пакінуў агалёныя правады. Відаць, унаследаваў папоўскую прагнасць дзеда Фёдара. Канешне, мы дапамагалі маладым набыць неабходнае, а таксама пэўны час грашыма, можа, і залішне.

Прайшло шмат гадоў з дня смерці бацькі, наступіла XXI стагоддзе, адбыліся вялікія змены ў грамадстве. Не стала Савецкага Саюза, адышлі многія нашы сябры, адбыліся гіганцкія змены ў жыцці, змяніліся каштоўнасці. Я назіраю за жыццём сваіх унукаў, чым яны займаюцца, якія ў іх захапленні. Іх жыццё зусім непадобнае на маё ў такія ж гады. У кожнага свой камп'ютар, мабільнік, карыстаюцца інтэрнэтам. На жаль, вялікая бібліятэка, якую я збірала на працягу жыцця, застаецца незапатрабаванай. Цяпер моладзь амаль не чытае мастацкай літаратуры, кніжныя героі нашага маленства ім не знаёмы і не цікавяць іх. І мне балюча і страшна падумаць, што прыйдзе час, калі творы майго бацькі, над якімі ён працаваў з такім натхненнем і любоўю, таксама стануць незапатрабаванымі. Аднак хочацца спадзявацца на лепшае. Акрамя літаратурнай спадчыны засталася і эпісталярная. Бацька пісаў многім сябрам, паплечнікам, а таксама мне. Але, напэўна, найбольш цікавая яго перапіска з Якубам Коласам. У фондах Літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа знаходзяцца лісты бацькі, якія не былі апублікаваны. Ёсць яго лісты і ў нашым сямейным архіве. У гэтых лістах яскрава адлюстроўваюцца клопаты бацькі, яго перажыванні і настрой.

Вось толькі адзін з іх.

***Ліст Янкі Маўра да Якуба Коласа***

01.01.1942

Итак, с Новым годом! А еще лучше: с Крымом и Калугой! Ибо этим только и красен Новый год. Да еще светлыми надеждами и переживаниями. А для меня лично он ознаменовался увольнением дочери из школы за невзнос платы. Тех 10—12 тысяч гонорару, которые остались в казне, оказалось недостаточным. «Казна» хочет содрать с меня еще 200 рублей.

Вместо традиционного новогоднего замерзшего мальчика получается более свежая картина: ученица 10 кл., отличница, с единственной сменой белья на плечах, голодная (утром — хлеб с водой, вечером постная бульба), изгоняется под новый год. Отчаяние, слёзы… Я не очень смущен: так или иначе это дело улажу. Но факт сам по себе знаменательный.

Во избежание тифа советуют чаще менять постельное бельё. А у нас никакого белья нету.

Ты пишешь: «Напиши мне ясно и просто, как живешь». Разве можно писать ясно и просто, когда в душе клокочет бессильная злоба?

Штрих: в сентябре в школу здесь поступила девочка, вырвавшаяся пешком из-под бомб, из-под немца. Казалось бы, товарищи по классу с жадностью должны бы её обступить и расспрашивать, как, что? Но ни одного настолько любопытствующего ученика (и ученицы) не нашлось. «Их» это совершенно не интересует. А ученица эта была первой из беженцев в школе. Наше воображение не в состоянии представить себе внутренний мир «общества», лишённого элементарного любопытства.

Значит, одно моё обстоятельное письмо к тебе не дошло. А из Ленинграда от дочери письма ко мне доходят.

В пропавшей грамоте было обстоятельное описание «последних минут» жильцов письменницкого дома. В частности, семьи Лынькова. Повторю:

24 вечером моя квартира (и Гурского) привратилась в лагерь. Сюда собрались люди с верхнего этажа и гости: Бровка, Вольский, Кучер, Якимович, Хайновская с матерью и много незнакомых людей. Лынькова сидела в уголке не шевелясь, ни на что не реагируя. На заре 25-го мы все (Бровко, Кучер и Вольский ушли) вышли за город, чтобы переждать предстоящую бомбардировку. Была с нами и Лынькова с сыном в том же апатичном состоянии. Часам к десяти наша разведка выяснила, что город покинут властями и нам нечего здесь ждать. Вернулись домой, чтобы собраться и куда-нибудь уйти. А куда — каждый решал сам. Наша семья задержалась (мы нашли жильца для своей квартиры), и мы вернулись в дом через пол часа. Все жители дома стояли на дворе и горячо обсуждали, что делать, куда идти. Мы прошли в свою квартиру и стали собираться в дорогу. Со двора слышен был шум голосов. Затем стихло. Оказалось, что все ушли. Через несколько минут на пороге показался Ильинский в походном снаряжении. Перекинулись несколькими словами и он ушёл. Хайновская с матерью имели один единственный «багаж» — туго набитый портфель. Этот портфель остался в нашей квартире: даже Хайновская забыла его взять. Судя по некоторым высказываниям, Лынькова и Гурская, решили идти в деревню, чтобы «переждать» это время. Во всяком случае «идти пешком в Москву», как думали мы, они не собирались.

Сын проводил нас за город, а сам вернулся назад (он, видишь ли, «честно» хотел явиться в военкомат). Пришел он вечером. В доме никого не было. Вдруг показался Ильинский.

— Лучше умереть у себя дома — сказал он — чем в придорожной канаве. И пошел умирать в свою комнату.

Сын ушел из Минска на другой день после нас и попал в такой переплет, что добрался до России только через месяц. Из всех жильцов нашего дома есть известия только о старом Аксельроде и его хромой дочери. Они теперь в Уфе. Остальные, по-видимому, остались. В том числе, по-видимому, и Мальтинский.

Для нас теперь мысль о Лыньковой с сыном и Гурской с сыном является самой страшной пыткой…

Что должны чувствовать Лыньков и Гурский?..

Алма-Ата теперь сделалась культурным центром СССР. Кого-кого только здесь нет из представителей литературы и искусства!

Наша писательская братия живет «самостоятельной жизнью». Тузы конечно обособились, а вообще писатели живут здесь каждый сам по себе, нигде не встре-

чаются (кроме личных друзей, конечно); никакого общего собрания до сих пор не было, хоть число членов, я думаю, утроилось.

Совершенно случайно (именно случайно) нечаянно союз оказал услугу нам, устроив нас в закрытую столовую для ученых. Это очень важно для нашего брата, галоты: здесь можно за 41 коп. съесть просовой каши, чего нигде не достанешь. А другие могут за недорогую цену и вовсе по-настоящему пообедать.

Мое положение следующее: старший сын устроился в Кузбассе, в школе, нагрузился на рублей 800 в месяц и собирался нам выслать по рублей 100. А вышло, что он несколько раз выслал по 90 р.: его разгрузили настолько, что и одному трудно прожить. Тогда на помощь пришла сестра жены; она получает по аттестату и обещала нам выслать по рублей 200—300. Но муж убит в Киеве, следовательно, ей прекратят выплату денег. Тогда выступил другой сын, который учится в танковой школе. Он обещал выдать аттестат на свое жалование. Но, «к сожалению» (как он выражается) их выпустят из школы только 1 мая. Я тем временем мог бы сдать в местной ГИЗ книжку (На 2 л. Обещали принять), но… нет лампы и с наступлением темноты надо ложиться спать; а днем надо в очередях стоять, т. к. жена уходит на подённую работу (7р. 50 к. в день) перебирать бульбу в погребе. А руки у меня чешутся, так хочется писать!

Если даже твои надежды на получение денег и не осуществлятся, то я буду всегда помнить о твоём добром намерении, которое так благотворно подействовало на мою больную психику.

Спасибо, родной!
Твой Мавр.

## СЛОВА НА РАЗВІТАННЕ

***Не дачакалася аўтарка пабачыць апошнюю публікацыю сваіх успамінаў. Горкім рэхам Чарнобыля адгукнулася і яе здароўе. 22 лютага не стала некалі прыгожай, абаяльнай жанчыны, клапатлівай жонкі, пяшчотнай маці, адданай бабулі, прынцыповага настаўніка, нястомнага аматара-кветкавода. Засталася апошняя прыжыццёвая фатаграфія з любімай унучкай Васілінай у дзень яе шлюбу. Гэтага дня так неабходна было дачакацца, каб не азмрочыць настрой маладых. Прыняць жа ўдзел у светлым сямейным свяце, сесці за святочны стол сіл не хапіла. Яшчэ дзесяць дзён яна змагалася з невылечнай хваробай і за апошнія чатыры дні згасла.***

***Шмат цяжкіх выпрабаванняў давялося ёй пераадолець. Гэтаму спрыялі яе настойлівасць, энергічнасць, байцоўскі характар. Яна ж усклала на сваe плечы ўсе клопаты аб рамонтах, перабудовах кватэры, сама спраектавала дачную хату, і па яе праекце зяць са сваім сябрам пабудавалі ўтульнае гняздзечка для адпачынку.***

***Мы прайшлі разам дарогу даўжынёю амаль у 66 гадоў у згодзе. Вакол нас былі знакамітыя, цікавыя людзі, шчырыя сябры. Аб сустрэчах з імі, аб найбольш значных падзеях у жыцці я палічыў неабходным упэўніць сваю спадарожніцу пакласці на паперу, бо менавіта праз яе ажыццяўлялася сувязь паміж сем'ямі Янкі Маўра і Якуба Коласа. А я ўзяўся перакласці на родную мову яе ўспаміны, крыху дапоўніўшы іх гумарыстычнымі абставінамі з пражытага. На жаль, абмежаванні часопісных матэрыялаў ілюстрацыямі не дазволілі істотна асвятліць успаміны. Тым не менш чытачы, зацікаўленыя ў абставінах жыцця сем'яў Маўра і Коласа, знойдуць для сябе штосьці новае.***

**Міхась МІЦКЕВІЧ**

Уладзімір САЛАМАХА

# «КАБ БОЛЬШ СТАНАВІЛАСЯ НА ЗЯМЛІ ДАБРЫНІ...»

**«АЛЕСЬ САВІЦКІ: «СОНЦА НА ЎСІХ АДНО»:** проза, публіцыстыка / укл. Н. Я. Гальпяровіч, Н. Г. Ваніна. Мн.: Чатыры чвэрці, 2011.

Тое, што гэтая кніга незвычайная, скажу адразу. Выйшла яна ў серыі «Асоба і час». Гэта вельмі важна. Справа ў тым, што ўжо даўно, і не толькі ў нас, з пачатку так званай перабудовы ва ўсіх сферах творчай дзейнасці, у грамадстве наогул ідуць розныя разбуральныя працэсы, накіраваныя на выкараненне з людской свядомасці той дабрыні і чалавечнасці, якімі жылі нашы далёкія і блізкія продкі. Але, часам, сапраўдныя асобы, што ўнеслі і ўносяць значны ўклад у жыццё грамадства, падмяняюцца персанажамі, якія нідзе і ні ў чым сябе не праявілі, хіба што ўдзелам у розных разбуральных працэсах. Такіх ставяць у прыклад юным, як узоры для пераймання, а гэта ганьбуе сумленнасць і годнасць чалавека-стваральніка: вядома, найбольш тут стараюцца так званыя незалежныя СМІ. (Ад каго і ад чаго незалежныя?..) Мала таго, як усе мы нярэдка бачым, ёсць імкненні манкуртызаваць нашу памяць аб усенародным подзвігу ў гады Вялікай Айчыннай вайны, часы пасляваеннага адраджэння — тут «клапатліўцы» пра нас адводзяць літаратуры ці не галоўную ролю. Так што кніжная серыя «Асоба і час», паўтаруся, сёння надзвычай актуальная. І з'яўленне ў ёй кнігі пра Алеся Савіцкага правамерна: ягонае чалавечае і творчае жыццё непарыўна звязана з жыццём свайго народа, Айчыны.

Алесь Савіцкі — мастак слова — у нашай літаратуры, безумоўна, асоба адметная. Яго творам і буйнога жанру (раман, аповесць), і малога (апавяданне) уласцівы глыбокая аналітычнасць, гуманізм, дабрыня і чалавечнасць. І — праўдзівасць. Гэтая апошняя якасць, якой прасякнута ўсё, створанае майстрам, асабліва на ваенную тэматыку, не кажучы ўжо пра публіцыстыку, некалі не заўсёды і не ўсімі ўспрымалася так, як вымагае сама прырода мастацкай літаратуры. Хто сочыць за жыццёвым і творчым шляхам Алеся Ануфрыевіча, ведае з друку: у свой час хапала на яго нападкаў, праўда жыцця пісьменніка злавала многіх. Яна, як між іншым, і праўда майстроў слова яго пакалення, заснаваная на асабіста перажытым і на тым, сведкам чаго ён быў. А ягоная літаратура — прыклад і пісьменніцкай, і чалавечай сумленнасці.

Нарадзіўся А. А. Савіцкі ў 1924 годзе ў Полацку. У гады вайны — партызан, затым — воін, які дайшоў да Берліна і нават распісаўся на Рэйхстагу. Быў неаднаразова паранены. Калі браць толькі гэтыя вехі яго біяграфіі, дык яна заслугоўвае раманаў: юнаком становіцца ў рады абаронцаў Айчыны… З вайны выходзіць асобай з трывалым грамадзянскім светапоглядам і багатым жыццёвым вопытам. Зрэшты, гэта ўсё — у яго кнігах. Называць усе няма патрэбы, яны шырокавядомыя, перакладаліся на мовы народаў былога СССР, за мяжой. Ведаю, усе яны пісьменніку вельмі дарагія. І тыя, што пра вайну, і пра наш час, і — для дзяцей…

У анатацыі да кнігі «Алесь Савіцкі: «Сонца на ўсіх адно» пазначана: «Гэтая кніга — плён роздуму пісьменніка-франтавіка, лаўрэата Дзяржаўнай

прэміі Рэспублікі Беларусь, ганаровага грамадзяніна Полацка пра мінулае і сённяшні дзень, пра сувязь пакаленняў, пра духоўны свет». І тут важна адзначыць, што названую прэмію пісьменнік-франтавік атрымаў за твор для дзяцей, кнігу «Дзівосы Лысай гары».

Але вернемся да рэцэнзуемага выдання. У кнізе (пра гэта таксама сказана ў анатацыі) гучыць і страснае публіцыстычнае слова пісьменніка. Чытаеш, і ўспрымаецца яно не толькі як асабістае слова празаіка і публіцыста Алеся Савіцкага, але і як слова-запавет людзей яго пакалення ўсім нам.

Алесь Савіцкі часты госць у працоўных калектывах, воінскіх падраздзяленнях, студэнцкіх і школьных аўдыторыях. Але, мабыць, ён найбольш часты госць у родным горадзе. З Полацкам у Алеся Ануфрыевіча сувязь непарыўная. І — з многімі творцамі, якія нарадзіліся там — таксама. Напрыклад, ягоныя землякі — вядомы наш паэт і празаік Навум Гальпяровіч і выдавец Наталля Ваніна выступілі ўкладальнікамі гэтай кнігі. Вельмі слушным, цікавым з'яўляецца іх сціслае слова да выдання. У ім яны зазначаюць: «Ёсць людзі, жыццё якіх убірае ў сябе цэлыя гістарычныя пласты, нават эпохі. Да такіх адносіцца і Алесь Ануфрыевіч Савіцкі. Піянерскае дзяцінства, камсамольскае юнацтва, перапыненае вайной… Грамадзянін, пісьменнік Алесь Савіцкі праз усе гэтыя гады пранёс мужнасць, праўду і вернасць ідэалам маладосці». Я да сказанага дадаў бы: ідэалам чалавечнасці і дабрыні, якія былі яму паходняй на ўсіх яго нялёгкіх і ваенных, і мірных шляхах…

Вельмі добра, што ў кнізе ёсць і некаторыя празаічныя творы пісьменніка. Напрыклад, у адным з іх, ранім апавяданні «Белы гарлачык» (1957), ужо яскрава вымалёўваецца талент Алеся Савіцкага як майстра слова сацыяльна-псіхалагічнага накірунку, тонкага знаўцы чалавечай душы. У творы багатая мова, вобразнасць… А ўрывак з вельмі дарагога аўтару рамана «Обаль»! А па сутнасці хрэстаматыйнае эсэ (пісьменнік назваў яго «Роздум на Паклоннай гары»)! Дарэчы, з гэтага твора на 4-ю старонку вокладкі вынесены словы своеасаблівай аўтарскай малітвы пра памяць…

Важна, што ў выданне ўключаны і некаторыя дакументы ваеннага часу, якія характарызуюць А. Савіцкага як салдата Айчыны. Бясцэннай з'яўляецца тут «Боевая характеристика» на командира диверсионной группы партизанского отряда «Большевик» бригады имени Ворошилова тов. Савицкого Александра Ануфриевича». Яна падпісана камандзірам партызанскага атрада «Смерць фашызму» Слаўскім, камісарам атрада «Бальшавік» Пячонкіным і завераная 12.10.1944 года Ветрынскім саветам дэпутатаў працоўных, падпісаная старшынёй гэтага райсавета Маханьковым.

Пра тое, як ваяваў юны партызан Алесь Савіцкі, і сведчыць гэты дакумент, выдадзены яму неўзабаве пасля вызвалення нашай зямлі ад акупантаў. Таксама вельмі важна, што кніга паказвае, як пасля вайны адбывалася станаўленне спачатку журналіста, а потым і пісьменніка А. Савіцкага. Надзвычай цікава, што свой першы літаратурны твор, хай яшчэ не дасканалы, будучы знакаміты пісьменнік напісаў у той час, калі, здавалася б, не толькі яму, а і ўсім было ні да літаратуры. Успамінае Алесь Ануфрыевіч у біяграфічным эсэ «Пад роднымі клёнамі»: «Першае, сваё, напісаў у партызанскім атрадзе. Зімою сорак другога мяне параніла», — прыгадвае пісьменнік і далей расказвае, як гэта было: разам з партызанскім таварышам Сяргеем Зімніцкім ён мініраваў чыгунку. Міна была самаробная, з выплаўленага з артылерыйскага снарада толу, і, калі яе ўзрывалі, далёка адбегчыся не паспелі. «Выбуху не чуў; памятаю вялізнае, на ўсё неба, малінава-белае сонца і ціхі, вельмі ціхі і прыгожы гул, як бомканне маленькіх званочкаў».

Ужо тут, у гэтым успаміне, ва ўспрыняцці юнаком таго, што адбылося з ім, і згадваецца будучы мастак слова…

Тады таварыш па сутнасці і выратаваў А. Савіцкага (як — чытайце ў кнізе). «Блізка ля месяца мы ляжалі з Сяргеем у партызанскім шпіталі — вясковай хаце маленькай вёсачкі

Завалынка, што на Ветрыншчыне. Зіма была тады снежная, — піша Алесь Ануфрыевіч. — Увечары неяк я сядзеў ля акна. Гурбы снегу за акном свяціліся малінавым бляскам, і неба над борам было фіялетавае, і высокія ссохлыя мальвы ў палісадніку, прысыпаныя снегам, здавалася, зноў зацвітаюць. Мне было вельмі цёпла — саграваў мяккі карычневы світар з шырокім каўняром. Раніцою яго прынеслі сувязныя нашага атрада — дзве маладыя настаўніцы, што хадзілі на сувязь з падпольшчыкамі ў Полацк. Яны заходзілі да маці, а яна перадала ім гэты світар. Я надзеў яго, той самы світар, што насіў у восьмым класе, і адразу адчуў цяпло матчыных рук, матчыных вачэй… І мне захацелася напісаць ёй вялікі ліст, супакоіць, сказаць, што нягоды мінуць, што наперадзе жыццё прыгожае і бясконцае. Я думаў пра маці, і мроілася мне родная хата, дзе я нарадзіўся, вялізны сад і чародка клёнаў за ім… Тая хата стаіць над Палатаю — прытокам Заходняй Дзвіны. Адтуль пайшоў у школу. Адтуль пайшоў на вайну. Адтуль самыя дарагія і добрыя ўспаміны…»

Я невыпадкова пазначыў жанр гэтага біяграфічнага ўспаміну як эсэ. Між іншым, па мастацай сіле, па вобразнасці ён не падобны ні на адзін біяграфічны ўспамін, якія асабіста мне даводзілася чытаць. Тут такая канцэнтрацыя думкі, што патрабуе «разгортвання» да рамак буйнога празаічнага твора: наколькі вялікая мастацкасць, настолькі і адметная, што хочацца ўсклікнуць: юныя, ёсць у каго вучыцца пісаць свае маленькія і «вялікія» творчыя біяграфіі! (Сёння біяграфічнымі і дзённікавымі «творамі» грашыць нямала хто. Ды вось бяда: многім няма чаго свайго сказаць людзям пра рэчаіснасць. Прычына — няма ўдзелу ў жыцці грамадства, свет жыцця звужаны да ўласных інтарэсаў).

Чытаем далей: «Я глядзеў на фіялетавы снег за акном, думаў пра маці, прыгадваў зусім нядаўняе мінулае, і сэрцу было цяжка і радасна ад успамінаў.

У той вечар я напісаў не ліст да маці, а верш. Маленькі. Наіўны. Я нават не ведаў. Не думаў, што напішу яго».

Алесь Ануфрыевіч кажа, што ён і зараз памятае той верш. І як жа мне, чытачу, не хапае таго верша на старонках гэтай кнігі!.. Не хапае, бо вельмі хочацца ўбачыць той кволы «расток», з якога потым, калі так можна сказаць, сфарміраваўся пісьменнік, які даўно ўжо займае сваё годнае месца ў шэрагу самых знакамітых нашых творцаў.

Таксама, як не хапае і іншага верша, які партызан Алесь Савіцкі напісаў праз год пасля гэтага («Верш пра свайго забітага сябра» — масквіча Міколу Паўлава) і які быў змешчаны ў насценнай газеце атрада…

Тут я мушу нагадаць перадгісторыю трагедыі. Алесь Савіцкі тады ўжо быў камандзірам спецыяльнай падрыўной групы. Меў, як ён успамінае ў гэтым эсэ, «на сваім баявым рахунку болей дзясятка падарваных эшалонаў, шмат спаленых і ўзарваных мастоў» і… «цалкам выбраўся з туману наіўнай рамантыкі, якая мроілася мне раней у кожным баі, у начных паходах на заданні». Але: «…верыў ужо ў небяспеку бою, ведаў, што вайна ідзе бязлітасная, што на ёй забіваюць не толькі ворагаў, але і ворагі забіваюць тваіх лепшых сяброў»…

Адным з такіх сяброў і быў Мікалай Паўлаў. У кнізе пра яго Алесь Ануфрыевіч згадвае ўсяго некалькамі радкамі, але якімі шчымлівымі!.. Бяру цытату з эсэ «Святая памяць зямлі» («Роздум на Паклоннай гары»). Гэта роздум, у якім пісьменнік і грамадзянін А. Савіцкі ўздымаецца ад асабістага да ўсенароднага асэнсавання баявога брацтва савецкіх людзей у гады вайны — як да адной з перадумоў і сутнасці нашай Перамогі…

«Зімой сорак трэцяга Мікола Паўлаў па-геройску загінуў у начным баі на чыгунцы каля станцыі Загацце. Яго пахавалі на кветкавай клумбе перад драўляным будынкам вясковай бальніцы ў Бабынічах, на левым беразе Дзвіны. А ў маі сорак пятага, за тыдзень да дня Перамогі, я ўбачыў на адной са сцен счарнелага ад дыму Рэйхстага кароткі надпіс: «Дошел и я. Николай Павлов».

Сёння мы толькі можам уявіць, што ў той момант было на сэрцы воіна

А. Савіцкага, якія ўспаміны азарылі ягоную памяць. Сам жа пісьменнік праз гады скажа пра гэта так: «Я глядзеў на той надпіс ашаломлены. Наш Мікола жывы? Ён тут, у Берліне? Розум казаў, што не твой гэта партызанскі сябра! Другі чалавек з гэткім жа прозвішчам дайшоў да Берліна і пакінуў на чорнай сцяне нямецкай цытадэлі свой аўтограф. А сэрца верыла ў дзіва: дайшоў, дайшоў да Берліна і твой партызанскі сябра Мікола!»

Зрэшты, калі франтавікі, якім пашчасціла выжыць, лічаць, што яны дайшлі да логава фашызму і за сябе, і за сваіх загінуўшых баявых таварышаў, дык гэта апраўдана правам памяці. Больш таго, гэта — патрабаванне памяці. Той, ужо нашай агульнанароднай памяці, над якой «і час ужо не мае ўлады…»

Кніга «Алесь Савіцкі: «Сонца на ўсіх адно» — не літаратуразнаўчая і, канешне ж, права пісьменніка і ўкладальнікаў, што ў яе ўключаць. Тым не менш, калі я кажу пра першыя творы пісьменніка, мне здаецца, што, напрыклад, юным літаратарам было б цікава бачыць, з якога канкрэтна радка і пачынаўся літаратар А. Савіцкі. І яшчэ — якая ў гэты час у юнака была грамадзянская пазіцыя. Думаю, гэта надзвычай важна сёння, калі пэўныя самазваныя «патрыёты» робяць спробы выцесніць з жыцця грамадства сапраўдную літаратуру, у тым ліку тую, якая мае высокае грамадзянскае гучанне і заснавана на высокіх агульначалавечых ідэалах.

Алесь Савіцкі якраз з тых, хто ўсё гэта бачыць і разумее і хто ўсёй сілай свайго пісьменніцкага таленту і дакладна выражанай грамадзянскай пазіцыяй супрацьстаіць здзеку з літаратуры. Пра гэта ён нярэдка кажа маладым літаратарам, і не толькі ім. Тут даволі цікавым уяўляецца ягоны адказ на пытанні анкеты газеце «Чырвоная змена» (1980), калі яна звярнулася да некаторых майстроў слова з просьбай даць парады маладым, як пісаць і пра што. Дык вось, у матэрыяле «З народам гутарку весці…», змешчаным у кнізе, А. Савіцкі, кажучы пра «сакрэты» творчасці, у прыватнасці, заўважыў: «Асэнсаванне перажытага ідзе ў пісьменніцкай душы незалежна ад яго суб’ектыўнага жадання. Яно заўжды грунтуецца на сувязі мінулага з сучасным, на паступовым выспяванні ідэі таго ці іншага твора. Працэс гэты складаны і па сваёй унутранай структуры, і па колькасці часу, і па высновах, да якіх прыходзіць мастак. Чыста ўтылітарнае імкненне — «ах, сяду ды напішу» — аніколі не прынясе добрага плёну, калі пад ім няма добра выспеленай любові ці нянавісці, смутку ці радасці, адчування значнасці таго, што ты хочаш сказаць людзям у сваім творы».

У гэтай жа анкеце сказана і пра наватарства. Сёння нярэдка за яго выдаюць звычайную неадукаванасць… Дык вось, сапраўды здольным і дапытлівым юным творцам слынны майстар роднага слова скажа так: «Важнасць увогуле адукацыі, высокай адукацыі для маладога пісьменніка — першаступенная». І — там жа: «Ідзіце смялей. І толькі наперад. І спяшайцеся пісаць. Друкаваць, аднак, не спяшайцеся: радок, які паляжыць на тваім пісьменніцкім стале, робіцца разумнейшы...»

У кнізе «Алесь Савіцкі: «Сонца на ўсіх адно» пра яго гавораць старэйшыя і маладзейшыя калегі: Іван Шамякін Алесь Марціновіч, Генадзь Пашкоў… Яны не толькі вызначаюць некаторыя грані творчасці А. Савіцкага, але і нагадваюць, што ягоны шлях у літаратуру быў няпросты, а, часам, і вельмі пакручасты. Так, напрыклад, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, паэт Г. Пашкоў у нарысе «Жыццёвае поле Алеся Савіцкага» прыгадвае малавядомы да публікацыі гэтага матэрыялу (газета «Рэспубліка», 24.01.2004 г.) факт, калі Алесь Ануфрыевіч быў вымушаны годна, не трацячы свайго пісьменніцкага і чалавечага гонару, пакінуць пасаду загадчыка сектара літаратуры ЦК КПБ. А было так: ЦК з удзелам П. М. Машэрава разглядала даносы на пісьменніка, пасада якога надавала асаблівую вастрыню арганізаванай кампаніі супраць літаратара-партработніка. «Пры такіх абставінах Алесь Савіцкі сам напісаў пісьмо П. М. Машэраву, выказаў свой погляд на рэчы, а заадно

папрасіўся на «вольны хлеб», каб лішне не дражніць разварушаных зламыснікаў». Даносы пісаліся і асобнымі калегамі, і «пільнымі» грамадскімі «сігналізатарамі» з нагоды выхаду ў свет рамана «Тры непражытыя дні». У ім «пільныя» ўгледзелі, мякка кажучы, непрыстойнасці. Цытую вытрымку з успамінаў самога А. Савіцкага: «Калі ў час гаворкі — а яна ішла да поўначы — у кабінет зазірнуў другі сакратар, Машэраў сказаў:

— А ўсё ж такі пасаду яму трэба падабраць. ЦК што? ЦК вытрымае. А ён жа можа зламацца…

Тады я вазьмі ды скажы ў адказ:

— Няўжо вы, Пётр Міронавіч, лічыце, што ў былога камандзіра падрыўной групы мужнасці меней, чым у былога партызанскага камісара?

Машэраў смяяўся ад душы!»

Увогуле, гэты факт у біяграфіі старэйшага нашага літаратара можа з'яўляцца яскравым прыкладам звычайнай чалавечай і пісьменніцкай мужнасці для тых творцаў, на якіх і сёння пішуцца даносы ў розныя «інстанцыі». Мэты і метады такіх «сігналізатараў» ва ўсе часы — адны і тыя ж: яны вядомы. (Шаноўныя, даўно ўжо ўсё змянілася!) Зрэшты, пісалі і пішуць на тых, хто як творца, нечага варты…

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Алесь Марціновіч заўважае, што «Першым сур'ёзным подступам да асэнсавання вайны стаў раман «Верай і праўдай» (1976) і наступныя, што склалі трылогію: «Літасці не чакай» (1982), «Памерці заўсёды паспееш» (1983)». Ён жа ацэньвае трылогію як «шырокамаштабнае, панарамнае палатно, у якім узноўлена барацьба з фашызмам на беларускай зямлі ад апошніх дзён да вызвалення».

Без перабольшання, усё, створанае А. Савіцкім за доўгія гады творчай працы, сведчыць, што яго чалавечы і пісьменніцкі вопыт — унікальны для нашай літаратуры. І важна, паўтараю, што ў кнігу ўключаны некаторыя публіцыстычныя творы А. Савіцкага. Па сутнасці, усе яны маюць высокае грамадзянскае гучанне, адкрываюць такую грань творчасці пісьменніка, як грамадска-актыўная дзейнасць.

Цікава, што публіцыстычнасць, як вартасць, у некаторых мастацкіх творах А. Савіцкага ў свой час заўважыў наш народны пісьменнік І. Шамякін. Так, пішучы аб яго трылогіі, Іван Пятровіч зазначаў: «Раскрываючы псіхалогію ўчынкаў сваіх герояў, абумоўленасць іх паводзін у складаных, часам экстрэмальных, умовах, пісьменнік з поспехам выкарыстоўвае публіцыстычныя фарбы, не баючыся нават і крута загусціць іх» (трылогія «пра адну з самых яркіх і цяжкіх старонак у гісторыі нашай дзяржавы»).

У сваіх публіцыстычных творах, падкрэсліваю, менавіта творах, а не звычайных газетных заметках, якія многія аўтары выдаюць за публіцыстыку, пісьменнік А. Савіцкі паказвае, што сёння ў нашай літаратуры, несумненна, ён ці не адзіная асоба, здольная праз высокае, палымянае, мастацкае слова ўзняцца да такіх пластоў асэнсавання жыцця грамадства, якое пад сілу толькі сапраўды вялікаму майстру.

Сярод названых твораў мяне, напрыклад, надзвычай уражвае ўжо згаданы «Роздум на Паклоннай гары», які носіць назву «Святая памяць зямлі». Услухаемся, як набатна гучыць:

Памяццю Розуму, Памяццю Сэрца,
Памяццю Рук мы, жывыя, знітаваны
ў адзіны непарыўны ланцуг,
трапяткі і трывалы,
усе звенні якога роўныя
перад лёсам зямлі.

Думаецца, менавіта гэтыя словы павінны быць высечаны на абеліcках нашай памяці аб усенародным подзвігу савецкага народа ў гады Вялікай Айчыннай…

Кніга «Алесь Савіцкі: «Сонца на ўсіх адно» стварае яркі вобраз пісьменніка і грамадзяніна, аднаго са старэйшых нашых сучаснікаў. Яго жыццё і творчасць — сапраўдны яркі прыклад самаадданага служэння мастака свайму народу, Айчыне, краіне. І калі ў адным з яго твораў чытаеш, што трэба, каб кожны жыў «так, каб больш станавілася на зямлі дабрыні», думаеш, як своечасова гэта сказана!..

Віктар ГАРДЗЕЙ

# ГАНЦАЎШЧЫНА: ЯК МНОГА Ў ГЭТЫМ СЛОВЕ...

## 1

Неаспрэчны і, бадай, ці не самы старажытны сімвал нашай бацькоўскай зямлі, што б там ні казалі, усё-такі ўвасабляюць шэрыя жураўлі і белыя буслы — птушкі гордыя, прыгожыя і дужа крыўдлівыя. Малая радзіма па волі нябёс ці проста выпадкова мне выпала акурат у міжрэччы знакамітых Лані і Бобрыка, дзе і сягоння яшчэ стае нечапаных куточкаў прыроды і запаведных тэрыторый. Тут, на маёй роднай Ганцаўшчыне, мусіць, няма вёскі, дзе б не ведалі гэтых добразычлівых птахаў, і я іх заўсёды шкадаваў і любіў, асабліва буслоў, бо некалі ў сваім пасляваенным дзяцінстве пачуў ад суседзяў легенду, што ў белую птушку з чырвонымі нагамі і чорным фракам Бог ператварыў нейкага чалавека за неасцярожнасць і непаслухмянасць. Бусел з ранняй вясны цяпер ходзіць па балацявінах і сенажацях, ловіць жаб, вужоў і іншае плюгаўства, якое сам і павыпускаў з даверанай яму торбы, і людзі ніколі не крыўдзілі і не крыўдзяць цыбатага пакутніка, наадварот, дапамагаюць — робяць буслянкі, зацягваюць на дрэвы старыя колы і бароны. Той бачыць клопаты пра сябе і плаціць такой жа любоўю і зычлівасцю, нездарма кажуць: дзе бусел на хаце, там адступяцца гора і бяда, а хату абмінуць гром і маланкі.

Трэба думаць, Ганцаўшчыну, гэты адвечны і да канца нясходжаны край, шэрыя жураўлі і белыя буслы аблюбавалі невыпадкова: паўсюль, куды ні паглядзі, жывуць іх шчырыя сябры — добрыя, чулыя, спагадлівыя людзі. Жураўлі выбіраюць месцы для гнёздаў дзесьці ў глухамані, а буслы звычайна сяляцца ў ціхіх і непрыкметных вёсачках, далей ад гарадскога тлуму і мітусні, але напрыканцы лета, калі птушаняты трывала стануць на крыло, грацыёзныя птахі збіраюцца ў чароды, каб разам падвучыць маладняк і самім набрацца моцы, падсілкаваўшыся на свежых пожнях перад хуткім адлётам у вырай. Хто хоць адзін раз бачыў незлічоную колькасць чорна-белых буслоў на толькі што зжатым полі, той ужо ніколі не забудзе гэты дзівосны, незвычайнай прыгажосці і таямнічасці малюнак. Велізарны буслiны палетак, поўны асенніх чараў і дабрадаці, аднойчы, падчас працы ў часопісе «Родная прырода», мне давялося сузіраць у Столінскім раёне, аднак тады я і падумаць не мог, што падобныя цуды калі-нікалі здараюцца і на маёй Ганцаўшчыне. Дома не шанцавала мне — пашанцавала ўдзельнікам Рэспубліканскай культурна-асветніцкай экспедыцыі «Дарога да святыняў», якая, кіруючыся ў старадаўні Тураў на традыцыйны Дзень беларускага пісьменства, 2 верасня 2004 года, заязджала ў Ганцавічы на адкрыццё Свята-Ціханаўскага храма. У лічаныя хвіліны, калі ўскрай гарызонту ўжо відзён быў горад, на Агарэвіцкае поле пры самай шашы апусцілася вялікая бусліная чарада, сваёй нечаканасцю прымусіўшы спыніцца святочны аўтамабільны картэж. Людзі стаялі, цешыліся дружнай буслінай талакой, і з’яўленне Боскіх птушак у патрэбны момант кожны палічыў добрым знакам нябёс, найлепшым падарункам лёсу. Пра гэты ўнікальны і для ганцаўчан прыемны выпадак мне з хваляваннем расказаў відавочца, удзельнік той экспедыцыі, паэт Браніслаў Спрынчан.

Гэтак жа, як і шэрыя жураўлі, стаўшы сімвалам палескага краю, белыя буслы ўпрыгожваюць нашу прыроду, надаючы ёй нейкую чароўную лагоднасць і гасціннасць. І адны, і другія птушкі ў вырай кіруюцца ў канцы жніўня ці на пачатку, а то і ў сярэдзіне верасня, што ж да жураўлёў, то яны пралятаюць кожны раз над Ганцавічамі, і тады ціхімі вечарамі дзесьці высока ў небе чуецца іх журлівае, трывожнае курлыканне. Мабыць, акурат над нашым горадам пралягае іх адвечны міграцыйны шлях. Дзеля цікаўнасці выйдзіце на двор, і ў вечаровым змроку першавосені вы, напэўна, пачуеце развітальнае жураўлінае «курлы». Калі не ў гэтым, дык у наступным годзе. Вельмі пахвальна і прыемна, што палескі глыбінь-гарадок любіць, не забывае сваіх казачных птушак. Яшчэ 25 жніўня 1998 года райвыканкам зацвердзіў герб сучасных Ганцавіч. Вось як ён выглядае: на сінім фоне шчыта з пазалочанымі зорачкай і паўмесяцам два серабрыстыя жураўлі горда імкнуцца ў вышыню. Што яны бачаць з той падвоблачнай далечы, нам цяжка меркаваць, адно тут можна сказаць пэўна: унізе пад іх размашыстымі крыламі раскінулася на дзіва прыгожая, гераічная і працавітая старажытная зямля. Зноў жа, два жураўлі на гербе сімвалізуюць прыроду палескага краю, імкненне ў будучыню, міралюбнасць, шчасце. Між іншым, у мясцовай сімволіцы знайшлося месца і белым буслам. Вясёлыя, тэмпераментныя птахі адлюстраваны на дарожным указальніку з надпісам «Ганцавічы», вітаючы кожнага, хто прыходзіць сюды з дружбай і светлай душой.

**2**

Дзве ціхаплынныя, прыгожыя рачулкі з такімі паэтычнымі назвамі — Лань і Бобрык, адна на ўсходзе, другая — на захадзе, несучы лішкі вады ў не вельмі далёкую Прыпяць, як быццам знарок для нас, абарыгенаў, узялі ў цесныя абдымкі велізарны лясны, балоцісты і палявы абсяг плошчай 1,71 тыс. км$^2$. Гэта і ёсць Ганцавіцкі раён, які на геаграфічнай карце сваімі абрысамі нагадвае сілуэт нейкай фантастычнай рыбіны, — зямля нашых продкаў і бацькоў, святая старажытная зямля з яе маўклівымі сведкамі гісторыі — сівымі курганамі, гарадзішчамі, курганнымі могільнікамі, выявамі народнага дойлідства і культуры ды журботнымі пазнакамі ўжо нашага часу — брацкімі магіламі, помнікамі, абеліскамі.

Нямала стагоддзяў прашумела над маляўнічым палескім краем, многае страчана, многае забыта, і сёння ўжо нават цяжка ўявіць, што калісьці на тэрыторыі Ганцаўшчыны, пакрытай лясамі і балотамі, акрамя паштовага тракту з Пінска, ніякіх іншых шляхоў не існавала, і зносіны паміж людскімі паселішчамі магчымы былі толькі марознай зімой і спякотным летам, калі крыху спадала веснавое разводдзе. Ці ж дзіва: шмат тысячагоддзяў таму велізарны скандынаўскі ляднік спыніўся дзесьці ў ваколіцах сучасных вёсак Вялікія і Малыя Круговічы, Мельнікі, Шашкі і, растаўшы пад гарачым сонцам, пакінуў пасля сябе безліч гранітных глыб, валуноў, процьму буйных і дробных камянёў, заліў вадой самім жа і прадзёртыя ямы, западзіны, лагчыны, яры. Так на Ганцаўшчыне ўтварыліся шматлікія азёры і рэкі, але зусім ужо векапомны «дарунак» паўночнага прышэльца — бяскрайняе Качай-балота, якое, працягнуўшыся на сотню вёрст на ўсход ад Выганашчанскага возера, злілося з такім жа балотным масівам пад назвай Грычын. Сучасныя даследчыкі, напэўна, справядліва лічаць, што гэтыя дрыгвяністыя, цяжкадаступныя мясціны засяляліся людзьмі марудна, прынамсі, значна пазней, чым іншыя рэгіёны Беларусі, а прычына адна: дзе жыць, калі навокал вада? Але цывілізацыя няўхільна наступала, вядома, не тая, што яшчэ хадзіла ў звярыных шкурах,— цывілізацыя, якая пачала асвойваць наш край, найперш берагі рэк і ўзвышшы, ужо ведала земляробства і рудную справу, хоць галоўнай прыладай працы ў прышлых пасяленцаў, як і раней, была славутая каменная сякера.

Разумею, у нечым падобныя прыклады і факты могуць назваць і некаторыя нашы суседзі, аднак засяленне ганцавіцкага краю, што ўжо дакладна і пэўна, мела свае, уласцівыя толькі яму адрозненні і асаблівасці. Дастаткова пагартаць даступныя нам летапісы і старажытныя хронікі, каб пераканацца ў гэтым. Па выніках археалагічных даследаванняў устаноўлена, што першымі Ганцаўшчыну пачалі абжываць дрыгавічы — найбольш развітае ўсходнеславянскае племя, праўда, вядомы толькі прыблізны час іх паяўлення ў міжрэччы Лані і Бобрыка. Сюды нашы продкі, хутчэй за ўсё, прабіраліся з боку Прыпяці, асвойваючы на шляху сушэйшыя лясныя ўгоддзі і ўзгорыстыя мясцовасці. Тыя ж летапісы і старажытныя хронікі захавалі для нашчадкаў вызначальныя даты і падзеі ў гісторыі Ганцавіцкага раёна, якія мэтазгодна прывесці тут, расставіўшы ў такім парадку:

**V—IV тысячагоддзі да н. э.**

Паяўленне людзей на тэрыторыі краю, аб чым сведчаць археалагічныя знаходкі эпохі неаліту ва ўрочышчы Качайка непадалёк ад Ганцавіч.

**III—II тысячагоддзі да н. э.**

Рассяленне на Палессі раннеславянскіх плямёнаў.

**XI—XII стст. н. э.**

Асваенне дрыгавічамі тэрыторыі краю.

**XI ст.**

Утварэнне Тураўскага княства, у склад якога ўваходзіла тэрыторыя сучаснай Ганцаўшчыны.

**1167—1174 гг.**

Утварэнне самастойнага Пінскага княства, куды часткова перайшлі землі Ганцаўшчыны.

**XIV ст.**

Пры княжанні Гедыміна землі краю ўвайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

**1515 г.**

Першае ўпамінанне ў летапісах вёскі Буча (Будча).

**1537 г.**

Першае пісьмовае ўпамінанне вёскі Чудзін з фальваркам Морач.

**1569 г.**

Люблінская унія. Утварэнне федэратыўнай дзяржавы Рэч Паспалітая, у склад якой разам з Вялікім Княствам Літоўскім увайшоў ганцавіцкі край.

**1593 г.**

Першае ўпамінанне вёсак Люсіна (Сяльцо) і Малькавічы ў хроніцы навагрудскага падсудка Фёдара Булахоўскага.

**1615 г.**

Першае пісьмовае ўпамінанне вёсак Круговічы, Ляхавічы (Малыя Круговічы), Востраў.

На гэтай апошняй даце, думаю, варта перапыніць хроніку колішніх падзей, бо ў пазнейшым жыцці раёна хапала ўсяго: былі і казакі Багдана Хмяльніцкага, і шведскае нашэсце, і паўстанцы Кастуся Каліноўскага, і сялянскія бунты. Нас жа цікавяць помнікі сівой даўніны, хоць якія звесткі пра побыт і культуру продкаў. З вякамі, што мінулі з таго часу, племя дрыгавічоў, асімілявалася, растварылася сярод іншых славянскіх народнасцей, і як памяць аб ім паўсюль на Ганцаўшчыне захаваліся векавечныя курганы, курганныя могільнікі, дзе-нідзе засталіся сляды гарадзішчаў. Іх справядліва называюць маўклівымі сведкамі гісторыі — яны ж не выдаюць, упарта берагуць свае даўнія тайны, і адзін Бог хіба ведае, што яшчэ цікавае захавана глыбока пад зямлёй. У народзе курганы памылкова называюць

«шведскімі капцамі», бо ніякіх салдат Карла XII у іх не знаходзілі. Пры раскопках у час навуковых даследаванняў археолагамі ў курганных могільніках выяўлены самыя простыя рэчы, якія па ўсіх вядомых адзнаках маглі належаць толькі дрыгавічам: сякеры, крэсівы, наканечнікі коп'яў, гліняныя гаршкі, вочапкі вёдраў, зрэдку — упрыгажэнні тагачасных модніц: металічныя пацеркі, скроневыя кольцы, пярсцёнкі.

Найбольш даследаваная і самая вялікая група курганоў (больш за сто) знаходзіцца абапал дарогі Ясянец, групавыя і паасобныя могільнікі ад той старажытнай эпохі захаваліся каля вёсак Агарэвічы, Вялікія Круговічы, Дзяніскавічы, Ліпск, Шашкі, каля Люсіна выяўлены сляды ранняга паселішча, а паблізу Мельнікоў, на радасць даследчыкам, ацалела гарадзішча. Прыкметы колішняга знаходжання дрыгавічоў вучоныя ў свой час выявілі ў вёсцы Малыя Круговічы — у апусцелым цяпер урочышчы Машукоўшчына і ва ўрочышчы Града — за вярсту ад вёскі Малькавічы. Незвычайнае ўражанне тут пакідае ўнікальны могільнік з вялікімі, пасівелымі ад часу плітамі-валунамі, на якіх ледзь-ледзь праступаюць нейкія літары. Хто тут пахаваны і калі — гэтую тайну наўрад ці ўдасца разгадаць. Аднак уражанне чагосьці страчанага і навекі забытага доўга цябе не пакідае, наводзячы самыя розныя думкі пра сэнс і філасофію жыцця.

Так, час няўмольны, не спыняецца хоць на імгненне, сярод людзей разгараліся і сціхалі спрэчкі, прыходзілі і знікалі ўсё новыя пакаленні, пакідаючы пасля сябе ці добры след, ці хоць якую пазнаку сваёй прысутнасці на гэтай шматпакутнай святой зямлі. Быў заведама бласлаўлёны час, калі ў маладосці свой бацькоўскі кут я прайшоў, як кажуць, упапярок і ўздоўж, дык не мог жа абмінуць Ясянец — невялічкую вёсачку, знакамітую сваёй «панскай» радавітасцю і незвычайнымі для простых сялян традыцыямі. З Малых Круговіч да Ясянца цераз лес вёрст пяць ці набярэцца, і мы яшчэ хлапчукамі ў гарачае лета не адзін раз імчаліся на веласіпедах пакупацца ў Начу, абавязкова праязджаючы паўз маленькі Ясянец. Ужо ў дзяцінстве я ведаў, што на мясцовых могілках паны з усёй акругі хавалі сваіх нябожчыкаў, якія тут доўга не паддаваліся тлену, становячыся ледзь не муміямі дзякуючы вельмі спрыяльнаму, удаламу спалучэнню мясцовага паветра і глебы. Так яно ці інакш, але «шляхецкія» могілкі ацалелі да нашых дзён, праўда, цяпер даволі занядбаныя, разрабаваныя ў вайну, бо марадзёраў, розных «золаташукальнікаў» хапала ва ўсе часы.

З надпісаў на помніках і надмагільных плітах вядома, што тут спачываюць знатныя, радавітыя паны — Абуховічы, Вяндорфы, Яленскія і іншыя. Кожнае імя — гэта чыйсьці асобны лёс, чыясьці асобная бяда ці трагедыя. На старажытных могілках асабліва вылучаецца капліца роду Вяндорфаў і склеп роду Яленскіх. Прыведзеныя ў парадак, удалыя па архітэктурным вырашэнні капліца і склеп, як у цэлым і ясянецкія «шляхецкія» клады,— красамоўны помнік нашага нядаўняга мінулага.

Дарэчы, маленькі Ясянец стаў знакаміты яшчэ і таму, што ў першай палове XIX стагоддзя тут працавала суконная фабрыка, маючы значную па тым часе механізацыю — паравую машыну, ткацкія станкі, фарбавальныя катлы, не лічачы больш за 30 наёмных рабочых. Фабрыка, збудаваная на зямлі памешчыка Абуховіча, вырабляла сукно розных гатункаў выключна на продаж, што сведчыць аб зараджэнні на тэрыторыі раёна капіталістычных адносін і таварнай вытворчасці. А назва Ясянец, відавочна, пайшла ад ясеня — прыгожага дрэва, якога і сягоння ў ваколіцах вёсачкі расце багата.

Як бачна, наша Ганцаўшчына любога можа здзівіць нечаканымі адкрыццямі і знаходкамі, тым больш што ў апошні час мясцовыя ўлады многае робяць для таго, каб захаваць і зберагчы спадчыну продкаў, што асабліва тычыцца помнікаў народнага дойлідства і культуры. Я гэта ведаю пэўна, бо калісьці на свае вочы бачыў, з якою любоўю тагачасны старшыня калгаса імя Кірава Міхаіл Кунцэвіч

праводзіў рамонт і рэканструкцыю старога панскага дома ў вёсцы Агарэвічы. Дакладней, не дома, а цэлага сядзібнага ансамбля з садам, паркам, сістэмай сажалак і гаспадарчым дваром. Сам жылы дом Г-падобны ў плане, з двухсхільным дахам — такія цяпер рэдка сустракаюцца на Палессі. Ёсць тут парадны фасад з ганкам на чатырох калонах, а з усходняга боку прыбудавана паўратонда зімовага саду. Цяжка сказаць, як сядзібны дом выглядаў, калі быў новы, але цяпер, пасля рэканструкцыі, ён проста на заглядзенне. Апошняй гаспадыняй Агарэвіцкай сядзібы была пані  Апацкая, і, мусіць, у яе гонар, сённяшні аграturыстычны комплекс, што размясціўся ў гэтым доме, так і назвалі «У пані». Прыязджайце, турысты, заходзьце, вандроўнікі! «У пані», як спрадвек было на нашай зямлі, вас сустрэнуць цёпла і гасцінна — накормяць, напояць і спаць пакладуць.

Вельмі шкада, але час уладна і няўмольна забірае сваю даніну. Шмат якія помнікі архітэктуры страчаны ў гады ваеннага ліхалецця, а нешта прапала і ад банальнай старасці. На дзіва, «жывым» застаўся яшчэ адзін сядзібны дом, праўда, не такі прыгожы і дыхтоўны, як у Агарэвічах. І знаходзіцца ён — дзе б вы думалі? — за вярсту ад Ганцавіч, на ўскрайку ўрочышча Горкі. Гэта былая сядзіба роду Падарэўскіх, шырокавядомага ў пазамінулым стагоддзі. Ад сядзібна-паркавага ансамбля з гаспадарчымі прыбудовамі ацалела ўязная ліпавая алея ды захаваўся драўляны аднапавярховы панскі дом, дзе цяпер размяшчаецца кантора дарожна-эксплуатацыйнага ўпраўлення.

Помнікі сівой даўніны па-добраму хвалююць, наводзяць на роздум, і надта прыкра робіцца на душы, калі бачыш перад сабой рэшткі былой прыгажосці, тады зусім няважна, каму яна належала — пану ці простаму селяніну. Помніцца, падчас працы ў раённай газеце мяне чамусьці цікавіла ўрочышча Юліна, што знаходзіцца прыкладна на паўдарозе паміж вёскамі Шашкі і Агарэвічы. Тут на плошчы больш як два гектары захаваліся некаторыя дрэвы пейзажнага парку, закладзенага яшчэ ў XIX стагоддзі, з каналамі і сажалкамі. За паўразбуранай уязной брамай пачынаецца алея — старыя клёны і грабы, каштаны і бярозы, ды асабліва прывабная алея вясной, калі цвітуць зараснікі шыпшыны і бэзу. Калісьці тут стаяў драўляны сядзібны дом — даўно зарасло і яго котлішча, а пра заможнасць гаспадароў сведчыць адзіная пабудова — мураваны з каляровага буту склеп. Рэшткі сядзібна-паркавага ансамбля «Юліна» на дзіва прыгожыя і сягоння, так што ў гэты дзівосны куточак прыроды можна смела вазіць турыстаў. Тым болей па дарозе сюды вас павітае векавечны курган, а побач з ім думае сваю думу высокі разложысты дуб.

Гэты дуб-асілак, што ўпрыгожвае ўрочышча Юліна, робіць незабыўнае ўражанне, але скажу шчыра: сапраўдны дуб-волат расце на Маліцкай гары ў вёсцы Вялікія Круговічы. Яму даюць і 500, і больш гадоў. Патрыярх у некалькі абхватаў, кара нібы закамянела, галіны-ралы таўшчынёй з добрую сасну. У падножжы гіганта сціпла прытуліўся такама вялізны скандынаўскі валун, і гэты ансамбль двух волатаў лішні раз нагадвае пра вечнасць і непарушнасць нашай Зямлі. Дубам-веліканам, мабыць, не адно стагоддзе любаваліся паны Абуховічы, чый маёнтак знаходзіўся зусім побач — у лагчыне перад Маліцкай гарой. Сядзібна-паркавы комплекс калісьці ўключаў у сябе двухпавярховы драўляны палац, які згарэў ужо на маёй памяці, усе патрэбныя гаспадарчыя пабудовы, добра сплانаваны парк і сад, што падступаўся да царквы, а непадалёк плёскаліся хвалямі чатыры сажалкі. Многія старыя дрэвы: грабы, клёны, берасты і каштаны, тыя ж векавыя дубы — растуць і да сённяшняга дня. Захавалася капліца з крутым дахам і склепам, дарэчы, круговіцкая капліца з’яўляецца помнікам архітэктуры эпохі неакласіцызму.

## 3

Ад знаёмых і сяброў, якія часта наведваюцца ў наш Богам дадзены край, пастаянна даводзіцца чуць суцэльныя пахвалы: ім дужа смачны ганцавіцкі хлеб, ім, бачыце, вельмі хораша ўсміхаюцца ганцавіцкія дзяўчаты, а да ўсяго прыезджым надта падабаюцца дыхтоўныя палескія вёскі. Што праўда, то праўда. Умеюць і, галоўнае, любяць будавацца на Палессі, каб не жыць у паточаных шашалем, парахнявых і цесных хатках, як гэта было спрадвек, ды, зноў жа, людзі даўно ўжо ведаюць сапраўдную цану свайму жыллю. У якую вёску ні заедзеш, дамы стаяць як на падбор: высокія, прасторныя, з вокнамі на ўсю сцяну — хоць у Агарэвічах, хоць у Кукаве, хоць у Хатынічах ці аддаленых Радзялавічах. І рэдка каля якіх весніц не ўбачыш лакіраваны легкавік або падарожнікавую антэну на даху. Але гэта, як кажуць, атрыбуты ўжо сённяшняга, няхай і вельмі няпростага часу. А тады, у пасляваенную разруху, вяскоўцы, каму пашчасціла выжыць, не ведалі, за што ўцяць рукі: усюды папялішчы, зарослыя быльнягом акраўкі поля, асірацелая без быдла і коней паша. Паводле акта абласной камісіі аб стратах, нанесеных нямецка-фашысцкімі акупантамі, на Ганцаўшчыне былі спалены 1454 жылыя дамы, 178 свірнаў, 1502 хлявы, у самім мястэчку згарэла 185 дамоў— акурат трэцяя частка жылога фонду, што быў тут да вайны.

Гора лечыць, бяда вучыць. На смалістых зрубах паўсюль зашоргалі пілы, зацюкалі сякеры. Практычна нанава давялося адбудоўваць знішчаныя, спаленыя, разбомбленыя захопнікамі Чудзін, Макава, Задуб’е, Лактышы, Хатынічы. Пагарэльцы і зусім бедныя людзі выйшлі з зямлянак і прыземістых хацінак з падслепаватымі акенцамі і саламянымі стрэхамі, а слава пра ганцавіцкіх цесляроў і сталяроў, сапраўдных народных дойлідаў разнеслася далёка за межамі раёна, бо іх і цяпер ахвотна запрашаюць з няблізкіх мясцін, калі спатрэбіцца камусьці выштукаваць адмысловы дом, паставіць франтоны з цацкамі і разныя аканіцы.

Зразумела, каб залячыць страшныя раны вайны, адбудаваць спустошаныя вёскі і само мястэчка, зрабіць іх яшчэ прыгажэйшымі, чым было раней, затрачана багата сіл і сродкаў, але першым і галоўным клопатам ганцаўчан усё ж заставаўся клопат аб хлебе. Адразу пасля вызвалення раёна ажывілася работа аднаасобніцкіх гаспадарак з іх прымітыўным тэхнічным аснашчэннем. Цікава чытаць газетную заметку таго часу: «Каваль Жывуцкі Фёдар і малатабоец Ярушэвіч Костусь лічацца лепшымі работнікамі МТС. Яны датэрмінова закончылі рамонт інвентару, конна-пракатнага пункта і аказалі вялікую дапамогу сялянам-аднаасобнікам. Толькі за апошнія дні перад сяўбой адрамантавана 20 барон, 50 плугоў і 15 вазоў для жыхароў Круговіцкага, Агарэвіцкага, Лактышоўскага і Дзяніскавіцкага сельсаветаў». У адноўленай МТС, якую перавезлі ў вёску Круговічы, былі лічаныя трактары і малатарні, ды адкуль іх узяць, бо, згодна з тым жа актам аб нанесеных стратах, з Ганцаўшчыны акупанты вывезлі ці знішчылі на месцы 917 машын і сельскагаспадарчых прылад, апрача таго, вагонамі адпраўлялі ў свой нямецкі рэйх збожжа, бульбу, гародніну, фураж. Што ўжо казаць пра іншую маёмасць, калі за фашысцкімі «ласунамі» лічыцца і 377 знішчаных пчаліных сем’яў.

Працэс удасканалення сельскагаспадарчай вытворчасці ішоў вельмі няпроста з-за ўсеагульнай беднасці, а імклівая і суцэльная калектывізацыя, якая пачалася яшчэ ў канцы 40-х гадоў, не абышлася без сур’ёзных перагібаў і памылак. Так ці інакш, калгасы былі створаны, яны шмат разоў узбуйняліся, рэфармаваліся і ўсё ж, калі бядней, калі сытней, кармілі народ, таму не заўсёды справядлівыя крытычныя выпады сённяшніх дэмагогаў і зласліўцаў усіх масцей. Выключна за кошт тэхнічнага пераўзбраення, падрыхтоўкі кадраў, укаранення перадавых тэхналогій у 70-я гады лідарамі па вытворчасці мяса, малака, зерневых культур з’яўляліся калгасы імя Кірава, «Светлы шлях», «Расія», «Першага мая» і іншыя. Цяжкая

эканамічная сітуацыя ў сельскай гаспадарцы раёна, якая працягвалася не адзін год, пачала выпраўляцца толькі тады, калі быў узяты рашучы курс на стварэнне ў буйнейшых населеных пунктах аграрных гарадкоў, дзе ёсць галоўныя ўмовы поспеху: дабротнае жыллё, праца для сялян і спецыялістаў, неабходны комплекс сацыяльна-бытавых паслуг.

Вядома, аднак: гэты працавіты, самаахвярны чалавек жыве не толькі хлебам адзіным. Пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў мястэчка Ганцавічы таксама ляжала ў руінах і папялішчах, але, у адрозненне ад сельскай мясцовасці, палескі глыбінь-гарадок адбудоўваўся даволі хуткімі тэмпамі. Як заўсёды ў цяжкія часіны выручаў бацюхна-лес, пад якім і цяпер занята больш за 50 працэнтаў тэрыторыі краю. На базе леспрамгаса дзейнічала разгалінаваная сетка вузкакалейнай чыгункі, і яна дасягала нават у самыя цяжкадаступныя лясныя масівы. Дзякуючы таму, што для рабочых рук найбольш прыдатнай была высакаякасная драўніна, першымі ўзнавілі работу лесазаводы, піларамы, смалакурня, адкрылася мэблявая фабрыка і бондарскі цэх, дзе выштукоўвалі бочкі самых розных ёмістасцей — ад 50 да 250 літраў, галоўным чынам для патрэб свайго раёна. Ганцавічы былі разрабаваны фашыстамі настолькі, што літаральна кожную гаспадарчую дробязь давялося вырабляць на месцы, не спадзеючыся на цэнтралізаваную дастаўку. Так, невялікая абутковая арцель шыла адмысловыя хромавыя боты, а цагельня ў вёсцы Сукач акрамя чырвонай цэглы выпускала звычайныя гліняныя гладышы, збанкі, міскі, гаршкі і іншую ганчарную прадукцыю, якая карысталася вялікім попытам у збяднелага за вайну насельніцтва.

Ды і гэта яшчэ не ўсё. Сучасная моладзь нават і не здагадваецца, што ў Ганцавічах калісьці працаваў і свой ліцейны цэх. Вось што паведамляла газетная заметка восенню 1948 года: «З 7-га кастрычніка ўступіў у строй ліцейны цэх пры райпрамкамбінаце. Кіруе цэхам майстар Канавалаў Міхаіл. Цэх ужо выпускае алюмініевы посуд. У хуткім часе будзе асвоены выраб місак, кубкаў, чайнікаў, каструль, тазоў, бачкоў, іншага кухоннага посуду. Асвоена таксама ліццё ножак для швейных машын». Упэўненасць, што ў Ганцавічах спрадвек жылі сапраўдныя народныя таленты і майстры, пацвярджае і наступны прыклад. На размежжы 40—50-х гадоў рабочая арцель «4-я пяцігодка», прынёсшы радасць тагачасным модніцам, пачала выпускаць вугальныя прасы з чыгуну, надзейныя і зручныя ў карыстанні. Добрыя рэчы і вырабы ледзь не саматужнай пасляваеннай прамысловасці горада існуюць цяпер у адзінкавых экзэмплярах і з пашанай захоўваюцца ў некаторых жыхароў і ў школьных музеях раёна. Нельга абмінуць і такі цікавы факт: мясцовы «Харчасмак» тады ж выпускаў сітро і цукеркі-«падушачкі» — найлепшы ласунак дзятвы.

З цягам часу, калі паўсюль у краіне з руін падымаліся новыя фабрыкі і заводы, паступова мянялася і аблічча мястэчка Ганцавічы, якому ўжо ў 1973 годзе быў нададзены статус горада раённага падпарадкавання. Неад'емнай часткай мясцовага пейзажу сталі будаўнічыя краны, і там, дзе яны ўзнеслі свае доўгія дзюбы, як на дражджах пачалі расці адміністрацыйныя і жылыя будынкі. Гістарычна склалася так, што не толькі генеральным планам, але і палатном чыгункі Ганцавічы падзелены на два планіровачныя раёны — заходні і ўсходні. Калі ўсходні раён уяўляе сабой добра сспланаваны масіў аднапавярховых дамоў і катэджаў, то ў заходнім вядзецца асноўнае капітальнае будаўніцтва. Ад цэнтральнай плошчы, што ўзнікла на месцы невялікага скрыжавання, сфарміраваліся шырокія і прасторныя вуліцы, жылыя кварталы, зялёныя зоны. Узвядзеннем жылля тут заняты камбінат панэльнага домабудавання і іншыя будаўнічыя арганізацыі. Не дзіўна, што за лічаныя дзесяцігоддзі былое мястэчка ператварылася ў сучасны шматпавярховы горад з развітай інфраструктурай, шырокай сеткай гандлёвых, бытавых, агульнаадукацыйных і дашкольных устаноў, арганізацый аховы здароўя, культуры, сувязі, фізкультуры і спорту. Што ж датычыць прамысловых прадпрыемстваў, то яны выпускаюць прадукцыю, запатрабаваную на

спажывецкім рынку рэспублікі, а некаторыя яе віды ідуць і на экспарт. У сваю чаргу, гэта сведчыць: не перавяліся на Ганцаўшчыне старанныя працаўнікі, руплівцы і майстры сваёй справы.

Яны, умелыя арганізатары і наватары вытворчасці, ёсць на кожным прадпрыемстве, на кожным участку і ў цэху, варта толькі прыгледзецца і паслухаць, што пра майстроў кажуць людзі. А кажуць, безумоўна, толькі цёплыя, удзячныя словы. Кожная зямля, кожная асобная мясцовасць у першую чаргу славутыя сваімі людзьмі, і гэта ўжо аксіёма: чым больш такіх людзей, працавітых і самаадданых, тым багацейшая наша зямля. Ганцаўшчыне, лічы, пашанцавала. У свой час ордэнамі і медалямі былі ўзнагароджаны амаль 150 чалавек — працаўнікоў прамысловасці, будаўніцтва, сельскай гаспадаркі, іншых сфер жыцця, і, што б там ні казалі сённяшнія дэмагогі, гэта надзвычай паказальны факт. З многімі героямі працоўных будняў я часта сустракаўся, пісаў нарысы пра Г. Валасюк, М. Карпеня, М. Лосіка, Е. Швайка і іншых. Заўсёды адметнымі і жаданымі былі сустрэчы з машыністам экскаватара Героем Сацыялістычнай Працы В. Шапавалам і трактарыстам-машыністам, кавалерам трох ордэнаў Славы, дарэчы, маім аднавякоўцам І. Равінскім. Сваёй ударнай шматгадовай працай яны ўславілі маці-Радзіму, пакінуўшы пасля сябе добрую памяць у народзе.

## 4

Прыгожыя палескія мясціны: блакітныя азёры, ціхаплынныя рачулкі, мурожныя сенажаці, а як патрапіцца на шляху поле збажыны, то цягнецца яно і дзве, і тры вярсты ўдалеч. Аднак галоўным багаццем краю быў і застаецца лес. Невыпадкова лясістасць раёна складае 54,7 працэнта ўсёй яго тэрыторыі, а непасрэдна лясы займаюць больш як 76 тысяч гектараў. Адборная драўніна высякаецца на прамысловыя патрэбы, ідзе на экспарт, але работнікі Ганцавіцкага лясгаса пастаянна клапоцяцца пра аднаўленне лесафонду. Дастаткова сказаць, што за пасляваенны час маладыя лясы пасаджаны на плошчы, якая перавышае 20 тысяч гектараў. Пры лясгасе на 26 гектарах створаны лесагадавальнік, дзе растуць саджанцы каштоўных парод дрэў і дэкаратыўных кустоў. Акрамя таго, лесаводы з карысцю для справы трымаюць розныя дапаможныя промыслы: па вытворчасці мёду, нарыхтоўцы чарніц, журавін, грыбоў, сена.

У зялёных угоддзях раёна дзякуючы менавіта адвечным лясам прырода надзвычай багатая і разнастайная, нават нягледзячы на праведзеную буйнамаштабную меліярацыю, яшчэ стае тут прастору для вялікіх і малых звяроў, для буслiных і жураўліных чарод. На Ганцаўшчыне, якая адносіцца да прыпяцкага басейна, працякаюць большыя і меншыя рэкі — Лань, Бобрык, Цна, Нача, Выдранка, налічваецца 11 азёр, і сярод іх даволі буйныя — Дубаўское, Чырвонае, Пакамерскія, акрамя таго створаны шэраг вадасховішчаў, а самае вялікае — Лактышы — служыць для рэгулявання ракі Лань і водазабеспячэння мясцовага рыбгаса. Да слова сказаць, рыбгас «Лактышы» — адзін з найбуйнейшых у рэспубліцы, а яго планавая магутнасць — 1950 тон таварнай рыбы ў год. Займаючы нешта больш за 2700 гектараў люстраной паверхні, вадасховішча даўно стала любімым месцам адпачынку і ўдачлівай рыбалкі, дык невыпадкова, што сюды прыязджаюць аматары прыроды з Мінска, Брэста, Баранавіч, Слуцка, Салігорска і іншых гарадоў Беларусі.

З таго часу, як рыбгас пачаў даваць таварную прадукцыю, прайшло шмат гадоў, і штучнае возера пачало зарастаць, берагі набылі натуральны прыродны каларыт. Праўда, у народзе вадасховішча называюць ямчэй і дакладней — Дзікае. Цяпер тут процьма пералётных качак, гусей, іншага вадаплаўнага птаства, а што да пудовых шчупакоў, то сапраўды — хоць невад зацягвай. Было б нават дзіўна, каб такую багатую мясціну не аблюбавалі паляўнічыя і рыбаловы.

На возеры Дзікім можна купацца, загараць, любавацца прыродай. А яшчэ тут можна патрапіць у Музей рыбалоўства, які створаны пры сельскім клубе ў вёсцы Лактышы. Увагу наведвальнікаў прыцягваюць вялікія шкляныя акварыумы, дзе плаваюць карасі, акуні, чырванапёркі і іншыя прадстаўнікі мясцовага падводнага царства. Паўсюдна на відных месцах выстаўлены чучалы рыб, пад столлю падвешаны 12-кілаграмовы шчупак — сапраўднае зубастае страшыдла. Ёсць у музеі і старажытныя рыбалоўныя прылады — сеткі-трохгубіцы і аднасценкі, сплеценыя з саматканых нітак не менш як сто гадоў таму назад. Асобнае месца займаюць выдзеўбаныя калісьці чаўны, у якасці каштоўнага экспаната дэманструецца і садок-«буц» для захоўвання ўлову на рыбалцы. Вёска Лактышы, між тым, мае свае рыбалоўныя традыцыі, бо стаіць на зліцці дзвюх рэк — Лані і Начы.

Шмат у Ганцавіцкім раёне грыбоў і лясных і балотных ягад: чарніц, брусніц, малін, журавін. Збіральніцтвам людзі займаюцца, як вядома, з сівых вякоў. З мэтай захавання багаццяў краю створаны два заказнікі-журавіннікі рэспубліканскага значэння — «Борскі» і «Ялоўскі, дзе на вялікіх плошчах балоты пакінуты ў нечапаным стане. Яшчэ адзін заказнік-журавіннік дзейнічае паблізу вёскі Боркі. Тут уведзены асобны рэжым карыстання, забаронены суцэльныя высечкі і меліярацыйныя работы.

Гаспадар гэтых угоддзяў — Цэнтральны батанічны сад Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. На эксперыментальнай базе «Журавінка» вучоныя займаюцца вывядзеннем і выпрабаваннямі новых гатункаў і ўдасканаленнем тэхналогіі вырошчвання буйнаплодных журавін, брусніц і буякоў высокіх. Надзвычай уражлівы малюнак на «Журавінцы» — у канцы лета або на пачатку верасня. Сакавітыя чырвоныя ягады, здаецца, так і просяцца ў кошык. Журавінавай плантацыі аддадзена 16 гектараў спецыяльна падрыхтаваных плошчаў. У верасні пачынаецца збор даспелых ягад, прычым ураджай здымаецца толькі спецыяльнай тэхнікай. На «Журавінцы» ягады можна купіць, а таксама набыць саджанцы журавін, брусніц, буякоў і іншых ягадных раслін.

Зберажэнню прыроды ў Ганцавіцкім раёне ўвогуле надаецца асаблівa пільная ўвага, таму вялікія плошчы лясоў і балот захаваны ў першародным выглядзе. Так, на ўзбярэжжы р. Бобрык недалёка ад Ганцавіч створаны гідралагічны заказнік «Галь» плошчай 2762 гектары, дзейнічаюць таксама гідралагічныя заказнікі мясцовага значэння «Качайка», «Масцішча», «Мох» і іншыя, дзе распаўсюджваюцца абмежаванні ахоўнага рэжыму. На тэрыторыі раёна краем заходзіць даволі буйны гідралагічны заказнік «Выганашчанскі», плошча якога складае 43 тысячы гектараў. Створаны ў 1968 годзе, каб зберагчы частку акаляючага балота, якое рэгулюе жыўленне Шчары, Грыўды, Цны, іншых рэк. Знаходзіцца на водападзеле Чарнаморскага і Балтыйскага басейнаў. Не так і даўно, у 2005 годзе, на нізінным балоце Падвялікі Мох быў створаны яшчэ адзін гідралагічны заказнік на плошчы 1967 гектараў. Адсюль выцякае рака Бобрык, і заказнік служыць для захавання ўнікальнага лесабалотнага комплексу з устойлівымі папуляцыямі жывёл і раслін. Адкрытыя балоты: верхавыя, нізінныя і пераходныя — займаюць амаль трэць запаведнай тэрыторыі.

Гідралагічны заказнік «Падвялікі Мох» насяляюць 177 відаў птушак, сярод іх — шэрыя жураўлі, белыя і чорныя буслы, а многія звяры і птушкі занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі. Нямала тут і раслін-«чырванакніжнікаў». У лясах Ганцаўшчыны водзяцца ласі, дзікі, рысі, барсукі, казулі і, вядома, ваўкі, шмат вадаплаўнага птаства. На возеры Выганашчанскім і ў яго ваколіцах на ўскраіне раёна, калі пашанцуе, вы зможаце пабачыць распасцёртага ў палёце грацыёзнага арлана-белахвоста. Вучоныя-арнітолагі сведчаць: другое такое гняздо можа быць не бліжэй як за сто вёрст, што звязана з недахопам корму нават для адной сям’і магутнага драпежніка. Вось чаму арланы-белахвосты не церпяць суседства сваіх пражэрлівых сапернікаў.

З добрай нагоды хацела б распавесці чытачам і яшчэ пра адну прыродную асаблівасць Ганцавіцкага раёна. Спорныя летнія навальніцы, вядома, жаданыя ўсім, хто працуе на зямлі, аднак бываюць тут і сапраўдныя віхуры, штармавыя вятры. Ужо нямала гадоў таму вялікай шкоды ў Ганцавічах нарабіў добра памятны ўраган, што сярод белага дня шырокай паласой наляцеў з-пад Століна і Целяхан. Д'ябальскай сілы вецер тады ў прамым сэнсе наламаў у лесе багата дроў, паваліў лініі электраперадачы, пазрываў дахі з многіх дамоў, разбурыў вясковыя фермы, а на вуліцах і дарогах было ні праехаць ні прайсці з-за выкарчаваных дрэў. І наогул, мясцовыя старажылы даўно заўважылі: чамусьці на Ганцаўшчыне, у гэтым знакамітым кутку Палесся, грымотныя навальніцы і шквальныя вятры здараюцца часцей, чым у суседніх раёнах, скажам, у тых жа Ляхавічах альбо Лунінцы.

Сапраўды, ніякай выдумкі тут няма. У той жа Энцыклапедыі Беларусі можна знайсці цікавыя звесткі. Аказваецца, у кожным населеным пункце рэспублікі за год бывае 25—30 сутак з навальнічнымі дажджамі. А рэкорд, як і меркавалі абарыгены, належыць усё-такі Ганцавічам. Метэаслужбай гарадка аднойчы зафіксавана найбольшая колькасць сутак з навальніцамі — 47. Для параўнання: у Мінску гэтая лічба складае ў сярэднім толькі 27. Па ліўневых дажджах і грымотах з Ганцавічамі амаль зраўняліся Жыткавічы — раённы цэнтр ужо зусім іншага палескага рэгіёна. Феномен, аднак, тлумачыцца проста. Спакон вякоў і Ганцавічы, і Жыткавічы акружаны густымі лясамі, вакол захавалася шмат неасушаных балот, хапае вільгаці, а там, дзе вада і парнасць, у цёплыя, сонечныя дні часцей збіраюцца навальнічныя хмары, каб праліцца на зямлю жыццядайнымі ці, наадварот, спусташальнымі ліўнямі. Так было і летам 2008 года, калі з грымотнага неба на зямлю абрынуліся цэлыя патокі вады. Ды і летась, дакладней 29 мая, багата шкоды пасевам прынёс нечуванай сілы град, які змалаціў і цяпліцы, і сады, і ўсё, што траплялася на шляху.

Але нельга думаць, што Ганцавічы кожны год заліты дажджавой вадою. Бываюць і тут зацяжныя засухі, сухавеі і, адпаведна, значныя недаборы ўраджаю. У апошнія ж гады, апрача таго, невядома чаму зачасцілі летнія прымаразкі, пасля якіх тарфянікі ляжаць чорныя, нібы смоль. Ды як бы там ні было, усё гэта не здымае з палескага глыбінь-гарадка славы самага навальнічнага раёна ў Беларусі. Прыняўшы пад увагу неаспрэчны факт, спецыялісты могуць гаварыць хіба што пра нейкую прыродную анамалію.

***Працяг будзе.***

